# ТЭРМАПІЛЫ

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

№ 22 Беласток 2018

## Змест

Рэдактар
***Ян ЧЫКВІН***

**Сымон РАМАНЧУК (1936–2017)**

# КАРЭННЕ ЖЫВАКОСТУ

Гэта было нядаўна, гэта было даўно... Даўно, бо мінула паўвека, бо мінула і больш... І – нядаўна, бо ўсё гэта маё, стаіць перад вачыма як учарашняе, як сённяшняе... Дзіцячае, юнацкае, маладое, дарагое!.. Балючае і радаснае, салодкае! Многае забылася, затрацілася, кудысь (куды?) адышло... Памяць стала як сіта-рэшата... З паэтам Міхаілам Матусоўскім мы, у той даўні час, спявалі: “Разве мог догадаться, мог поверить тогда в то, что с юностью нашей расстаюсь навсегда. По каким перепутьям нам пройти суждено, – это было недавно, это было давно”...

Скажаце – песня!.. Песня, братцы! Маё ваеннае пакаленне, калі адышлі ад нас пажары, баі, расстрэлы, голад, мы спявалі песні з радасцю. Мы былі закаханыя ў песні! Мы спявалі многа! Мы хацелі спяваць! Мы ўмелі спяваць!.. Таму я тут не раз і не два буду спяваць тыя нашы песні!

„Dnia pierwszego września roku pamiętnego wróg napadł na Polskę z kraju niemieckiego”, „Warszawskie dzieci – pójdziemy w bój, za każdy kamień twój”, „Rozszumiały się wierzby płaczące, rozpłakała się dziewczyna w głos”, „Płynie, płynie Oka, jak Wisła głęboka”, „Czerwone maki na Monte Cassino, zamiast rosy piły polską krew. Po tych makach szedł żołnierz i ginął, lecz od śmierci silniejszy był gniew! Przejdą lata i wieki przeminą, pozostaną ślady dawnych dni! I tylko maki na Monte Cassino czerwieńsze będą,

bo z polskiej wzrosną krwi!” „Тёмная ночь, только пули свистят по степи, только ветер гудит в проводах, тускло звёзды мерцают”, „Потому, потому что мы пилоты, небо наш родимый дом. Первым делом, первым делом самолёты. – Ну, а девушки? – Ну, а девушки потом”. І па-польску: “Nam lotnikom są potrzebne śmiałe loty, uskrzydlają brawurą swoją nas. Przede wszystkim, przede wszystkim samoloty, a dziewczęta – na to zawsze mamy czas!”

***

Была ранняя вясна 1946 года. Дзе мы, гушчэвінская хлапцоўская братва – з сем’яў, якія ўжо пабудавалі тут свае невялікія хаты (праўда ж, ніхто тут не будаваў велічэзных харомаў) – узяла гэты сапраўдны, не шмацяны, агромністы мяч, я не прыпомню. Гэта, мне думаецца, была Валодзькіна справа. Ён прыбягаў да нас з Нараўкі, дзе жыў з мамай. Там ён не знаходзіў сабе таварышаў, яму мы больш падабаліся ды, апрача гэтага, ён дапамагаў тут сваёй маме ў палявых работах. Тут яны мелі сваё поле. Мяч Валодзьку магла падарыць яго гайнаўская цёця.

Валодзік быў адважным хлопцам. Узлезе ён, бывала, на маладую бярозку, на яе вяршыну, пачне яе згінаць і – лёгка спусціцца, саскочыць на зямлю! Нам гэта займала дух. Ён выразна ставаў у нашы важакі! Але мы гэтак – не адважваліся... Мы прасілі яго перастаць, крычалі, гразіліся сказаць яго маме (тату яго забілі немцы) – не слухаў нас ён, смяяўся... Раз бярозка зламалася, ён упаў на спіну, плакаў – балела! Праз год-два заплакала і яго мама: Валодзік пляваў крывёю... Доктар гаварыў, што гэта сухоты-туберкулёз, мы сказалі – бяроза... Мілая цёця Надзя асталася адзінёшанька, пакінула гаспадарку, пераехала да сястры ў Гайнаўку... Усе мы плакалі з ёю! Усе мы вельмі любілі Валодзьку!

***

Значыць, мы з усіх сіл “лупілі” ў гэты мяч... Пляц у нас у Грушках, што за паўкіламетра ад нас, у лесе, у надлясніцтве (у нас гаварылася – “у гаёўцы”) – вялікі-вялікі! Ад вайны няма тут ніякай забудовы: усё датла спалілі немцы. Засталіся толькі вялікія, як бы бомбавыя схроны, гаспадарскія лесніковыя мураваныя склепы-зямлянкі, дзе цяпер (калі ўсё няма яшчэ тут надлясніцтва, яно ў Свінароях, за Нараўкай) у час летняй гарачыні хаваюцца нашы вясковыя авечкі, стадка якіх тут цэлы час з нашых яшчэ нешматлікіх гаспадарак пасецца-жывіцца сочнай травой.

Чуем – нешта гудзіць, прыбліжаецца да нас. Гэта з Нараўкі вялікі самаход прывёз цэглы, цэмент, дошкі, усякія жалязякі: будуць будаваць надлясніцтва! Нам кажуць:

– Хлопцы, у Дом людовы прыехала кіно, паедзеце?

Пытаем: “Але як будзе – электрыкі ж у нас няма, немцы ўзарвалі, адыходзячы, маленькую нашу водную электровеньку, што была ў млыне, на рэчцы, пры мосце. Дзядзька Міша, – гаварылі мы, – млынар-электрык паехаў якраз у Беласток ці далей, па якуюсьці тэхніку, каб запусціць млын і святло”...

Едзем, памятаю, кіно глядзець... – я яшчэ трошкі прыбрудзіў свой пінжачок цэментам; ён рассыпаўся ў кузаве машыны, мы ж там качаліся, едучы, радасныя!..

У Нараўцы (сюды ж – рукой падаць!) – тоўпішча народу. Грукаціць, яго прабуюць запусціць, бензінны матор, якога чамусьці трэба яшчэ і “падкручваць” нейкай вялікай круцёлкай; ён траскоча, лапаціць, аж падскоквае!

Сёння ў кіно пускаюць без білетаў, набілася ў зал нас – ледзь дыхнуць! Гоман стаіць велічны, фільм будуць круціць – колькі трэба, хоць шэсць-сем-восем разоў!.. Малышат пускаюць першымі, гул нейк змяншаецца, але зал і так г а в о р ы ц ь: пабач, глянь, о-о! а-а-а! –

пакрыквае, героям “дапамагае”, падказвае, падспеўвае...

Паказваюць савецкі фільм “Свінарка і пастух” – цуда з’явілася ў Нараўцы! М а с к в а перад намі! І мы ў М а с к в е! – бачыце? чуеце? – с т а і ц ь, ц э л а я, непабітая! (адкуль нам ведаць, што фільм даваенны? С ё н н я паказваюць – значыць, гэта і ёсць с ё н н я! А табе-вам не ўсяроўна, га, чалавеча-людзі? Глядзі-ц е ш с я! В а й н ы больш н я м а!)... Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі; фантаны, статуі, шырокія пляцы-дарогі-алеі, мора кветак; пшаніца-каровы-свінні-авечкі-трактары, машыны, наўкругам музыка-спеў-песня!.. Аповесць пра вернасць, каханне; Глаша Новікова-вясковая руская дзяўчына – недзе з паўночнага краю; Мусаіб Гатуеў – чарнявы двухмятровы прыгажун з дагестанскіх гор...

Потым пачнем “кумекаць”, што Глашу іграе (“іграе”? – што гэта такое? Яна ж тут не іграе, а спявае! Ну, хай вам будзе, як вы кажаце!) краса савецкага кіно Марына Ладыніна (у якую, потым, усе ўлюбіліся, на ўсе яе фільмы – а якія-якія ж! – бегаць бягом будзем!)... Мусаіб – гэта артыст Мікалай Зельдзін (паверыце? Калі я гэта пішу, яму ў нашым 2015 годзе – с т о гадоў! І ён увесь гэты час – іграе на сцэне ў Маскве! А ў камедыі “Вучыцель танцаў” ён выступіў – пратрыце свае вочы, сядзьце, каб не ўпасці – т ы с я ч у разоў! У галоўнай ролі! Во які ён ч а л а в е ч ы ш ч а!).

Спеў нясецца з экрана, сардэчны, прыгожы, захапляючы і нашы сэрцы! Бо і мы спяваем, галаском тонкім, дзіцячым; нешта па-свойму, мармычам, тварым мармаранда, бо адкуль знаць нам словы... Потым іх вывучым, запомнім назаўсёды (бо яны нам м і р тады прынеслі!), яны н а ш ы м і стануць, будуць... І р а д а с н ы м і, бо і ў нас, і на экране н я м а больш вайны!.. Мы з гэтай песняй, і яна ў нас, унутры! “Хорошо на московском просторе! Светят звёзды Кремля в синеве. И как реки встречаются в море, так встречается люди в

Москве. Нас весёлой толпой окружила, подсказала простые слова, познакомила нас, подружила в этот радостный вечер Москва”...

Мы ў надпісах і прачытаць не змаглі, і не запомнілі імя кампазітара... Які кампазітар? Ён – хто? І дзе ён на экране? Героі проста сардэчна сабе спяваюць, трэцяга ж з Глашай і Мусаібам няма! Ну, быў там, быў гэткі рускі вясковы шалапай-хуліган, хлопец з гармоняй, Кузьма ён, ці як? То ён – гэты кампазітар? Ды ён жа каверзнік, усё „псуе”, нядобрая душа!.. Толькі потым мы палюбім дзясяткі песняў Ісаака Дунаеўскага...

„Не забыть мне очей твоих ясных и простых твоих ласковых слов” – якая з іх, герояў, цудоўная пара, а той, гарманіст, усё развальваць будзе. Іграе цудоўна, не скажаш, а што ён падлюжка, у каханні мяшае – гэта факт. Біць яго калом – злыдня, а і таго мала! Прагнаць трэба! Каб не лез да дзяўчыны!

Гойдаецца ад песні цэлая зала, бавіцца наша Нараўка і ўся акруга. Я неяк умудраюся тры разы папасці на сеанс – малы я, мыш гэткая... А публіка ідзе ды ідзе!..

***

Ох, Сенька, Сенечка (так мяне ўсе завуць), не ведаў ты тады яшчэ і не гадаў-не думаў, што праз няцэлых дзесяць гадоў – дзевяць, дакладна – ты, сын беднай гушчэвінскай вясковай сям'і, ад Марыі і Сашкі-Аляксандра Раманчукоў у жніўні 1955 года, сам будзеш хадзіць па гэтай жа, што на экране цяпер бачыш, выстаўцы, станеш, як укопаны, на Краснай Плошчы, і заблішчаць табе маскоўскія саборы, рака Масква ад сонца залатой стане... І ты, як сёння героі на экранепрастыні, ціхенька сабе заспяваеш – Нараўку родную прыпомніш, хлопца з-пад Пушчы вялікай: “Скоро встанет разлука меж нами, зазвенит колокольчик: Прощай! За горами, лесами, полями ты хоть в песне меня вспо-

минай”.

Гэта не сон, ява гэта мая – як у Глашы і Мусаіба, у іх і ў мяне, у Маскве, “на широких московских просторах” летам 1955 года... Нас тады, у Белакаменную, прыехала амаль двухсот донек і сыноў з простых польскіх сем’яў, за кошт нашай Народнай Польскай Рэспублікі! І мы, як героі гэтай аповесці, у нашы маскоўскія дні, пачатку нашага студэнцтва, спявалі-абяцалі, бо “дружба превыше всего” – “И в какой стороне я не буду, по какой ни пройду я стране, друга я никогда не забуду, если с ним подружился в Москве”.

А ў той 1946 год, калі толькі-толькі адышла вайна, наша Нараўка радасна закалыхалася ад гэтых спеваў. Песні, песні! Кіно, кіно!.. Нам адкрыўся новы свет... Мая Гушчэвіна, Грушкі, Янова, Елянка, Стачок, Скупава, Міклашэва, Альхоўка, Заброды, Масева Старое і Масева Новае і ўсе іншыя спаленыя нашы вёскі будуць будавацца, будуць ставіць з пахам сасновай смалы новыя хаты, клуні, хлявы, свіронкі, заводзіць жывёлу, птацтва, жыта сеяць, лугі касіць, дзяцей у школу выпраўляць, і ў першы клас пойдуць не толькі сямі-васьмі, а то і часта нават дзесяцігодкі і болей, бо ў вайну школа наша была закрыта. Мір у нас пачне быць! Спакой! Чыстае, без варожых самалётаў, неба!.. То там, то сям затрашчаць яшчэ, бывала, кулямёты, загараць у далечы ад нас, – хоць весці дойдуць, перапужаюць, насцярожаць – ацалелыя з вайны забудовы. Так будуць выступаць супраць новай улады яе палітычныя праціўнікі... Нараўку абмінуць такія пажары, будзе, аднак, тут смерць – год амаль як вайна пойдзе на захад, як падзе ўжо Берлін.

У чэрвені 1945 прыйшоў да Нараўкі з-пад Вільні, даследчыкі ведаюць, чаму якраз сюды, атрад польскай Арміі Краёвай, якім камандаваў Зыгмунт Шэндзеляж, вядомы на Беласточчыне як «Лупашка». Адкуль бы яму ведаць, хто і што тут у Нараўцы, прышэльцу з

Віленшчыны?.. Але тады тут было расстрэлена чацвёра мужчын, якія – як іх абвінавацілі – «былі супраць той, даваеннай Польшчы!» Усе яны былі праваслаўнымі і лічылі сябе беларусамі! Атрад адышоў, а з ім – дзе хто і з Нараўкі... Там, далей, былі таксама расстрэлы!

Аб гэтым мы даведаемся ад людзей, бо мы будзем у Нараўцы-Гушчэвіне толькі пад сам канец жніўня, калі будзе гатовы наш супольны з дзедам дом. Дзедка назаве яго «наш калхоз», бо стануць у ім жыць: бабка-дзед, іх малады сын Шурка, іх донька Верка з мужам Вацлавам, якія ў скорасці пераедуць у Тапаляны пад Міхаловам, а праз год з кавалкам, кінуўшы вёску і сваю сталярню, выраб вазоў і калёс (дрэва ж пад бокам!) паедзе і наш дзед. Паедуць «на лёгкшы хлеб» у ваяводскі Беласток.

Таткавага тату я не знаў, ён памёр, калі татку было 13 гадоў. Прыйшоў да бабкі малады Аляксандр, з іншым прозвішчам, ды сказаў: „Сашка, мая – сталярня-вазоўня, я не адрозніваю пшаніцу ад аўса. Гаспадарка – твая! Давай, чалавеча, гэтак разам хлеб зарабляць”... Буяніста-вясёлы быў ён дзядзька, зашумець любіў, выпіць мог удоваль, бабку ”успакоіць”, дзяцей сваіх “у норы” пазаганяць, пры педагагічнай патрэбе. А пабачыць, спаткае Сашку – уціхамірыцца, заспявае сабе ціхенечка свой гімн “Па Дону гуляе...”, памахае пальцам і скажа: “Ты, Сашка, гэтага, мяне такім не бачыў!”, – расклеіваўся пры мне дзед. – „Унучак мой, даражэнькі, о-о, ты ў нас высока ўзляціш!” Дзеду гаварылі: ”Ляксандра, Сенька ж табе – які ўнучак? Нягродны, прыляпяшка!” Дзед адну тут “навуку” меў: “А ў морду хочаш, каб заехаў, зубы палічыў!?”

Мне казаў ён: “Вось табе кніжкі, браце, алоўкі, ну, такія тоўстыя, любрыка, ад маіх калёс, літэры розныя пазнавай, вось табе журналы, “Огонёк” называецца. Расія тут ёсць, Масква, бач, сталіца, напэўна ты калісь туды паедзеш, свет жа цяпер адкрыўся.. Ты ўчыся,

унучак, умець усё – і быць панам, як калісь нашы паны з Лясной, што сюды над рэчку нашу ў карэці з'язджалі... Ды я так, трэба працы, трэба, без яе ніяк, праца корміць, праца вучыць, без яе людзіна – што за чалавек?" І – у рогат! "Ażebyśmy zdrowi byli i kapeluszem wódkę pili!" "Дзедка, – кажу я, – як жа, яна выцячэ, капялюш-дно ў вас з дзіркамі". "Ну я так, для вобразнасці... Глянь на дно, колькі сюды нальеш? Літар-больш памесціцца, а то і два! Каб гэта за раз выпіць – ды хто толькі глытне? Якое здароўе мець трэба, а? Ну, бач, і kapeluszem wódkę pili!..

Аднойчы зімою мне кажа: "Сенька, не рвіся, бач, снегавіца, чуеш вецер, адзенься добра, валеначкі надзень, у царкву паспееш, ранак яшчэ... А чы я мушу быць першы? Дзе першы, у царкве першы?.. А бо я часам бяру ключы ў бацюшкі, царкву адмыкаю, першы буду... Унучак, не будзеш там першым, там заўсёды ёсць Гасподзь Бог, уначы і ўдзень. Ён усюды, і ў Храме, Першы! Ён Пачатак і Канец, ведаеш... Кніга ёсць такая ў мяне, Біблія, ты калісь і гэтаму навучышся, ты ў нас, унучак, го-го! – куды заедзеш, зойдзеш! Але ведай, не чалавек першы!.. Ты, Сенечка, высока галаву насі, наш тут род – будзь! будзь! значыцца, але носа не задзірай, ты і разумнейшых ад сябе сустрэнеш!.."

Рытуал быў у нас, "у калхозе": дзедка сядаў за кніжку... Усе ў хаце хадзілі на пальчыках. Дзед маўчыць, носам пацягвае, плача, слёзы выцірае – Евангелію чытае, моліцца... А ў царкву хадзіў на Каляды і Пасху. З айцом Андрэем у размову кідаўся, усё пытаў, пярэчыў, злаваў-пакрыкваў, бабка ўціхамірывала, бацюшку перапрашала... Іншым разам дзед ругаецца: "От, паршыўцы! – крычыць, – ды ілжэш ты тут, халернік бязмозглы!"

***

“Калхозны дом”, які і наш татка ездзіў-хадзіў з Дубін 1944–1945 года памагаць будаваць у Гушчэвіне, не змяшчаў нас усіх цалкам, таму наша сямейка спаланачавала на сене ў абарозе, што склалі на падворку. “Калхозам” ідзе будова нашай новай хаты. Для нашай сям’і... Нас мала – і дом стане малы...

Уперамежку з таткам я – унізе... Татка – высока, ён стаіць на калодзе-сасне, пакладзенай на падпорах-стаяках, рэжам, рыхтуем дылі, доскі, вялікай пілой. Яна цяжкая! Пільнуй, рэж паводле пазначанай лініі, каб не крыва, убок, а то сасну папсуеш... Уніз цягнуць цяжка, уверх – хоць смейся – татка мяне, малыша, з пілой уверх да сябе цягне. І смех, і грэх, цягну...

Вуліца наша зарасла травой, падворак – травой і зеллем. Засеяліся бярозкі – іх пяць у нас, а дзве ў шарэнзе побач сталі, адна з аднаго боку, другая з іншага, як салдацікі стаяць, хацішча-гаспадаркі пільнуюць... Грыбы тут пачалі расці, з Пушчы перабеглі! У крапіве, сярод асоту, шмыгаюць вужы, прыпаўзлі з лесу, тут жа ад яго дзвесце-трыста метраў. Навокал паўзруйнаваныя калодзежы... мы свой ужо ачысцілі, вада ў нас адметная, усе яе бяруць і хваляць. Склепы-піўніцы на бульбу, варыва будаваць трэба – тут таксама папрацаваў нямецкі дынаміт... Садоў нямашака, і яны папалены. Туды, пад крыж, з Казіміравага саду засталося паўяблыні-папяроўкі, і ў гэтым годзе будзе ў нас ад яе першы яблычны ўраджай...

Селішча ваеннае, пустое, з зямлёй зраўнанае, пільнавалі два нашых крыжы – каменны, васьмігранны, праваслаўны – аж з 1911 года, і драўляны, без даты, чатыроканечны, каталіцкі. Гэткіх дамоў у нас – пяць, а праваслаўных – недзе пад сорак. У Нараўцы мы пазнавалі прыезджых, яны – “польшчылі”, што значыла: выносіцца, ставіцца, мондрыцца, панюсю-пана “рэжа”, “вучонага” стружа! Да вайны ў вёсках, калі канчалі

чатыры класы, як мае мамка і татка, гэта і быў іхні здабытак. Сем класаў залічваў не кожны... Далей – у Свіслач, Слонім, Валкавыск, Беласток ці Гродна – траплялі рэдка хто, не чуў, каб хто ўспамінаў пра Варшаву.

Цяпер тут нас – дзве хаты: дзедава-“калхозная” і дзядзькі Віктара, наводдаль, у другі канец вуліцы, у бок Ляскоўкі... Наша, Раманчукова, паўстае, “родзіцца” паволі.

***

Першага верасня 1945 я іду ў школу. Мяне бяруць у другі клас, бо я ўжо пішу польскімі і рускімі літарамі, чытаю – яшчэ ў Дубінах вучыла мяне мама. Аднекуль былі ў нас кнігі. Памятаю, у бабкі, мамінай мамы (усе мае бабкі – Ксеніі, а дзяды – Аляксандры) была да вайны вялікая бібліятэка, там было столькі пазалочаных кніг! Іх прывозіў з Варшавы, яшчэ за царскімі часамі, дзядзя Павел, брат мамы, які працаваў там на пошце, затым эвакуяваўся ў 1914 у Расію, жыў у Растове на Дану, там і быў расстраляны як польскі шпіён у 1937 годзе. Другі брат, Канстанцін, салдат рускай арміі, загінуў дзесьці на вайне 1914...

Я ў другім класе... Каб здабыць мне кнігу-чытанку, даваенную, мамка будзе ўнараўчукоў паўдня капаць бульбу. Дзед дасць мне вялікую, тоўстую, з каляровымі рубрыкамі “счётную” кнігу – гэта будзе мой сшытак. Пер’я, алоўкі, атрамант – усё гэта нашу ў торбе, якую мамка пашыла. Тарністар, з дыкты, будзе потым-потым, зробіць яго мне татка.

***

Вось і вырасла наша хата. Спаць лягаем на падлозе – ложкаў у нас яшчэ няма. Усё наўкол пахне сасновай смалой. Адурманьвае... Цяплынь, напалілі пліту (ёсць

ужо і хлебная печ, татка сам зляпіў з гліны), павячэралі... Дождж цёплы цобіць, стукае па дахавых драўляных драніцах. Добранька нам тут, ей, цудоўна. Памылі ў цёплай вадзе, выцерлі нашы “статкі” – ложкі, міскі, рандэалькі, саганчыкі. Ёсць ужо ў нас ад дзеда-столяра драўляныя капанькі-мядніцы. Мы памыліся і самі. Цудоўна! Я кажу бацькам, а Нінка наша падтаківае: “Мы цяпер найшчаслівейшыя на свеце!”

Матуля зацягвае песню “Ой, рэчанька, рэчанька...”, мы ёй услед  – і засынаем... Мы зноў у сваёй хаце! Нас не выганяюць, не паляць немцы! Мы не стаім на вуліцы ў дождж! Нас не рвуць сабакі! Ніхто не страляе!

Заўтра пайду ў школу.

Мой найлепшы школьны “сябравік” – Сашка з Свінарояў. Я з ім сяджу на адной лаўцы, мы “неразздзельныя” і прозвішчы ў нас аднолькавыя, і сваякі мы.

... Сашка! Што за лёс, за судзьбіна твая, дружок ты мой!.. Паехаў ён быў, недзе ў 1985, з жонкай і дачкой у Германію, да знаёмых... Хлапчуком перажыў першых немцаў. У Свінароях іх не вывозілі, там і да немцаў было надлясніцтва і зараз пасля вайны, там быў і арбайт-камісар... І паехаў Сашка ў Германію, і там усе разам паехалі на экскурсію, веласіпедамі. Сашка рынуўся з горкі на палявой дарозе, што вяла, аказалася, на асфальт – і трапіў проста пад самаход-грузавік... Не ўратавалі!

Як? Чаму? На чужой зямлі!.. Было суджана згінуць ад немца сярод немцаў, перажыўшы немцаў у роднай Пушчы, там, дзе нарадзіўся? І вяртацца ў Польшчу ў труне, і быць пахаваным у Коніне, у цэнтры Польшчы, дзе працаваў у капальні вугля інжынерам, а не ў роднай зямлі ў Нараўцы... Ну, што гэта за лёс!.. І што гэта – фаталізм? няўвага? рызыка?.. Няма майго Сашкі! Весельчака, балагура, смехатворцы, выдумшчыка!..

У школе я шмат чытаю.  Кнігі, кнігі! У хаце чытаю іх пры лучыне. Няма яшчэ ў нас, і купіць немагчыма, ні

лямпы са шклом, ні нафты... Чытаў якраз сянкевічавых "Крыжакоў", як увайшоў у хату татка, пытае: "Што там з Данусяй Юрандуўнай?". Кажу: "Вось, уміpae..." – чытаю і мы ўсе плачам... Або, іншым разам, спяваем, усёй хатай, песні з фільмаў.

Вывучаю на памяць масішчу паэзіі – польскай, рускай, беларускай. Я ж дэкламатар на ўсіх школьных "акадэміях". І бясконца іграю на сцэне. Сцэна – мая любоў! Бяру ўсе ролі, якія даюць: бабу-ягу – бяру! мятлу – калі ласка! нейкую звярушку – з радасцю... Толькі б быць на сцэне, толькі б іграць. Як гэта соладка! Будзе і царэвіч-каралевіч! Я ляжу хворы ў падушках-пярынах, а мне нянька спявае "Był sobie król, był sobie paź i była też królewna"... А нянькаю была Тамара, наша Тамара Саланевіч, чыё імя – крыху пазней – будзе мець усё, што ў Нараўцы звязана з культурай. Гэта яна запіша на кінаплёнцы пра нашы беларускія звычаі, абрады, песні, вяселлі, танцы, пра палатно, кросны, калаўроткі, дываны, пра Зямлю нашу Родную, пра Нараўку і вёскі нашы, пра Пушчу!..

У школе я першы раз пабачыў і пачуў радыё. Прынёс яго пан кіраўнік, Браніслаў Лявонік, ад сябе з дому. Жыў ён з сямьёй у школе, на гарышчы. Радыё было вялікае... І раптам у вялікай зале, дзе мы глядзелі фільмы і дзе ставілі тэатральныя спектаклі, яно загаварыла-зайграла. Ігралі „hejnał z Wieży Mariackiej w Krakowie". Пан кіраўнік патлумачыў, што такое "гейнал", што такое "Вежа Марыяцкая" і "Кракаў". Захацелася там быць, на вочы пабачыць... Вавель, Замак, каралі! Каралеўскі Кракаў, паехаць туды – наша мара!..

Пройдуць гады... ну, проста як у песні! Паеду, пабачу, усё сам, кракаўскае!.. З ліцэя паеду!.. А потым, як і цяпер, буду служыць Святую Службу ў царкве на кракаўскай Шпітальнай, вуліцы, якая сваім канцом упіраецца – сама невялікая – у сцяну Марыяцкага касцёла-базілікі, дзе і надалей, кожную гадзіну, іграюць гейнал!.. І тут

“мой” Ваўжэк (Ваўжынец, Лаўрэнцій) – вясковае хлапчанё, пасля розных бедаў, трапляе да гісторыка Яна Длугаша. Аднак не яго пісанне цягне – Ваўжэк ножыкам у дрэве рэзаць любіць і цягне яго да Віта Створа, які працуе пры разьбе Марыяцкага Алтара-Трыпціха. Длугаш знаёміць хлопца з выдатным майстрам... І цяпер, калі я ў Кракаве, я забягаю ў сабор памаліцца перад Алтаром Віта Ствоша да Маці Божай.

***

Мая царква, дзе мяне Сімяонам ахрысцілі – Свята-Мікалаеўская, сіняя, прыгожая, высокая, аднакупальная з званіцай, з 1870 года. Другая, Свята-Іаанаўская, драўляная, старэнькая, што стаяла на могілках, згарэла даўным-даўно... Калісьці мы яшчэ туды “На Яна”, 7 ліпеня, кожны год з хрэсным ходам хадзілі... Бо і сёння наш фэст парафіяльны – Яна – Раство Прадцечы і Хрысціцеля Гасподняга Іаанна. У Нараўцы, Белавежы, Дубічах Царкоўных гэта тады народнае свята Івана Купалы – танцы, забавы, гулянне, вянкі на рэчцы са свечамі, вогнішчы, шуканне кветкі папараці, таямнічасць... Даўнія часы нашых продкаў!

Хрысцілі мяне цёця Оля і дзядзька Ваня. Меў я быць Лёнька-Лявон-Ляонцій-Леванцей. Цёця Оля прыгаварыла:

– Марыся, – кажа да мамы, – мала табе ў вёсцы Лёнькі-забіякі, што ўсім вокны лупіць?! Не будзе так!.. Святы мае быць, царкоўны, не бесталач якаясь... Будзе Сімяон, Сіман, Шыман... Пабачыце, радасць нам усім будзе ад хлапчаняткі нашага! Сімяон – як жа прыгожа! І нікога няма ў акрузе – толькі Сіман, дзядзька ляснічы, усе знаюць, добры і памяркоўны, усімі любімы. Нашаму будзе ў прыклад...

***

Летам 1949 канчаю пяты клас. І цэлай школьнай гурбой першы раз едзем у свет – на летнік для дзяцей, у Сямяцічах. Цягніком да Гайнаўкі, адтуль да Чаромхі, а далей аўтобусам. Жывем у будынку ліцэя, школе, мураванцы, якая здаецца нам велічэзным палацам. Колькі там сходкаў! Можа, сто-дзвесце, а, можа, і трыста... Спяваем, чытаем вершы, глядзім фільмы, купаемся ў Камёнцы, рэчцы, меншай за нашу Нараўку, але ўсё ж... Завязваю сяброўства “на смерць і жыццё” з Віцькам, нараўчуком. Ён старэйшы за мяне на тры-чатыры гады, але ён у малодшым класе, з бацькамі ён нядаўна вярнуўся недзе з-пад Калінінграда. Дома ў Нараўцы Віцьку няёмка – такі вялікі, а ў класе з малышамі мусіць сядзець... Нам між сабою добра, мы не можам нагаварыцца, і спім адзін побач другога. Выхавацель ганяе спаць, а мы ўсё гаворым, расказваем – ён пра Германію, я – пра сваю вайну.

З хваляваннем прымаем вестку – паслязаўтра едзем у Варшаву.

Колькі дамоў, колькі трамваяў! Мы на правабярэжнай частцы горада, Празе. Вісла – шырыня якая! Колькі тут маіх Наравак?! А за Віслай, як вокам кінуць, паўсюль руіны. Страшэнныя! Ледзь праціскаемся па Маршалкоўскай... Божа, гэтак зруйнаваць горад, столькі людзей забіць...

І новае жыццё бурліць!

І раптам – дзіва дзівоснае! Сходы-лесвіца сама едзе, адна частка – уверх, другая – уніз. Ей-ей, што інжынеры прыдумалі! Ездзім “па пяцьсот” разоў, то ўніз, то ўверх і сагнаць нас адтуль – хто зможа? Мы аглохлі... ну, яшчэ трошкі!.. Пазней будзем есці...

Віцька наш замарудзіў, загледзеўся, не саскочыў у час, грымнуўся на падлогу і выбіў пярэдні зуб. Кроў ідзе, а ён рагоча, шчарбаты! “Бо ў каго такая памятка з Варшавы?..” А кармілі нас хлебам, яйцамі, халоднымі

жаранымі катлетамі з гарчыцай... Смачна! І яшчэ адно цуда – шыпучая, смакавітая газірованная вада з сокам...

Цяпер, калі часам іду каля гэтых рухомых варшаўскіх сходаў, дзе мы тады летам 1949 года харчаваліся, чую ў вуснах смак тадышніх катлетаў!.. Абед пры сходах, вуліца Мядовая, ўратаваны касцёл Святой Анны!.. Смак катлетаў – спакойнага, сытага, пасляваеннага абеда. Радуйся, Сенька, ты мір бачыш! Ты ў Варшаве, і сталіца ў табе! Пячаць варшаўская навек у тваім сэрцы, у душы тваёй. Вы зрадніліся... І той смак катлетаў – гэта смак майго будучага варшаўскага жыцця. Мы з Варшавай сталі адным цэлым!

Канчаецца мая пачатковая школа, сёмы клас. Куды ісці? Педагагічна-гарцэрскі клас у Ломжы? Далёка. І як там без царквы, у гэтым зусім каталіцкім горадзе? Не-не! У Бельск Падляскі, пяцьдзесят кіламетраў ад нас, у педагагічны ліцэй... Едзем на экзамены кампаніяй: Оля, Коля, Віктар і я. Нехта з іх кажа: "Сенька, ты пойдзеш апошнім, пасля нас. За табою мы – не здамо!"

Пішам пісьмовыя – польская мова, матэматыка. Вусныя – зноў польская мова, але таксама і руская, і беларуская, і яшчэ гісторыя Польшчы ды свету. З нашай дамовы – "нуль", бо клічуць па алфавіту, а прозвішчы маіх сяброў і так перад маім.

З'ехалася моладзь, бачым, з усёй Гайнаўшчыны, Бельшчыны, Сямятчыны. Пытаюць многа, нярэдка закавырыста... Я іду без цяжкасцяў. "Польская" пані пытае мяне, адкуль я, хто мяне вучыў, адкуль веданне розных моваў. Адказваю, што вучылі мяне даваенныя настаўнікі і кнігі, любоў да тэатра... Слава Табе, Госпадзі – уся наша "Нараўка" ў спіску прынятых! Чакаем верасня...

***

– Мамцік, татулька, паеду ў лес, за Брашчу, за Грушкамі, там хлопцы карэнне жывакосту капаюць.

Аплачваецца... Яго там, казалі, многа. Дзядзька Карп з Нараўкі, што ўсякае зелле прымае, добра плаціць – зараблю залатоўку-дзве, на кнігі, сшыткі ў Бельск, для ліцэя.

Зелень наўкругі над рэчкай Нараўкай, над прытокам яе, Брашчой! Нараўка тут цячэ няспешна, пятляе, круціцца эсамі-флярэсамі, і тут ёй Брашча вады дабаўляе, недзе з крыніцы пад Масевам пачынаючыся.

Жывакост – зелле высокае, яго тут многа, як усяго ў нашай Пушчы! Шырокія лісты кшталтам вялікага яйца (больш гусінага, чым курынага), вясной тут вісяць гірлянды квецця, як вінаград пурпурна-фіялетавы. Прыгажосць і лякарства!.. Адны гавораць – на лёгкія і пячонку, другія – і на сэрца таксама. Карэнне – чорнае, мягкае, тоўстае, такі наш пушчанскі жэньшэнь. Як кажуць: "Што-та ўродзі дзядзі Валодзі!" Праўда, у жэньшэня карані белыя, нашы – чорныя, як тая зямелька наша, маці-карміліца пушчанская, што дае нам дрывесіну, ягадамі, грыбамі, арэхамі корміць, паветра пахучае спасылае... А яшчэ і так гавораць: "Наш жывакост – ён і на «маладосць» і на «мужчынскасць»"...

Ад Пушчы сіла тут усякая ідзе, ад лесу нашага магутнага! Ад рэчкі – чыстай, светлай, самой як крыніца. Іх тут, сярод дрэў нашых – не адна. Ідзем, бывала, дарогай лясной на Паліска, гэта пад аддзел 105 на перасячэнні з Брашчою, а там крынічанька бухае, бурліць, а вада, як шкло чысцюткае, здаецца, калі п'еш, што зубы табе выламіць, выб'е, выляскаціць зімнатой сваёй... Бо знутры яна, вадзіца, зямліцы нашай, таму і халодная, і цёплая, і салодкая – усе смакі-адчуванні разам...

Перастануць біць яны, крынічанькі, рэчкі плысці – хоць яны ў нас і невялікія: ці Брашча, ці Сірата (а чаму ж яна так назвалася? Хто ж яе пакінуў? Тут і нашыя старэйшыя не помняць, не ведаюць), або Гвозьна, што да сябе Сірату прытуляе, ці Арлоўка, якая цячэ з

рэзервату, з-пад Аўгустоўскага саду, ці тая ж Лутоўня, са сваімі меншымі Крыніцай і Дубіткай, якія пачынаюцца далёка-далёка і плывуць то аддзельна, то разам праз рэзерват Шчэкатова і Дубовы груд, каб мінуць Тэрэміскі і Старую Белавежу, а каля Воўчай Трыбы каб дайсці да сваёй маці, нашай Нараўкі. Дык вось, перастануць рэчкі плысці – і ўсё тут кончыцца! Пушча быць перастане, высахне, зямля здзічэе, пустыняй стане, людзі загінуць... Рэчкі–лес–людзі – усе яны, мы адно нераздзельнае, разам, назаўсёды! Бо прырода і людзі – тутэйшыя, ад вякоў, неразлучны. Адно без другога – немагчыма ўявіць. Бо як тут быць без водару гэтага, без імглы, якая ўсё наўкругі спавівае прасцінай белай, вэлянам, без паху грыбоў, які ад лесу да нас цягнецца, без плёскату рыбы ў водах нашых, ракаў... Адных і другіх – хто сеткай, хто вудачкай, хто рукамі на плыткім пяску, з нораў... У нас жа на Вербніцу Святую, калі мы асвечанай вербачкай лёганька сцябаем адно другога, кажам: “Будзь здаровы, як вада, будзь багаты, як зямля!”

Жывакост – якая назва!? Жывая косць – бо, сапраўды, наўкруга тут “косць” наша! Мы ўсе адсюль, тут “карэнне” наша, тут наш “жывакост”. Апора наша – Пушча! Яна – Альфа і Амега, Пачатак і Канец Тутэйшага Краю! Наша – сэрцавіна, дзе мы адвечна са сваім жыццём, сваім ладам і ўкладам, мовай – сваёй, пявучай, беларускай!

Мы ж тут ад стагоддзяў, яшчэ вяліка-княжацка-літоўскіх! Хто ведае, якіх пачаткаў... Колькі навокал нас курганаў, урочышчаў – дахрысціянскіх і хрысціянскіх, лясных, пушчанскіх!.. Тут у нас не было паншчыны. Продкі нашы былі дваровыя, князёўскія – віленскія, потым і каралеўскія. Ды ўсе мы – Гедымінаўскія, Уладзіслаўскія і далейшыя Ягелонскія! Адсюль, адвечна ў Замак Віленскі ішоў наш пушчанскі мёд, грыбы, мяса звярынае, ягады, вугаль драўляны, тарпантына, патаж

на шкло і розныя матэрыялы-прылады...

Сёння гурбой капаем, для сябе, жывакост. Адкапаем, прачысцім арэал, усё лісце, бадыллё ў зямлю закапаем. Згніе яно там потым, зямельку накорміць. Паверхню мы зраўняем з пясочкам, затопчам, матычкамі заграбем, граблямі выраўняем... Травіца зялёная потым тут з'явіцца, вырасце. Пушча свой парадак любіць – мы ад яе навучыліся!

Нас тут многа... Я з радасцю гачу, валю матычкай! Цяжка... Зямля травой буйнай зарасла, сухая, дождж даўно быў. Але за дзень здабытак маю вялікі – два мяшкі карэнняў. Мы іх потым сушым у цянёчку, вязем дзядзьку Карпу ў Нараўку... Змучыўся я, ледзь да хаты давалокся. Адзін мяшок на ровары вязу я, другі вязуць татка, якія прыехалі на падмогу.

Мы да бацькоў і да ўсіх старэйшых казалі не "ты", а "вы". Бацькоў у руку цалавалі на развітанне, на прыезд... Такія мы вось людзі лясныя, палявыя! Гэта таксама нашы к а р а н і, наш ж ы в а к о с т! На вуліцу выйдзем у Нараўцы – бацюшку скажам: "Слава Ісусу Хрысту!", знаёмым-незнаёмым: "Дзень добры! Вітайце! Здраўствуйце! Як вы?.. Як ты?.. Як здароўе? Як справы?" Ніхто моўчкі не пройдзе... бо падумаюць – што з ім? Бяда ў яго? Ці ганарыцца?.. А чым!?

Я змучаны... Ныюць далоні абедзвюх рук, баліць асабліва левая – яна ў мяне паперадзе працуе з матычкай, лапатай, віламі, граблямі. Праз нейкі час так кожны дзень. Засну неяк, праз ноч адпачыну, боль перастае, заціхае... А грашовая выручка-падмога на інтэрнат – якая! Спяваю разам з таварышамі, "жывакостнікамі" – лягчэй матычкам нашым свісцець!..

Праз пару дзён – у ліцэй, у новую дарогу! Паедзем і ўжо потым у Нараўцы-Гушчэвіне ніколі на стала не будзеш! Пачыналася вандроўніцтва... Ну, з Богам, Пушчанец-Гушчэвінец, Сенька!

***

Бельск Падляскі. Я ў інтэрнаце, зала 16, буду тут жыць усе чатыры ліцэйскія гады. Аднакурснікі – мае аднагодкі, або старэйшыя, мы ж усе "ваенныя", школы былі закрыты, таму я сярод хлопцаў, якія на чатыры-пяць гадоў старэйшыя за мяне. Яны – ужо "кавалерка", некаторыя з іх – здзіўляешся – ужо брыюцца. Дарослыя – аброслыя рукі, ногі, грудзі. Старэйшыя вучаць нас парадку. Мы сочым за ім у нашым вялікім пакоі, бачым, што той і той пабег да дзяўчыны на сустрэчу (дзяўчаты жылі у другім крыле нашай "дзеравянкі")."Кавалеры" страшаць нас настаўнікамі – таго бойся, гэтага можна не баяцца, пры іншым – маўчы, а той не скрыўдзіць, хоць накрычыць, з урокаў не думай уцякаць – каюк табе!..

Зноў баліць, як учора, мая левая рука. Ірве боль – не магу паварушыць, не вытрымаць! Раніцай надзеў свой пінжак – пад вечар не магу зняць, рука апухла, як калода, ссінела-счырванела. Не сплю... ляпей крыху, калі трымаю яе ўверх...

"Ой, каб матуля была тут! Дахаты, дамоў, там бы мне перастала балець"... Так думаю, але хто пусціць?! Боль у руцэ, боль у сэрцы! Чаго яна так шчыміць?.. Дазволілі сёння не ісці на заняткі. Сяджу і плачу... "Да матулі!.. Дзе ж вы, Матулька мая..." Гушчэвіна як бы за морам-акіянам... І навошта мне гэты Бельск? Ну яго, – думаю, – з гэтым ліцэем! Чаго я так сюды рвуся – на боль гэты. Нішто тут не трымае – дамоў хачу! Малака тут нашага няма, салодкіх памідораў, што ў сене-палавінні-атрубах спеюць... Я ссінеў-счарнеў. Не даю рады есці, хлопцы амаль сілай кормяць, прыбягаюць на перапынку: "Як ты?"

Наша апякунка-гігіеністка, пані Яніна ўцірае мае слёзы. Выю ад бою... Адпраўляюць да лекара, за ратушай... Стары доктар хватануў-рвануў маю руку... Я завішчаў-зароў, як паранены звер. "Пачакай, – кажа, – на

калідоры. Разрэжам тваю сінячку!”

А то ж, буду я чакаць! Я – у ногі! Бягу па вуліцы, не ўціхаміруся. Людзі пытаюць: “Што з табою, хлопчык?!” Хачу дамоў, у Нараўку! Не ведаю як – пяшком, цягніком, на крыллях, але да мамы... Баліць рука, рве, стукае... Ну, дзе ж тая Нараўка? Чаму туды 50 кіламетраў?”

Кажу пані Яніне: “Уцёк, доктар рэзаць хацеў... Як жа я без рукі буду?!”

Не сплю ўсю ноч... сяджу на лавачцы пад інтэрнатам – каб хлопцаў не будзіць. Не магу перастаць плакаць... Коля, Юрка, Метак прыходзяць за мной: “Ноч жа, надумаў, змерзнеш, ідзі на сваё месца ў пакоі”. Сядзяць пры мне. Прынеслі гарбатку. “Герой, на двары сядзець будзе! Шчыгла-верабей!” Засынаю – не ведаю калі, заплаканы...

Адкрываю вочы... раніца. Мне лягчэй. Пані Яніна развівае на руцэ бінты... баліць, але гэта ўжо “салодкасць” пасля ўчарашняга. Пад вечар уся мая рука ў жоўтым! Пані Яніна прапорвае руку іголкай – бухае кроў з жаўцізной-матэрыяй. Перавязвае – я засынаю як забіты. Буду жыць! Праз дзень-два іду да доктара, іншага. Чысціць руку, перавязвае...

Мне дазваляюць паехаць у Нараўку. Шчасце... Рука гоіцца доўга... Гэтак смакуюць карэнні жывакосту! Карэнні майго жыцця, лёсу!

***

Настаўнік біялогіі, пані Галена Стржалецкая, адкрывае вучнёўскі тэатр. Ставіць камедыю Аляксандра Фрэдры “Пажыццёвая рэнта”. Я іграю галоўную ролю старога Латка, які часта-густа трапляе ў трагікамічныя сітуацыі, па сваёй віне, вядома. Да пастаноўкі рыхтуемся доўга. Але за тое які поспех! Іграем у ліцэі, затым у гарадскім тэатры, едзем у Гайнаўку. Усюды поспех, апладысменты... Гэта – маё! Тэатр! Знаходжу ў

ім сябе! Так, так – іграць, іграць, быць на сцэне. Мне трэба ў акцёры! Тут мне найлепей! Воплескі і першы смак славы! Ліцэй перакананы – Сымон пойдзе ў тэатральную школу, у Лодзі. Вось яшчэ годзік, матура, мы яшчэ рыхтуем Юліуша Славацкага "Баладыну" – і ў арцісты!.. Закруцілася мне ў галаве – можа і ў кіно траплю, і на экраны... чаму не?!

У адзін дзень валіцца ўсё! Мой татка трапляе ў будаўляную катастрофу – на яго валіцца дах, палова даху. Яго прываліла... У таткі паламаны рукі, ногі, рэбры, ключыца. Як ён выжыў!.. Рашаюся пакінуць ліцэй, ісці працаваць!.. Дырэктар, настаўнікі ў крык – не! Не пусцім! Школа будзе плаціць за мяне інтэрнат, адзене, абуе. А я плачу... "Але татка, а як не паправіцца?!"

Рыхтуемся паказаць "Баладыну". Увесь ліцэй шые касцюмы, майструе дэкарацыі і ўсялякія сцэнічныя рэквізіты. Спектакль атрымаўся выдатны. Цэлы Бельск ломіцца ў школу. Прыязджаюць з Гайнаўкі, Беластока. Бо якія акцёры! Я іграю ролю Філона (душа закаханая, рамантычная), з поспехам, хоць яна і не галоўная. Але ж іншыя – геніяльныя выканаўцы!.. Мы тут не горш варшаўскіх тэатраў!.. І зноў маё сэрца стала марыць, па тэатры плакаць. Плачам разам з Марысяй, калі яна, як маці Баладыны, блукае па лесе, выгнаная дачкою: "Nie wiesz, co się stało? Grafini, moja córka, wielka pani, a ja na wietrze z głową taką białą mówię piorunom: bijcie! Bijcie we mnie!.."

Яе вялікі маналог аж сэрца разбівае! Як мусіць любіць сваю маму Марыся – тата загінуў у час вайны – каб так г э т а іграць! І мы акамянелі, адубелі са здзіўлення! О, не-не, калі каму ў Лодзь, у тэатральную школу, дык найперш Марысі, гэтаму народнаму гайнаўскаму таленту!

Аднак Марыся аднекваецца. Як ёй маму пакінуць? Хто ёй дапаможа? Стыпендыі на колькі хопіць? Не-не, да працы, настаўніцай – можа ў Гайнаўцы ці ў Бельску,

або на вёсцы, каб маме памагчы. Іх жа толькі дзве душы...

Бельск, кастрычнік 1954, фестываль савецкіх фільмаў, ходзіць уся школа. Наш клас – выпускны, чуем сэрцам развітанне. Тужліва... Спяваем рускія песні. Сёння мы зноў у кіно на Чэхаўскай “Анне на шее”. З намі наша выхавацелька, пані Вольга Такарэвіч, паланістка. Села пры мне і гаворыць: “Хочам паслаць цябе вучыцца ў Савецкі Саюз. Трэба толькі паехаць у Беласток і здаць папярэдне экзамены. Заўтра субота, паедзь дахаты, скажы бацькам, парайся, пераканай, калі спатрэбіцца”... З фільму гэтага я мала што запомніў.

Такая навіна! Такая навіна – і я з ёю заўтра ў Нараўку! Дамоў!.. Аўтобусам даехаў праз Капітаншчыну да Ляўкова-Станцыі. У лесе жанчыны збіраюць зялёнкі. Пытаю, ці гэта дарога на Нараўку. Мне кажуць: “Але! Ды гэта не кіламетр – ведаеце? Тут з сем-дзесяць будзе...”

– Ведаю, – кажу.

– Ну, шчасліва, хлопча! Гэта добрая дарога – да мамы, відна?

– І да таты, і сястрычкі таксама.

– Ідзі з Богам, сынок, цэлы час проста... І цяплынь стаіць, захочаш – і грыбоў назбіраеш на падарак.

Добрая дарога! Я знаю яе ўжо трынаццаць гадоў... у ліпені 1941 па ёй вывозілі нас, гналі немцы. Спачатку ў Нараўку, праз Нараў, Трасцянку ў Заблудаў... Мне пяць гадоў. Мама расказвала і сам помню як праз сон... На вуліцы ў нас мітусня... Усюды гергочуць немцы! Поўна чужых вазоў, іх прыгналі з Навасад з-пад Ялоўкі... Нам прыказ – усю маёмасць гаспадарскую пакідаем, усю жывёлу... На адзін дом – адна падвода! Не памесцімся! У нас жа ў хаце бабка, дзедка, цёця Верка, дзядзька Шурка, іх дзеці, старшы брат таткаў – дзядзька Ваня з сямьёй і нас чацвёра! Кладзем на падводу наша майно, яна ўжо як гара! – конь не пацягне, не месціцца – што і чыё пакінуць?! Немец крычыць: Вэк! Прыказвае пала-

віну скінуць. Дзе – на вуліцу?

Праз некалькі хвілін падыходзіць малады афіцэр. Ён гаворыць да нас па-польску (хто ён – паляк у нямецкім войску? шлёнзак? гданьшчанін?), гаворыць спакойна, пытае пра нашу Нінку.

– Ёй дзень і дзве ночы, – кажа мама.

– У мяне дзве дзяўчынкі, – гаворыць ён. – Я буду крычаць, вы плачце!..

І пайшоў. Праз некалькі хвілін ён прыводзіць зусім пустую падводу.

– Пагружайцеся! – кажа. І глянуўшы на наш садок, пытае: – А каровы?.. Каторая самая малочная?

– Чырвоная, – гаворыць мама.

– Вазьміце... А пастронак ёсць?

– Дзякуем вам, пане афіцэр.

– Не плачце, вас не павязуць у Германію, а пад Беласток, па вёсках расселяць. Вы памаліцеся за мяне – да хаты я, відна, не вярнуся ніколі... З такой вайны – не вяртаюцца!

Назваў сваё імя. Мы плакалі...

– Ну, рушаем, дзеці, хай Бог нас вядзе, – сказаў дзед. – Перад крыжамі на калені станем – усё ж пращчанне, можа навек?! Хатаў сваіх мы больш не пабачым... Ну, са Хрыстом!

Помню, сядзім з мамай на “новай” фурманцы, едзем па дарозе, па якой цяпер іду з Васькоў на Капітаншчыну. Мінаем Нараўку. Яе не паляць і не вывозяць. Людзі выбягаюць на вуліцу, перадаюць нам усялякую ежу, пасцель, адзежу. Стаяць яўрэі, плачуць.

– Вас вывозяць, нас біць будуць, на смерць. Хай Усявышні вас бароніць! Пра нас успамінайце, што жылі побач. Бярыце ад нас што-небудзь...

– Марыся, – кажа татка, – глянь, Лейзанаў Гэршэль стаіць.

Мы затрымаліся. Татка пытае:

– Хлопча, то ж вы сямьёй цэлай за татам сваім

паехалі былі ўсе ў Кракаў. Чаму ты тут?

– Я вярнуўся, вайна туды раней прыйшла, у трыццаць дзевятым... ратаваўся! Ды тут спасенія няма. Смерць нам і тут, пане Сашка! Маіх у Кракаве даўно, пэўна, забілі... Вазьміце мой касцюм, нашто ён мне ў магілу, – і абдымаючы тату, шапнуў яму: – Зашыйце грошы! – ды пацалаваў маіх маму і тата ў руку. – Я ведаю, вы ўсіх нас любілі, а тата наш, Мошэ, заўсёды нам гаварыў: ”Гэты Сашка праўдзівы чалавек, вы яго шануйце!..”

І цяпер на гэтай дарозе, па якой іду, як сёння бачу Гэршэля, які з татам маім гутарыць.

... “Бывай, Нараўка, бывайце, людзі добрыя, і ты, Гэршэль, хлопча з радзіны Лейзанаў!” Мы далей... Бакавымі дарогамі, каб не затрымліваць нямецкіх вайсковых самаходаў, праз Заблотчыну, Мінкаўку, Бярнацкі Мост, Капітаншчыну... Немцы абвяшчаюць прывал, дазваляюць распаліць агонь, наварыць ежы. Мама варыць зацірку, забельвае малаком ад нашай каровы, яна адна ў нашым абозе. З намі палуднуюць і іншыя дзеці... І зноў у дарогу – праз Ваські, Нараў...

Які лёс – у 1954 я іду “назад” у Нараўку. І мне здаецца, што вось тут мы елі... Уся тая карціна як сёння стае перад маімі вачыма, ужо ліцэіста...

А вось і Трасцянка, Сацы і – прыказ на начлег. Бесперапынна плача Нінка наша. Ад плачу аж пачырванела, як бурак. Сацоўская жанчына, што ўзяла нас на начлег, грэе ваду, будуць купаць Нінку. Яна ўсё плача... Татка адважваецца пашукаць “нашага” немца – каб дазволіў пайсці ў Рыбалы, там царква, ахрысціць доньку. Плача – можа не вытрываць, памрэ... Дазваляе... Мамуля корміць Нінку. Ідуць у Рыбалы цётка Верка і дзядзька Валодзя... Вярнуліся позна. З жывой сястрычкай – у час Хрышчэння яна перастала плакаць. Усе ўздыхнулі з палёгкай.

Заблудаў сустрэў нас праліўным дажджом. “З уладаў”

ніхто да нас не выходзіць. Людзі прыносяць нам яду, немцы – "не бачаць". Па пляцу ходзяць "тутэйшыя" немцы, з нейкімі цывілямі, весела раз-маўляюць, сярод іх бачым высокую і прыгожую панюсю. Гаворыць па-польску. Солтыс ці хто?

Нас раздзяляюць – каго ў паблізкія вёскі, каго пад Міхалова. Нас адпраўляюць у Паўлы, што за Рыбаламі... Да сям'і Харытанюкоў і Антасюкоў. Прыйшоў раз-вітацца з намі "наш" немец. Наш Паўль. Аглянуўся... ды палажыў каля Нінкі жменю нямецкіх грошаў... і сказаў, што сам з-пад Катовіц.

***

Вось я ў бацькоўскай хаце. Яны дзівуюцца: "Прыехаў?.. Універсітэт?. . У Савецкім Саюзе?!"

– А хто ж цябе, сынку, туды возьме? На дзяржаўныя, гаворыш, польскія грошы? Вясковага хлопца!?

– Татку, ад нас туды паехаў Сярожа з-пад Орлі, Ірэна з Белавежы...

– Ну, не веру я, каб Сашкаў сын быў калісь прафесарам... Аднак ты, Сенечка, у Беласток на экзамены едзь. Едзь-едзь! Скажы пані сваёй – ёй паклон ад нас удзячны, яна ж знае нас, мы прыязджалі ў Бельск.

На экзамен з нашага ліцэя пасылаюць Верку, Багуську, Юрку і мяне. З'ехалася ў Беласток каля ста чалавек, а возьмуць толькі дзесяць.

Праз тыдзень-два паведамляюць ліцэй, што "бяруць" Верку і мяне... Адкрылася дарога на ўсепольскі экзамен, у Гданьску, бо ў Варшаве ў той час будзе праходзіць Міжнародны фестываль моладзі. Гэта ж ліпень 1955 года.

... Восенню 1942 года мы пераехалі ў Навасады, пад Гайнаўкай, да бабінай сястры. Нямудры гэта быў план нашых сваякоў забраць нас з Паўлаў. Навасадскія былі ўсе дарослыя і дзяцей не ўзлюбілі – мы ім у вялікую

цяжкасць. І сама бабка так менавіта і заяўляе. Дый людзі тут, наўкруга, злыя на нас і іншых прыезджых. Пачынаем галадаць... Прадаем нашу карову-карміліцу – на хлеб не хапае. Мамка пашыла мне палатняную торбачку – ходзім з ёю, жабруем, просім хлеба, жменьку кашы, фасолі, гароху. Матуля носіць Нінку на руках. "Я табе не нянька!" – крычыць наўздагон бабка... Са скрыпам у сэрцы будзем успамінаць Паўлы. І чаго мы сюды прывалакліся, да "сваіх"?

Ды трэба нам тут перачакаць гэты яшчэ страшэнны, саракаградусны, мароз, ад якога трэскаюць вокны – іх на ноч закрываюць мяшкамі-радзюшкамі – дрэвы ў садах. Навокал – двухмятровы снег студзеня-лютага 1943 года!

Незабыўныя ночы! Чырвона-крывяністы, вялікі, поўны месяц, здаецца, вось-вось упадзе на нас, на зямлю! Трашчаць платы, сцены! Аднойчы ноччу знамя нейкае, Божае, ва ўсю велічыню крывянога месяца ўстае – на ўсходзе Крыж! Людзі не спяць. Што гэты знак прадвяшчае?!

Чую, як на кухні шэпчуцца мужчыны з суседзямі. Яны спяшаюцца дамоў, хутка паліцэйскі час... Праз некалькі дзён наш татка гаворыць маме пра якісь Сталінград, дзе рускія разбілі немцаў, "у пляну іх сотні тысяч"...

Перад Пасхай, слава табе, Госпадзі, мы пераязджаем бліжэй Гайнаўкі, у Дубіны, да ўдавелай цёткі Зосі. У яе маленькая Ленка, як наша Нінка. І я знаходжу сабе шмат аднагодкаў – вёска вялікая, будзе пару кіламетраў даўжыні, ляжыць уздоўж чыгуначнай дарогі з Гайнаўкі на ўсход, у Нараўку, Свіслач, Ваўкавыск. Наўкруга папаленыя вёскі. Нядаўна згарэла яшчэ адна, Савін груд, які яго жыхары называюць Паядынкамі.

Ноччу зрываемся са сну ад грукату, лёскату, скрыгітання, выбухаў. Гэта ляціць у паветра доўгі ваенны нямецкі эшалон. На вуліцы – нямецкія крыкі, лама-

танне ў вокны, дзверы...

– На вуліцу! – крычаць.

Пасярэдзіне Дубін процьма ўсялякіх немцаў, наўкол сабакі. Кагосьці б'юць гумамі, прыкладамі. Страляюць... кагось павалаклі, пацягнулі, акрываўленага... Развіднела... Мёрзнуць ногі і рукі, пачатак красавіка, яшчэ поўна снегу, трашчыць лёд пад нагамі... Хочацца есці...

Неяк спраўляемся з голадам, хоць ўдоваль хлеба няма. Ды нам, аднак, усміхаецца шчасце – татка ўладкоўваецца на работу ў Пушчы: будзе спускаць дрэвы, ставіць "мэтры", ладаваць на вузкакалейку. З'явіліся ў нас ужо невялікія грошы – маркі. Даюць нам і прадуктовыя картачкі. Помню, матуля купляе салодкую-салодкую, бурачаную канфітуру-мармелад. Ёсць і сахарына. І здараецца няшчасце! Слепне наша матуленька, пад вечар. Суседкі кажуць: "Курыная слепата. Патрэбнае курынае мяса. Ныркі. Пячонка!" Дзе ж узяць курку, ніхто не прадасць. Яна ж яйкі нясе. І ці не назаўтра нямецкі самаход раз'ехаў суседскую курыцу. Суседка аддае яе нам: "Свэтра, Марыся, зробіш!"

Праз сем-дзесяць дзён мамцы лепшае... Удзень і вечарамі мы з мамуляй працуем. Мы абое налаўчыліся з воўны і іншых нітак рабіць на прутках і шыдэлках шалікі, блузкі, світэры, шапкі, рукавіцы – і нам нялёгка "вырабіцца" з заказаў. Я нават мамульку ў гэтай спрытнаці апераджаю. У нас цяпер ёсць часта-густа і малако, і хлеб, і яйкі, і бульба, здарыцца і кусочак мяса. Зажылі мы, як раней у Гушчэвіне...

***

Сабраліся ў Гданьску ўсяпольскія пасляліцэйскія "навучныя тузы". Нас тут дзесьці каля 250 чалавек! Лекцыі па мове і літаратуры, польскай і рускай, палітэканомія Польшчы, СССР, свету, гісторыя і праблемы... Зубрылка, але і танцы, тэатр, кіно, мора-

караблі, спевы, мілае супольства людзей, якія ведаюць, чаго ад жыцця хочуць.

Наша група – філалагічна-гістарычна-псіхалагічная – налічвае 40 асобаў. Два тыдні цяжкай працы! Калі па двух мовах атрымліваеш “выдатна” і на ліцэйскім пасведчанні таксама ж – ты вольны, здаеш толькі з агульных ведаў пра Польшчу і СССР. Даведваюся, па сакрэту, ад нашай пані Клары: у мяне дзве пяцёркі. Уррра!.. Вось як! Слава Табе, Божа!

Ідзем у тэатр. Ідзе і Эдыта, за якой бегае амаль увесь наш усяпольскі курс (апрача мяне і, мабыць, майго курсавога дружка з Кашаліна, Уладзіка Бурштына. Якое прозвішча! Прыгожае, як і ён сам. Мы абое ад нашых “зазуляў” пісем чакалі), наша спявачка польскіх і французскіх песень нарадзілася ў Францыі і па-парыжску-французску яна куды ляпей гаворыць, чымсьці па-руску. Я ў параўнані з ёю масквіч-ленінградзец! Голас у яе прыгожы і сама яна – прыгажуня, высокая, статная. Праўда – ёсць за кім бегаць!

Наша Дзітка гэта ніхто іншы як Эдзіта П’еха. Так, так, тая самая Эдзіта, што будзе вучыцца ў Ленінградзе і там пачне спяваць у ансамблі “Дружба”, выйдзе замуж за Сашку Бранявіцкага, народзіць дачку Ілону, пазней таксама ж спявачку, дачакаецца ўнука Стаса, які возьме сабе прозвішча бабусі, П’еха. Эдзіта стане ў свой час самай папулярнай савецкай і рускай спявачкай. Цяпер за ёю гэтак жа стараецца ісці і Стас... Дзяўчына з беднай гарняцкай сям’і, якая перад вайной шукала “хлеба” ў Францыі. Вярнуліся пад Вроцлаў – каб карміцца сваім хлебам. Дзітка – звычайная дзяўчына, але Богам адораная і красой, і голасам.

Вось яна едзе за мяжу, як і я, вясковы хлапчук з-пад Белавежскай пушчы... Заспяваць і тут хочацца, бо гэта святая праўда – што б цяпер хто ні гаварыў і з якой высокай трыбуны, але ж гэта Народная наша Айчына, Польшча, адкрыла гэткім, як Дзітка, як Сенька-Шымэк,

дарогу ў свет, у навуку! Дзітка набыла ў Ленінградзе славу. Я, пазней, закончыў, зноў жа за дзяржаўныя грошы, Хрысціянскую Тэалагічную Акадэмію ў Варшаве, стаў кандыдатам тэалагічных навук.

Недзе ў жніўні 1999 года я быў у Ленінградзе, які станавіўся ўжо Санкт-Пецярбургам. Эдзіта спявала на Дварцовай плошчы. Звялі, паставілі адзін побач другога, ушчыльную, два вялікія самаходы і Эдыта з ансамблем спявала з вышыні іхняга супольнага кузава. Мы з сябрам ледзь дапхаліся да яе. Дзе ж ёй убачыць нас у гэтым натоўпішчы?! Аднак яна заўважыла нас, пазнала, успомніла... Колькі потым мы гаварылі – пра яе, яе сям’ю, пра мяне, пра СССР і нашу Польшчу, і Францыю. Я загаварыў па-французску. Здзівілася. Падхапіла, са слязінкай – гэта ж, пасля польскай, другая родная мова яе дзяцінства. Дзітка ты наша! Ганаруся табою!

***

І Аннай Герман ганаруся! Проста – Аняй! Анёлам нашым. Славай нашай польскай, савецка-рускай. Вялікай спявачкай! І – рэдкасным чалавекам, з’явай адтуль, з Неба...

Я пазнаёміўся з ёю ў Варшаве. Уладыка Мітрапаліт Васілій, у якога ў Мітраполіі з сямідзесятага года я быў канцлер-дырэктарам, ведаў Германаў яшчэ з Вроцлава, дзе яны жылі і Уладыка Васілій, Вроцлаўска-Шчэцінскі Епіскап... Трагедыя Ані, якую яна спазнала ў Італіі – з такіх выходзяць жывымі толькі святыя! Ці ж такое крушэнне пад сілу людзям смяротным? А Аня выйшла, перамагла боль свой пякельны, свае “жалязякі”, якія яе закавалі...

Аднойчы Уладыка Мітрапаліт папрасіў мяне занесці букет ружаў на Анін канцэрт... Ведаю, што ў час “італьянскай бяды” Ані – нашай бяды і другой яна і не

магла быць – яе мама звярнулася да Уладыкі Васілія з просьбай, каб атрымаць ікону Божай Маці. Ікону, вядома, завезлі. Ікону!.. Мама Ані з галандцаў, пратэстантка, дзесьці з-над рускай Волгі, тата – з польскіх, лодзінскіх евангеліцкіх аўсбургчыкаў-пратэстантаў. Бацькі пазнаёміліся ў Казахстане, дзе і нарадзілася Аня. Пратэстанты... і ікона Прасвятой Багародзіцы! Аня колькі разоў так і гаварыла: "Matka Boska mnie uratowała, sama bym nie dała rady!"

Аня была простай дзяўчынай, заўсёды з анёльскай усмешкай! Каралева эстрады. Як яе любілі ў Савецкім Саюзе! Там яна была сапраўды народнай артысткай, савецкай, рускай. У сваім рэпертуары мела сотні песень, якія ставаліся сваімі песнямі, хатнімі, агульнаспяванымі... Потым яна сказала, што яе найвялікшым шчасцем быў той дзень, калі яна пасля катастрофы змагла памыць у сваім доме падлогу. Такі Чалавек з яе. І такія людзі заўсёды бачацца Вялікімі і Простымі! І прыходзяць яны да нас з неба.

***

Мая малая радзіма – Гушчэвіна. Косім авёс пад лесам. Здалёку галосіць лістанош:

– Сенька, ліст з міністэрства!

Адкрываю: прыехаць у Варшаву, вуліца Тамка, едзеце ў Маскву... Мама і тата – плачуць. "Немагчыма, мужыцкі вясковы хлопец з-пад Пушчы... А мы – як? Вайна на свеце то тут, то там..."

– Родныя мае, мне ж ужо васемнаццаць! Будзе вайна якая, мяне і ў Польшчы забяруць!

Збягаюцца суседзі.

– Сенечка, паедзеш? Такая даль!

Дзядзька Ваня, мамін брат, кажа:

– Ты не любіш нас! Глянь, маці ад жалю заліваецца...

– Люблю вас, люблю – і паеду. Татулька, вам якой

махоркі прывезці?

– Ты хоць сам здаровы вяртайся.

– Сынку, ты пішы, – просіць мама. – А калі кепска будзе, нарысуй кветачку. Бо хто ж ведае, як там цяпер, у тым СССР. Markdown Рознае можа быць.

Кветачкі, нават найменшай, я ніколі не нарысаваў. Бо гэта быў мой самы цудоўны, юначы час. Шчасце маё, Богам падараванае!

Праводзілі ў дарогу ўсёй вёскай – як на вайну, на смерць якую. “Не ў Сібір, Казахстан жа мяне, не ў ссылку, людзі добрыя... чаго плакаць!”

– І куды табе захацелася, мала табе нашай Польшчы? Сенечка ты наш!

***

У Варшаве першую “з нашых” сустракаю Эдыту. Варшава аж гойдаецца ад забаваў – канчаецца міжнародны фестываль моладзі. Шукаю свайго, па пісьмах, друга Мікалая з Фінляндыі. “На табе, ад’ехаў учора – кажуць”.

У сталіцы, на вуліцы Тамка, нас больш сотні. Усіх вядуць нас у вялікі магазін і па нашаму выбару адзяваюць і абуваюць – ад ног да галавы: пантофлі, скарпэткі, ніжняя бялізна, кашулі, касцюмы, галстукі, хустачкі, шалікі, шапкі, па дзве пары! Ах, яшчэ і дзве пары рукавіц. Большасць з нас ніколі дасюль не мела такога адзення. Вось так наша Варшава выпраўляла ў свет.

Пашпарт, білет у Маскву – ад Брэста спальны вагон. Першы раз так будзем ехаць. У саставе – вагон-рэстаран. Якая яда! Хто з нас такое смакаваў?! Нам даюць талончыкі... і я буду іх “даядаць” у Мінску, на вакзале.

Бывай, Варшава, да пабачэння, наша Польшча!

Прачынаемся раніцай ўжо ў Брэсце. Сняданак, нас адпускаюць у горад. Чысціня наўкруга, клумбы, кветкі. Спяшаемся ў дарогу, у Маскву-Матушку. У спальным

вагоне, на верхніх месцах, я з “янтарыкам”, Уладзікам Бурштынам. І тут не можам нагаварыцца. Ён ужо веде, што будзе ў Ленінградзе вучыцца будаваць караблі. Нас, філолагаў, яшчэ не дзялілі... Цягнік закалыхвае. Адкрываем вочы, даўно за Смаленскам. Па дарозе будзе Барадзіно... Лермантаў – “Скажи-ка, дядя, ведь не даром, Москва спалённая пожаром, французу отдана”. Геніяльны Лермантаў! У Маскву, у Маскву, на Беларускі вакзал! Хтосьці з нашых кажа: “Метро бы пабачыць!”

Нас пасяляюць у інтэрнаце каля метро “Сокал”. Нам даюць грошы, савецкія, на першыя дні. Стыпендыю вось-вось прышлюць на рукі нашаму шэфу... Так, Люба, Верка, Надзя і Шымэк накіроўваюцца ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, на беларускую і рускую філалогію. Значыць, Мінск стане нашым Домам на пяць гадоў!.. Ну, як ты, Мінск? Цябе ж так страшэнна знішчылі немцы, як нашу Варшаву, з зямлёй зраўнялі і спалілі…

Маскву трэба пабачыць. Бяжым у метро. Палацы пад зямлёю. Нябачнае цуда!.. Людзей тысячы. Парадак, чысціня, білет – пяць капеек. Што за цана? Выходзім гурбой каля “Бальшога”. Побач Крэмль. А ў Крамлі якія цэрквы-саборы! А які велічэзны ГУМ! Затым едзем на ВДНХ, дзе адразу перад вачамі стаюць сцэны з фільма “Свінарка і пастух”.

Цягнікі пад зямлёй! Ну, нябачаная ж гэта для нас дзея. А колькі тут тых нашых “варшаўскіх” сходаў, эскалатараў, якія і тут ездзяць уверх і ўніз. Польскія дзяўчаты і хлопцы, і я разам з імі, стаялі як вароны “з раззяўленым ротам” і – дзіваваліся, гледзячы на тэхніку. Вось гэтак мы і хадзілі па Маскве, і стаялі, і галавой круцілі, адчуваючы сябе як у казцы. Масква нас захапіла!

І як жа магла не захапіць?! Хоць мы ўжо ведалі пра беды, няшчасці народныя, маскоўскія, савецкія, пра калхозы-саўхозы, пра голад і холад пра расстрэлы,

гулагі, ссылкі... Сёе-тое ведалі... А цяпер будзем і апошняе пазнаваць. Галоўная наша тут цяпер “палітыка” – набываць веды, кнігі, бібліятэкі, а “па дарозе” – боль і трагедыя савецкая. Ну, а што “наша” вайна, у маёй Польшчы, Гушчэвіне, Дубінах, Гайнаўцы, Беластоку, Варшаве была салодшай?! Ці ж у Польшчы не было вязніц і расстрэлаў? Былі. Тады і ў Польшчы стралялі з двух бакоў. Ведаем... А цяпер дзе хто кажа, што паваенны польскі час быў горшы, чым ваенны, нямецкі! Так гаворыць ці толькі адзін пан, які пасляваенныя школы, універсітэты закончыў. Жыў у інтэрнаце за кошт дзяржавы, атрымліваў стыпендыю, доктарам навук стаў, прафесарам Бельведэрскім. Цяпер такім людзям так можна казаць? Можна, значыць... Як у нас казалі: “Вольнаму воля, шалёнаму поле, спасённаму рай!” Але ж дзе ўсім і ва ўсім быць у раю? Эдэм ці на зямлі Бог табе, чалавеча, абяцаў? Калі ты, як раней у СССР, а цяпер – у Польшчы, Еўропе – Хрыста адкінуў. На неба руку падняў і – чаго хочаш? Чаго спадзяешся? Прапаў СССР – бо супраць Бога ваяваў. А ты, я, Еўропа, які табе канец быць можа? Ты ж ці не супраць Хрыста цяпер таксама ўстала і хвалішся, што ты сытая і дэмакратычная ты?! Ну-ну, будуй новую Вавілонскую Вежу...

Масква... На стэндах газеты, людзі стаяць і чытаюць. Чытаюць у метро. Кніга тут – справа святая. Тут за кнігай у чарзе стаяць – гадзіну, тры, паўдня. У якой краіне ты такое бачыў, чалавеча?! За білетамі ў кіно, у тэатр стаяць. Ну, ці не дзівакі гэтыя саветы? На стэндах і рэпертуар кінатэатраў. Мне падказваюць паглядзець аргенцінскі “Возраст любви” – там каханне-расстанне і спевы Лаліты Тарэз, прыгажуні-салісткі, якія проста “збіваюць” слухача з ног! Праўдачка! Там ўсё боскае... Захапленне... разоў з дзесяць буду бегаць на гэту феерыю цудоўнай музыкі – і ў Мінску!

Велічэзнае кіно “Художественный”. Зала – як паў-

горада і зноў новае, няведамае мне цуда: за паўгадзіны перад сеансам у файе іграе цэлы аркестр. І якія прыгожыя мелоды і песні! І – марожанае – эскімо ў шакаладзе на палачцы, пламбір з разынкамі. Аблізжашся! Смакавітыя! Летам і зімой – дзівы, прадзівы! І – па нейкіх 10-20 капеек. Смехата. Нам здаецца, што і рубля замала за такія смакоты.

***

Еду ў госці да сваякоў. Тут ад першай сусветнай вайны "захавалася" дваюрадная сястра маёй матулі, цёця Каця. Удалося "схавацца" – запісалася беларускай з Беларусі. Палячцы, пэўна, не здабрылася б у 1937 годзе. Яна ўзрадавалася вестцы, якую я перадаў, што яе родная сястра, Наташа, і сёння жыве ў Парыжы (куды я буду потым ездзіць і ездзіць, і адкуль мой французскі). У чатырнаццатым годзе дзяўчаты з цэлай сямьёй падаліся з Польшчы ў бежанства, пад Растоў на Дану. Бацькі з іншымі сямейнікамі потым вярнуліся дадому. А Кацю па дарозе "падхапіў" нейкі беларус і яны аселі ў Маскве. Наташу – рускі афіцэр з пажаскага пецярбургскага корпуса, Вася наш мілы, і праз Чорнае мора, Стамбул і Рым, дабраўся да Парыжа. Прыгожыя былі нашыя дзяўчаты!

Еду па "кальцавой" метро. Дзе перасесці, не ведаю. На "Таганскай" – падказваюць пасажыры. Затым нехта выходзіць са мной, вядзе да трамвая, вадзіцелю кажа: "Давязі гэтага палячка да Старой Угрэшскай. Скажы, калі ссесці". Божа мой, чужыя людзі мной займаюцца! Дзякую сардэчна. Яны ўсміхаюцца.

Цёця Каця першы раз пасля сарака гадоў убачыць польскага сваяка. На лавачцы сярод дрэў сядзяць бабулі. Пытаю пра бабку Кацю. Яна кідаецца ў мой бок, абдымае. Мы былі ўжо знаёмыя, знайшліся па пісьмах. Дома радасць, перадаю падарункі. Цёця Каця не зво-

дзіць з мяне вачэй.

– Значыць, сынок Марусі і Сашкі, гушчэвінец, нараўковец пушчанскі! Як там лес наш!? Векавое ўжо ўсё – дубы, сосны, грабы, бярозкі мае-сястрычкі.

Калі праз сем-восем гадоў бабка прыедзе ў Нараўку, адведаем Пушчу. Цёця плакала, цешылася, што свой лес пабачыла. Пайшла на свае, дзявочыя паляны, з дрэвамі размаўляла.

– Праўда, сынок-унучак, усё так, як вы ў Маскве мне гаварылі – тут краса бярозавая. Яны – бялёсыя і панашаму шумяць. Нічога прыгажэй няма, як наш лес, наша рэчка. Усе сорак гадоў, як жыву ў Маскве, нашу раку бачу, Сямёнаву ямку, дзе купалася, Белую гару – дзе плёс велічэзны і ціш незямная, дзе птахі нашы шчабечуць. Дзе я такое ў Маскве пачую? Падмаскоўе, праўда, даль сіняя, але ж пахне яна мне столькі гадоў не па гушчэвінскі-нараўкоўскі...

Мае масквічы адвозяць мяне ў інтэрнат. “Пішы, як ты там уладкаваўся”. А ў інтэрнаце збор – ад’язджае Ленінград, вось зараз. Уладзік Бурштын шукае мяне. Знайшоўшыся, мы расплакаліся. Я хутка прывыкаю да добрых людзей. Як з імі расстацца?! І Дзітка – у Ленінград! Іншыя – біёлагі, хімікі, фізікі – у Саратаў, Курск, Астрахань. Гаварылі, што многія раз’ехаліся хто ў Горкі, хто ва Ульянаўск, Свярдлоўск, Данецк, Куйбышаў. А наша група неўзабаве, праз гадзіну, на Беларускі вакзал і – у Мінск. Ну, бывай, Масква-сталіца...

***

Мінскі позні жнівеньскі вечар. Цяплыня! Ля нашага вагона шмат моладзі. Гэта прыйшлі нас сустракаць, нашу чацвёрку – Любу, Веру, Надзю і мяне. З кветкамі. З першай хвіліны адразу запомніўся высачэзны хударлявы прыгажун-бландзін, Ніл Гілевіч, ужо тады бліскучая маладая слава беларускай паэзіі. Тут жа ака-

заліся і іншыя паэты – Анатоль Вярцінскі, Грышка Барадулін і Генка Бураўкін. Пазнаёміўся і з сёстрамі Эляй і Томкай, дочкамі празаіка Рамана Сабаленкі, а таксама з Музай Заслонавай, донькай славутага партызана... Бяруць, нясуць нашы чамаданы-пакупкі. Кіруе ўсім сакратарка дэкана філалагічнага факультэта Галя. Просіць заўтра а дзесятай гадзіне з'явіцца ў дэкана, прафесар Міхась Ларчанка хоча з намі пазнаёміццаа.

Наш студэнцкі інтэрнат аказаўся побач, на вуліцы Бабруйскай, нейкіх сто метраў ад Прывакзальнай плошчы. Мяне пасяляюць у 53 пакой. Да яго вядзе мяне яго гаспадар Ніл Сымонавіч. Ягоная беларуская мова нас заварожвае! Як і ён сам – няспешлівы, сур'ёзны, сардэчны, добры. Старэйшы за нас, хоць пра гэта ніколі і нікому не прыпамінаў. Станеш-сядзеш пры ім, ён усміхнецца – і ўсё сказана, і ты ўжо ведаеш, як тут сябе паводзіць... А тымчасам гарбата і яда ў пакоі чакаюць. Учора Масква, развітанне з усімі нашымі, польская група разляцелася па савецкіх гарадах. Зноў тугаразвітанне. Засынаю як камень.

З Нілам ідзем на абед у горад. Пазнаю ягоную бліжэйшую тапаграфію – вось тут глаўпаштамт, там найбліжэйшы ад інтэрната кінатэатр. Вось "Рускі тэатр", а там беларускі, Купалаўскі. У сталовай чысціня і мілая абслуга. На сталах горы пахучага чорнага хлеба. Кажу Нілу:

– Мая мама такі пячэ.

Ніл усміхнуўся, калі я схапіў у рот цэлую лыжачку гарчыцы. Яна тут пякельна моцная, хоць вельмі смачная. Здзіўляюць малыя цэны. За капейкі-рубль нейкі – гара усяго! У горадзе купляем мне сшыткі, нататнікі, аўтаручкі. Назаўтра пабег у кінатэатр. Будзьце здаровы... і тут тое ж – перад сеансам іграе аркестр і прадаецца марожанае. Потым не раз бывала – прыбягу на першы сеанс, з'ем два марожаных і – гэта быў мой сняданак.

У нашым пакоі – сустрэчы і сустрэчы. Прыходзяць маладыя, прыгожыя людзі і гавораць пра кнігі, літаратуру, паэзію, дыскутуюць аб мастацтве, музыцы. Не кураць, не прыносяць бутэлек. Ніл кажа:

– Мы тут гаварлівыя. Пра вершы сварымся – з-за вершаваных слоў, рыфмаў. За словы б’емся, бо паэзія мае быць прыгожа-моўнай і сардэчнай, не балабоннай. Рыфма нібыта падыходзіць, а яна вось дрэнная, дзіравая, каменная, “не спявае”, значыць, браток, шукай-мяняй. Такія мы тут, Шымка, “словадзёры”.

І да Ніла як да бацькі ідуць. Яго паслухаць, у яго параіцца…

Ледзь мы з’явіліся ў Мінску, як пачаліся ўніверсітэцкія і гарадскія святкаванні 100-гадовай даты смерці Адама Міцкевіча (1798—1855). Паседжанні, канцэрты, спевы, песні і шмат канцэртнай музыкі, асабліва польскіх кампазітараў – Шапэн, Манюшка (у тэатры ідзе “Галька” і “Страшны двор”), Веняўскага скрыпічныя канцэрты, Шыманоўскага канцэртная версія оперы “Кароль Рогэр” і гучыць паўсюль музыка Агінскага, чый паланэз “Развітанне з радзімай” тут – амаль як нацыянальны гімн беларусаў. Здзіўляюся, бо дзе я – у Польшчы ці Беларусі? Не ведаю, як міцкевічаўскую гадавіну вітае мая родная Польшча. А Беларусь дастойна ганаруе пана Адама з-пад Навагрудка! Свайго Навагрудка! І свайго, хоць польскага класіка, Адама Міцкевіча! З колішняга, даўняга праваслаўнага, літоўска-беларускага роду. На Беларусі такіх Міцкевічаў больш, хоць бы класік беларускай літаратуры Якуб Колас.

І я выступаю, пры розных нагодах чытаю на польскай мове фрагменты “Пана Тадэвуша”, “Крымскія санеты”, урыўкі з “Гражыны”, “Конрада Валянрода”.

І раптам кліча мяне Танюша, беларусачка:

– Хадзі да нас, твае палячкі-дзяўчаты зусім “раз’ехаліся”, дахаты сабраліся вяртацца, рэчы збіраюць.

Прыйшоў, чую трое равуць, як каровы, буняюць.

– А гэта вы чаго? – пытаю.

– Дамоў! Не вытрымаем, хто мы тут, ні халерачкі не паспяваем, сёмае праз дзевятае можам схапіць, запісаць тое, што страчыць прафесар. Чаго ён і іншыя так хутка гавораць?! Мы што – патэфонныя пласцінкі? А што запісана і гэта кату пад хвост, не расчытаем сваіх іерогліфаў гэткіх. Вось у прафесара па гісторыі партыі мы ўспелі запісаць толькі словы "Ленін" і "ВКПБ". А прафесарка рускай літаратуры на адных занятках амаль палову Пушкіна "пракатала". Стракоча, як кулямёт, і радуецца і паганяе: "Пошли дальше!"... Дык вось "не пошли", а паехалі дамоў. А ты як хочаш. Мы вяртаемся. Што нам тут рабіць?!

– Танюша, – прашу беларусачку, – падрыхтуй гарбатку. – А вы, палячкі, марш мыцца, мармузэлі смаркатыя! Што вы, сарокі, плач такі ўчынілі? А што бацькам скажаце? Што саветы вас выгналі ці самі ўцяклі – ад чаго? І мне да бацькоў хочацца, і ведаю, што толькі праз год змагу паехаць у маю Нараўку. Кожны дзень пішу пісьмы бацькам. І дзяўчыне, у якую закаханы... Дзяўчаты мілыя, – кажу, – а я дзе сяджу на занятках, як не з вамі? Ці не бачыце, што і я не ўсё паспяваю запісаць. Мы ж з той самай нашай Польшчы. На тое мы сюды і прыехалі, каб навучыцца. Пачакайце, нецярплівіцы!

Усе разам выходзім на занткі па царкоўнаславянскай мове. Займаецца з намі маладая-маладая выкладчыца. Яна вельмі цікава расказвае нам пра Усходняе Хрысціянства, пра 988 год, княгіню Вольгу і князя Уладзіміра, і Яраслава Мудрага, і пра Кіеўскую Русь, пра «Повесть временных лет», «Слово о полку Игореве». Затым прыносіць Евангелле і гаворыць:

– Попробуем почитать, в буквы всмотримся, на связь слов, на предложения обратим внимание. – і, звяртаючыся да мяне: – Попробуйте.

Я бяру ў рукі Кнігу, яна адкрыта ў тым месцы, што на Пасху Святую чытаюць, Іаанн 1, 1—5. Чытаю ўслых без замінкі: «В начале бе Слово, и Слово бе к Богу, и Бог бе Слово»... Усе здзіўлены маім чытаннем. Адкуль жа ім ведаць, што Евангелле са мной з дзіцячых гадоў.

***

– Спі, Шымка, – шэпча Ніл Сымонавіч, калі я адкрываю вочы. – За Ясеніным... Сёння прадаюць двухтомнік у кнігарні, першы пасля дваццаці гадоў...

Праз якіх гадзін чатыры-пяць сустракаю на вуліцы нашага Ніла. Здалёк махае мне рукой, шчаслівы.

– Купіў!

Гэтага ж дня прыбягаюць хлопцы-літаратары. Ніл Сымонавіч іграе на акардэоне, усе спяваюць. І я падпяваю, і ўсе мы ў палоне ясенінскай паэзіі.

А неўзабаве чакае нас першы студэнцкі “парог”, замежная літаратура – у прафесара Навума Лапідуса. “Гроза” і “чума” для студэнтаў. Трэба ж, першы экзамен і – гэткая “кабыла”: уся літаратура старажытнай Грэцыі і Рыма. Гамер, Сафокл, Калімах, Ксенафонт, Эўрыпід, Эсхіл, грэцкія міфы і багі, а таксама Плаўт, Цыцэрон, Катул, Вергілій, Гарацый, Авідзій, Тацыт, усіх не пералічыш, а яшчэ і “конік” прафесара – Шэкспір. Без прачытаных дзесяці яго твораў – “и не заходите!”.

Ужо палову курса “выгнаў”. Тут няма жартаў. Дзяўчаты плачуць... бо ў кінатэатры якраз паказваюць “Дванаццатую ноч” па Шэкспіру. А Лапідус шалее. Мяне таксама вытураў. Слухаў, слухаў мае адказы. “Добра ідзе! – падумаў я”, а прафесар: “И вы поёте?.. Приходите послезавтра!”

Сядзім, стаім на сходах... Ідзе наш дэкан Міхась Рыгоравіч.

– О, значыць, замежная літаратура! – і звяртаецца да мяне: – Вы яшчэ не былі?

– Я ўжо «изганник», – адказваю.

– Таксама? – і, пачуўшы мой адказ, увайшоў у залу.

Праз пару хвілін вылятае пуляю да нас экзаменатар. І, звярнуўшыся да мяне, кажа:

– Вы что не сказали про Польшу?

– Вы спрашивали о Шекспире.

– Батеньки, вас и не узнать по языку. Идёмте же...

***

Аднойчы клічуць мяне сяброўкі-беларусачкі, на "сакрэт".

– Мы цябе ў кіно бачылі! – гавораць спадцішка.

– Сёння я не хадзіў у кінатэатр...

– Быў!.. Ну не быў, праўда, у кіно, але што ты рабіў у саборы?

– А сёння Вялікі Чацвер, 12 Евангелій, – адказваю.

– Ты за намі пайшоў? Ты ж паляк...

– Але я праваслаўны.

Яшчэ раней гэтай размовы я адкрыў для сябе, што ў канцы нашай Бабруйскай вуліцы стаіць Уздвіжэнская невялікая царква. Я ўжо слухаў спевы яе хору. Запахла Нараўкай, родным... Першая мая Пасха па-за домам. Сумна стала на душы, бо такія царкоўныя дні, а блізкія – далёка. Ныла, шчымела сэрца.

На Святую, Светлую ноч еду ў сабор Святых апосталаў Пятра і Паўла, што ў цэнтры горада. На ўсякі выпадак бяру з сабой польскі пашпарт і "вид на жительство в СССР для иностранца». Але ніхто мяне не затрымліваў, як і на працягу ўсіх маіх пяці гадоў у Мінску.

Раніцай наступнага дня недзе каля дзесятай гадзіны ў дзверы нашага інтэрнацкага пакоя пастукалі. З парога аднакурсніца Ленка кажа:

– Шымка, мая цёця шле табе падарак, ты ёй вельмі спадабаўся. Добры вам дзень, Ніл Сымонавіч, – сказала

ўслых. А на вуха: – Пасачка, яйкі некрашаныя, каб не дадумаліся... Селі за стол – і Ленка, і Ніл, і брат яго Мікалай. Знайшлося і вінцо. Частуемся, ямо з апетытам. Адчуваю, што Ніл Сымонавіч здагадваецца, у чым справа, з якой нагоды гэта, але маўчыць. Нечакана для мяне з'яўляецца яго дзяўчына, маляваная красуня, хоць бяры адразу ў актрысы. Якая прыгожая і разумная!.. і імя – Ніна, як і маёй сястры. Нінуля! Неўзабаве яны пажэняцца і будуць шчаслівай парай. Былі недзе на свеце дзве палавінкі і вось – знайшліся. Я раптам неяк пераняў яе позірк. У яе позірку бачылася мне нейкая нечуваная, надчалавечая сіла і незямная анёльская чысціня і нібыта малітоўны заклік: “Пабач! Пабач, якая я шчаслівая, што мы з табой – адно! Што я – твая! Твая! Па астатні ўздых! Дык не ўсумніся ж! Ні на міг! Ніколі!”

О, той погляд Ніны! Погляд, які ніколі больш ужо не паўтарыўся... Ведалі Гілевічы пра Пасху ці не ведалі тады, гэта як бы і не мела для мяне значэння – было адчуванне царкоўнага Свята. І мы былі ў гэтым Свяце!

***

Здаю французскую і англійскую літаратуру, таму самаму прафесару ад Шэкспіра, Лапідусу, які “выгнаў” мяне... Увесь універсітэт называе яго “тарнада”. Гэтым разам ставіць мне пяцёрку і кажа:

– Гэта ж вы – помню, помню – Міцкевіча чыталі. А можаце і цяпер мяне пацешыць?

Чытаю з памяці, па-польску, вядома. Ён слухае, але бачу, што прафесар праслязіўся. Выцірае слязу і раптам звяртаецца да мяне на чысцейшай мове Ажэшкі з “Над Нёманам”, гаворыць пра паэзію прынёманскіх лясоў, пра красу Белавежскай пушчы, славу Наваградка.

– To moja młodość, górna i chmurna, panie Szymonie!

Нехта потым гаварыў мне, што Лапідус – з літоўска-

польска-беларускага якогась старога роду, здаецца з Трокаў.

І звярнуўся, па-руску ўжо, з прапановай:

– Вы знаете языки, может дипломную будете писать на нашей зарубежной кафедре. Рад буду вам чем-то помочь.

– Я ещё не думал!

– Не забывайте про наш разговор, рад буду вновь с вами встретиться.

Аднак маёй дыпломнай тэмай стала “Эліза Ажэшка і Беларусь”, а кіраваць ёй будзе дабрэйшая Валянціна Міхайлаўна Цімафеева, адна з першых славістаў Беларусі. Яна чытала нам курсы лекцый па гісторыі славянскіх літаратур і літаратуры народаў СССР. Як жа прыгожа яна чытала аднойчы Адама Міцкевіча:

Z wieczora na dżdżu stali dwaj młodzieńce
pod jednym płaszczem, wziąwszy się za ręce.
Jeden, ów pielgrzym, przybylec z zachodu,
Nieznana carskiej ofiara przemocy;
Drugi był wieszczem ruskiego narodu,
Sławny pieśniami na całej Północy.
Znali się z sobą niedługo, lecz wiele –
I od dni kilku już są przyjaciele.
Ich dusze wyższe nad ziemne przeszkody,
Jako dwie Alpów spokrewnione skały,
Choć je na wieki rozerwał nurt wody.

Ад “тарнада” я не вызваліўся, Лапідус стаў рэцэнзентам маёй працы. І аказалася, што і ён дабрэйшы чалавек і выдатны дыскутант аб літаратуры і музыцы. Мне здавалася, што ў ягонай калекцыі былі сабраны на пласцінках усе оперы.

***

Выбраўшыся ўсёй нашай філалагічнай кампаніяй ў горад, мы не маглі не заглянуць у нашу тэатральную залу – там хтосьці заліхвацкі іграў на піяніне польскую мелодыю „Cicha woda brzegi rwie”. Хто ж гэта так іграе і падспеўвае? Уваходзім – і я пазнаю ў прыгожай дзяўчыне Маргарыту, з якой пазнаёміліся ў оперным на “Фаўсце” Шарля Гуно. Яна прыветліва, убачыўшы мяне, усміхнулася. І зайграла іншую польскую мелодыю “Pamiętasz, pięknie kwitł wiśniowy sad”. І раптам гаворыць:

– Паслухайце, а што калі б нам стварыць свой ансамбль?! Давайце! Цяпер і пачнем.

Мы ўсім гуртам тут жа пачалі спяваць, а яна акампаніруе і таксама спявае.

На другі дзень Маргарыта прыйшла ўжо з акардэонам, неўзабаве далучыліся іншыя – Паўлік з гітарай, Мішка з “ударнымі” інструментамі і Віцька-саксафаніст. А Люба, Верка і я састаўляем трыо. Вось такім чынам і стварыўся наш “Ансамбль польскай песні”, на цэлых тры гады. Мы давалі свае канцэрты ва ўніверсітэце, у гарадскіх залах, выступалі па радыё. У нашым рэпертуары гучалі, апрача варшаўскіх мелодый, многія савецкія і замежныя хіты. Хто б мог падумаць тады, калі мы выпадкова сустрэліся ў тэатральнай зале і дзеля жартаў заспявалі з Маргарытай некалькі песенак, што з гэтага атрымаецца такая прыгожая гісторыя. Які гэта быў мой шчаслівы час!

***

Нечакана прыйшоў ліст, гляджу – з вайсковай часці. Да мяне? Ліст па-польску... ад Чэслава. Служыць у войску, у Мінску, паляк, родам з-пад Вільні. Чуў наш ансамбль па радыё ці, можа, бачыў па тэлеку. Я адпісаў. Прыехаў у мой інтэрнат.

Стаіць перада мною высачэзны літоўскі “будрыс”, усміхаецца, з гакам два метры росту, амаль як  і мая вышыня. Сказаць, што ён прыгожы – пакрыўдзіш! Як казала мая бабуля, хлопец – туз, першы сорт. І мы пасябравалі з ім навек. Адпусцяць яго з часці – мы ідзём у кіно, разам абедаем, ідзем у парк, дзе ён просіць спяваць яму польскія песні, бясконца просіць расказваць пра Варшаву, пра Польшчу, просіць чытаць яму польскія вершы.

Аднойчы прыязджаюць да мяне ягоныя бацькі, мілая пані Тэрэса і салідны пан Францішак, а таксама Стэфка – брат Чэсікаў. Прыехалі да сябе запрасіць  – за тое, што для іх сынка-брата ўва мне часціна Польшчы, што я дазваліў Чэсіку стаць мне братам!

Ад гэтых размоваў павеяла мне героямі “Над Нёманам” Элізы Ажэшка – Багатыровічамі, Янкам-Анзэльмам, Мартай, Юстысяй. І родным домам, маёй Гушчэвінай! Закрываю вочы і мне здаецца, што тут Сашка і Марыся-Маня-Манюся-Манечка. Даўжэй пасяджу – і Нінка наша падыдзе! Мой дом!.. Тужліва стала. А Францішак кажа:

– A wy, panie, do nas sia zjawiajcie, i sami, póki Czesik w armii tutaj, i to już… Co to znaczy –„może”? U nas mówią – morze głębokie i szerokie, jak trockie jezioro nasze. Przybywajcie, z radością przyjmiem Czesikowego druha najlepszego, toż on u nas teraz taki zadowolniony i radosny, że strach mówić! Pobywka będzie u Cześka, abiacali, pewno z tydzień czy coś dni dziesięć – ot, i na pojezd do nas, panie Szymeczku, razem z synem naszym i zawitajcie! Radości będzie u nas na całe Troki… My, ot, wiecie, tylko nie w Polsce naszej... A co my zrobim? Staramy sia o wyjazd, choć sia i boim – jaka tam teraz Polska dla nas będzie, repatriantów… Czekamy na Cześkowe zakończenie armii… No, ale co to my w ślozy uderzyli, jakby wesołości nie znali?! Toż wy jesteście u nas!

Паабедаўшы, сям’я Валэйкаў адправілася ў Трокі. А праз два тыдні і я з Чэсікам да іх завітаў. Якая радасць

была...

Праз паўгода Чэсік канчаў службу. Мы не ведалі, як нам развітацца... расцалаваліся як родныя браты. Паехаў Чэсік, паехаў!

Прымячаю – Ніл Сымонавіч сочыць за мной.

– Нядобра штось, браток? – пытае ён.

– Ды ну яго ўсё гэта, нічога не хачу і нішто мне непатрэбна! Не вярнуся я на вучобу, з Польшчы!

– Хочаш кідаць, значыць, новы напрамак ты якісь выбраў. Не ведаю, дзе хочаш быць, але здаецца мне, што і там, недзе, вучаныя патрэбны, а не проста ні шыла, ні мыла, – кажа мудрэц Ніл. – Ужо нашы хлопцы ўгледзелі, што нешта з табою няладна. Мы ўсе тут – з табой. І любім цябе і просім, што б ні было – дурнаты не ўпары! Страціш больш, чым зышчаш, бо мне здаецца, што гэты твой “новы банк” якісь безграшовы, без зыску! Давай, во і хлопцы прышлі, маленькае вінцо вып’ем, пагаворым... А потым пабачыш, абразуецца!

***

Не быў бы я сабою, каб не “пастукаўся” ў студэнцкі тэатр. Спектаклі ставіць тут Серафім Новак з “Рускага тэатра”. Мяне ўвялі, замест Жэнькі, які паламаў сабе рукі і ногі на маторы “Иж”, у тытульную ролю “Доктара філасофіі”. Як рэжысёр шкадаваў, што я не з’явіўся да яго годам раней. Спектакль карыстаецца аграмадным поспехам.

А тут падаспела і яшчэ адна для мяне магчымасць. Тэатр імя Янкі Купалы аб’явіў набор у тэатральную студыю. Я хуценька падаю дакументы. На экзаменах чытаю басню Кандрата Крапівы пра модніц, маналог Грышкі з “Без віны вінаватыя” А. Астроўскага, пачынаю “Зорку Венеру”, што ўзыйшла над зямлёю, Багдановіча, а кіраўнік конкурснай камісіі гаворыць:

– А, можа, заспяваем...

Пачынаю спяваць тую ж “Зорку Венеру” і нечакана дапамагае мне ў спеве купалаўская акцёрская знакамітасць Вера Ржэцкая, басам гудзе не менш вядомая тэатральная слава Пятро Глебаў. Які хор атрымаўся! Пасля другога тура экзаменаў з тэатральных ведаў мне кажуць прынесці дэканскую спраўку – раз вы студэнт, патрэбен дазвол вучыцца па вечарах у нашым тэатры. Расту на вачах ад радасці! “Не выйшла паступіць ў тэатральнае вучылішча ў Бельску, Гасподзь, відаць, тут памілаваў”, – думаю пра сябе.

Бягом у дэканат. Гавару дэкану, у чым мая справа.

– Калі ваша, у Маскве, пасольства дазволіць, Галя-сакратарка тут жа вам усё і прапіша. Я – згодзен... Ідзіце на сцэну, у кіно, мы вас і там з радасцю паглядзім.

Званю ў Маскву, тлумачу. Але – поўнае фіяска, канец, нічога не будзе! Правіла такое – трэба мець закончаны другі курс універсітэта! “Міністэрыяльныя законы... не прасіце... не можам... Кончыце гэты год, на наступны, калі ласка, адразу падпішам згоду”.

Не ведаюць, што на другі год не будзе такога набору, што гэта – адзіны быў для мяне шанец. Пухну ад плачу. Бельск і Мінск такія самыя! Тады татку прываліла будоўля і мае жыццёвыя планы памяняліся, цяпер – зноў правал! Значыць, тэатральная сцэна не для мяне...

Ніл Сымонавіч, убачыўшы мае слёзы, пытае, ці не пабіў мяне хто, не скрыўдзіў. Даведаўшыся, пацяшае.

– Значыць, другое табе наканавана, прызначана, пачакай... Хто з нас сёння знае-ведае – што? Нешта, мабыць, вялікае, раз сёння такія перашкоды! Нічога проста так на свеце не бывае!..

А тымчасам у зімовы семестр яшчэ на першым курсе з’явілася ў нас двое хлопцаў. Адны казалі, што яны з Ленінграда, іншыя – што з Саратава ці, можа, Горкага. Ужо старшакурснікі Мікалай і Пётр, хочуць быць на беларускай менавіта філалогіі. Хочуць працаваць у Беластоку, дзе, як даведаліся, пачаў выходзіць бела–

ларускі штотыднёвік “Ніва”, сарганізавалася Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Якая навіна!

Заварушыліся пры іх не толькі польскія, але і беларускія, і рускія дзяўчаты. Бачым, проста сохнуць па гэтых польскіх панах. А яны гэтага як бы і не прыкмячаюць. На танцах не бываюць, у клуб не заглядаюць. Па бібліятэках сядзяць!

І вось вам бомба! Мікалай жэніцца! Трывога сярод студэнтак – хто яна такая? Гаварылі, што Томка за ім “лётае”, а тут кажуць – Лідка, тая чорная, як крук, прыгожая, з Наваградка. А Пётр за Яніну, кажуць, за мінчанку ўхапіўся.

***

Мінск, мой Мінск... Еду дадому праз Гродна, Беласток. На станцыі ў Гайнаўцы ў газетным кіёску бачу нейкую вялікую газету, “Русский голос”, выдаюць у Лодзі. Колькі тут цікавага – літаратура, гісторыя, крытычныя матэрыялы, вершы. Хто такі Уладзімір Качноў?..

“Русский голос” захапіў мяне сваёй шырынёй, сваім размахам. Я напісаў ім... Атрымаў адказ. Ужо з Мінска выслаў два апавяданні. Надрукавалі! І экземпляр прыслалі ў Мінск. Ад той радасці – забыўся пра яду, усё перачытваў надрукаванае. Божа, мяне надрукавалі! Я нікому, нават Нілу Сымонавічу, не паказаў, не пахваліўся. Нікамусенькі. Баяўся – а калі высмяюць?

Так пачаўся мой літаратурны шлях – пісаў па-руску і па-польску. Друкавалі. І падбадзёрвалі. “Русский голос” у 3-4 нумары з 1963 года, напрыклад, пісаў: “На первое место следует выделить представителя молодого поколения С. Романчука, одного из найболее даровитых прозаиков русской литературы в Польше. Его рассказы, печатанные на страницах «Русского голоса», заслуженно привлекли к себе всеобщее внимание. Это настоящий и самородный талант, много обещающий в бу-

дущем”.

І ў варшаўскай „Twórczości” (1967 нр 2) гаварылася, што „Szymon Romańczuk daje się poznać jako ukształtowany artystycznie prozaik… można byłoby wydać tom opowiadań Szymona Romańczuka”. Гэтак пісаў пра мяне наш “белавежац” Віктар Рудчык. І сам рэдактар “Творчасці”, Яраслаў Івашкевіч, слава польскай літаратуры, мілы і сардэчны мне чалавек, заахвочваў пісаць. Пісала пра мяне і “Ніва”. І я пісаў... А як не пісаць? Гэта ж мой жывакост!

... Не пытайце, чаму ў мяне заплаканыя вочы! Не пытайце мяне пра мой смутак – я пакідаю мой любімы горад, каханы Мінск!

Цэлай нашай гурбой вячэраем – перад маім апошнім цягнікам Мінск-Гродна, адкуль я падамся ў Беласток. Апоўначы... ежа не лезе ў рот. Нікому. І чарка не йдзе! Чуем сэрцам і розумам, што мы ніколі больш не пабачымся. Слёзы... плачам, як на пахаванні!..

Ад’езд з Мінска мяне так “прыбіў”, што я, вярнуўшыся, і не ўцяміў, што на руках у мяне застаўся пашпарт, з сталай візай. Едзь, як дасюль, калі хочаш, хоць дзесяць разоў. Ёсць на руках савецкія грошы. Прыехаў дамоў – едзь яшчэ, едзь, балбес! У Мінску ж засталіся твае сябры. Прымуць, вугал дадуць пераначаваць, знаюць цябе, любяць... Не, не паехаў! Не паехаў – і сёння яшчэ шкадую.

Доўгі час будзе паўтарацца мне адзін і той жа сон – я не здаў усіх экзаменаў, мушу ехаць да тых прафесароў, адсюль, з Польшчы – то гродзенскай, то брэсцкай лініяй. І за кожным разам сон дзіўна канчаецца: даеду да Тэрэспаля – і прачынаюся, даеду да Брэста – і зноў прачынаюся, да Бабруйска – зноў тое ж. Раз даехаў у сне да Мінска, іду па Бабруйскай – і абрыў. Быў сон, калі снілася, што еду праз Гродна, Маладзечна і раптам я ва ўніверсітэце, аўдыторыя – а прафесар не прыходзіць. І дзіўна, бо ў сне я як бы ведаю, што маю ўжо дыплом, а

ўсё роўна еду на экзамены, усё мушу нешта закончыць... Доўга я буду біцца з гэтым? Доўга! Вельмі доўга... Змучыўся!

***

Вярнуўшыся дадому, я не ведаў, што з сабою рабіць. Атрымаў прапановы працаваць то ў рэдакцыі газет, то ў радыёвяшчанні – у Варшаве, Кракаве, Беластоку... Не-не, ніякім журналістам. І нікуды далёка. Наездзіўся за пяць гадоў...

Сустракаю ў Нараўцы сябрука, яго бацька калісь працаваў у тутэйшай школе, цяпер у кураторыі асветы ў Беластоку. Ад слова да слова і ягоны тата просіць мяне заўтра зайсці ва ўстанову. З'яўляюся ў час, уваходжу, а там сядзіць з ім якісь пан, які, убачыўшы мяне, тут жа да мяне:

– А паночку, Шымачку, ратуйце! У вас ёсць і дадатковая спецыялізацыя – вы закончылі ва ўніверсітэце пашыраны курс лацінскай мовы. Бачыце, як сталася, у Міхалове, у ліцэі, там цяжка захварэў прафесар-класік. Апошні семестр – вучням мы паставілі ранейшыя ацэнкі. Але тут набліжаецца новы навучальны год... Дапамажыце – хоць на год! Пакуль каго не знойдзем... Бо як нам быць? Школу закрываць?.. Злітуйцеся, паночку! Толькі на год!

Згадзіўся. Дырэктарам ліцэя ў Міхалове аказаўся той самы пан, які ўпрошваў мяне "на год". Я прабыў там пяць! Атрымаўшы ад першага верасня 1960 года выхаваўства над класам, я давёў яго да матуры, выпусціў маладых людзей у свет – і сам падаўся ў Варшаву, у Духоўную праваслаўную семінарыю, каб "быць" у Царкве нашай!

Я ведаў, што сваім ад'ездам я адкрываю ў сваёй школе "рану". Не будзе ж лацініста. Можа, нехта аднекуль будзе даязджаць... Аднак неўзабаве латынь

увогуле "паплыла" – яе вывялі са школ ва ўсёй Польшчы. Затым выкінуць з школьных праграм, як варожую, і рускую мову. Польшча пачала ўглядацца ў Еўропу!.. Прагна!

Значыць, я ў Міхалове. "Мучыць" буду лацінай (і таму ад пачатку, чую, называюць мяне Romanus), хоць таксама рускай і беларускай мовамі. Першыя дні, першыя заняткі. Гляджу – на кожнай лаўцы ляжыць "Ніва", ад 4 верасня 1960 года. Ага!.. Вядома, у чым справа. Там надрукавана са здымкам, з мінскага часу, і маё апавяданне "Дзядуля". Гэта мой "ніўскі" дэбют. Я сам бачу гэткую "Ніву" першы раз. Зразумеў! Вучняў не пытаю на ацэнкі, а выкладаю новую тэму і наканец гавару:

– А цяпер вашы пытанні!..

Пыталі навыперадкі, сумбурна, шчаслівыя, што перад імі іхні прафесар і яшчэ пісьменнік – як пішацца, адкуль тэмы, ці цяжка, хто натхняе... Мілы мой час, шчаслівы і тут!

Праз пару тыдняў была наладжана літаратурная сустрэча ў беластоцкім доме кнігі і прэсы. А колькі ж народу зышлося! Чытаю "Дзядулю", мой першы пабеларуску напісаны твор. Тут Алесь Барскі, Сакрат Яновіч, Віктар Рудчык, Яша Бурш, тут уся "Ніва", увесь БГКТ з вуліцы Варшаўскай. Мяне сардэчна абдымае галоўны рэдактар "Нівы" Георгій Валкавыцкі і кажа:

– Вітаем нашага новага "белавежца" у нашым літаратурным аб'яднанні, што "Белавежаю" называецца.

"Белавежа" і Пушча мая ва ўсім і заўсёды будуць цяпер са мною! І пойдуць у "Ніву", у "Календары" і альманахі мае новыя апавяданні...

***

Ну, вось гэтак канчаюцца мае ўспаміны. Вярнуўся я ў іх у далёкія гады юнацтва і маладосці. Прайшоў,

праехаў, праляцеў на крылах – да маёй Гушчэвіны, Нараўкі, Бельска, Мінска. Да таго майго жывакосту, крыніцы маёй – адкуль я такі, які ёсць!!! Я вярнуўся ва ўспамінах пасля шматлікіх гадоў блукання, як калісьці Адысей вярнуўся да сваёй Ітакі, да сваіх карэнняў, каб зноў капаць сваю зямельку і зноў шукаць белавежска-гушчэвінскую лекавую расліну, наш жывакост.

Мой варшаўска-лодзінскі час – гэта ўжо іншая кніга жыцця, хоць яна ад таго самага майго жывакосту, ад тых самых маіх карэнняў! Цяпер яшчэ зарана аб гэтым пісаць... Можа, калісь, потым. Царкоўны час мае іншы гадзіннік. “Яко един день пред Господем яко тысяща лет, и тысяща лет яко день един”, – кажа апостал Пётр у сваім Другім Пасланні, 3, 8...

Агарні, Хрысце, усіх нас Сваім Вокам!



Уладзімір Хін, З серыі *Іншыя светы*. *Кампазіцыя, №1389*. 2003 г., лінагравюра.

Ад усёй душы, сардэчна
ВІНШУЕМ

з **90-годдзем**

выдатнага сына беларускай зямлі,
вучонага-геолага, акадэміка НАН
Беларусі, лаўрэата шэрагу навуковых і
грамадскіх прэмій Беларусі і замежжа,
сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў,
сталага аўтара “Тэрмапілаў”

**РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА**

Многія леты!

*Сябры БЛА “Белавежа”*

**Галіна САМОЙЛА**

# ДУМКІ НА ДОСВІТКУ

**“Лабірынты прывіднага замку”**
аказаліся сапраўднымі.
І я не магла з іх выйсці,
але нястомна ішла па іх,
таму што мяне вяла Надзея на цуд.
Аднойчы Надзея сказала мне:
“Ты не выйдзеш з гэтага лабірынту,
бо не маеш Веры ў сябе,
а я ўжо стамілася верыць у цябе” –
і знікла.
Застаўшыся без Надзеі на цуд
і не маючы Веры ў сябе,
я вымушана спынілася.
Стаяла на адным месцы,
углядалася ў бясконцыя лабірынты
і зміралася з думкай,
што я тут назаўсёды.
І раптам разгледзела,
што лабірынты – прывідныя,
А замак – сапраўдны.

**“На тым беразе”**
ёсць альтанка
ў яблыневым садзе.
І ручай, да якога яна туліцца.

І сцяжынка да яе,
якую пратапталі закаханыя.
Вясною яблыні пасыпаюць сцяжынку
бела-ружовай квеценню,
летам усцілаюць
раннімі яблыкамі – жоўтымі,
восенню – познімі, чырвонымі.
Зімою сад сам прыходзіць да закаханых –
у іх сны.
На тым беразе ёсць альтанка
ў яблыневым садзе,
і ручай каля яе,
і сцяжынка да яе,
якую пратапталі закаханыя...
На тым беразе няма мяне,
дык што я магу ведаць
пра той бераг?

**“Мой светлы дзень”,**
самы светлы ў маім жыцці,
аказаўся зімовым.
Яго сонца зырка прамянілася,
яго неба ззяла блакітам,
яго снег бліскацеў
рознакаляровымі агнямі паўсюль:
на зямлі, на дрэвах, на дамах,
і на маіх боціках і футры.
Я ішла па залацістай дарозе
праз мой самы светлы дзень
і ўсё паскарала і паскарала хаду –
каб не змерзнуць у ім.

**“Белыя свечкі каштанаў”**
і белая замець чаромхі –
гэта вясна.
Белыя праменьчыкі рамонкаў
і белыя сузор’і ліпы –
гэта лета.
Белыя кропелькі хрызантэмаў
і белыя плямачкі астраў –
гэта восень.
Белыя ружы на шыбах
і бясконцая бель за акном –
гэта зіма.
У белай сукенцы вясны,
у белай спаднічцы лета,
у белай хустачцы восені,
у белым саване зімы
жанчына станцавала
**“Белае танга свайго лёсу”.**

**“Зямлі маёй нераўнавага” –**
паміж захадам і ўсходам,
мужчынамі і жанчынамі,
старымі і малымі,
заможнымі і беднымі,
гарадскімі і вясковымі,
праваслаўнымі і каталікамі,
беларускамоўнымі і рускамоўнымі,
вернікамі і атэістамі,
працаўнікамі і беспрацоўнымі,
адукаванымі і недавучанымі,
добрымі і злымі,
радаснымі і сумнымі,
спакойнымі і ўсхваляванымі...
На такой неўраўнаважанай зямлі
як ураўнаважыць сваю душу?

**“Ключы ад неба”**
ляжалі ў маёй далоні.
Я знайшла іх, калі палола грады,
і вырашыла пакінуць Зямлю.
Саскочыўшы з Зямлі,
я паляцела ў неабсяжны блакіт.
Зямля імкліва аддалялася:
зрабілася цёмным паўшарам,
пасля шарам.
Я ведала, што ніколі не вярнуся на яе,
але не шкадавала аб гэтым,
бо не ўмела на ёй жыць.
Я ляцела і радавалася,
што хутка буду ў небе.
І раптам мяне працяла думка:
“А ці паспею я адкрыць неба ключамі?
Ці не разаб’юся я аб яго зразлёту?”
Думка турзала мяне ўсё  мацней
і ператварала маю радасць
у хваляванне.
І я ўжо не ведала:
лячу я ці “**падаю ў неба”...**

**“Сляза і малітва” –**
гэта калі ёсць ты і Бог,
і ты прыходзіш да Бога
са сваёй крыўдай і скаргай,
і молішся,
і верыш, што Бог цябе чуе.
І табе вельмі хочацца,
каб Ён цябе пашкадаваў.
Сляза без малітвы –
Гэта калі ты ёсць, а Бога няма,
і ты плачаш сам сабе або людзям.
І вельмі спадзяешся,

што выплачашся і супакоішся,
або што людзі табе дапамогуць супакоіцца.
Малітва без слязы –
гэта калі Бог ёсць, а цябе няма:
ты адмовіўся ад уласнай волі
і аддаўся волі Божай цалкам.
Ты молішся і не плачаш,
таму што ўжо зусім не шкадуеш сябе.
Шкадуеш Бога,
якому так цяжка вырашыць,
што рабіць з табой – грэшным.

**"Пад бахаўскую такату дажджу"**
я падумаю аб страчаным
і змірuся з тым, што яно
ўжо ніколі не вернецца.
Я падумаю аб няздзейсненым
і прабачу сабе, што не ўмела,
не адважвалася, не магла...
Я падумаю аб зробленым
і прызнаюся сабе,
што зрабіла не заўсёды тое
і не заўжды так.
Я падумаю аб задуманым
і засумую аб ім, згадаўшы
страчанае, няздзейсненае і зробленае...

**"Непераможны колер охры"**
захапіў зямлю ва ўладарства.
Ён разліўся па ёй усімі сваімі адценнямі:
жоўта-лімонным – па ліпах і бярозах,
жоўта-чырвоным – па клёнах,
жоўта-мядзяным – па дубах,
жоўта-бурым – па траве.

Белыя і сінія хрызантэмы
ён схаваў пад залатым лісцем.
Нескароным яму
засталося толькі неба,
але і яго аздаблялі па чарзе
то аранжавае сонца,
то жоўты месяц і залацістыя зоркі.
Колер охры быў аднолькава пышны і яркі
і ў светлы дзень, і ў пахмурны.
“Я непераможны!” – ганарыўся ён,
але неўзабаве пачаў блякнуць,
і назаўсёды застаўся ў кастрычніку,
і адышоў з ім у нябыт.
А зямлёю завалодаў шэры лістапад.

**“Шчасце заўсёды наперадзе”,** –
так лічыць большасць людзей,
і я ім верыла.
Я бегла па жыцці,
даганяючы сваё Шчасце,
каб злавіць яго
і ўжо не адпускаць ад сябе.
Я перагнала шмат сваіх гадоў,
але Шчасця не дагнала:
яно заўсёды было шпарчэйшым за мяне
і заставалася наперадзе.
І настаў час, калі я замучылася бегчы
і паціху пайшла.
Цяпер мае гады пераганялі мяне,
а я брыла за імі
і перабірала іх у сваёй памяці.
І там, у памяці, я адшукала сярод іх
шчаслівыя
і няшчасныя.
І адкрыла, што людзі памыляюцца;

і я памылялася:
Шчасце заўсёды ззаду,
бо яно, як і ўсё ў жыцці,
пазнаецца праз параўнанне.

**“Вераснёўскія мроі”**
дрыжаць у пахаладалым паветры,
туляцца да пажоўклых пасмаў травы,
паднімаюцца ў неба з адлятаючымі птушкамі,
ападаюць лістамі на зямлю,
з якой ужо марудна расце трава
і хутка растуць грыбы.
Зліваюцца з фіялетава-ружовымі
агеньчыкамі верасоў
і набіраюцца ад іх колеру.
Мроі бываюць толькі вераснёўскімі,
і больш ніякімі быць не могуць.
А мары бываюць толькі красавіцкімі,
бо яны блакітныя, як красавіцкія нябёсы,
разлівы водаў і пралескі.
Мары нараджаюцца тады,
калі святло перамагае змрок, –
каб здзейсніцца і жыць.
Мроі нараджаюцца тады,
калі змрок адольвае святло, –
каб стаць прыгожымі прывідамі
і прыаздобіць жыццё:
каб здавалася,
што яшчэ мажліва,
яшчэ верагодна,
яшчэ паспееш...

**“Сіні сон”**
прысніўся мне на досвітку.
У ім павольна цякла сіняя рака,
па адзін бераг якой рос фіялетавы лес,
а па другі ляжала васільковае поле.
І ўсё гэта было агорнута блакітным небам
і неверагодным спакоем.
Я ішла ўздоўж ракі па тым беразе,
дзе быў лес,
і бачыла кожную іголачку
на кожнай сасне і елцы.
І адзінае, чаго мне не хапала, –
гэта кладкі праз раку,
каб перайсці да васількоў
і нарваць з іх букет.
Але я любавалася імі здалёк
і радавалася,
што не рву іх...
Я прачнулася ад таго,
што мяне перапоўніла шчасце,
якое немагчыма ўжо было трымаць у сабе.
І я выплакала яго ў далоні...
А калі б не выплакала,
то памерла б ад свайго сіняга сну
на досвітку.

**“Над возерам Белым”**
расплыўся туман,
і апусціў неба на возера,
і злучыў берагі з вадою.
І ніяк немагчыма разгледзець,
чым насамрэч з’яўляецца
чорная пляма пасярод возера:
ці гэта лодка з рыбаком,
ці гэта корч з чайкай на ім...

Над возерам Белым
зазяла сонца,
і рэзка аддзяліла глянцавую ваду
ад матавых берагоў,
і падняло неба,
зрабіўшы ваду люстрам для яго.
І выразна відаць чорную лодку
з двума рыбакамі ў ёй.
Мне падабаецца,
калі над возерам Белым туман,
бо я люблю прыдумваць,
што там ёсць – у тумане.
А маёй сяброўцы Свеце падабаецца,
калі над возерам Белым сонца,
бо яна любіць усё бачыць такім,
якім яно ёсць,
і нічога не прыдумваць.

**“Іскрынка сэрца”**
хацела стаць зоркай.
Паляцела на Неба
і патухла, захлынуўшыся ветрам.
Хацела стаць усмешкай,
паляцела да чалавека
і патухла, трапіўшы пад дождж
з ягоных слёз.
Хацела стаць светлячком,
паляцела на зямлю
і патухла ў яе росах і пясках.
Кожны раз, патухаючы,
іскрынка сэрца думала,
што яна не здольная жыць,
а здольная толькі паміраць.
І кожны раз, летучы,
яна дарыла жыццю

міг прыгажосці,
макуліначку цяпла і святла
і ўсю сваю любоў.

**“Ты не самотны”,**
Максім Багдановіч.
Цябе ведаюць у Беларусі,
якую ты вяртаў з нябыту
сваімі вершамі,
разам з іншымі шчырымі беларусамі.
Цябе ведаюць нават тыя беларусы,
якія забылі беларускую мову.
І, дзякуючы таму, што яны ведаюць цябе,
яны яшчэ памятаюць,
што такая мова была
і яшчэ трохі ёсць.
Ва ўсякім разе яе яшчэ
трохі вывучаюць у беларускіх школах,
і ў школьным падручніку
па беларускай літаратуры
яшчэ можна прачытаць твае вершы...
Ты зрабіў для Беларусі
ўсё, што мог,
і нават больш, чым мог.
І таму ты не самотны,
А самотныя – мы,
сённяшнія беларусы,
нягледзячы на тое,
што дзіўным дзівам
не адчуваем сябе самотнымі...

**“Вугал” –**
гэта тупік, калі ісці ўнутр яго.
І гэта прастора, калі ісці з яго вонкі.

Самы лагодны вугал – тупы:
у яго немагчыма ўваткнуцца,
бо павярнуўшы галаву
направа ці налева
адразу разгледзіш ззаду прастору.
Прамы вугал больш жорсткі,
але не безнадзейны,
бо пастаяўшы ў ім,
усё ж можна дадумацца,
што трэба развярнуцца на $180^0$.
Прамы вугал дазволіць табе
гэта зрабіць,
і ты ўбачыш прастору.
Востры вугал –
самы небяспечны.
Калі ты ўпарта ішоў у яго,
прасоўваўся, уціскаўся,
то ён возьме цябе ў абцугі,
і не дасць развярнуцца,
і здушыць,
і ты забудзеш пра прастору
на ўсё астатняе жыццё.

**“Зоркі над маўклівай адзінотай” –**
так назвала я зборнік сваіх вершаў
і атрымала шмат ад каго
адну і тую ж заўвагу:
слова “маўклівай” тут лішняе,
бо адзінота – маўклівая заўсёды.
Але я ведаю іншае:
адзінота крычыць аб сабе
вельмі гучна
і вельмі доўга –
у свет, у Сусвет.
І змаўкае толькі тады,

калі пачынае разумець,
што яе не чуюць.
І моўчкі заглыбляецца
ў сябе.




Уладзімір Хін, З трыпціха “Кветкі”: *Мое сердце разрыва-ется...* 1980 г., лінагравюра.

## Аксана ДАНІЛЬЧЫК

***

Быць мацней за Арфея – магчыма,  у гэтым шчасце,
толькі ўперад глядзець і ніколі не азірацца.
Кінуць позірк назад  – як патрапіць у пастку часу,
як прайсці па-над краем стромкае памяці,
рызыкуючы ўніз сарвацца,

Бо тады дзесяць тысяч агоній тваіх
перажытых нанова
разарвуць далягляд на мільярды палаючых промняў…
Выйсці з царства Аіда, каб розум, скаваны дамовай,
прашаптаў: я не помню,
я болей нічога не помню…

***

Дзень, ператвораны ў ручаіну,
збягае з пагорка ў бурштынавы сад,
там сны залатыя, як гнёзды ў галінах,
як душы вільготных яшчэ птушанят.

Над небакраем, дзе россыпы зорныя,
ноч праступае праз першы змрок,
чорнае крылле ў паўнеба разгортвае
і ўзлятае абуджаны цмок.

А дзень, ператвораны ў ручаіну,
крыштальнай мелодыяй знікне ў траве,
і мне знайсці б хоць якую прычыну,
каб затрымацца ў яго харастве.

***

Ноч
крадзецца з няўлоўнасцю чорнае коткі
людзі спяць і не дбаюць пра сродкі
ў закутках цёмна-сініх сусветаў
людзі спяць і не дбаюць пра мэты
людзі спяць і не дбаюць пра мары
дзесьці каты а дзесьці ахвяры

…можна зняць кіно пра забойствы гвалт продаж зброі пра тое што існуе ў далёкай рэальнасці і гэта можа быць вельмі добрае кіно можна зняць так як ёсць балюча дзеля тых каму баліць але ці можна расказаць пра гэта сродкамі паэзіі і ці правільна гэта і ці ёсць прыгажосць абавязковай якасцю паэзіі ці ўсё гэта толькі жаданне прыўкрасіць свет каб не бачыць бо калі кіно то можна нешта пакінуць за кадрам а ці можна пакінуць за кадрам словы ці лепш пакінуць іх на паверхні як тапельцаў што ўсплылі і болей не патонуць…

Ноч
твае ціхія вуліцы пераплятаюцца
тонкімі лініямі на далонях сусвета
на балконах агеньчыкі цыгарэтаў
у суцэльным змроку мігцяць
ты напаўняешся неверагоднымі вобразамі
з цёмна-сініх начных праспектаў
ты плывеш на паднятых ветразях
на паднятых на чорных ветразях
і вяртаеш мне права пісаць

***

Усе паэты выдумляюць жыццё,
я – не выключэнне.

Але аднойчы ў касцёле,

на чужой, а можа некалі сваёй, зямлі
(Божа, дай мне спакою,
які – вось шкада! –
немагчыма выдумаць),
спяваў пад гітару святар
на  мове, у якой
я разумела толькі слова “Езу”,
спевы прабівалі столь
і выходзілі ў сусвет,
і я адчула, як Бог
гладзіць мяне па валасах.

У свеце столькі прыгажосці,
нечаканай, як вітанне
незнаёмых дзяўчынак,
прыгажосці, разлітай
у празрыстай азёрнай вадзе,
у знаках на нашым шляху,
у нашых жаданнях,
што не ажыццяўляюцца
і застываюць
антычнымі статуямі.

Усе паэты выдумляюць жыццё,
я – не выключэнне,
але праўда – у тым, што Бог
час ад часу гладзіць нас па валасах.

## Акадэмія

*Памяці У. І. Мархеля*

Чысцюткая мана –
сярмяжнасць беларускай нацыі.

Гляджу на паўразбураныя палацы,
асветленыя навальніцамі,
а рука мая сціскае сапраўдны меч,
хай сабе і музейны…

Нашыя арыстакраты
былі такімі ж тутэйшымі,
толькі не ведалі, кім сябе лічыць,
круцілі галовамі направа і налева…

І патрыятызм іх быў краёвы,
бо як ты будзеш любіць
тую Маскву ці тую Варшаву,
раз свае каласы тут,
хоць і пад чужымі сярпамі…

Любілі яны сваё і пра сваё пісалі,
шкада толькі да пары на іншых мовах…

…У абдымках тваёй каланады
праз усе спекуляцыі часу
далятае мне водгук стагоддзяў
са старонак адноўленых кніг,
і вяртаюцца з неіснавання
намаганнем настойлівай працы
наша знойдзенная класічнасць,
наш адроджаны рамантызм...



**Радзім ГАРЭЦКІ**

# ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ 2017–2018

## Праўда пра вайну і асабліва пра яе пачатак

Успамінаю, як мой брат Усяслаў і я сустракалі ў Маскве дзень перамогі. Радасць была бязмернай.

10 мая 1945 года я напісаў у Чкалаўск карталюшку з віншаваннем з заканчэннем Вялікай Айчыннай вайны і пра салют у гонар Перамогі.

*Дарагія родныя! […] Учора быў салют Перамогі. Славік і я таксама паехалі паглядзець салют. Людзей было так шмат, што ў метро на “пл.Свярдлова” цягнік не супыняўся, і мы сышлі на “Новакузнецкай”, дзе было настолькі шматлюдна, што адну жанчыну ледзь не задавілі. Мы спазняліся і таму пабеглі ў бок цэнтра. Як толькі выйшлі з М, мы трапілі як быццам пад нейкі купал (салют ужо пачаўся). Тысячы пражэктароў прарэзалі ўсё неба ва ўсіх напрамках праменнямі самых розных колераў. Стала светла як у дзень. На аэрастатах у паветра паднялі два вялікія партрэты Сталіна, якія пераліваліся срэбрам, і некалькі сцягоў, асвечаных пражэктарамі. Ракеты ўзляталі ў неба – зялёныя, чырвоныя, белыя. Храм Васілія Блажэннага і Крэмль асвяцілі бела-сінімі праменнямі. Было дужа прыгожа. Пасля салютаў паляцела шмат самалётаў у некалькі радоў. Яны пушчалі асвятляльныя ракеты то па адной, а то цэлымі пачкамі (праўда, яны дужа шыбка гаслі). Народу была такая маса, што да Краснай плошчы і не дабрацца. Усе пеялі песні, скакалі, чапляліся за машыны, сядзелі на крышах тралейбусаў, трамваяў. Людзі абдымаліся, цалаваліся, вайскоўцаў падкідвалі*

чалавек, з якіх 8 былі камуністамі-беларусамі (Жылуновіч – старшыня Савета народных камісараў, Чарвякоў – камісар асветы, Дыла – камісар працы і інш.) і 11 – расейскія камуністы, галоўнай асобай сярод якіх быў Мяснікоў (Мяснікян) – камісар вайсковых спраў. Урад выдаў маніфест, у якім адзначыў, што Беларусь – Савецкая Рэспубліка, а таксама абвяшчаў незаконнымі Беларускую Раду і яе ўрад. У пачатку студзеня 1919 года БССР і ЛітССР аб’ядналі ў адзіную Сацыялістычную Рэспубліку Саветаў Літвы і Беларусі (Літ-белрэспубліка), прычым Віцебскую і Магілёўскую губерніі далучылі да РСФСР.

Ужо ў красавіку 1919 года польскія войскі пад кіраўніцтвам Начальніка Польскай Дзяржавы Язэпа Пілсудскага занялі Вільню, а ў жніўні і Менск. Зноў змянілася сітуацыя і пачаўся моцны польскі ўплыў. Незалежнасць БНР не адпавядала інтарэсам суседніх дзяржаў, польскія, расійскія і некаторыя іншыя арганізацыі на Беларусі былі супраць беларускай дзяржаўнасці, ды і сярод удзельнікаў БНР не было адзінства ў гэтым пытанні. Таму ўвесь час атрымоўваўся разлад паміж імі, змена арганізацыйных формаў, поглядаў на далейшы шлях, як захаваць і працягнуць развіццё Рады БНР, а то і стварэнне новай Рады.

***

У Вільні М. Гарэцкі пачаў выкладаць беларускую мову і літаратуру ў Першай беларускай гімназіі, а таксама працаваць на Беларускіх настаўніцкіх курсах і Вышэйшых літоўскіх педагагічных курсах. М. Гарэцкі быў сябрам Таварыства беларускай школы, Беларускага навуковага таварыства, Беларускага выдавецкага таварыства, разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Антонам Луцкевічам, Аркадзем Смолічам, Францішкам Аляхновічам і іншымі беларускімі дзеячамі стаў ініцыятарам скаўцкага руху ў Віленскай беларускай гімназіі. Дзякуючы ўплыву Гарэцкага вучаніца гімназіі Наталля Арсеннева – руская з роду Лермантава, як яна сама ўспамінала, стала беларускай паэтэсай. Ён рэдагаваў і выдаваў газеты “Наша думка” і “Беларускія ведамасці”. Дарэчы, у першай (ад 25.III.1921 г.) былі надрукаваны ўспаміны Антона Луцкевіча

пра пашыранае пасяджэнне Рады БНР 24–25 сакавіка 1918 года, стэнаграма якога да гэтага часу не знойдзена. Тую публікацыю ў газеце пераказвае Лявон Баршчэўскі ў артыкуле “Незалежнасць абвешчана!” (Нар. Воля, 2018 – 20 сакавіка). Гарэцкі склаў і выдаў “Гісторыю беларускай літаратуры”, якую Антон Луцкевіч паставіў вышэй за ўсе публікацыі такога кшталту.

М. Гарэцкі актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці не толькі як пісьменнік, літаратуразнаўца, рэдактар-выдавец, публіцыст, педагог, але і як палітык. У снежні 1919 года адбыўся раскол Рады БНР. Старшынёй Народнай Рады БНР стаў Пятро Крачэўскі, а старшынёй Рады міністраў – Вацлаў Ластоўскі. У Прэзідыум Рады БНР уваходзіла 28 чалавек, у тым ліку і Максім Гарэцкі. Гэта Рада пацвердзіла сваю пастанову ад 25 сакавіка 1918 года аб незалежнасці Беларусі, ухваліла пратэст супраць польскай “акупацыі”. Пад кіраўніцтвам Лёсіка была створана Найвышэйшая Рада, старшынёй якой стаў Іван Серада, а старшынёй урада Антон Луцкевіч. Гэта Рада хацела супрацоўніцтва з Польшчай. Польскія ўлады не прызналі афіцыйнымі органамі абедзве Рады БНР, але загадалі арыштаваць урад Ластоўскага як нелегальную арганізацыю. Ластоўскі быў зняволены на адзін месяц, выпушчаны на волю і ў лютым 1920 года выехаў у Рыгу. Крачэўскі ўцёк за мяжу.

У жніўні 1920 года М. Гарэцкі напісаў ліст Міцкявічусу-Капсукасу – старшыня СНК новай створанай бальшавікамі Літоўска-Беларускай ССР (ЛітБел), а пазней кіраўнік Бюро па нелегальнай рабоце пры ЦК КП(б). У лісце ён выступіў супраць перадачы Літве этнаграфічна-беларускіх зямель: Віленскі край з Вільняй, а таксама Гародня, Ліда, Смаргонь, Ашмяны, Нарач, Браслаўскія азёры. Ён крытыкаваў маскоўскіх бальшавікоў, якія “крамсаюць Беларусь”, а таксама “ковенскіх імперыялістаў” і “літоўскіх акупантаў”. Падкрэсліўшы справу незалежнасці Беларусі, ён некалькі разоў паўтарыў тэзіс аб непадзельнасці і незалежнасці Беларусі. У лісце ён даказваў партыйнаму функцыянеру, што ні “ковенскія імперыялісты”, ні “польскія паны” не маюць права на беларускія землі.

У 1921 годзе найбольш уплывовай арганізацыяй на тэрыторыі Сярэдняй Літвы быў Віленскі беларускі нацыянальны камітэт (Вільнацбелкам), які “імкнуўся да стварэння Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага”. Сярод “найбольш выбітных сяброў” лічыўся і М. Гарэцкі. У тым жа годзе быў створаны Беларускі дзяржаўны камітэт, старшынёй якога стаў Антон Луцкевіч, сакратаром – Б.Тарашкевіч, а сябрамі – А. Станкевіч, Ф. Ярэміч, М. Гарэцкі, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, Э. Будзька.

У студзені 1922 года М. Гарэцкі быў арыштаваны і пасаджаны ў адзіночную камеру ў Лукішках. Праз два тыдні яму прад’явілі абвінавачванне, за якое прадугледжваўся польскім Карным кодэксам смяротны прысуд ці ў лепшым выпадку – катарга. Але суд не адбыўся, і ён “са здзекам быў выкінут з Вільні ў нейтральны пас паміж польскім і літоўскім фронтам”. Сябры Беларускага нацыянальнага камітэту Гарэцкі, Карабач, Краскоўскі, Паркулевіч і іншыя накіраваліся ў Коўна, дзе ўрад Ластоўскага прыняў іх добразычліва. Гарэцкаму і Краскоўскаму прапанавалі заняць пасаду міністра беларускіх спраў, але яны адмовіліся і выехалі ў Дзвінск (Латвія). Тут Гарэцкі чытаў лекцыі на Беларускіх настаўніцкіх курсах. Праз 4 месяцы ён быў паўторна арыштаваны, дастаўлены ў Вільню, дзе знаходзіўся пад вартаю тры тыдні, пасля чаго яго выпусцілі пад заклад у 10 тысяч польскіх марак. 23 верасня 1923 года М. Гарэцкі прыняў удзел у пленарным пасяджэнні Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта “найвышэйшага кіроўнага органа для ўсіх беларускіх арганізыцыяў і таварыстваў”, на якім старшынёй прэзідыума быў абраны Фабіян Ярэміч, а намеснікам – Антон Луцкевіч. 23 жніўня 1923 года быў зацверджаны Кабінет Міністраў БНР пад кіраўніцтвам Аляксандра Цвікевіча, які пераехаў у Прагу, а ў канцы кастрычніка 1923 года М. Гарэцкі разам з сям’ёй пераехаў з Вільні ў Менск.

***

Калі 25 сакавіка адбываліся святкаванні на пляцу Парыжскай Камуны блізу Опернага тэатра ў гонар 100-годдзя абвяшчэння БНР – першай незалежнай беларускай дзяржавы і

Дня Волі, мы разам з Міколам Купавам і іншымі ўскладалі кветкі да помніка Максіма Гарэцкага. Сімвалічна, што тут, на пляцу Волі ў 20-х гадах мінулага стагоддзя працаваў у Інбелкульце М. Гарэцкі, а ўлетку 1936 года апошні раз наведаў Менск і пляц Волі. Я адчуў, што душа Максіма Гарэцкага ў гэты дзень разам з намі адзначае Свята волі і рада, што яго родная Беларусь – незалежная краіна, для якой ён здзейсніў свае крэда: “Ахвярую сваім “Я” ў імя святога ўсім нам Адраджэння” і да якога заклікаў усіх свядомых беларусаў.

*2018*

## 100-годдзе Усебеларускага з’езда 1917 года і ўтварэння ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі

26–27 сакавіка 2016 года Хведар Нюнька, які ў той час быў старшынёй Культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні, запрасіў групу сваіх сяброў адзначыць свята 25 сакавіка 1918 года – дзень абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэта вялікае для ўсіх беларусаў Свята Волі мы вельмі ўрачыста з уздымам правялі ў Беларускім доме правоў чалавека імя Барыса Звозскага. Тады ж вырашылі стварыць Аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР. Старшынёй абралі Радзіма Гарэцкага, намеснікам – Марыю Міцкевіч, сябрамі – Лявона Баршчэўскага, Алену Анісім, Алега Трусава, Міколу Люцко, Алену Макоўскую, Ніну Шыдлоўскую і інш; з Літвы – Алега Аблажэя, Хведара Нюньку, Леакадыю Мілаш.

Па розных прычынах Аргкамітэт больш сістэматычна пачаў працаваць толькі ў канцы 2016 і ў 2017 годзе. Звычайна мы збіраліся ў памяшканні ТБМ. З часам да нас далучыўся шэраг новых сяброў, а некаторыя, наадварот, зусім адыйшлі ці ўдзельнічалі зусім пасіўна. Яшчэ ў сярэдзіне траўня 2016 года нечакана памёр выдатны мастак і новы старшыня Культурнага цэнтра Якуба Коласа Алег Аблажэй. Сярод новых сяброў асабліва актыўна ўдзельнічалі Станіслаў

Рудовіч (аўтар кнігі "Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе"), Валер Герасімаў, Мікола Купава. Вырашылі да 100-годдзя Усебеларускага з'езда 1917 года падрыхтаваць брашуру, што даручылі Рудовічу і Герасімаву. Паміж сяброў нашай каманды ўзніклі вельмі гарачыя спрэчкі па многіх пытаннях, якія хвалявалі нас (фінансаванне, весці справу разам з уладамі ці не, аб'ядноўваць працу з рознымі дэмакратычнымі партыямі і інш.). Мае намаганні прывесці да адзінай думкі не прыводзілі да вынікаў, і таму я нават папрасіў замяніць мяне ў якасці старшыні, але ўсе, улічваючы стан майго здароўя, прагаласавалі, каб я заставаўся "ганаровым старшынёй". Тым не менш большасць з нас працягвала працу. Я разам з Міколам Купавай звярталіся да Гарвыканкама, грамадскасці і іншых структур з шэрагам прапаноў па святкаванні 100-годдзя Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года. Мы нават прапанавалі правесці яго ў Купалаўскім тэатры, у будынку якога і праходзіў той з'езд. Шматлікая грамадская дэмакратычная супольнасць, розныя апазіцыйныя партыі ўздымалі пытанне аб святкаванні гэтай выдатнай падзеі ў гісторыі краіны.

***

У мяне ўжо раней былі непрыемныя падзеі, звязаныя са святкаваннем 25 сакавіка (85-х угодкаў БНР) у 2003 годзе. Тады я таксама ўвайшоў у Аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенню Свята Волі, і мы 17 студзеня сабраліся ў сядзібе ТБМ. Прыблізна каля 19 гадзін вечара я развітаўся з Нілам Гілевічам і пазваніў Галі, якая вельмі хвалявалася за мяне, старалася сустракаць ці нават суправаджаць мяне на розныя мерапрыемствы. Справа ў тым, што тады адпаведныя сілавыя органы сачылі за "апазіцыйнымі" прадстаўнікамі інтэлігенцыі і ўжо збілі шэраг з іх, прычым блізкімі па методыцы і форме прыёмамі: увечары каля сваіх дамоў непрыкметна, прафесійным ударам тупым цвёрдым прадметам са спіны па галаве. Сярод іх мае знаёмыя і сябры: Артур Вольскі, Ю. Хашчавацкі, В. Мазынскі, А. Кароль, А. Мальдзіс, С. Законнікаў і інш. Я нават думаў: "Хто ж на чарзе?" Не думаў тады, што гэта буду я. Пасля нашага ўдалага пасяджэння, я быў у вельмі

добрым настроі, з пачкай кнігі “Гаўрыла Гарэцкі. Выбранае” (Мінск, “Беларускі кнігазбор”, 2002, 544 с.), якая нядаўна выйшла з друку, бестурботна крочыў дамоў. Я пашкадаваў Галю і ўгаварыў яе мяне не сустракаць, бо я хутка буду ў хаце. Тэлефонныя размовы, асабліва такіх “шкодных асоб”, праслухоўваліся. Не паспеў я дайсці да нашага 4-га пад’езда, як каля 1-га быў збіты, страціў прытомнасць, трохі ачуняў і, хістаючыся, дакавыляў да нашага пад’езда, дзе з дапамогай суседа трапіў у кватэру.

Галя выклікала “хуткую дапамогу”, якая адвезла мяне ў нейрахірургічнае аддзяленне бальніцы № 9, кансультантам якой быў акадэмік, галоўны нейрахірург Міністэрства аховы здароўя РБ Ф.В. Аляшкевіч. У мяне ўрачы засведчылі чэрапна-мазгавую траўму сярэдняй цяжкасці, сатрасенне мозга, зламаны нос і пашкоджанні твару, прыкусаны язык, раздутыя губы, крывападцёкі на руках, нагах, твары. У свядомасць пачаў прыходзіць толькі праз тры гадзіны. Зрабілі неабходныя абследаванні – дзякуй Богу, гематомы вялікай няма. Правялі аперацыю, наклалі трынаццаць швоў.

Як пазней я даведаўся ад Галі, суседзяў і іншых, каля нашага дома мяне чакаў сіні “Опель”, з якога выйшлі два моцных хлопцы, а два другія стаялі далей і наглядалі. Першыя ціха падыйшлі да мяне са спіны, прафесійным ударам збілі, забралі з кішэняў 150 тысяч рублёў, пашпарт, пасведчанне акадэміка, пачку з кнігамі. Я страціў прытомнасць і таму не памятаю, што са мной здарылася, колькі ляжаў, але на тым месцы засталася такая вялікая лужына крыві, што трымалася больш тыдня, нягледзячы на дожджыкі. Цікава, што дарагі гадзіннік і каштоўны значок (з золата і плаціны) акадэміка Расійскай акадэміі навук, ключы ад кватэры яны пакінулі.

Падзея са мной выклікала значны рэзананс. Ужо 21 студзеня ў газеце “Народная Воля” надрукавалі артыкул прафесара, доктара тэхнічных навук Аляксея Саламонава “Сатанінскі напад”. *Ён – адзін з найактыўнейшых змагароў сучаснасці за нацыянальнае адраджэнне Беларусі, […] напад на Радзіма Гарэцкага – гэта працяг камуна-бальшавіцкіх рэпрэсій супраць сукупнай душы беларускага народа, каранёў*

*яго духоўнасці*. Марат Гаравы ў той жа газеце напісаў пра Сход інтэлігенцыі Мінска, на якім павінен быць і я. Удзельнікі сходу выказалі "абурэнне і глыбокую трывогу" у сувязі са збіццём акадэміка АН Беларусі і Расійскай акадэміі навук Радзіма Гарэцкага і запатрабавалі адстаўкі кіраўніцтва сталічнай міліцыі. 21 студзеня пра гэтую падзею паведамілі газеты рускамоўныя: "Комсомольская правда в Белоруссии" – "Академика Горецкого избили возле дома", "Известия" – "За что разбили голову академику Горецкому". Газета "Наша Слова" (ад 22 студзеня) – "Напад на акадэміка Радзіма Гарэцкага", дзе падкрэслівалася, што ён – "сябра Рэспубліканскай Рады ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны". Газета "Труд в Беларуси" (ад 23 студзеня дала заметку "Печальная тенденция в среде интеллигенции". Газета "Звязда" (ад 23 студзеня) паведаміла пра сустрэчу кіраўніцтва Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў (ГУУС) Мінскага гарвыканкама з журналістамі. На пытанне журналіста, "як ідзе пошук бандытаў, якія 17 студзеня моцна збілі акадэміка Радзіма Гарэцкага, і якія матывы гэтага злачынства?" Першы намеснік начальніка ГУУС Аляксандр Зыль паведаміў, што акадэмік Гарэцкі стаў "ахвярай разбойнікаў [...]. Зараз пошукамі разбойнікаў займаецца следча-аператыўная група". У рубрыцы "хроніка" "Беларуская деловая газета" (№ 9, 24 января) паведаміла пра гэтую падзею. У "Комсомольской правде" (24 студзеня) зноў напісалі *На академика Горецкого напали преступники – ...По факту нападения возбуждено уголовное дело. Преступники пока не найдены*. Вядомы фотакарэспандэнт Анатоль Кляшчук зрабіў маё фота, якое было змешчана на першай старонцы газеты "Наша Ніва" (№ 3, 24 студзеня 2003) з подпісам "Твар беларускай інтэлігенцыі" і побач невялікі артыкул *"Зьбіты акадэмік Радзім Гарэцкі" – ...Упраўленне сьледчага камітэту Савецкага раёну распачало крымінальную справу па факце нападу. Аднак намесьнік начальніка сьледчага аддзелу Ігар Столяр адмаўляе "палітычную версію"*. У той жа газеце быў змешчаны артыкул Анатоля Сідарэвіча "Улада супраць Гарэцкіх", у якім ён разглядаў новую кнігу Гаўрылы Гарэцкага "Выбранае".

Я тады ляжаў у бальніцы, глядзеў на фота, на якім мой пабіты твар з сумнымі прыпухлымі вачыма стаў як бы сымбалем беларускай інтэлігенцыі, і думаў: “Дык які ж сапраўдны твар беларускай інтэлігенцыі?” Я запісаў свае думкі на гэтую тэму і пазней надрукаваў артыкул “Твар беларускай інтэлігенцыі” у газеце “Наша Ніва” (№ 13, 4 красавіка 2003) – скарочаны варыянт, а потым поўны ў кніжцы “Вечна жыве Беларусь” (Мінск, “Беларускі кнігазбор”, 2003, с. 59–61). Той артыкул я закончыў такімі словамі: *Толькі аб’яднанне беларускай інтэлігенцыі можа прывесці да пабудовы сапраўднай незалежнай дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавы, і тады кожны жыхар без злога ўдару ў твар падтрымае вядомы вокліч “Жыве Беларусь!”*

На працягу часу знаходжання ў бальніцы я адчуў розныя адносіны да сябе. Некалькі дзён маё прозвішча чамусьці адсутнічала ў спісе хворых, таму шэраг маіх наведвальнікаў не маглі даведацца аб маім стане і тым больш не трапілі да мяне. Так было з нечаканым, але вельмі прыемным прыходам да мяне (з дапамогай Галі) Зінаіды Бандарэнка з мужам Генадзем Канаплёвым, з якімі раней я блізка ніколі не размаўляў і з якімі пазней шчыра пасябраваў. Спачатку мяне вельмі ўважліва наглядалі, часта наведвала вялікая група ўрачоў на чале з Аляшкевічам. Пазней даволі рэзка сітуацыя змянілася – некаторыя прафесары, ды і сам акадэмік, мне здалося, нават сталі пазбягаць мяне. Швы здымаў і іншыя працэдуры праводзіў толькі лечачы ўрач і цікавіўся загадчык і яшчэ адзін прафесар, з якім мы размаўлялі па-беларуску на розныя тэмы і які вельмі прыхільна да мяне адносіўся. 16 студзеня мяне агледзела група ўрачоў, было павядомлена мне, што яны зрабілі ўсё, што маглі, і прапанавана перавесці мяне ў “Лечкамісію”, але адзін з прафесароў непрыкметна даў мне знак, каб я не згаджаўся і лепш адпрасіўся дахаты, што я і зрабіў. Я тады зразумеў, што ў сучасны момант мне трапляць туды не пажадана, бо быў яшчэ нядаўні незразумелы і падазроны прыклад зусім моцнага Генадзя Карпенкі. 27 студзеня мяне выпісалі і я даволі хутка зноў змог працаваць і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, хаця траўмы галавы нагадвалі пра сябе ўвесь час. Таму ўжо 17 лютага на 10 дзён

прыйшлося ўсё ж легчы ў аддзяленне кардыялогіі ў “Леч-камісію”.

11 сакавіка 2003 года ў бібліятэцы Нацыянальнага цэнтра імя Францыска Скарыны сабраўся Аргкамітэт па святкаванні Свята Волі 25 сакавіка. Тады я сустрэў Адама Мальдзіса, які ў сувязі з нападам на мяне з гумарам прывітаў: “Віншую вас з уключэннем у кагорту “недабіткаў”!”

Праз два тыдні я ўдзельнічаў у пасяджэнні Аргкамітэта па правядзенні Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які 16 сакавіка адбыўся ў Доме культуры камбіната “Сукно”. Пазней абралі Раду інтэлігенцыі (куды трапіў і я), а яе старшынёй абралі Уладзіміра Коласа.

21 сакавіка 2003 года ў гонар Свята Волі ў сядзібе БНФ было адкрыццё выстаўкі суполкі “Пагоня”, якую праводзіў Аляксей Марачкін. 22 сакавіка ў малым зале “Сукно” адбылася ўрачыстая навуковая канферэнцыя, якую вёў Юрась Беленькі. Я там выступіў з дакладам “Незалежнасць Беларусі і прыродныя рэсурсы”. 25 сакавіка адбыўся ўрачысты сход у гонар 85-годдзя БНР, які вяла Зінаіда Бандарэнка, а выступілі Анатоль Грыцкевіч, Ніл Гілевіч і Радзім Гарэцкі. Завяршыўся сход канцэртам фальклорных музыкантаў.

28 сакавіка ў газеце “Звязда” з’явілася заметка “Затрыманы падазраваемы ў нападзе на акадэміка Гарэцкага”, аб чым паведаміў падчас сустрэчы з журналістамі намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення ўнутраніх спраў (ГУУС) Мінскага гарвыканкама Аляксандр Найдзенка. Нарэшце 5 чэрвеня 2003 года мяне выклікаў Прахарэнка – супрацоўнік Упраўлення следчага камітэта і паказаў маё “дело”, якое было даволі тоўстае. Пазнаёміў мяне з “судмедэкспертызай” (М.Э. Верлыга), у якой ужо паказчыкі намнога лепшыя: “… перелом костей носа, ушибленная рана затылочной области, кровоподтёки лица, причинённые тупыми твёрдыми предметами незадолго до обращения за медицинской помощью, относящиеся к категории лёгких телесных повреждений, повлекших кратковременное расстройство здоровья”. Далей прыблізна такія вывады: допыты міліцы-янтамі падазронага Віктара Бурагі – бяздомнага маладога бадзягі, а таксама размовы з многімі суседзямі і пацярпеўшым ніякіх доказаў не

далі. Ніхто з суседзяў нічога не бачыў. Версіі напада: абрабаванне, хуліганства, зайздрасць. Следчы паўтарыў фразу, якую раней выказаў кіраўнік дзяржавы, што да чаго дайшлі гэтыя бадзягі – нападаюць нават на ака-дэмікаў. Я адказаў следчаму, што першы раз бачу бадзяг, што прыязджаюць на легкавым аўтамабілі "Опель", на што той нічога не адказаў, але вельмі прасіў падпісаць пратакол, каб закрыць "дело".

Адзіны плюс з усіх гэтых падзей: мусіць, я стаў апошнім, хто трапіў у стан "недабіткаў" такога кшталту.

***

Падыходзіла 25 сакавіка, калі беларусы ўсяго свету адзначаюць Дзень Волі – гадавіну абвяшчэння БНР, таму актывісты апазіцыі звярнуліся да сталічных улад за дазволам правесці масавую акцыю "святкавання 99-й гадавіны БНР" ад Акадэміі навук да Кастрычніцкай плошчы. Беларускія ўлады парушылі закон (адказ заяўнікам павінны былі даць за 5 дзён да пачатку мерапрыемства), а чамусьці цягнулі да апошняга моманта з рашэннем адзначыць Свята ў Парку Дружбы народаў, і таму самі справакавалі сітуацыю. Актывісты апазіцыі не пайшлі мітынгаваць у парк, а накіраваліся па праспекце Незалеж-насці ў бок плошчы Якуба Коласа. Вось тут іх сустрэлі міліцэйскія "аўтазакі" і небывалая па колькасці армада ўзброеных сілавікоў, якія з дзікай злосцю накінуліся на мірных дэманстрантаў, многіх збівалі і нават пакалечылі. Праз некалькі гадзін у пастарунках апынуліся сотні людзей, а затрымана было больш за 700 чалавек.

***

Сто гадоў таму 7 лістапада 1917 года (па старому стылю 25 кастрычніка) адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя, і бальшавікі захапілі ўладу. Ці афіцыйна адзначаюць дзяржавы свету гэтую дату як свята? **Толькі Беларусь ў гордай адзіноце адзначае Кастрычніцкую рэвалюцыю як афіцыйнае свята**. Шырока вядома, што бальшавіцкі тэрор учыніў масавы генацыд супраць народа, мільёны людзей як "ворагі народа" прайшлі праз пакуты турмаў, лагераў, ссылак, былі расстраляны. Гэтыя злачынствы не маюць тэрмінаў даўнасці.

У Беларусі 80 гадоў таму, 29 кастрычніка 1937 года, за адну ноч сталінскія каты расстралялі больш за сто выдатных прадстаўнікоў творчай, тэхнічнай і дзяржаўнай інтэлігенцыі. У Расіі амаль тая ж дата – 30 кастрычніка 1937 года, была вядома як галадоўка палітвязняў у мардоўскіх і пермскіх лагерах. У Расіі гэта адзначаецца як Дзень памяці ахвяр рэпрэсій, прычым тое робіцца на ўзроўні прэзідэнта краіны. На месцы помніка Дзяржынскага супраць знакамітай Лубянкі пастаўлены спецыяльны камень памяці ахвяр бальшавіцкага тэрору, да якога прыходзяць тысячы людзей з кветкамі і запальваюць свечы памяці. У Беларусі дзесяткі і сотні "апазіцыянераў" са свечкамі ўспамінаюць ахвяр рэпрэсій пад пільным наглядам сілавых структур.

Справа ў тым, што беларускі рэжым – самы прасавецкі ва ўсім былым СССР, таму Беларусь часта і называюць "савецкім запаведнікам" (нават "Лінія Сталіна" створана). У гэтыя дні лістапада ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя з характэрнай назвай "Великий Октябрь в исторических судьбах белорусской государственности".

Беларусі таксама неабходна адмовіцца ад святкавання 7 лістапада, адзначаць яго як дзень журбы і памяці ахвяр бальшавізма. На наступны год будзе вялікае свята беларусаў усяго свету – 100-годдзе ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) – першай незалежнай беларускай дзяржавы, дзякуючы якой у 1919 годзе ўзнікла БССР, а на базе апошняй – у 1991 годзе суверэнная Рэспубліка Беларусь. Безумоўна, гэта свята павінна падтрымаць кіраўніцтва дзяржавы РБ, бо яно падкрэслівае сваё імкненне да незалежнасці Беларусі.

***

У газетах працягвалі пісаць пра важныя ў гісторыі Беларусі юбілеі – 100-годдзе Усебеларускага з'езда і БНР. Асабліва дэталёва асвятляў падзеі тых гадоў у серыі артыкулаў Лявон Баршчэўскі на старонках "Народнай Волі". Я таксама ў той жа газеце надрукаваў артыкул "100 гадоў Усебеларускаму з'езду". Удалося выдаць кніжку Станіслава Рудовіча і Валерыя Герасімава "Іх звала Беларусь святая: Да

100-годдзя Усебеларускага з’езда 1917 года” (Мінск, “Кніга-збор”, 2017, 84 с.). Кніга выдадзена па замове і коштам спадара Міколы Люцко, які стаў і яе рэдактарам. Наклад 300 экз. У сядзібе ТБМ адбылася вечарына з прэзентацыяй кнігі. Старшыня ТБМ Алена Анісім выказала спадзяванне, што 100 -годдзе БНР будзе шырока адзначана і паспрыяе аб’яд-нанню нацыянальных сіл. У магазіне “Акадэмкніга” ідзе па-спяховы продаж кнігі, што сведчыць пра яе каштоўнасць і магчымасць яе перавыдання. Па ініцыятыве Міколы Купавы адбыўся “круглы стол”, прысвечаны гэтаму слаўнаму юбі-лею.

1 снежня 2017 года ў гістарычным будынку Купа-лаўскага тэатра, дзе праходзіў Усебеларускі з’езд у сярэдзіне снежня 1917 года, адбылася Міжнародная канферэнцыя “Как события 100-летней давности отразились на судьбе суве-ренной Беларуси» («Новости «24 часа» на СТВ). На пленар-ным пасяджэнні выступілі Пётр Брыгадзін, дырэктар Дзяр-жаўнага інстытута ўпраўлення і сацыяльных тэхналогій БДУ; Вячаслаў Даніловіч, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі; Ігар Марзалюк, прафесар гісторыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ; Георгі Атаманаў, другі сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі. Усе выступоўцы нагадалі, якія гістарычныя падзеі ў краіне і Усебеларускім з’ездзе адбываліся ў тыя часы.

Прывітальнае слова ў адрас міжнароднай канферэнцыі прыслаў Аляксандр Лукашэнка, Прэзідэнт РБ: *Идея само-определения Беларуси, которая шла снизу, от инициативы народных масс, выразилась в созыве Первого Всебелорусского съезда. Это народное собрание продемонстрировало важ-нейшие ценности, значимые для нас до настоящего дня: своё государство, его социальный характер и тот факт, что только народ, его воля, коллективный разум и лидеры могут стать подлинным источником независимости*.

Пазней у газеце “Наша слова” ад 13 снежня 2017 года з’явілася публікацыя “Улады прызналі Першы з’езд”. Пра гэта сведчыць прывітанне Аляксандра Лукашэнка, якое ён накіраваў гасцям і ўдзельнікам канферэнцыі “Падзеі 1917 года ў гістарычным лёсе Беларусі” (паведамленне БелТА). Прывітанне зачытаў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі

прэзідэнта Максім Рыжанкоў. Размова ідзе пра Канферэнцыю і прывітанне, якія ўжо былі надрукаваны па матэрыялах "24 часа" на СТВ. Такім чынам, свята "100-годдзя БНР" грамадскасць Беларусі зможа правесці пры поўнай падтрымцы ўладаў.

*2018*

## 100-гадовы юбілей Свята Волі – абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)

Правядзенне Міжнароднай канферэнцыі "Как события 100-летней давности отразились на судьбе суверенной Беларуси" (1 снежня 2017 г., Купалаўскі тэатр), якую вітаў Прэзідэнт РБ, грамадскасць Беларусі ўспрыняла як станоўчыя адносіны ўладаў да свята "100-годдзя БНР" і таму па ўсёй краіне пачалася падрыхтоўка да святкавання.

8 студзеня 2018 года адбылася сустрэча палітычных і грамадскіх дзеячоў, на якой прынялі прапанову Беларускага нацыянальнага кангрэса – БНК (лідар Уладзімір Някляеў) – стварыць аргкамітэт па падрыхтоўцы святкавання 100-годдзя БНР 25 сакавіка ў Мінску. Але старшыня руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч і Аляксей Януковіч (партыя БНФ) нагадалі, што ўжо створаны такі аргкамітэт на чале з Радзімам Гарэцкім. 15 студзеня сабраліся прадстаўнікі абодвух аргкамітэтаў на пасяджэнне, на якім Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч (разам з іншымі сябрамі БНК) згадзіліся аб'яднацца з ужо існуючым аргкамітэтам і тады быў створаны Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаванні 100-гадовага юбілею БНР, ганаровым старшынёй якога быў выбраны акадэмік Радзім Гарэцкі, дзейным старшынёй – мастак Мікола Купава, намеснікамі – святар, журналіст Леванід Акаловіч, грамадскі дзеяч Алесь Жучкоў, дыякан, пенсіянер Мікола Бамбіза і 28 сяброў, у тым ліку Лявон Баршчэўскі, Юрась Губарэвіч, Рыгор Кастусёў, Анатоль Лябедзька, Ігар Лялькоў, Аляксей Марачкін, Марыя Міцкевіч, Уладзімір Някляеў, Павел Севярынец, Мікола Статкевіч, Аляксей Януковіч. На тым жа пасяджэнні было прынята

рашэнне правесці 25 сакавіка ў Мінску святочнае шэсце: збор на плошчы Якуба Коласа, адкуль па праспекце Незалежнасці да плошчы Свабоды, дзе будзе мітынг і канцэрт. Аргкамітэт прыняў зварот да ўлад, каб дзень 25 сакавіка стаў святочным, а ў Мінгарвыканкам была пададзена адпаведная заяўка. Усе гэтыя падзеі добра апісаў Сяргей Пульша ў артыкуле "Юбілей БНР з'яднаў апазіцыю?" ("Новы час", №1, 19 студзеня 2018).

У сувязі са святам ЗБС "Бацькаўшчына" падрыхтавала цудоўны каляндар "Адрасы БНР. 1918–2018", у якім змешчаны фота 12 будынкаў, дзе ў розны час адбываліся падзеі, звязаныя з БНР. Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаванні 100-гадовага юбілею БНР распрацаваў шырокую праграму святкавання 100-гадовага юбілею БНР 25 сакавіка 2018 года.

Ужо ў канцы лютага Мікола Купава і Леванід Акаловіч арганізавалі навуковую канферэнцыю, на якой з шырокім спектрам праблем таго часу, звязаных з утварэннем БНФ выступілі Радзім Гарэцкі, Ігар Лялькоў, Ніна Стужынская, Марыя Міцкевіч, Маргарыта Пярова (Санкт-Пецербург), Станіслаў Рудовіч, Мікола Купава і інш.

13 сакавіка ў парку імя Янкі Купалы ўрачыста адкрылі памятны знак, на якім паказаны два дамы і зроблены надпіс: "На гэтым месцы стаялі дамы сям'і Луцкевічаў, дзе ў 1896–1906 г.г. жылі вядомыя беларускія дзеячы Антон і Іван Луцкевічы" (аўтары архітэктар Юры Градаў і скульптар Канстанцін Целяханаў). Помнік адкрывала стрыечная пляменніца Луцкевічаў Маргарыта Пярова.

13 сакавіка Рада ТБМ пад кіраўніцтвам Алены Анісім падтрымала рашэнне стварыць прыватную ўстанову адукацыі "Універсітэт імя Ніла Гілевіча", а рэктарам зацвердзіла Алега Трусава. Тады ж мы напісалі "Зварот Рады ТБМ з нагоды 100 -годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі".

14 сакавіка ў Нацыянальным гістарычным музеі адкрылася выстаўка "100-годдзе БНР: ад краёвасці да дзяржаўнасці".

15–16 сакавіка Інстытут гісторыі НАН Беларусі правёў вялікую Міжнародную канферэнцыю "Беларуская Народная

Рэспубліка ў гісторыі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці", прысвечаную 100-годдзю БНР. Галоўная мэта гісторыі беларускай дзяржаўнасці – стварыць гісторыю з пункту гледжання беларусаў, каб не быў варыянт нашай гісторыі польскі, украінскі ці расійскі. БНР была нацыянальнай формай беларускай дзяржаўнасці. Падчас канферэнцыі была прэзентавана новая кніга "Беларуская Народная Рэспубліка. Крокі да незалежнасці" (калектыў аўтараў).

17 сакавіка Кансерватыўна Хрысціянская Партыя–БНФ у Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганса Рау зладзіла канферэнцыю, прысвечаную 100-годдзю БНР. Намеснік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі па тэлефоне запрашаў мяне прыняць удзел, але я, падтрымаўшы правядзенне такой канферэнцыі, павінен быў адмовіцца, бо я адчуваў сябе вельмі слабым у сувязі з "шалёнымі жартамі" маёй мерцацельнай арытміі і ціскам. У канферэнцыі прынялі ўдзел больш за 200 чалавек, у тым ліку вядомыя гісторыкі. Спачатку зачыталі вітальныя словы старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы і кіраўніка КХП-БНФ Зянона Пазняка. Канферэнцыя прайшла вельмі цікава і карысна.

Валер Карбалевіч у артыкуле "Век воли" (Своб. нов. плюс, 27.III.2018) прасачыў эвалюцыю адносін Прэзідэнта РБ і яго ўлад да Дня Волі 25 сакавіка ад *рэзка адмоўных*, калі былі найбольш маштабныя рэпрэсіі супраць апазіцыі, да *нейтральных* (калі патрэбная падтрымка электарата маладога і сярэдняга ўзросту) і, нарэшце, у 2017–2018 гады да *мяккай беларусізацыі* (пад уплывам вайны ва Украіне і палітыкі Масквы "русского мира"). Улады дазволілі мітынг і канцэрт каля Опернага тэатра і іншыя мерапрыемствы.

Але ва ўладаў адразу ўзніклі праблемы: негатыўная рэакцыя Расіі і прыхільнікаў "русского мира", якіх у Беларусі больш, чым яго праціўнікаў. Кіраўніку дзяржавы і самому не імпаніравала апазіцыя з яе сімваламі (бел-чырвона-белы сцяг і інш.), і яе ўздым падрываў яго асновы. Каб выйсці з такой супярэчлівасці, ён на сустрэчы з творчай моладдзю 20 сакавіка ўжо негатыўна выказаўся адносна БНР: "Хорошая это страница в нашей истории? Наверное, не совсем. …Но гордиться этим, если это было так, не надо…". Ён меў на

ўвазе тое, што Усебеларускі з'езд і абвяшчэнне БНР праходзілі ў той час, калі Менск быў пад нямецкай акупацыяй.

24 сакавіка ў Менску адбыўся ўрачысты сход у гонар 100-годдзя абвяшчэння БНР, на які Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт пасылаў спецыяльнае запрашэнне, узор якога прыводзіцца.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГРАМАДЗКІ АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ
па сьвяткаваньні 100-гадовага юбілею БНР

*Шаноўны Сп./Спн.* ______________________

*Запрашаем Вас на ўрачыстае паседжаньне ў гонар 100-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў суботу 24 сакавіка 2018 г. у Івэнт-Прасторы "210 мэтраў" (вул. Чапаева, 3).*
*Пачатак а 17:00.*
*Форма адзеньня ўрачыстая.*

Акадэмік Радзім Гарэцкі
Ганаровы Старшыня

Мікола Купава
Дзейны Старшыня

Просім пацьвердзіць свой удзел: 100BNR100@gmail.com +375296061034

У сходзе прынялі ўдзел прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці і творчай інтэлігенцыі, палітычных партый і арганізацый, а таксама дыпламатычнага корпусу. Па стану здароўя я не змог прысутнічаць. Уступнае слова сказаў Мікола Купава. Святар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы айцец Леванід Акаловіч прачытаў малітву, якой прысутныя ўшанавалі памяць знішчаных бальшавікамі дзеячоў БНР. Выступіў былы старшыня Вярхоўнага савета РБ Мечыслаў Грыб, які 15 сакавіка 1994 года падпісаў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Прыдаў святочны настрой і ўразіў усіх сваім выступленнем Лявон Баршчэўскі, які павіншаваў прадстаўнікоў амбасадараў на многіх мовах. Закончылася сустрэча выдатным канцэртам з удзелам Зміцера Вайцюшкевіча і Сяржука Доўгушава, гуртаў "Балцкі суб-

страт” і “Тутэйшая шляхта”, а таксама шчодрым пачастункам.

24 сакавіка ЗБС “Бацькаўшчына” павіншавала “ўсіх суродзічаў з найвялікшым нацыянальным святам – Днём Волі” і пажадала: “Усе разам з імпэтам працягнем будаваць вольную суверэнную беларускую дзяржаву!”. Саюз беларускіх пісьменнікаў і ЗБС “Бацькаўшчына” прыслалі сваім сябрам прыгожую паштоўку “25 сакавіка – Дзень Волі”.

24 сакавіка міністр замежных спраў Уладзімір Макей у інтэрв’ю каналу Euronews заявіў: “Мы запустили диалог с гражданским обществом… Государство уже выразило готовность начать этот диалог. Разумным было бы принять это предложение и двигаться дальше для достижения большего успеха в этой сфере… Сегодня государство впервые протянуло руку своим оппонентам”, а пазней дадаў: “Никто не был арестован в связи с празднованием столетия БНР”.

Аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР, улічваючы станоўчае стаўленне ўлад да Свята, прыйшоў да агульнай згоды, што яно павінна адбыцца без канфрантацыі, пратэстаў, крытыкі ўлад, а як шчырая радасць, з песнямі, танцамі, вялікім гумарам, бо гэта сапраўды Свята Волі і Незалежнасці, надзея на светлае будучае нашай краіны. Тым больш, што Уладзімір Някляеў нагадаў як святкавалі 75-годдзе БНР 25 сакавіка 1993 года. Я таксама добра памятаю той дзень, тым больш, што цяпер у газеце “Новы час” (№ 6, 23 лютага 2018) надрукавалі фота (с. 6), на якім у час мітынгу на трыбуне стаяць (злева направа) : Зянон Пазняк, Радзім Гарэцкі, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Галіна Сямдзянава, Валянцін Голубеў, Сяргей Навумчык. Тады спявалі, танцавалі, куплялі сувеніры, было выдатнае шэсце з вялікай энергіяй – “той рух, тая белачырвона-белая плынь, якой, здавалася, не будзе спыну, якая цякла і цякла па Мінску, па ўсёй Беларусі. І было высокае, якое проста захлынала душу, адчуванне Волі” (“Нар. Воля”, 20 сакавіка 2018 г.). Тады падалі адпаведную заяўку ў Мінгарвыканкам пра блізкае да ўзгаданага паўнацэннае святкаванне юбілейнага Дня Волі. Але ўлады Мінска, відаць, ужо ведалі пра негатыўныя адносіны Прэзідэнта РБ да БНР і таму далі дазвол адзначыць “100-годдзе БНР” толькі каля Вялікага тэатра оперы і балета, дзе правесці мітынг, святочны

канцэрт і інш. Большая частка сяброў Аргкамітэта па святкаванні 100-годдзя БНР згадзілася з уладамі. Гэта выклікала, як часта такое было і раней, раскол сярод Аргкамітэта. Уладзімір Някляеў лічыць, што “калі б сябры аргкамітэта дзейнічалі салідарна і годна, мы мелі б і юбілейны Дзень Волі, і шэсце, і канцэрт, і мітынг”. Ведаючы сутнасць сучасных улад, цяжка было чакаць дазвол на больш шырокі і поўны маштаб святкавання, бо нават той, які ўпершыню адбыўся за апошняе дзесяцігоддзе, быў для многіх даволі нечаканым. Але частка Аргкамітэта, якая лічыла, што шэсце мусіць быць абавязковым, была пакрыўджана, што яе не паведамілі аб змене папярэдняй дамоўленасці.

Мікола Статкевіч і яго прыхільнікі вырашылі шэсце пачынаць з пляцу Якуба Коласа, Юрась Губарэвіч і шэраг іншых – па зусім кароткім шляху – ад помніка Янкі Купалы адразу на мост праз рэчку Свіслач і да Опернага тэатра. Апошняе шэсце было бяскрыўдным, тым больш, што па гэтым шляху ўсё роўна рухалася шмат удзельнікаў святкавання да Опернага тэатра. Але нідзе шэсце не было санкцыяніравана ўладамі і таму лічылася незаконным.

Яшчэ за некалькі дзён да Свята Волі Уладзімір Някляеў быў кінуты ў ізалятар у спецпрыёмнік “Акрэсціна” быццам для адбыцця пакарання, вынесенага яшчэ 1 лістапада мінулага года на 10 сутак. Сапраўдны паэт і за кратамі паэт – Някляеў у Святочны дзень напісаў верш “Дзень Волі. Да 100-годдзя БНР”, які заканчвае словамі аптымізму:

Дарма – турма! А Воля – не дарма!
І не дарма Пагоні меч узняты!
Мы рассячэм ланцуг!
Мы вырвемся з ярма!
Мы ўсё-ткі спраўдзім
Волі нашай
Свята!

Някляеў адседзеў пяць сутак і 25 сакавіка вечарам яго выпусцілі на волю. Супраць забароны шэсця выступіў шэраг актывістаў, якіх таксама арыштавалі яшчэ да 25 сакавіка, у

тым ліку Вячаслава Сіўчыка і Максіма Вінярскага.

Урачыстую праграму “Свята Волі і Незалежнасці” вялі народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка і Усевалад Сцебурак. Сабралася каля 50 тысяч чалавек. На тварах свяціліся радасць і шчасце, якія разам з вясеннім сонейкам сагравалі прахладны дзень, лунаілі сотні бел-чырвона-белых сцягоў, чулася беларуская мова. Яскравыя прамовы гісторыка Валянціна Голубева, Юрыя Зісера, Алеся Ліпая, Зміцера Дашкевіча і іншых слухаліся з цікавасцю, а пазней слаўна гучаў канцэрт з беларускімі песнямі, а таксама калектыўныя спевы беларускіх гімнаў “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, “Пагоня”, “Магутны Божа”, якія аб’ядналі тысячы патрыётаў Бацькаўшчыны. Сумна, што такая па-сапраўднаму святочная атмасфера запаўняла толькі адведзены кавалак зямлі беларускай. Як выказалася Зінаіда Бандарэнка: “улады як бы загналі нас у рэзервацыю”, Міхась Скобла – “БНР на пяці гектарах”, Аляксандр Фядута – “100-летие БНР в оперно-балетном гетто”. Але, як правільна адзначыў у сваім артыкуле “БНР на пяці гектарах” Міхась Скобла (“Нар. Воля”, 30 сакавіка 2018 г.): “На той плошчы была тэрыторыя свабоды, тэрыторыя БНР, там адбыўся наш Вялікі Дзень – хай сабе пакуль што на пяці гектарах. А вось калі і наколькі пабольшае і пашырыцца тая тэрыторыя – будзе залежыць ад усіх нас”.

За межамі вызначанай пляцоўкі шэраг удзельнікаў хапалі, затрымлівалі, арыштоўвалі і нават у дзетак адбіралі бел-чырвона-белыя сцяжкі. Асабліва шмат затрыманняў адбывалася на плошчы Якуба Коласа, дзе прапанаваў сабрацца на шэсце Мікола Статкевіч. Вельмі цяжкае ўражанне зрабіла затрыманне хворага на рак 80-гадовага Альберта Шарамета, якога аманаўцы кінулі ў аўтазак, дзе ўжо было 25 чалавек, і адвезлі ў Савецкі РАУС, а там прымусілі тры гадзіны стаяць на вуліцы тварам да сцяны, як кажуць “на расцяжцы”. Трапіў у пастарунак дзевяностагадовы інтэлі-гентны Аляксандр Карызна. Шырока разышоўся здымак затрымання бабулькі. Пра свае прыгоды паведаміла Ніна Багінская, якую зусім беспадстаўна затрымалі ў $10^{\underline{45}}$ і ўтрымлівалі ў Першамайскім РАУС да $19^{\underline{15}}$ (“Новы час”, 6 красавіка 2018 г.). Падчас

асвятлення падзей, прысвечаных святкаванню 100-годдзя БНР, у Мінску быў затрыманы шэраг незалежных журналістаў, на якіх, праўда, не склалі пратаколаў і адпусцілі праз некалькі гадзін. Усяго было затрымана каля 120 чалавек, але большасць з іх у канцы дня адпушчаны.

Паказальна, што беларускі народ са святам 100-годдзя БНР цёпла прывіталі прэзідэнт Польшчы, міністр замежных спраў Літвы, шматлікія паслы розных дзяржаў у Беларусі, а Прэзідэнт РБ прывітаў з Днём незалежнасці… народ Грэцыі. Раней быў атрыманы дазвол на ўсталяванне бронзавай дошкі да 100-годдзя БНР на будынку, дзе была абвешчана Трэцяя Устаўная грамата БНР. Праз інтэрнет свае грошы ахвяравалі 230 чалавек. Дошка ўжо адліваецца. На самым версе яе выява "Пагоні", а ніжэй надпіс: "У гэтым будынку 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ Беларускай Народнай Рэспублікі". Як адзначыў Міхась Скобла, для ўлады момант ісціны: ці з'явіцца (або не з'явіцца) мемарыяльная дошка.

*2018*

## Як падкарэктаваць Канстытуцыю

Прэзідэнт РБ выказаў думку, што надыходзіць час, калі трэба падкарэктаваць Канстытуцыю. Карэспандэнт газеты "Народная Воля" (20 сакавіка 2018 г.) звярнуўся да шэрагу жыхароў краіны, у тым ліку і да мяне, з пытаннем, якія змены павінны быць унесены ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Я адказаў, што трэба вярнуцца да той Канстытуцыі, якая была прынята Вярхоўным Саветам РБ у 1994 годзе. Адзінае, што неабходна ў ёй змяніць – толькі пункт: наша дзяржава парламенцкая, а не прэзідэнцкая. За 25 гадоў мы ў гэтым упэўніліся.

Прэзідэнт РБ за гэты час найбольш значна змяніў Канстытуцыю шляхам трох рэферэндумаў. Пасля першага ў 1995 годзе ён казаў, што ў яго "царские полномочия". Але ўжо на наступны год (24 лістапада 1996 г.) прайшоў другі рэферэндум, па якому ў Канстытуцыі 1994 года былі зменены 100 артыкулаў (з 149), пасля чаго такія важнейшыя напрамкі ўлады, як выканаўчая, заканадаўчая, судовая і фінансавая

практычна перайшлі ў рукі прэзідэнта. Нарэшце, 17 кастрычніка 2004 года адбыўся трэці рэферэндум, у выніку якога Прэзідэнт можа выбірацца неабмежаваную колькасць разоў. Апрача таго, яго ўказы сталі неабходнымі для выканання нават тады, калі не зусім адпавядалі Канстытуцыі. Большасць апытаных карэспандэнтам выказалі меркаванне блізкага сэнсу. Шырока вядомая спецыялістка па выбарах Ярмошына ўжо ў наступным нумары газеты "Народная газета" не выключае правядзенне рэферэндуму па ўнясенні змен у Канстытуцыю. Яна ў заяве журналістам падкрэсліла, што калі ініцыятар рэферэндуму дасць адмашку", то ўсе падрыхтоўчыя працэдуры рэальна правесці за 60–70 дзён. Адсюль можна зрабіць выснову, што калі цвяроза паглядзець на рэальную сітуацыю, то можна чакаць, што мы апынемся яшчэ далей ад тых пажаданняў, якія выказвалі апытаныя жыхары краіны.

*2018*

*г. Менск, травень 2017 – красавік 2018*

# Да 60-годдзя
Беларускага літаратурнага аб’яднання
“Б Е Л А В Е Ж А”

Беларускіх пісьменнікаў Польшчы
павіншавалі:



**Szanowny Pan Prof. dr hab. Jan Czykwin**
**Prezes Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego**
**„Białowieża”**
**oraz Zarząd i Członkowie Stowarzyszenia**

Z okazji Jubileuszu 60-lecia działalności Stowarzyszenia,
przekazujemy serdeczne gratulacje oraz wyrazy najwyższego uznania
za nieoceniony wkład w rozwój i upowszechnianie twórczości
białoruskiego środowiska literackiego
w Polsce oraz za granicą.

Wicemarszałek Województwa Podlaskiego
**Maciej Żywno**

Marszałek Województwa Podlaskiego
**Jerzy Leszczyński**

Białystok, 24 maja 2018 r.

Podlaskie

*Надзвычайны і Паўнамоцны*
*Пасол Рэспублікі Беларусь*
*у Рэспубліцы Польшча*

Спадару Яну Чыквіну
Старшыні Беларускага літаратурнага
аб'яднання "Белавежа"

г. Беласток, 24 мая 2018 года

Шаноўны спадар Старшыня,
шаноўныя члены аб'яднання "Белавежа",

Ад імя Пасольства Беларусі ў Польшчы, ад сябе асабіста шчыра віншую з 60-годдзем Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа".

Шматгадовая гісторыя "Белавежы" – гэта выдатны прыклад нястомнай і адданай працы на карысць беларускай літаратуры, мовы і культуры ў Польшчы, намаганняў па захаванні іх унікальнасці і непаўторнасці. Дзякуючы дзейнасці некалькіх пакаленняў беларускіх літаратараў мілагучнае беларускае слова на польскай зямлі працягвае жыць, рэалізуюцца цікавыя творчыя праекты, адкрываюцца новыя таленты. Гэта было б немагчыма без шчырай любові да культурнай спадчыны беларускага народу, жадання красамоўна сведчыць аб яе багацці і адметнасці.

Творчая дзейнасць "Белавежы" заслугоўвае словаў шчырай удзячнасці і вельмі высокай ацэнкі. Беларуская дзяржава дапамагала і будзе надалей дапамагаць беларускім арганізацыям у Польшчы ў іх культурна-асветніцкай дзейнасці.

Жадаю кіраўніцтву і ўсім членам Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" моцнага здароў'я, шчасця, натхнення, новых значных поспехаў у дзейнасці на карысць беларускай культуры, радасці, дабрабыту. Няхай творчая праца і добры настрой, мір і згода будуць вашымі пастаяннымі спадарожнікамі.

З вялікай павагай

Аляксандр Авяр'янаў
Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол
Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы
Польшча

24 мая 2018 года
г.Варшава

МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ
*"ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*
**«БАЦЬКАЎШЧЫНА»**

*Для пошты:* Рэспубліка Беларусь 220012
г. Мінск, вул. К.Чорнага, 31-906
тэл./факс (017) 203 10 12
e-mail: zbsb.minsk@gmail.com

*Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь 220012*
*г. Мінск, вул. К. Чорнага, 31, пам. 12Н, п. 3*
р/р BY76AKBB30150317908396000000,
ф-л 500 МУ АСБ "Беларусбанк", БІК AKBBBY21500
УНН 100259946, ОКПО 37381422



МЕЖДУНАРОДНОЕ ОБЩЕСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ
*"ОБЪЕДИНЕНИЕ БЕЛОРУСОВ МИРА*
**«БАЦЬКАЎШЧЫНА»**

*Для почты:* Республика Беларусь 220012
г. Минск, ул. К. Чорного, 31-906
тел./факс (017) 203 10 12
e-mail: zbsb.minsk@gmail.com

*Юридический адрес: Республика Беларусь 220012*
*г. Минск, ул. К. Чорного, 31, пом. 12Н, к. 3*
р/с BY76AKBB30150317908396000000,
ф-л 500 МУ АСБ "Беларусбанк", БИК AKBBBY21500
УНН 100259946, ОКПО 37381422

08.06.2018 г.

**Сябрам**
**беларускага літаратурнага**
**аб'яднання "Белавежа"**

**Дарагія сябры!**

Шэсцьдзесят гадоў таму вы заснавалі на Беласточчыне выбітную беларускую літаратурную суполку, якая аб'ядноўвае адданых роднай мове творцаў самых розных пакаленняў. Сёння гэта адно з найстарэйшых дзеючых аб'яднанняў беларускіх літаратараў замежжа. Унёсак, зроблены "Белавежай" у беларускую культуру за гэты час, – неацэнны. Гэта дзясяткі выдадзеных кніг, часопіс "Тэрмапілы", якому сёлета спаўняецца дваццаць гадоў, а таксама сотні аўтараў, сярод якіх, як мы з гонарам адзначаем, ёсць і сябры нашага Згуртавання! За савецкім часам вашыя галасы, што не зведалі БССРаўскай цэнзуры, былі глыткамі вольнага паветра. Мы перакананыя, што ваша руплівая праца, вашы здзяйсненні будуць належным чынам ацэненыя грамадскасцю Беларусі і дзяржавай.

Мы радыя бачыць вашую вернасць традыцыям і ідэалам, запачаткаваным шэсцьдзесят гадоў таму, вашу адданасць беларускай культуры і вольнаму слову, радыя чуць у "Белавежы" галасы розных пакаленняў беларускіх творцаў Польшчы.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе ўсіх сяброў аб'яднання "Белавежа" з юбілеем! Жадаем вам плёну ў працы, нязгаснага натхнення, творчых адкрыццяў і новых літаратурных перамог!

Алена Макоўская,
кіраўнік
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Ніна Шыдлоўская,
старшыня Рады
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

## ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

Вось ужо больш чым паўстагоддзя Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якое ўзначальвае пісьменнік, доктар філалогіі, прафесар Ян Чаквін, працягвае самаадданна служыць беларускаму слову, беларускай літаратуры.

За гэты перыяд аб'яднанне ўзгадавала нямала літаратараў, паэтаў, празаікаў, перакладчыкаў, якія роднасна спалучаны з каранямі бацькоўскай зямлі, сілкуюцца яе жыватворнымі сокамі і ўслаўляюць яе.

Літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» мы з гонарам успрымаем як адзіны і ўнікальны за межамі Беларусі саюз пісьменнікаў і з прыемнасцю залічаем яе сяброў у шэрагі актыўных работнікаў культуры, якія заўсёды былі ў авангардзе беларускага культурнага жыцця на Беласточчыне і ўсяе Польшчы.

Створанае белавежцамі і надрукаванае ў Польшчы, Беларусі, Расіі, а таксама перакладзенае на польскую, англійскую, італьянскую, нямецкую, сербахарвацкую, рускую, украінскую мовы сталася важкім унёскам у еўрапейскую славянскую культуру.

Віншую вас з юбілеем, са слаўным 60-годдзем літаратурнага аб'яднання «Белавежа»!

Далейшага натхнення і плёну, спору і ўраджайнасці ў вашай дзейнасці, дабрабыту і багацця, шчасця і здароўя вам.

Намеснік Міністра культуры
Рэспублікі Беларусь Аляксандр Яцко

24.05.2018 г.



**Грамадскае аб'яднанне**
**«Беларускі фонд культуры»**

Траецкая набярэжная, 6, 220029, г. Мінск
Тэл./факс (017) 334 42 03; bfk@tut.by

**Общественное объединение**
**«Белорусский фонд культуры»**

Троицкая набережная, 6, 220029, г. Минск
Тел./факс (017) 334 42 03; bfk@tut.by

№ 34 ад 7 чэрвеня 2018

ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ
"БЕЛАВЕЖА"
Спадару Я.Чыквіну

Шаноўны Спадар Старшыня, шаноўныя сябры!

Беларускі фонд культура шчыра віншуе вас з нагоды 60-годдзя з часу заснавання аб'яднання!

Літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" ўжо многія гады з'яўляецца адным з самых вядомых і актыўна дзеючых беларускіх грамадскіх арганізацый за межамі нашай краіны, якое зрабіла велізарны ўнёсак у літаратурную і культурную спадчыну Беларусі, у захаванне, падтрымку і папулярызацыю беларускай мовы і беларускага слова.

Жадаем усім вам і вашым прыхільнікам моцнага здароўя, плёну і дабрабыту, новых творчых поспехаў і шматлікіх літаратурных твораў і кніг, удзячных чытачоў!

Карыстаючыся выпадкам, хацелі б прапанаваць вам разгледзець магчымасць правядзення ў верасні – кастрычніку б.г. ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і ў Цэнтры даследаванняў беларускай мовы і культуры Нацыянальнай акадэміі навук творчых сустрэч з нагоды юбілею "Белавежы".

Беларускі фонд культуры разам з іншымі зацікаўленымі гатовы выступіць арганізатарам такіх сустрэч.

З вялікай павагай і найлепшымі пажаданнямі,
старшыня
ГА «Беларускі фонд культуры» Т.І. Стружэцкі

## ПАВАЖАНЫЯ БЕЛАВЕЖЦЫ!

Шчыра віншую вас з 60-гадовым юбілеем, за плячыма якога грацыёзна ўзвышаецца велічны помнік адданасці роднаму слову, беларускаму прыгожаму пісьменству, літаратурнай творчасці.

У стварэнне гэтага помніка свае важкія цаглінкі ўклалі сапраўдныя творцы і майстры літаратурнага пяра: Міхась Андрасюк, Алена Анішэўская, Надзея Артымовіч, Юрый Баена, Алесь Барскі, Юрка Буйнюк, Яша Бурш, Гергій Валкавыцкі, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук, Юрка Геніюш, Янка Жамойцін, Пётр Ластаўка, Міраслава Лукша, Жэня Мартынюк, Васіль Петручук, Мар'ян Пецюкевіч, Зося Сачко, Вінцук Склубоўскі, Віктар Стахвюк, Кацярына Сянкевіч, Галіна Твaрановіч, Дзмітры Шатыловіч, Міхась Шаховіч, Віктар Швед, Ян Чыквін, Сакрат Яновіч і іншыя літаратары, паэты і празаікі.

Белавежцы заўсёды былі ў першых шарэнгах беларускага культурнага жыцця на Беласточчыне, падтрымлівалі цесныя стасункі з Беларуссю.

Няхай ніколі не пакідае вас натхненне і плён, задавальненне і радасць ад створанага. Моцнага вам здароўя, шчасця і дабрабыту.

Дырэктар
Рэспубліканскага цэнтра
нацыянальных культур — Вольга Антоненка

24.05.2018 г.

*Грамадскае аб'яднанне*

# «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

Рэспубліка Беларусь, 220012 г. Мінск, вул. К. Чорнага, 31, пам. 21Н, пак. 2.
Тэл. +(37517) 200-80-91; www.lit-bel.org, sbp@lit-bel.org
Р/рахунак № BY44PJCB30150256251000000933 у філіяле ААТ "Прыёрбанк" ЦБП №102 горада Мінска, код 749

№ 25 ад 7 чэрвеня 2018 г.

## Віншаванне Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

Дарагія сябры літаратурнага аб'яднання "Белавежа"!

Шчыра віншуем з 60-годдзем вашай творчай арганізацыі!

Каб сцвердзіць уласную прысутнасць, заявіць пра сябе urbi et orbi, 8 чэрвеня 1958 года беларускія літаратары Беласточчыны сабраліся разам у рэдакцыі газеты "Ніва". Гэтая звязанасць у адно, лучнасць ідэалаў, заўсёдная повязь з роднай беларускай мовай, з літаратарамі Мінска, Гародні, Берасця, Полацка, а таксама значна лепшая, чым у тагачаснай БССР, сітуацыя са свабодай слова дазволіла вашай арганізацыі трывала замацавацца ў гісторыі беларускай культуры. Аб'яднанне літаратараў Беласточчыны несла за мяжу, на тэрыторыю Савецкага Саюза, праўдзіва беларускі погляд на свет, друкуючы тэксты, якія не маглі быць апублікаваныя ў падцэнзурным друку БССР. Ваша кніжная серыя "Бібліятэчка аб'яднання "Белавежа", дзе выйшлі многія дзясяткі выдатных кніг, стала карыстаецца ўвагай аматараў беларускай літаратуры.

Як і цяпер, так і тады, 60 год таму, у вашае аб'яднанне ўваходзяць пісьменнікі самых розных пакаленняў, многія з якіх з'яўляцца сябрамі і ганаровымі сябрамі нашага Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сярод заснавальнікаў "Белавежы" былі і дзеячы заходнебеларускага вызвольнага руху, і зусім маладыя людзі. Пераемнасцю традыцый і павагай да мінулага прасякнуты і выдатны літаратурны часопіс вашай арганізацыі "Тэрмапілы", які сёлета таксама святкуе свой юбілей – 20 год з дня выхаду першага нумару.

Рада грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" шчыра віншуе вас, дарагія калегі, з гэтым агульным святам беларускай культуры – 60-годдзем "Белавежы", і зычыць творчага натхнення для далейшай плённай працы на карысць нашай роднай Бацькаўшчыны.

**Рада ГА "СБП":**

Аксак В. І., Алексіевіч С. А., Аляхновіч М.М., Арлоў У. А., Багдановіч І. Э., Баравікова Р. А., Бароўскі А. М., Брава А. В., Васючэнка П. В., Вярцінскі А. І., Голуб Ю.У., Дайнека Л.М, Далідовіч Г.В., Драгунь-Майсюк Л.В., Дубатоўка В.Я., Дубянецкая Г.М., Жук А.А, Жыбуль В.В., Жуковіч В.А., Законнікаў С.І., Зуёнак В.В., Казько В.А., Карамазаў В.Ф., Каржанеўская Г.А., Клімковіч М.А., Лазебная А.П., Някляеў У.П., Пашкевіч А.А., Рагойша В.П., Сачанка Б.П., Сіўчыкаў У.М., Скобла М.У., Спрынчан А.В., Сцебурака У.М., Федарэнка А.М., Хадановіч А.В., Хатэнка А.Я., Цвірка К.А., Яцкоў М.А.

ГРОДЗЕНСКІ
ДЗЯРЖАЎНЫ
ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

MCMXL

*Кіраўніку літаратурнага аб'яднання "Белавежа"*

*Яну Чыквіну*

*Шаноўныя сябры!*

*Ад імя калектыву Гродзенскага дзяржаўнага ўнівесітэта імя Янкі Купалы прыміце шчырыя словы віншавання з нагоды слаўнага юбілею – 60-годдзя літаратурнага аб'яднання "Белавежа"!*

*На працягу доўгага часу літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" адыгрывае выключную ролю ў развіцці і папулярызаці беларускай мастацкай пісьменнасці, спрыяе станаўленню і развіццю беларуска-польскіх творчых стасункаў, гартуе новыя пакаленні мастакоў слова.*

*Мы ўдзячны Вам за плённае супрацоўніцтва з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы праз сумесную арганізацыю творчых вечарын, сустрэч з пісьменнікамі Беласточчыны як у Гродне, так і ў Беластоку. Спадзяёмся, што нашае творчае супрацоўніцтва і надалей будзе плённым, цікавым і актыўным.*

*Жадаем Вам, дарагія сябры, здароўя і дабрабыту, натхнення, новых твораў, рэалізацыі мастацкіх задум, якія будуць спрыяць развіццю нацыянальнай літаратуры!*

*З павагай,*
*Рэктар універсітэта* *І.Ф. Кітурка*





# Burmistrz Miasta Bielsk Podlaski







17-100 Bielsk Podlaski
ul. Mikołaja Kopernika 1

centrala +48 85 731 81 00
sekretariat +48 85 731 81 01
fax. +48 85 731 81 30
e-mail: um@bielsk-podlaski.pl
www.bielsk-podlaski.pl

*Старшыня Аб'яднання*
*„Белавежа"*
*Ян Чыквін*

Шасцідзесяцігоддзе -гэта цудоўны юбілей. Праз гэты час Вы, шаноўныя "белавежцы", выхавалі не адно пакаленне беларусаў у нас на Беласточчыне, але, думаю, што не толькі ў нас. Вы паказвалі, паказваеце і я ўпэўнены, што будзеце яшчэ не аднаму пакаленню паказваць прыгажосць нашай зямлі, нашага Падляшша. На старонках Вашых кніг мы знаходзім і нашую цудоўную Белавежскую пушчу, і нашыя непаўторныя рэчкі на чале з прыгажуняй Нарвай, і нашыя вёскі, мястэчкі і старынныя гарады. Я, будучы вучням, вучыўся глядзець на мой родны горад Бельск між іншым праз вершы нашай бельскай паэтэсы Надзеі Артымовіч. Я ганаруся, што з'яўляюся бургамістрам горада, у якім жывуць і з якім звязаныя так многія паэты "белавежцы".

Гэта Вы, шаноўныя пісьменнікі, майстры слова, вучыце нас, беларусаў Падляшша шанаваць нашую цудоўную спеўную беларускую мову, не дазваляеце нам забыць, што гэта нашая матчына мова, мова нашых продкаў, на якой яны не толькі гаварылі, але і пісалі важныя дакументы.

Ад свайго імя і думаю, што ад імя ўсіх жыхароў Бельска, якія ведаюць вашую творчасць, складаю на рукі старшыні спадара Яна Чыквіна самыя шчырыя пажаданні шматгадовай плённай працы, лёгкага пяра, новых выданняў, верных чытачоў і доўгага шчаслівага жыцця для ўсіх "белавежцаў". Жадаю каб Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" святкавала яшчэ не адзін такі юбілей.

Бургамістр горада Бельск Падляшскі
Яраслаў Бароўскі

Jarosław Borowski




**Katolicki Uniwersytet Lubelski Jana Pawła II**

**Wydział Nauk Humanistycznych**

**Katedra Literatury Ukraińskiej i Białoruskiej**

20-950 Lublin, Al. Racławickie 14

tel. +48 81 445 4310, e-mail: slawista@kul.pl

**Prezes**

**Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża"**

**Prof. dr hab. Jan Czykwin**

W imieniu pracowników Katedry Literatury Ukraińskiej i Białoruskiej Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego Jana Pawła II oraz swoim własnym, pragnę złożyć na ręce Pana Profesora serdeczne gratulacje wszystkim członkom Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża" z okazji Jubileuszu 60-lecia.

Każdy jubileusz jest wyjątkowym wydarzeniem, niezwykłym świętem, podczas którego zwykle dokonuje się nie tylko oceny dotychczasowych osiągnięć, ale też wyznacza cele i zadania na kolejne lata.

Pełna podziwu dla twórczej spuścizny poetów i pisarzy „Białowieży", do której wracam zawsze z wielką lubością i czułością, pozostaję w przekonaniu, że to piękne dzieło będzie kontynuowane, a kolejne lata będą obfitować we wspaniałe osiągnięcia i sukcesy.

Z całego serca życzę Państwu wszelkiej pomyślności i satysfakcji z pracy twórczej. Niech nigdy nie zabraknie Wam sił, odwagi, wrażliwości do realizacji swoich artystycznych zamierzeń i planów.

*Z wyrazami szacunku,*

*Beata Siwek*

Beata Siwek





## Старшыня Аб'яднання "Белавежа" Ян Чыквін

Ад імя дырэкцыі і настаўнікаў Пачатковай Школы нр 3 з Дадатковай Беларускай Мовай Навучання ім. Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску Падляшскім сардэчна віншуем Вас і ў вашай асобе ўсіх "белавежцаў" з высокім юбілеем 60-годдзя Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа"! Прыміце пажаданні моцнага здароўя, даўгалецця, вечнай маладосці, светлых падзей і плённай творчай дзейнасці!

Няхай удача суправаджае кожнае пачынанне, а задумы заўсёды здзяйсняюцца! Хай Вам заўсёды спадарожнічае любоў, дабрабыт і поспех!

З павагай
Joanna Kalinowska

Бельск Падляшскі 24. 05. 2018



Удзельнікі Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Беларуская літаратура Польшчы – учора і сёння”, Беласток, 24–25 мая 2018 года.

Фота Міры Лукшы.

**Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ**

## Я БЫЎ НА З'ЕЗДЗЕ ...

Я быў на з'ездзе ў Беластоку,
Калі ўзнікала „Белавежа",
І пад яе чароўным вокам
Паэты чулі подых свежы.

Яна праз год нам "Рунь" радзіла –
Малы прыгожы вершаў зборнік,
Які ў краіне з яркай сілай
Узняў над светам нашую паходню.

І „Рунь" шумець у вёсках стала.
Прад ёй здымалі дзверы з клуні...
Аб ёй у прэсе загучала
І за мяжой аб ёй пачулі.

Мае чатыры вершы ў „Руні"
Між іншымі надрукавалі,
І іх у вёсках, часта ў клуні,
Аратары не раз чыталі.

Пасля тварцы ўсе ўжо без страху
Пяро часцей у рукі бралі,
І вершы ў розных альманахах
Раз-пораз „Белавежа" выдавала.

**Магдалена БЯЛЯЎСКАЯ**

## АДНА

Хачу затрымаць час
І сярод іншых сэрц
Слухаць толькі сваё.
Хачу ўвайсці
На найвышэйшую гару
І крычаць на ўсе бакі.
Хачу басанож бегаць па травах,
Без дзіўнага позірку людзей,
Без іх слоў, без іх думак.
Хачу стаць толькі на момант адной...

## САКРЭТЫ НОЧЫ

Калі зоры пакажуцца на небе,
А паветра вібруе і глыбока ў цёмным лесе
Ваўкі месяцу спяваюць,
Дзесьці там вогнішча вандроўцы гарыць.
Мелодыі нязнаных песень
Абуджаюць сонную ноч.
Усе цені да танца сабраліся,
Ў сукенках пашытых агнём,
Растапляюць гнеў чалавечы.

**Віялета НІКІЦЮК**

# ДЗЕСЬЦІ ЗА СЁМАЙ ГАРОЙ І РАКОЮ

***

Вершы нібыта птушкі
Нараджаюцца,
Разгортваюць крылы
І ляцяць
У гару,
 У свет,
  У вечнасць.

На жаль, бываюць і птушкі-нялёты.

***

Гэты мой букецік – табе, Мама.
Першая кветка ўсе смуткі разганяе,
Другая – дзень яснейшым робіць,
Трэцяя – усміхацца дапамагае.

А ўсе тры – дазваляюць мне жыць.

***

У сэрцы страшэнная пустэча,
У галаве бура чорных думак.

Душа баліць...
У майго Ангела-Стоража паранены крылы,
Ён нікуды ўжо не паляціць.

Пакрыўдзілі яго – знішчылі мяне,
Цяпер маё жыццё – бяссэнсоўнае поўзанне.

Апякуйся маім Ангелам.

***

Маё сэрца ў рытм Твайму сэрцу б’ецца
Твая адна сляза –
мой патоп слёз.

***

Люблю адна ў сонечны ранак піць каву,
Люблю адна хадзіць у гучны горад
І сама ў ціхую хату вяртацца.

Але калі бачу
Жанчыну, якая моцна трымае за руку сваё дзіцё,
Ды дзвюх радасна шчабятлівых сяброўак
Або старых бабулю і дзядулю,
Якія глыбока глядзяць адно другому ў вочы –

Ведаю, што магу быць адна, але не самотнай.

***

Кажуць, што Бог заўсёды падымае трубку,
Незалежна ад таго, колькі часу прайшло
Ад апошняй размовы...
Дык чаму, калі я тэлефаную,
Бог заўсёды гаворыць з кімсьці іншым?

***

Мой Ангел-Сторож хіба павыдзіраў сабе ўсе пёры...
Бо як жа можна спакойна глядзець
На мае ўчынкі...

***

Так прыгожа пахне поле
Зеленню траў,
Залатым збожжам,
Блакітнымі кветкамі,

Радзімай.

***

Мой свет упаў,
Разбіўся
І ляжыць у руінах зла.
Жыццё так хутка гасне –
Хочаш уцячы,
Але няма табе іншай дарогі.

Лёс замяшаў...
Чакаеш свайго канца.

***

Усё больш хочацца,
Усё хутчэй бяжыцца...

А можа варта на хвіліну спыніцца
І пабачыць канец свайго існавання.

***

Абудзіце мяне –
Хачу ўрэшче прачнуцца,
Хачу зноў заплакаць.
Радаснымі слязамі.

***

Куды схавалася маё сапраўднае я?
Сядзіць
За жахам штодзённага марнага дня.

***

Дзесьці за сёмай гарой і ракой
Існуе краіна шчасця.
Там няма страху, болю, цярпення...
Як мне дабіцца туды хоць на адну хвіліну?

***

Можа калісьці пабачыш слязу на маёй шчацэ,
Адчуеш мой страх,
Пачуеш, як дрыжыць маё цела.
Але яшчэ не цяпер.
Пакуль што надзея трымае мяне ў сваіх абдымках.

***

Дазволь мне пацалаваць Твае рукі.
Падзякаваць за шчырае каханне,
За бляск Тваёй усмешкі,
За штодзённасць...
Дазволь агрэцца іх цеплынёй.

**Жэня МАРТЫНЮК**

# ТУЖЛІВАЕ, НЕАДОЛЬНАЕ

***

надзень мне любы
сукенку
вытканую тваімі марамі

звяжы ў вузел
нашыя рукі
на супольную будучыню

расчыні шырока
дзверы нашай душы
у веру, надзею, любоў

падары мне каханы
сябе падары
назаўсёды

***

Бурлівы ручаёк
бурліць
веснавою песняй.

Прачнулася зямелька,
адгукаецца рэхатам жаб,

птушынай сімфоніяй.
У адкрытым сэрцы
мяняецца свет
і ўзыходзяць парасткі надзеі.

Святкуй святло,
святкуй жыццё,
падараванае Усявышнім!

***

Калі кахаць,
то маўчаннем вачэй,
трапятаннем сэрц
тужлівым...
Калі верыць,
то з разбуджанай надзеяй,
неспакуслівым падманам.
Калі чакаць,
то з ап'янеласці ад шчасця
ўсю вечнасць –
пакуль не станем
адным целам.

***

У каляінах дзён
лаўлю непрыкметную
хвіліну,
што кожным
каляндарным лістком
запісваецца
на маіх сівых валасах
балючым прамінаннем.
Хаця б адзін дзянёк

павярнуць назад!
Уваскрэсні мінулае!
Переда мною
безліч дарог,
за мною –
пожня.

***

Як смакаваць здраду
і не адчуваць болю,
ступаць па ружах,
цернямі не калечачы ног,
гаварыць маўчаннем,
знаходзячы словы?
Як узяць тое
чаго немагчыма браць,
як плакаць без слёз,
як выпрасіць у старасці
не дадзенае маладосцю?..

***

Не бачу цябе –
вочы плачуць.
Чую цябе –
сэрца траціць рытм.
Не датыкаю цябе –
даль кладзецца
паміж намі.
Цалую цябе –
каханне
распальвае мяне.

Цвіцем абое маем.

***

Закрасавала восень золатам
і з залатых лістоў
залаты дыван
сцеле мне пад ногі.
Дарэмна лісце сыплецца
на росстанях
жыцця маіх дарог.
Я з часам у змаганні
не раз рыбай
білася аб лёд,
не раз стаяла на каленях
і горла залівала мне палын.

Каму я ў ім была патрэбнай?

Дарэмна сніцца мне
тваё вяртанне
пад восеньскім
лістападам залатым.

***

*Сябру*

Не для мяне
сукенку белую
прынёс мой светлы сон
і пад вянец
не вёў расхваляваны май.
Пярсцёнак заручальны –
шчасцем для другой.

І маршам зачыніў мне дзверы
маладосці не маёй
маэстра Мендэльсон.

**Юрый БАЕНА**

# Я – БЕЛАРУС

Па волі лёсу я – беларус. Беларус галавою, сэрцам і крывёю. Свядома нясу нацыянальнае імя, як святасць.

Падляшша – мой дом. З маленства ўсёй душой я знітаваны з роднай зямлёй. У ёй блакіт высокіх нябёс, зелень лугоў, залаты акіян каласоў, сіні васільковы пажар, бель снягоў, святло бяроз, медзь сасновых струн.

З Божай дапамогай звычайна іду па сцежцы-долі. У праменнях праўды моцны я. Нязломны я, бо сэрца напоўнена Радзімай.

Каб множыць дабро, усё хочацца рабіць аддана, чэсна і шчыра. Няма сумлення – няма і чалавека. Беларускасць – мае экзамены па чалавечнасці.

Быць беларусам – гэта жыць у вернасці і смеласці. Змаганні і бітвы жыцця заўсёды нечаму вучаць. На цярністых палях беларускіх спраў часам трэба спыніцца, разглянуцца, азірнуцца назад, пахіліцца, каб зараз упэўнена падняцца. Тут цёмны, непраходны гушчар, тут бар’еры і блакады, а вось там – вольны і шырокі прасцяг.

Твару і пішу на мове душы. Мова мая – агонь святы і крэпасць. У ёй магутны гімн сучаснасці і вечнасці.

На зямных і нябесных шляхах узносіць мяне туга да хараства. Плыве яна з празрыстых крыніц любові і дабрыні. Паэзія ратуе мой беларускі свет.

У цішы, у глыбокай цішы чакаю заўтра. Люблю будучыню, бо мае яна ўсе колеры і бляскі надзеі. Надзея – гэта светлы востраў на ўсхваляваным моры айчыннай гісторыі.
Надзея – гэта несмяротная таямніца сярод вялікіх усіх таямніц.

Здавён-даўна іду па шчасце. Кожнай вясной над хатай вітаю вырай. У сэрцы цвіце белы сад.

# ДОМ

Дом, дом… У тапаграфіі зямлі і неба заўжды ён у цэнтры свету, як валун гранітны, магутны і непарушны, і як свяцілішча. Кожны дом – гэта адзін з шматлікіх воблікаўтвараў Радзімы.

Куды ні глянь вачыма вакон – то нівы, то лясы. Між імі далінкі, пагоркі і дарожкі. Дом знаёмы з кожнай мясцінкай, кусцікам, галінкай, травінкай, пясчынкай, пылінкай, іскрынкай-расінкай.

Сонца сыпле пазалоту. На гонях ветрык сваволіць. Калі прыходзіць веснаход, усё вакол бурліць, квітнее, радуецца. У спякоту лета звоніць пшаніцы медзь. Восенню доўга-доўга нясецца жураўліны покліч развітальны. Зімой у чыстым полі кружыцца завея дымная.

Дом увабраў у сябе чырвань усходаў і захадаў, срэбра дажджу, водбліскі бліскавіц, краскі радугі над краем, аганькі-жарынкі даспелых рабін і калін. Ад світання да змяркання чуе пошумы хвояў, перагуды лугоў, перазвоны крыніц. Ноччу заглядае ў калодзеж неба.

Дзе дом, там адвечны, несціханы пульс зямлі. Неба якраз тут найвышэйшае, зелень найзелянейшая, зоры найяснейшыя і ціша найцішэйшая.

Дом не любіць самоты. Цікавяць яго людзі, жыццё, любоў, гісторыя, сённяшні дзень і будучыня. Выглядае сваіх у дарозе і бездаражы, спазірае за гарызонт – у бязмежныя далі. Усім і ўсяму шукае гармонію. Піша летапіс сям'і, бо з ёй найлепш здружыўся.

Стварае шанцы ўцёкаў ад людскога раўнадушша, жорсткасці, нянавісці, здрады, болю і нягод. Пад крылы свае найперш бярэ тых, каму горычна ў сэрцы. У клунак вяжа неспакой.

Стаіць у зоне святла і жыцця. Збірае крышынкі дабра, дорыць усмешкі. Адганяе думкі калючыя і чорныя навалы хмар. Словы яго ціхія, пяшчотныя, шчырасці поўныя. У сэрцы ёсць і песня, і сляза. Кожнага вітае хлебам-соллю.

Круг вернасці крэсліць. Злучае прыроднае, зямное, нябеснае, святое. Стварае прастору свабоды. Быццам крэ-

пасць-храм, ратуе ад паветра, агню і вады. Душы ён наталяе малітвай, якая дае ўсё новыя сілы ў штодзённай мітусні.

Несмяротны, жыццярадасны, прадзе жывую нітку летуценняў. Днямі і начамі тчэ кілім надзеі. Уздымае крыллі да ясных узлётаў – каб гмахі сэрцаў не пападалі ў руіну, каб Радзіма палыном не зарастала!

Ах, дом … Мой адзіны дом з ясным дахам – светлы ён і шчасны.

## МОЙ РОДНЫ КРАЙ

Не выбіраў цябе я, родны край, на карце свету,
Калі радзіўся між людзей вясковых, простых,
Не ведаў, што стаялі над калыскай вішні-сёстры,
Не знаў, што лёс падарыць мне ўражлівасць паэта.

Мой любы край, ён там, дзе ластавак вяртанні і адлёты,
Валошка і рамонак дзе мяне вітаюць ля дарогі,
Дзе я вучыўся слова “мама” і ставаў на ногі
І чуў цяпло і радасць ў глыбіні сваёй істоты.

Мой час дзяцінства адшумеў сярод палёў пшанічных,
Дзе ў дні спякоты серп яшчэ быў арэолам працы.
О, колькі тых вяртанняў і тугі юнацкай
За той імглой вячэрняй і за сцежкай да крыніцы!

Няхай сабе імкне хто іншы да пачэснай мэты –
Да золата, улады, славы, поспехаў вялікіх!
А я заўсёдна, нібы ліпа наша, буду верны і расцвіты,
З карэннямі у роднай глебе, з песняю над светам.

## Юрка БУЙНЮК

***

Той дзень, як мы спаткаліся –
Шэры дзень кастрычніка
Стаўся сонечным траўнем.

Гарэў беластоцкі парк
Дрэвамі вялізнага падсвечніка,
Дзён каляровай восені.

Вечар успыхнуў агнём
Ад нечаканай сустрэчы
Нашых двух сэрц.

***

Не адвернеш карты
Як бы ні хацеў,
Не пройдзеш шляхам,
Якім прайсці не паспеў,
Не пераплывеш мора,
Калі лодкі няма –
Адзінокі на беразе жыцця.

Але дзесьці там,
Ледзь успомніў свет,
Вянок шчасця плыве –
Гэта будзеш ты або не ты,
Сам не ведаю,
Для каго гарыць
Вогнішча сэрца твайго
На беразе майго жыцця-мора...

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

## УРОКІ ЖЫЦЦЯ

Каб вырасціць сапраўднае ў душы
і не пазбавіць крылаў сваё сэрца,
з гадамі вучымся са светам размаўляць,
цаніць імгненнае ў вечнасці імгненняў.

Шкада, калі ў дзённай мітульзе
чамусьці безразважна забываем:
зямлі насельнікі, мы немінуча ўсе
аднойчы станем небажыхарамі.

Не ведае ніхто, што там чакае нас,
дззе хто якое атрымае месца.
Адказ жывым нясе аблокаў вязь
пра караткевічаўскі небасхіл у сэрцы.

***

У пасланнях гаркавых кожнага дня
Мудра месца знаходзіцца радасцям.
Ці не каб душа ратавацца магла,
Шчыра тулячыся да шчаснага?..

Па законах сваіх свет прыродны жыве,
Дзівіць ладам хаосу і рацыі.
Ці не каб падказаць, што і ў роснай вясне
Подых зімні хітра хаваецца?..

Не пытаюць звычайна дазволу дні
На іспыты бядой ды стратамі.

Ці не каб здагадацца аднойчы змаглі:
Нас пражытае робіць багатымі.

Ткуцца дружна ў гады хапатлівыя дні,
І далей чым – хада іх шпарчэе.
Ці не каб паўтарылі за вечнасцю мы,
Што Дабро на зямлі ўсё сумее?..

Нас яднае яно, перарваць не дае
Часоў повязь шматвекавую –
Ці не каб мы заўжды Веру неслі ў сабе:
Свет Надзея й Любоў уратуе.

***

На змярканні жыцця ўсміхаецца сонца асабліва прыязна й ласкава. Вырастае да сімвалаў кожны зрух навакольны, і з’ява, і фарба, і гук. Нібы перад табой сам сусвет адкрывае раней схаванае, ратуючы тады, калі – бяскрылы, сагнуты болем страт і клопатаў зямных, пад цяжарам турбот сапраўдных, але часцей надуманых, зусім нязначных або наогул не тваіх – па сухім быллі, камені ці вадзе брыдзеш ты ледзьве.

***

Іспыт жыцця – выпрабаванне славай.
Спакусы ў ім – мацнейшыя з атрут.
Пакуты выклікаюць блізкіх здрады,
Хваробы-смерці, што нязванымі ідуць…
Але ад бед усіх адно ратуе зелле.
Імя яму цяпло, што спеліцца дабром,
Уменнем даравацьь, намерамі святымі
Шчырых сэрцаў і чыстых душ святлом.

***

Зрэдзь даносіцца рэхам з юнацтва:
“Не знікай. Пачакай. Затрымайся…”

***

Праляцела лета, праляцела…
Засталася песня недапетай.

***

Вохрай малюе восень
Лёсу далейшага прозу.

***

Хмель вечаровы.
Раскаванасць поўначы.
Лагода ранняя.

***

Не адпужвала ў дзяцінстве
Колкая даўкасць яблычнай завязі.
Не цешыць на жыццясхіле
Набрынялы мёдам белы наліў.

***

Не змываюць дажджы крыўды і недавер,
Не сцякаюць у нябыт болю сполахі.
Нас умольвае неба цярплівымі быць,
Цішынёй ратавацца спагады і дотыкаў.

***

Хаваеш пражытае ад бруду няшчырасці.
П’еш з асалодай падараванае сёння.
І толькі аўтаномна-халоднае заўтра
Зусім (табе не на-) ад цябе не за-лежыць.

***

Графіка зімы.
Насычаныя фарбы
вясны і лета.
Рыжае абрамленне
прытомленай восені.

***

Па маладой бярозцы ля хаты
некалі рост-узрост пазначала.
Пазней заўважаць не хацела,
наколькі хутчэй за яе старэю.
Ужо даўно няма той бярозы.
І хаты бацькоўскай. Толькі
няўцешная памяць трывала
трымаецца за незабыўнае.

***

У кавалькадзе дзён няспынных
нярэдка мяняюцца месцамі
зусім бяздумнае і дужа важнае.
Уражваюць мегагабарытамі
горы дробнага і непатрэбнага.
Паступлова сэнс спасцігаецца
нявымаўленага й невымоўнага,
што праступае на фоне хаосу
контурна акрэсленай выснoвай:
на спадзе жыцця, як і ў пачатку,
незабытым і незабыўным, ты –
тое ж даверліва-пужлівае
ДЗІЦЯ.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# ЗОРКА, ЯКАЯ ЎЗЫШЛА

З ненадрукаванай кнігі "Полька беларуская"
(Замест уступу)

Мы найбольш вырасталі з песні, і якраз у песні, здаецца, найбольш і адлюстраваўся змест нашага нацыянальнага бытавання, захавалася мова, і не чужы (родны!) рытм узбагаціў беларускую кроў.

Францішак Скарына самым высокім жанрам называў песенны жанр.

Янка Купала ў сваёй паэтыцы вобраз песні ставіў над усімі іншымі вобразамі.

Пятро Глебка пісаў, што асноўным знакам айчыннага эпасу з’яўляецца менавіта песня.

І зусім невыпадкова й тое, што ў нашай мове словы “песня”, “паэзія”, “творчасць” часам ужываюцца як сінонімы…

Я гадаваўся ў тую пару (1960-я гады), калі людзі спявалі – зімою ў хаце, а летам на вуліцы шчыра ад душы заводзілі пра чырвоную вішню ці пра таго ж спраўнага Іванка, у якога сарочка – вышыванка…

Добра памятаю свае шчаслівыя адчуванні і вялікую радасць, першы раз пачуўшы на нейкім вяселлі “Касіў Ясь канюшыну”.

А калі гэты мілагучны твор неўзабаве праспявалі “Песняры” – мной авалодала проста неверагоднае захапленне.

Мне, тады яшчэ хлопчыку, так спадабалася “песняроўскае” (мулявінскае!) выкананне “Касіў Ясь канюшыну”, што захацелася самому (!) стварыць такога ж усімі любімага “Яся”!

Жаданне ўзнікла моцнае, але пра яго я нікому не казаў, бо вельмі саромеўся, прадчуваючы кепікі: "Ага, яшчэ адзін пясняр знайшоўся…"; проста ўпотайкі жыў з гэтым жаданнем, і яно не пакідала мяне доўгія-доўгія гады.

Я скончыў школу, адпрацаваў на заводзе, адслужыў у войску, адвучыўся ў Літаратурным інстытуце – урэшце, у мяне з'явіліся жонка і сын, рэдактарская праца ў выдавецтве, кватэра, непатрэбныя прыяцелі, некалькі паэтычных кніжак…

І вось 1 студзеня 1993 года ў Мінску, зранку, я нечакана склаў жартоўны (а мо і не жартоўны?!) верш "Полька беларуская" – у такі спосаб надумаў павіншаваць сваю маці з Новым годам.

Калі перачытаў складзенае, зразумеў: "Дык гэта ж не толькі віншаванне! Гэта ж песня! І, магчыма, гэта мой "Ясь"?!"

У імпэтным прадчуванні даўно чаканай удачы, я тут жа пазваніў кампазітару Ігару Лучанку.

– Ты каму-небудзь паказваў гэты верш? – спытаў Лучанок.

– Не…

– Тады хутчэй прыходзь!

Я не забавіўся, праз хвілін пятнаццаць быў ужо ў Лучанка – з маёй вуліцы Леніна на ягоную вуліцу Янкі Купалы дарога ж зусім кароткая!

Умацаваўшы на пюпітры мой ранішні тэкст і час ад часу гледзячы на яго, кампазітар на кабінетным раялі хутка прайграў усе яму вядомыя полькі і недзе за хвілін дваццаць прыдумаў сваю адметную мелодыю.

Накрэсліўшы алоўкам на вершы: "Рухава, бадзёра..." (гэтак задаў тэмп нашай песні), раптам спытаў:

– А хто яе выканае?

– "Песняры"! – выгукнуў я. – Мулявін!

– Тады пайшлі да Мулявіна! – акуратна апусціўшы над клавішамі бліскучае века, Лучанок узяў у дарогу пляшку гарэлкі.

Аднак у той святочны дзень, шчодра атулены навагоднімі ёлкамі, да Мулявіна мы не дайшлі; на Камароўцы завярнулі да аднаго зычлівага генерала, з якім Лучанок сябраваў, па-

казалі свежую песню (у кватэры было піяніна), і генерал, пагаспадарску гучна пляснуўшы ў ладкі, пахваліў наш твор і падтрымаў наш намер аддаць яго "Песнярам", за што мы і выпілі – і раз, і два, і тры – спачатку яго, генеральскае, а тады ўжо і сваё, прынесенае, і засталіся ў гасціннага вайскоўца аж да позняга вечара…

А недзе праз тыдзень, у тым жа студзені 1993-га, я ўжо адзін сустрэўся з кіраўніком "Песняроў" і аддаў яму і свой верш, і лучанкоўскі нотны запіс.

Трэба сказаць, у тую пару, у канцы 1980-х, у пачатку і сярэдзіне 1990-х, я даволі часта сустракаўся з У. Мулявіным – то на сумесных выступленнях у Мінску і Віцебску, у Маладзечне і, скажам, у Любані ці Століне; то ў тэлевізійных праграмах Людмілы Палкоўнікавай "Песню бярыце з сабою" і "Залатая ліра"; то зусім выпадкова – у сталічным скверы Янкі Купалы ці ў калідоры Белдзяржфілармоніі.

Пасля таго, як "Полька беларуская" апынулася ў мулявінскім калектыве, вядома, іншы раз пры сустрэчы я цікавіўся: "Ці ёсць які рух?"

У. Мулявін адказваў сімвалічна – маўляў, рух ёсць, але замест "Полькі" выходзіць "Лявоніха".

Тое ж самае аднойчы ён сказаў і па тэлефоне:

– Леанід, кожны раз, калі пачынаю працаваць, шукаю неабходную аранжыроўку, то атрымліваецца ў мяне зусім не "Полька", а ўсё тая ж "Лявоніха"!

Як у чалавека ветлівага, голас ягоны гучаў і вінавата, і сумна – мусіць жа, вялікі музыкант знаходзіўся пад уздзеяннем нейкай непазбыўнай сваёй маркоты, як і пад уплывам паэзіі Максіма Багдановіча, найперш, мяркую, пад уплывам ягонага верша "Лявоніха", асноўная думка якога: "… Дай на свеце сумным радасна пражыць…"

У 1991 годзе паводле твораў аўтара "Вянка" У. Мулявін стварыў аднайменную праграму, у якой для слухачоў найбольш запамінальна гучала менавіта "Лявоніха", і вось, трэба думаць, яна й "перашкаджала" запісаць "Польку беларускую".

"… Дай на свеце сумным радасна пражыць…" – просьба, так проста выказаная М. Багдановічам, просьба ўсеагульная!

Сапраўды, свет сумны, і кожнаму пражыць сваё хочацца радасна, аднак жа не заўсёды тое ўдаецца.

Васіль Дранько-Майсюк у п’есе “Пясняр” (дарэчы, першым сцэнічным творы пра У. Мулявіна) у немагчымасці ажыццяўлення гэтай мары, гэтай просьбы ўбачыў асабістую трагедыю стваральніка ансамбля “Песняры”…

Дык вось, недзе з месяцаў дзесяць, да сярэдзіны восені 1993-га “Полька беларуская” знаходзілася на дэпазіце ў “Песняроў” – ляжала той зоркай, якая ніяк не магла ўзысці.

Аднак увесь час так доўжыцца не магло, зоркі павінны ўзыходзіць, таму, як у шчаслівай тэатральнай дзеі, да мяне з’явіўся Анатоль Ярмоленка.

У лістападзе 1993-га са сваімі “Сябрамі” ён збіраўся на гастролі ў Злучаныя Штаты Амерыкі і для гэтай надзвычай важнай вандроўкі шукаў новы рэпертуар, яму патрэбны былі нечаканыя творы.

І вось Анатоль Ярмоленка і спытаўся ў мяне, ці маю песню, якая адразу б спадабалася тым беларусам, якія ўжо не адно дзесяцігоддзе жывуць за акіянам.

– Маю! – цвёрда адказаў я.

– І як яна называецца?

– “Полька беларуская”!

Назва вельмі спадабалася кіраўніку “Сяброў”.

– Толькі песня знаходзіцца пакуль у Мулявіна, – праясніў я сітуацыю.

– А ты мог бы…

– Мог бы…

Я зразумеў цудоўнага спевака, ягонае далікатнае “… а ты мог бы…” – і тут жа аддаў яму свой верш з нотамі (другі паасобнік), бо што не зрабілі “Песняры” (быў у той момант упэўнены!), зробяць “Сябры”.

І творчае шчасце маё якраз і было ў тым, што “Польку беларускую” запісалі “Сябры”, Анатоль Ярмоленка вывеў яе ў самы вялікі свет.

Прэм’ера адбылася там, за акіянам, на далёкай амерыканскай зямлі, і поспех выпаў поўны; песню прынялі душой і сэрцам.

Зачараваная публіка не толькі дарыла музыкам кветкі і дзякавала ім, здараліся й такія нечаканыя моманты – адзін з амерыканскіх беларусаў (чалавек, відаць жа, чулы і душэўны) узрушана папрасіў Анатоля Ярмоленку: “Калі ласка, перадайце ад мяне паэту Леаніду Дранько-Майсюку за верш “Полька беларуская” пяцьдзясят даляраў!”

Вось такі ён быў, мой першы валютны ганарар, і атрымаў я яго ў Мінску, у тэатры музычнай камедыі, са сцэны якога “Польку беларускую” Анатоль Ярмоленка ўпершыню праспяваў ужо для нашых аматараў песні…

Чытачы неаднойчы пыталіся ў мяне, а чаму яны не знаходзяць у маіх кніжках мой самы знакаміты верш?

Здаецца, прыйшоў час змясціць яго ў кнізе, нават у самым пачатку яе, і саму кнігу так і назваць – “Полька беларуская”.

Гэта кніга песенная, міфалагічная, тэатральная, давыдгарадоцкая, сямейная, бо ў “Польцы беларускай” чуецца ўсё – і песеннасць, і міфалогія, і тэатр, і мой родны Давыд-Гарадок з ракою Гарынь і маёю сям’ёй…

У “Польцы беларускай” ёсць тыя словы, у якіх адлюстравана наша нацыянальная сутнасць.

Вацлаў Ластоўскі пісаў, што слова – гэта не ўмоўны знак, а мастацкі вобраз, што кожнае слова – легенда, міф.

Мая кніга нараджалася і паводле назірання В. Ластоўскага.

*16 чэрвеня 2016 г., чацвер, Менск; 12 г. 34 хв.*

## Полька беларуская

Толькі зойдзе ў хату госць –
Будзе ўзята чарка.
Ёсць гармонік, бубен ёсць –
Чым не гаспадарка!

І ад печы, ад сяней,
Колькі маем духу,
Мы заскачам, як раней,
Полечку-трасуху!

Полька, полечка-трасуха,
Не чужая – нашая,
Абдымуха, паскакуха –
Лепшае нямашака.

Для цябе штаны малыя
І спадніца вузкая…
Паміж Польшчай і Расіяй –
Полька беларуская!

Там, дзе сосны – там і лес,
Дзе парог – там ганак,
Дзе Алеся – там Алесь,
Дзе Васіль – там Ганна.

І не трэба нас вучыць,
Абуваць у лапці,
Піць умеем і рабіць,
Полечку скакаці.

Не выкідвалі ікон,
Не забылі Бога,
Наша хата – пяць акон,
Столя ды падлога.

Столя белая-бяла,
А падлога суха,
І ад печы да стала –
Полечка-трасуха!

*1 студзеня 1993 г.*

## Храм беларускі*

Гэты верш 13 ліпеня 1982 года я даслаў з Давыд-Гарадка Міхасю Стральцову ў мазырскае ЛПП – 2 – "3" і праз адзінаццаць дзён 24 ліпеня 1982 года ў Давыд-Гарадку атрымаў такі водгук:

"Дзень добры, браце Леанідзе!

Найперш дзякуй табе за верш (рыфму выбачай) – хораша ад яго стала мне на душы і на сэрцы (ці адно гэта і тое ж?). Не таму, вядома, што стрэціў там сваё прозвішча, – думка там харошая і выканана яна паэтычна і непрымушана, ненатужна. І ні крыку, ні надрыву няма /…/ сапраўднае мастацтва ўсё перамагае і ўсё "прымірае" (уціхамірвае) – не ў сэнсе, вядома, "примирения с действительностью", якая ва ўсе часы бывае дастаткова гнюснай, а ўціхамірвае ў сузіранні вышэйшага сэнсу і вышэйшых высноў быцця і прадракае міг гармоніі, які ў нас ці па-за намі – якая розніца?.."

Будзённы пакіну пакой,
Да гонкага неба збяруся –
Да медных балот і да хвой,
Што толькі ў маёй Беларусі.

Дзень добры, апчолены сад,
Як вольна табе пры дарозе!
Твой сумна-святочны пагляд
Сугучны стральцоўскай прозе…

Цябе праміну, адплыву
І страчу прысутнасць явы,
І раптам убачу царкву,
І голас пачую ласкавы:

"Ідзі, брат заходні, сюды…
Расчыніцца яркая брама…

---

*Яшчэ на стадыі выдавецкага рэдагавання гэты верш быў зняты з маёй кнігі "Вандроўнік" (1983 г.).

Свой дух адмяжуй ад бяды
Іконамі рускага храма…”

І голас пачнецца другі,
Пад сонцам касцёл запануе,
Зірну на яго з-пад рукі
І словы другія пачую:

“Ідзі, брат усходні, да нас
І розум кантычкай здаволі,
І самы свой радасны час
На нашым сустрэнеш ты полі…”

Ды вось яно зноў – берагі,
Балоты, зязюля кукуе…
Ні першы ўжо і ні другі –
Ніякі я голас не чую.

Іду сабе зноў, як ішоў,
Да гонкага неба, і плачу,
І ў цемры палескіх лясоў
Свой храм беларускі бачу.

*6 лістапада 1981 г.*

**Падман і Бяда**

Баль вясёлы на нашым пагосце!
І не ружы цвітуць – лебяда,
І з’яўляюцца вечныя госці
Па-сваяцку – Падман і Бяда.

Не аднойчы той баль і не двойчы,
На даўгія расцягся гады…
У Падману вясёлыя вочы,
І вясёлыя вочы ў Бяды.

І не знаюць ні стомы, ні зморы,
За сабою не бачаць віны, –
Гэта лепшыя нашы танцоры,
На магілах танцуюць яны.

Палюбілі нас гэтыя госці,
Мы таксама ж прывецілі іх,
Разам з імі на нашым пагосце
Топчам родных і блізкіх сваіх:

І не год, і не два – спаконвечна…
І не год, і не два – кожны міг…
Дзе купіць, дзе набыць чалавечнасць?
Па талонах і картках якіх?

Па якому дзяржаўнаму плану,
З кіраўнічай якой дабраты –
Адцураемся мы ад Падману?!
Адцураемся мы ад Бяды?!

Мы стаім на пустым раздарожжы,
Нас рыхтуюцца зноў падмануць…
Можа, Біблія нам дапаможа?
Можа, Біблію нам разгарнуць?

*16 – 23 снежня 1990 г.*

**Вечны матыў**

Пра гэта думай ці не думай,
Гартай класічныя тамы,
Ды ўсё адно – на троне дурань,
На троне ён, а збоку – мы.

А тое збоку не здалёку,
Не ў ценю ямы ці турмы,
Яно заўжды навідавоку –
Навідавоку, значыць, мы.

Адсюль, – такая наша доля, –
Да райскай брамы шлях прамы,
Таму разумнага ніколі
Да трона не дапусцім мы.

*1988 – 1990 г.г.*

## Савецкі народ

Што далей? Мо надарыцца лепшае?
Ды не думаючы "...што далей?", –
Па гарэлку чарга ані меншае,
А даўжэе, нібы ў маўзалей.

Пакрычыць, пагамоніць і сцішыцца,
І стаіць на сваім з году ў год –
Як гаворыцца там , ці як пішацца –
Гераічны савецкі народ.

Сапраўды гераічны, нязломлены
Па вайне, у вайну, да вайны,
Але ён змардаваны і стомлены
Ад малой і вялікай маны.

І, напэўна, таму напіваецца,
Што яму, як салодкі капрыз,
Пасля кожнае чаркі з'яўляецца
Абяцаны душы камунізм.

*1988 – 1990 г.г.*

**Юры СТАНКЕВІЧ**

# АПЕРАЦЫЯ “ГЕЙ”

*З цыкла “Сатырыкон”*

Сыходзіла ўжо лета, і людская мітусня ў райцэнтры Лабідудава пачынала яшчэ больш ажыўляцца. Набегла ўсялякіх спраў і ў настаўніка гісторыі Епіфанія Клопава, які, нягледзячы на сталы век, дзякуючы сяброўству з маёрам у адстаўцы Свіньіным, жонка якога, Акцябрына, была начальнікам райаддзела адукацыі, працягваў працаваць у гімназіі. Справы былі дробныя, чамусьці ўсе непрыемныя, шкодныя, але самай нечаканай непрыемнасцю з’явілася днямі наступнае: дачка Клопава Сняжана, дваццацігадовая пястуння з лялечным тварыкам, якую Клопаў уладкаваў лабаранткай у школе, раптам заявіла, што моцна пакахала расейскага шоўмэна Сяргея Зверава, і таму, як спішацца з ім у сеціве, паедзе да яго ў Маскву.

Пачуўшы такое, Клопаў анямеў на добрую хвіліну, а пасля спытаў у дачкі, як яна ўяўляе сабе ад’езд і далейшае жыццё з тым Зверавым, які можа зусім іншай арыентацыі?

Непрадказальнасць і капрызлівасць адзінай дачкі ўжо не першы раз прыносілі Клопаву вялікія і пакутлівыя маральныя праблемы. “Ну што тут зробіш – паміж ног заказытала”, – спачувальна казаў яму на гэта сябра, маёр запасу Свінін. Так, зусім, здаецца, нядаўна Сняжана захапілася нігерыйцам М’бобо – студэнтам мясцовага політэхнічнага каледжа, і Клопаў з трывогай сачыў за наступствамі, а цяпер вось нейкі шоўмэн. Клопаву зноў зрабілася непамысна.

“Дый, ці ўвогуле захоча шоўмэн Звераў нават знаёміцца з ёй? – працягваў, вяртаючыся ў рэальнасць, разважаць Клопаў. – Там, у Маскве, хіба яму чаго не хапае?”

Ён раптам успомніў, што мельгам бачыў таго Зверава па нейкай расейскай праграме, і што шоўмэн яму вельмі не спадабаўся, а вось жонцы, Іскрыны, наадварот: карона з дыя-

ментамі на галаве, вопратка і твар маладога расейскага свецкага льва выклікалі ў яе вялікае захапленне.

– Так, гэта была знакамітая перадача “Ікона рускага стылю”, – захоплена зачырванелася Сняжана, – яна існуе і цяпер, і я даслала туды заяўку на ўдзел. Мне толькі трэба грошай на адмысловую сукенку, на дарогу і пражыванне ў Маскве.

Пачуўшы пра грошы, Клопаў нядобра насцярожыўся.

– Не дам і не пушчу, – схаладзіў ён дачку.

На гэта Сняжана раптам затупала нагамі, заламіла рукі і як абсекла:

– А вось я “баярышнік” куплю, флакона хопіць – і вып’ю. Ведаеш сам, што тады адбудзецца.

Пра “баярышнік”, які масава завозілі на продаж з Расеі, ці па-мясцоваму “глог”, настаўнік Клопаў быў начуты: па тэлебачанні і ў інтэрнэце расказвалі жудасныя гісторыі з сотнямі ахвяр. Невядомым чынам “глог” працягвалі купляць і завозіць на тутэйшы рынак.

Адчуўшы, як пахаладзела ў грудзях, настаўнік Клопаў вырашыў падысці да неразумніцы з іншага боку.

– Дарэчы, – спытаў ён з робленай ласкавасцю, – а дзе падзяваўся твой сябра М’бобо?

З М’бобо, студэнтам з Нігерыі, Сняжана не толькі час ад часу сустракалася, як аднойчы даведаўся Клопаў, але і прывяла яго неяк дадому.

Афрыканскі студэнт М’бобо з імпэтам выконваў рэп, паштукарску танчыў на бээрсээмаўскіх тусоўках і меў вялікі поспех у мясцовых паненак. Але настаўнік гісторыі меў наконт яго асабовую думку, бо не быў пазбаўлены ўедлівай назіральнасці.

У вірлавокага і чарнаскурага М’бобо валасы на галаве раслі пучкамі, плечы былі вузкія, рукі доўгія, а задняя частка цела адтапырвалася, як у штурхальніцы ядра, і ўсё гэта вельмі не спадабалася тады Клопаву. Але жонка Іскрына, настаўніца рускай мовы і літаратуры, якая, як і сам Клопаў, пераехала ў Лабідудава з Самары, чамусьці выказала іншую думку.

“Ну і што такога? – гаварыла яна незадаволенаму мужу. – Узяць хаця б нашага геніяльнага паэта Аляксандра Пушкіна – ён жа таксама меў афрыканскія гены. А былы прэзідэнт ЗША Абама? Зараз іншы час, а ты гэтага не разумееш. А якія ў яго моцныя, белыя і прыгожыя, рыхтык, як у спевака Саладухі, зубы – ты звярнуў увагу?” – даводзіла жонка.

Клопаў успомніў усё гэта, пакуль чакаў адказу, і настрой яго толькі пагоршыўся.

– М'бобо цяпер на канікулах, у сябе на радзіме, – урэшце капрызліва вымавіла дачка Сняжана. – Дый пры чым тут ён? Я пакахала іншага.

– Зверава? – удакладніў настаўнік Клопаў і скрыгатнуў зубамі.

– Так. Ён такі цудоўны. Ён…

Настаўнік Клопаў моўчкі павярнуўся і пайшоў да сябе ў пакойчык (сям'я жыла ў прыватным доме) і там заглыбіўся ў цяжкі одум. Урэшце ён вырашыў зранку з'ездзіць да свайго сябра, маёра ў адстаўцы Свіньіна, які цяпер бавіў час на лецішчы, каб параіцца там з ім і даведацца, што ж яму далей рабіць. Клопаў набраў таго па мабільніку і спытаў дазволу заехаць у госці.

– Ну, якія пытанні? – пачуў ён у адказ. – Прыязджай, чарку толькі захапі, у грыбочкі сходзім, лісічкі ўжо з'явіліся, падасінавікі, махавічкі…

***

Настаўнік Клопаў дрэнна спаў. Яму снілася, быццам яго прымусілі весці свой прадмет з новага навучальнага года на беларускай мове, а калі ён рашуча адхіліў гэтую дзікую ідэю, за ім пагналіся бэнээфаўцы з бейсбольнымі бітамі і ўжо амаль дагналі, але тут Клопаў прачнуўся і ўздыхнуў з палёгкай, згадаўшы, што начальнік райаддзела адукацыі Акцябрына Фролаўна Свіньіна ніколі не дапусціць уплыву нацыяналістаў на школьны вучэбны працэс.

Ён хутка сабраўся, вывеў з гаража свой масквіч-комбі і неўзабаве выехаў на бальшак.

Дарога ў такі ранні час была яшчэ пустая, толькі наперадзе сіняй кропкай цягнуўся трактар. Клопаў хутка наблізіўся да яго і пачаў абганяць. "Трактар-дзевачка ці трактар-мальчык"? – раптам узнікла ў галаве цьмяная думка (Клопаў успомніў пра святочны парад, дзе ездзілі размаляваныя такім гендарным чынам трактары), павярнуў твар, каб аглядзець яго перадок, але тут яму ў вушы ўварваўся пранізлівы сігнал, і аднекуль спераду па сустрэчнай узніклі жыгулі крэмавага колеру. Клопаў крутануў руль, націснуў на тормаз, але, нягледзячы на тое, што жыгулі таксама рэзка затармазілі, усё-такі ляснуў сваім бамперам у бок аўто.

З легкавушкі адразу выскачылі шасцёра асоб каўказскай

нацыянальнасці. Імі аказаліся армяне, якія выцягнулі Клопава з машыны, натаўклі ў карак і пысу і абразілі расейскімі мацюкамі і па-свойму.

Гэтым не скончылася. У яго адабралі вадзіцельскае пасведчанне і пад пагрозай гвалту прымусілі напісаць распіску, што той павінен ім тысячу доляраў на рамонт аўто.

Узмакрэлы ад страху Клопаў усё падпісаў, хоць рамонт, на яго думку, каштаваў максімум 50 умоўных адзінак.

Да Свіньіна ехаць ужо не выпадала, армяне зніклі, і настаўнік гісторыі вярнуўся дадому.

Выслухаўшы небараку, жонка Іскрына моўчкі агледзела таго з усіх бакоў, задумалася і ўрэшце аб’явіла:

– Нас сурочылі, Епіфаній. Шукай падклад.

Разам пачалі шукаць.

***

Апоўдні таго ж дня падклад сапраўды знайшоўся. “Быццам чорт мяне за руку вёў, – расказваў пасля Клопаў, – прыўзняў я ганак, а пад ім, гляджу, скрутак ляжыць”.

Як выявілася, у абвязаным бруднай анучай скрутку былі абсмактаныя косткі невядомага паходжання, звонку працятыя іржавай спіцай ад ровара.

Далей пачала распараджацца жонка Клопава. Скрутак вынеслі на скрыжаванне вуліц і там кінулі, а ганак і пад ім падмялі венікам, пасля чаго той венік спалілі.

– Паедзеш да ведзьмака, – загадала, між тым, Клопаву жонка. – Ён, як чула, тут у бліжняй вёсцы пражывае. Клічуць – Язэп. Спадар Язэп. Ён любіць, каб так яго называлі, – нацдэм, пэўна, варта разабрацца, можа, арыштаваць, але з гэтым потым. Усё яму раскажаш, папросіш дапамогі, дасі грошай, калі што.

Але настаўнік Клопаў успомніў пра армян і сказаў:

– Не. Спачатку я ў міліцыю, у райаддзел. Па сутнасці мяне нахабна абрабавалі. Забралі дакументы, пабілі. Раней народы сябравалі, а цяпер што? А ўсё нацмэны клятыя, бэнээфаўцы, бандэраўцы…

***

Якраз у гэты час начальнік РАУС, падпалкоўнік Праўдун у кабінеце размаўляў з падначаленым, аператыўнікам Байдаком. Капітан Байдак – жукаваты, з учэпістымі рукамі мужычок дакладваў мажнаму, з грушападобнай галавой начальніку пра крымінальную абстаноўку на сваім участку.

Усё было бадай што звычайна: п’яныя гопнікі разбілі шкло ў рэстаране; дамушнік Смарчук улез праз акно ў хату і абрабаваў пенсіянерку; псеўдасабесаўцы скралі ордэн “Чырвонай зоркі” ў адстаўнога маёра, нямоглага старога; пэтэвушніца Петухова падкінула клафеліну ў шклянку мясцовага паэта Хвалеева па мянушцы Гліст, з якім распівала гарэлку, а пасля “падрэзала” ў яго “лапатнік” з ганарарам газеты “ЛіМ” і гадзіннік; двое прасунутых праграмістаў у напаўразбураным сараі майнілі біткойны…

– Стоп! – раптам ачуняў падпалкоўнік Праўдун. – З гэтага месца прашу падрабязна. Якія біткойны і як гэта майнілі?

Капітан Байдак няўцямна пацiснуў плячыма і коратка расказаў, што яго агент, нядаўна завербаваны ініцыятыўнік-інфарматар Пеця, паведаміў, што два маладыя камп’ютаршчыкі ўсталявалі ў сараі нейкія акамулятары з тэхнікай і нелегальна спажываюць вялікую колькасць электраэнергіі, закідваючы ноччу правады на электралінію, спадзеючыся з таго хутка ўзбагацець, бо на тыя біткойны ўжо ў сталіцы, кажуць, было куплена некалькі кватэр.

– Біткойны – гэта што? Грошы такія? – асцярожна спытаў начальнік РАУС.

– Так. Крыптавалюта. Віртуальная рэч.

Падпалкоўнік Праўдун зрабіў выгляд, што разумее і загадаў:

– Праграмістаў тых не закрываць, няхай пакуль майняць. Усталяваць назіранне і чакаць. Як намайняць – возьмем цёплымі. Гэтую справу бярэм пад асабовы кантроль. Пецю з нашага фонду выдай дзве базавыя як узнагароду. Няхай толькі распішацца ў ведамасці.

Як капітан Бадак выйшаў, падпалкоўнік Праўдун завіс у цяжкім одуме. Пра так званыя біткойны і крыптавалюту ён хоць і чуў, але не ведаў і не разумеў у тым анічога, і цвёрда ўяўляў, што і далей не зразумее, але… Але…

Засігналіў тэлефон.

Тэлефанаваў начальнік абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, палкоўнік Пугач.

– Слухаю вас, Іваныч, – даволі фамільярна сказаў Праўдун у слухаўку, бо даўно ведаў Пугача і не раз браў з ім чарку на розных фуршэтах.

– Далажы абстаноўку.

Праўдун коратка расказаў, але пра крыптавалюту і праграмістаў абачліва прамаўчаў.

– А нацдэмы як? – пацікавіўся палкоўнік. – Можа, што задумалі?

– Не, усё пад кантролем.

У слухаўцы чуліся нейкае сапенне і прыцмокванне, а потым голас спытаў:

– Скажы ты мне зараз, колькі ў вашым горадзе геяў?

Праўдун пракаўтнуў паветра.

– Гоеў? Даволі шмат. Трэба зірнуць у даведнік. Прозвішча вядомае.

– Ды не гояў, а геяў. Ты што там, апух? Педэрастаў, пытаюся, у вас колькі?

Падпалкоўнік Праўдун анямеў.

– Не лічыў, – урэшце праз паўзу адказаў ён. – Быў тут адзін на мянушку Жужу, дык яго “правасекі” ці, можа, скінхэды злавілі і катавалі – тэстулы дзвярыма зашчамілі, прыстрашылі моцна, ад чаго той уцёк за мяжу, у Брусель нібыта. Там такім, па чутках, адразу даюць прытулак. У інтэрнэце ўжо здымак яго бачылі – у бабскай сукенцы і з нейкім негрыцянскім спеваком – кажуць, пабраліся шлюбам.

Праўдун пачуў далей, як па сувязі сплюнулі, а потым палкоўнік Пугач абвясціў наступнае:

– Ты пра мадэрнізацыю, інвестыцыі і ўсё такое, вядома, чуў, дык паўтараць не буду. На гэта трэба грошы, эмвээф дае крэдыты, але, сам разумееш, не ўсім. Яны патрабуюць адпаведныя ўмовы. І першая – свабоду сексуальным меншасцям: дазваляць ім усялякія шэсці, аднаполыя шлюбы, адразаць адным, па жаданні, і прышываць другім геніталіі. Ты сочыш за думкай?

– Так-так, – нічога пакуль не разумеў падпалкоўнік Праўдун, але пацвердзіў, што сочыць.

– Дык вось, – працягваў палкоўнік Пугач, – такая дэлегацыя ад эмвээф прыбывае да нас. З гэтай нагоды заўтра атрымаеш па факсе сакрэтны ўказ, а пакуль загадваю арганізаваць у горадзе свабоднае шэсце іхняй ЭлГэБэТэ, няхай пройдуцца са сваім вясёлкавым сцягам. Гэтае ж шэсце пройдзе і ў іншых месцах, і ў сталіцы, каб тыя дэлегаты бачылі. Арганізуем ім патрэбны малюнак. А ў сябе забяспеч масавасць, выклікай таго Жужу, няхай якую гадзіну пашчыруе, падла.

– Дзе ж я іх, геяў, вазьму на цэлае шэсце? – спытаў урэшце начальнік РАУС Праўдун. – І Жужу, можа, зараз і не паедзе, пабаіцца тых “правасекаў”.

– Тады пераапранеш сваіх людзей, сам загрыміруешся, прымеш удзел. Гэта – загад. І яшчэ: малюнак павінен быць каляровы. Гэта значыць, што ў шэсці няхай пройдуцца прыбышы – негры, азіяты. Студэнты ж такія ёсць? А то яны там ледзь што, адразу ў крык: у вас расізм! Ксенафобія!

– Студэнты і ўвогуле ўсякія залётныя людзі ёсць, – сказаў начальнік РАУС, – і розных нацыянальнасцей. У нас, як у газеце пішуць, – мультыкультуралізм гучыць і цвіце, як спевы птушак раніцай.

– Дык чакай загаду. Час правядзення акцыі будзе хутка абвешчаны. Падрыхтуй усё аператыўна, бо сам ведаеш – няпоўнае службовае і… на пенсію.

У слухаўцы рохкнула і сувязь прапала. Падпалкоўнік Праўдун мутна, нібы праз туман, паглядзеў у акно, на неба з лёгкімі пухнатымі аблокамі і адчуў, што, нягледзячы на гэтую пастараль, на яго насоўваецца нешта незразумелае і нядобрае.

***

Якраз у гэты момант дзяжурны па райаддзеле далажыў па ўнутранай сувязі, што да яго мусіць звярнуцца па важнай справе настаўнік з гімназіі Епіфаній Клопаў. Праўдун ведаў Клопава асабіста, бо той вучыў яго дзяцей, і таму, хоць і неахвотна, загадаў прапусціць.

Клопаў пачаў здалёк – расказаў пра дачку Сняжану, якая запала на расейскага шоўмэна Зверава, чамусьці згадаў нават нігерыйца М’бобо, пасля пра падклад: наступства супраць яго чорнай магіі – аварыю на дарозе, дзе не назіралася ніводнай машыны, акрамя армян, якія набілі яго, забралі правы і прымусяць праз нахабнае вымагальніцтва днямі заплаціць ім тысячу долараў.

Начальнік РАУС Праўдзн слухаў, ківаў галавой, абяцаў дапамагчы, але думаў пра сваё: як яму забяспечыць шэсце геяў і зрабіць такім чынам справаздачу перад сваім кіраўніцтвам.

Урэшце настаўнік Клопаў напісаў заяву на ашуканцаў і скіраваў да сябра, маёра запасу Іпаліта Свіньіна, вырашыўшы наведаць ведзьмака Язэпа пасля.

***

Нягледзячы на канец лета, сонца быццам падсмажвала, было скварна. Па абедзе таго ж дня настаўнік Клопаў прыехаў на лецішча Свіньіна. На яго здзіўленне маёр запасу быў там не адзін, а з жонкай Акцябрынай. Яна была ў купальніку – загарала.

– Крым наш! – па-змоўніцку радасна сказала яму Акцябрына Фролаўна.

– Навекі наш! – адказаў ва ўнісон, нібы вымавіў пароль, Клопаў.

Павітаўшыся такім чынам з Клопавым, Акцябрына Фролаўна шматзначна заўсміхалася яму, юрліва загуляла нафарбаванымі вачыма, перасмыкнула даволі аб'ёмнымі грудзямі і напаўголаса заспявала:

Ой Самара – городок,
Неспокойная я,
Неспокойная я,
Успокой ты меня…

"Эйш, забірае бабу, – чамусьці падумалася Клопаву. – Як у народзе кажуць: на кнура паднялася ці што?.."

Ён, між тым, выцягнуў з багажніка свайго "масквіча" бутэльку гарэлкі, кошык для грыбоў, і праз нейкі час усе селі за стол.

Гаварылі пра рознае, асабліва пра нейкую цьмяную хвалю беларусізацыі, якая зноў насунулася невядома адкуль.

Вырашэнне пытання дзяржаўнай мовы на карысць адзінай беларускай, якога ў апошні час патрабавала няправільная, на іх думку, моладзь, выклікала ў абодвух нейкую невытлумачальную насякомую зласлівасць і нянавісць. Акцябрыне Фролаўне, калі чула невыносна агідную для яе гаворку, адразу хацелася… Тут яна міжвольна ўяўляла сябе следчым у кабінеце, куды прыводзілі чарговага клятага нацмэна: адразу здзірала з таго нагавіцы, пасля саджала на перакулены зэдлік і біла, біла бізуном, пакуль той не пераставаў дыхаць, а потым адлівала вадой і зноў біла бізуном.

Клопаву такая жорсткасць не была ўласціва, яму, калі гаварылі па-мясцоваму, карцела проста зрабіць якую, хоць і невялікую, брыдкасць, каб затушыць нацыянальны імпэт напоўніцу. Так, аднойчы, калі паэт Хвалееў, на мянушку Гліст, чытаў на нейкай імпрэзе ў "кураедаўцы" (бібліятэцы імя Кураедава)

свой верш на мове, то Клопаў пачаў шморгаць нагамі, гучна выціраць смэркі, нешта балбатаць, так што ўсе перасталі слухаць Гліста, які “касіў” пад расейца Еўтушэнку, і сапсавалі таму выступ. У Клопава было адпаведнае яго прафесіі хобі – ён актыўна супрацоўнічаў з мясцовым культурным цэнтрам “Русский мир”, які сфарміраваўся ў той жа “кураедаўцы” – цэнтральнай бібліятэцы імя Мітрафана Кураедава, былога расейскага памешчыка з лабідудаўскіх асаднікаў, які, уцякаючы ад напалеонаўскага войска, скраў і завёз у Маскву шмат каштоўных рукапісаў, прававых і грамадзянскіх тэкстаў часоў ВКЛ, дзе ў той акупаванай французамі Маскве яны і згарэлі.

Клопаў раз-пораз выступаў у “кураедаўцы” з прамовамі на гістарычныя тэмы, але апошнім часам правальна, бо туды з правакацыйнымі мэтамі пачалі завітваць ненавісныя яму бэнэфаўцы і, што яшчэ горш, маладыя, правыя радыкалы, многія з якіх былі яго ранейшымі вучнямі ў гімназіі. Размаўлялі яны пабеларуску, а Клопаў, нягледзячы на тое, што пражыў у Беларусі шмат гадоў, мовы не ведаў і, як яе дзе-небудзь чуў, то ў галаве ў яго сціскала і рабілася млява.

Кіраваў правакатарамі, як падазраваў Клопаў, малады бэнэфавец Вячка, які, на яго думку, і арганізаваў збіццё Жужу.

Гэта Вячка зганьбіў нядаўна ў “кураедаўцы” ягоны выступ, прысвечаны перамозе расейскага войска пад Студзёнкай у 1812 годзе і ў так званай айчыннай вайне з Напалеонам.

Вячка ўзняўся тады з месца і спытаў у Епіфанія Клопава, хто перамог пад Барадзіно? “Вядома, нашы”, – адказаў легкадумна Клопаў. “Вашы маскалі згубілі там дзясяткі тысяч забітымі, потым у паніцы пабеглі і беглі так, што Маскву пакінулі французам – дык хто пераможцы?” – галасна пацікавіўся малады радыкал Вячка. “Там адбывалася вялікая маральная перамога, – даволі неперaканаўча прамовіў на тое Клопаў. – Пра гэта і пісьменнік Леў Талстой напісаў. “Перамога адна бывае, – аспрэчыў Вячка, – Напалеон нам, ліцвінам, волю нёс, а ваш Леў Талстой – хлус”.

***

Неўзабаве Акцябрына Фролаўна заявіла, што займецца сваімі справамі, а мужчын пакіне адных, тым больш, быццам яны збіраліся ісці ў грыбы.

Клопаў адразу коратка расказаў сябру пра свае беды: пра падклад, дачку Сняжану, шоўмэна Зверава, нават успомніў і

нігерыйца М’бобо, і ўрэшце пра аварыю і армян.

Маёр запасу Свіньін праз невялікую паўзу абвясціў сябру, што падклад хутчэй за ўсё справа бэнээфаўцаў, а што тычыцца дачкі Сняжаны, то – тут ён шматзначна развёў рукамі і дадаў: “Там, дзе чорт не можа, туды бабу пашле”.

Астатнія пытанні гаспадар лецішча абмінуў, параіў толькі, што на ведзьмака Язэпа варта нацкаваць падатковую інспекцыю, бо той, па ўсіх прыкметах, з’яўляеца “іпэшнікам”.

Увогуле, адчувалася, што ён быў не ў гуморы. Настаўніку са свайго боку здавалася, быццам ён ведае прычыну.

Неяк перадусім маёр запасу Іпаліт Свіньін расказаў за чаркай Клопаву, чаму большую частку жыве на лецішчы і – далей ад жонкі. Справа ў тым, далікатна патлумачыў Свіньін, што ён напрыканцы службы ў арміі атрымаў траўму, якая значна паўплывала на выкананне ім мужчынскага абавязку. “У нашай дывізіі, – гаварыў Свіньін, – сярод афіцэраў існавала такая своеасаблівая забава: узяўшы чарку, хто-небудзь з нас даставаў вучэбны выбуховы пакет, клаў пад афіцэрскі планшэт, садзіўся зверху і падпальваў бікфордавы шнур. Ад выбуху гарэзу падкідвала ў паветра, але не надта высока. Для жыцця пагрозы, вядома, не існавала, бо планшэт быў тлусты, скураны, а пакет не граната – пораху там няшмат. Але ж, – з горыччу паведаміў Свіньін, – аднойчы ён на добрым падпітку сеў на выбухоўку, а скураны планшэт падкласці зверху забыў: так вось усё і адбылося”.

***

Застаўшыся, між тым, у адзіноце, Акцябрына Фролаўна Свіньіна доўга разглядала сябе ў люстэрцы, прымала розныя позы, а потым выцягнула ноўтбук – падарунак настаўнікаў, – на якім яна, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, але навучылася крыху працаваць, уключыла яго і набрала свой любімы сайт знаёмстваў.

Справа была ў тым, што Акцябрына Фролаўна таемна збіралася развесціся з мужам Іпалітам Свіньіным і ўвесь гэты час шукала сабе прыстойнага наступніка. Яна размясціла ў сеціве сваё лепшае фота дзесяцігадовай даўнасці, асцярожна паведаміла тое-сёе пра сябе і чакала адказаў. Іх, на яе здзіўленне, аказалася шмат: пенсіянер Вася, музыка Святазар, мастак Жора, зубны пратэзіст Кірыл, трэнер па штанзе Марык і іншыя. З многімі з іх Свіньіна актыўна перапісвалася, але ўсё

гэта было быццам не яе, як раптам…

Раптам на яе ліст у інтэрнэце адгукнуўся амерыканскі грамадзянін Джон Сміт. Ён паведаміў, што, як толькі ўбачыў здымак Акцябрыны, то адразу закахаўся. Пра сябе напісаў, што ён былы астранаўт, палкоўнік у адстаўцы, жонка яго загінула ў аўтааварыі, і ён хоча знайсці сабе пару. На здымку Акцябрына Свіньіна ўбачыла імпазантнага мужчыну з сівымі скронямі, але яшчэ даволі маладога ўзросту, у форме палкоўніка паветраных сіл ЗША і – ахнула. Вось яно, прыйшло, чаго даўно чакала, адразу вырашыла яна – сапраўднае каханне, і не з кім-небудзь, а з самым прыстойным з яе адрасатаў, ды што там казаць…

Джон Сміт пісаў па-расейску са шматлікімі памылкамі (ён паведаміў, што нейкі час супрацоўнічаў з касмічным міжнародным экіпажам і там крыху навучыўся), але сэнс яго адказаў заўсёды быў ясны і дакладны.

Так, на пытанне, ці быў ён на Месяцы, Джон Сміт адказаў, што быў адзін раз, нават прывёз адтуль кавалачак месяцовай глебы, які, калі яны з Акцябрынай сустрэнуцца, з вялікай ахвотай ахвяруе ёй, і што такі кавалачак на продаж каштуе каля 100 тысяч долараў.

Свіньіна пацікавілася, ці бачыў Джон на Месяцы іншапланетнікаў, бо пра гэта ўвесь час гавораць у СМІ, і Джон Сміт паведаміў, што так, бачыў, меў з імі візуальны і нават іншы кантакт, але пра гэта ён не можа расказваць, бо даў падпіску на маўчанне.

Таемна іх перапіска доўжылася каля некалькіх тыдняў і з кожным днём набывала ўсе больш прыземныя абрысы. Джон Сміт захацеў сустрэчы і гатовы быў прыехаць да Акцябрыны, як толькі тая выкажа згоду, вось толькі вырашыць свае неабходныя справы, каб мець магчымасць забраць Акцябрыну да сябе, у Амерыку: мусіць купіць новы дом за 250 тысяч долараў, з басейнам, садам і тэнісным кортам, новы аўтамабіль і ўсё такое.

На гэта Свіньіна адказала, што гатовая жыць з ім і ў старым доме, бо родам з Урупінска і звыклася з цяжкасцямі, якія яе зусім не пужаюць.

Джон Сміт не згадзіўся з такой самаахвярнасцю цудоўнай жанчыны і запэўніў яе, што як толькі ўсё ўладкуе, то адразу рушыць на самалёт, бо яму і білет набываць не трэба – ёсць пажыццёвы дазвол лётаць на авіятранспарце любой амерыканскай кампаніі бясплатна.

Свіньіна адразу напісала яму, што з мужам яна хоць даўно і не жыве, тым не менш разводзіцца і ўжо падала адпаведную заяву і заўтра абвесціць таму свой намер, – магла б і сёння, але муж Іпаліт пайшоў у лес у грыбы, і яна пабаялася, каб ён там з гора не засіліўся.

Джон Сміт душэўна адказаў ёй, быццам не жадае Іпаліту благога, сам жа вылятае праз тры дні, і пра дзень прыбыцця паведаміць дадаткова.

Далей палкоўнік у адстаўцы Джон Сміт паведаміў, што паколькі ўсе наяўныя сродкі пералічыў праз банк на новы дом, і, каб не зведваць якіх нечаканасцей у далёкай дарозе, яму цяпер патрэбна крыху дробных грошай, не прадаваць жа спекулянтам кавалачак месяцавай глебы, які вязе дарагой Акцябрыне… Таму ёй варта ўсяго толькі пакласці на яго асабісты рахунак (далей высвеціўся код) 5 тысяч амерыканскіх долараў. Вядома, калі яна не супраць гэткай дробязнай паслугі.

На гэта Акцябрына Свіньіна адказала, што заўтра зранку, як толькі адчыніцца мясцовае аддзяленне банка, адразу пералічыць грошы.

***

Раніцай наступнага дня начальнік РАУС, падпалкоўнік Праўдун пачуў вельмі непажаданы міжгародні тэлефонны званок. Зноў тэлефанаваў палкоўнік Пугач.

Гутарка была нядоўгай, але жахліва змястоўнай.

– Факс атрымаў? – спытаў палкоўнік Пугач.

– Так, – унутрана сцяўшыся, адказаў Праўдун.

– Дык усё гатова для аперацыі?

– Не зусім, Іванавіч. Мала людзей.

– Я табе не Іванавіч зараз. Мы на службе. Чаму мала?

– Дзе ж я іх забяспечу столькі? І ўвогуле, мы ж з табой пры савецкіх парадках пачыналі. Пры бальшавіках такога б не было.

– Э, братка, тут ты не ў тэме. Ты гісторыю ведаеш?

– Ведаю збольшага. У школе вучыў, у акадэміі МУС.

– Дык адкажы мне, які быў першы дэкрэт пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі?

– Ну, фабрыкі – рабочым, зямлю – сялянам, уладу – Саветам, і усё такое.

– Памыляешся. Першым дэкрэтам быў дэкрэт аб легалізацыі гомасексуальных адносін і педэрастыі.

Падпалкоўнік Праўдун анямеў. Наступіла паўза.

– Не чакаў? – спытаў голас у слухаўцы. – Дык я даручу свайму прэс-сакратару, каб даслаў табе вытрымку з архіваў і, дарэчы, з адной сучаснай газеты. Заўтра, каб забяспечыў шэсце, усё знялі на відэа і перакінулі ў сталіцу. Прымеш удзел асабіста, пераапранеш і загрыміруеш усіх ініцыятыўнікаў і спячых агентаў. Выконвай!

– Слухаюсь, – Праўдун адчуў, што ўвесь узмакрэў.

Апарат адключыўся.

***

Ужо праз дзень няўцямныя чуткі, што мясцовым геям будзе ўладамі дазволена шэсце, дасягнулі нацыянальных радыкалаў, якімі па-ранейшаму кіраваў Вячка, хударлявы светлавалосы юнак з кароткай стрыжкай.

Увечары таго ж дня да яго прыйшлі дэлегаты ад скінхэдаў і анархістаў, каб разам абмеркаваць сітуацыю. Сышліся на тым, што садаміты і вычварэнцы нясуць вялікую шкоду грамадству, асабліва нацыянальнай ідэі, бо ў правакацыйных мэтах з’яўляюцца на вуліцах з гістарычнымі сімваламі бела-чырвона-белым сцягам і “Пагоняй”, адначасова крычаць пра свабоду аднаполавых адносін і іншыя брыдоты, патрабуючы, каб іх узаконілі.

Вырашылі: шэсце заблакаваць, адсочваць рух АМАПа; з Жужу, калі ён з’явіцца, канчаткава разабрацца скінхэдам, а ўсіх вычварэнцаў запатрабаваць вывесці за 101 кіламетр на свінакомплекс, дзе пасяліць надоўга “на хімію” і прымусіць працаваць, як усе нармальныя людзі.

Дадаткова анархісты прапанавалі падпаліць у знак пратэсту “кураедаўку”, але астатнія з імі не пагадзіліся – і гэтае пытанне заблакавалі.

***

Прайшлі тры дні, але ад былога астранаўта Джона Сміта ніякіх звестак не было. Мала таго, калі зранку Акцябрына Свіньіна набрала на камп’ютары свой любімы сайт знаёмстваў, то не знайшла там ні фотаздымка амерыканца, ні яго перапіскі. Ніхто не адказваў на яе запыты, і Свіньіна кінулася ў банк.

Там яна адразу папрасіла вярнуць назад яе грошы: можа, супрацоўнікі яшчэ не паспелі іх адаслаць на адпаведны рахунак, але ёй адказалі, што такое немагчыма, бо грошы пералічаны, як яна і патрабавала тры дні таму.

У Акцябрыны Свіньіной усё пахаладзела ўнутры, а твар

пайшоў чырвонымі плямамі. Юрыст-кансультант накапала ёй валяр’янкі і нават паабяцала высветліць месца адрасата, якому яна пералічыла грошы.

– Хоць гэта складана і не паложана, – дадала яна.

Свіньіна доўга чакала. Урэшце кансультант прыадчыніла акенца і паведаміла:

– Ваш адрасат – у Нігерыі.

***

Праз нейкі час пасля наведвання банка Свіньіна, хоць і была ў вялікай роспачы, нанесла візіт сяброўцы Іскрыне Клопавай, каб усё з ёй абмеркаваць. Нездарма ж яны сябравалі сем’ямі, лічыла Свіньіна.

Жанчыны выпілі па чарцы, праспявалі разам “Кацюшу” і падзяліліся набалелым: адна – пра падклад, армян і дачку Сняжану, другая – пра палкоўніка Джона Сміта, які, цалкам верагодна, аказаўся ашуканцам.

Тут Іскрына Клопава, у якой думкі часам рабілі парадаксальныя скачкі і накірункі, задумалася на паўхвіліны, а пасля раптам пляснула далоняй сабе па лобе і сказала:

– М’бобо. Гэта ён!

– Чаму ты так думаеш? – спытала Акцябрына Свіньіна, якая неяк раней чула ад сяброўкі пра цёмнаскурага прыхільніка яе дачкі.

– Дык жа ён цяпер якраз у Нігерыі.

– Ай, як далёка.

– Так, так.

– І што рабіць, Іскрыначка?

– Толькі адно: нам варта ехаць да ведьмака. Клічуць Язэпам. Ён жыве тут недалёка, у вёсцы. Збіраемся, Акцябрына.

***

Праз нейкі час з адчувальнымі цяжкасцямі, але ўрэшце паспяхова Свіньіна з Клопавай дабраліся да жытла ведзьмака Язэпа. Вядзьмак жыў на ўзбочыне прыгараднай вёскі, у дагледжанай хаце і аказаўся велічным, яшчэ даволі маладым мужчынам з сівымі скронямі, моднай барадой і пранізлівым позіркам.

“Ну, рыхтык, Распуцін”, – адразу чамусьці падумала Свіньіна і неспадзявана пачала млець.

Моцнае хваляванне адчула і Іскрына Клопава. Яна пачала

ўспамінаць, як варта правільна звяртацца да аўтарытэтнага ізатэрыка, але ў галаве ў яе ўсё пераблыталася, і яна сарамяжліва сказала:

– Здравствуйцё, таварыш Езеп.

Вядзьмак быццам не здзівіўся, спагадліва паглядзеў на абедзвюх, ветліва ім кіўнуў і спытаў, адкуль шаноўныя панны родам. Даведаўшыся, ён загадаў жанчынам патлумачыць яму мэту іх візіту.

Падумаўшы крыху, далей ён запрасіў жанчын на веранду, у прахалоду, і, адмовіўшыся ад прапанаваных яму помачных, сказаў:

– Што тычыцца падкладаў і заломаў, дык рабіць іх людзям ганебна, і таго падкладчыка я пастараюся нейтралізаваць, а вось нігерыйца М’бобо я адсюль не дастану. Надта далёка. Хіба калі вернецца.

Пасля чаго вядзьмак паставіў Іскрыну Клопаву ў цэнтры веранды, выцягнуў з кішэні крэйду і абвёў яе рысай у кола, загадаўшы жанчыне яго не пераступаць, затым прынёс нейкай вадкасці ў конаўцы і, апырскаўшы яе, нешта шэптам сказаў. Свіньіна з нямым захапленнем назірала за працэсам.

Далей вядзьмак Язэп абвесціў, што пасля яго контрмеры на працягу сутак да Клопавай у хату будзе ламіцца той, хто зрабіў падклад, каб нешта папрасіць, і ў гэтым разе яму нельга нічога даваць, а пырснуць у твар загаворанай вадкасцю, якую жанчына цяпер забярэ з сабой. “Тады, – дадаў вядзьмак Язэп, – злаўмыснік адчуе сябе вельмі блага і сыйдзе назаўсёды”.

– А нельга зрабіць так, каб яму адразу рукі адсохлі? – пажадала Свіньіна.

– Так, так, – падтрымала яе Клопава. – Каб у той жа дзень яго і спаралізавала?

На гэта вядзьмак адказаў адмоўна, дадаў толькі, што падкладчыку будзе і так вельмі дрэнна, ды раптам пацікавіўся ў жанчын, чаму яны цураюцца такой цудоўнай мілагучнай і простай у вымаўленні мовы, як беларуская?

Свіньіна адпарыравала звыклым: маўляў, выказваць разумныя і слушныя думкі не так і важна на якой мове, а мясцовая тутэйшая гаворка ёй не патрэбна, бо рэжа вушы.

Тады вядзьмак Язэп ветліва спытаў у Свіньіной, якой транскрыпцыяй яна перадасць, напрыклад, такое расейскае слова, як “ощущающаяся”, а ў Клопавай – “защищающаяся”?

Жанчыны разгубіліся. Вядзьмак жа пасвідраваў іх вачыма, пстрыкнуў кожнай пальцам па лобе і сказаў, каб добра над гэтым падумалі. А словы запомнілі. “Нацыяналіст, бэнээфавец кляты, – меркавала Свіньіна. – Але ж які гарны, гожы мужчына…”

***

Маёр запасу Іпаліт Свіньін пасля ад’езда сябра Епіфанія Клопава застаўся ў адзіноце са сваімі тужлівымі думкамі. Ён зноў імкнуўся ўспомніць, як правёў той п’яны вечар, калі яшчэ служыў у войску, у роднай дывізіі, і ці то пераблытаў, падклаўшы выбуховы пакет не пад планшэт, а зверху, ці то ўвогуле запамятаваў пра планшэт і зусім не падсунуў яго. Ні зверху, ні знізу.

Урэшце ён вырашыў не здавацца на волю лёсу, а нешта рабіць: напрыклад, не пашкадаваць грошай і пачаць актыўнае лекаванне. Робяць жа цяпер усялякія мудрагелістыя аперацыі, медыцына ўскладнілася і хутка кроча наперад. Грошы. Тут Свіньін нагадаў пра схаваныя разам з жонкай Акцябрынай на чорны дзень банкноты ў выглядзе амерыканскіх долараў і пайшоў да схованкі, дзе іх трымаў, бо “банк, – казаў ён не раз пачутую вобразную прымаўку, – гэта шматпавярховы цагляны яўрэй” і туды грошы несці – сабе на згубу.

Свіньін адчыніў запаведную сакрэтную шуфлядку, дзе трымаў долары, і атарапеў.

5 тысяч умоўных адзінак зніклі. Маёр запасу набраў па мабільніку жонку і спытаў, ці не ведае яна, куды падзяваліся грошы, але ў адказ пасля паўзы пачуў зусім незразумелае:

– Ощущающаясясящущася.

Пасля чаго сувязь абарвалася.

***

Раніцай наступнага дня ў браму дома настаўніка Клопава нецярпліва пагрукалі.

Гаспадыня якраз завіхалася ля пліты, калі пачула той грукат. Яна адразу ўспомніла словы, сказаныя ведзьмаком Язэпам, усе яго настаўленні наконт абясшкоджвання выканаўцы падклада, і што з гэтай нагоды варта рабіць.

Іскрына Клопава кінулася паклікаць мужа, але аказалася, што той зноў так недарэчна сышоў з дому ў “кураедаўку”: там планавалі нейкі баль у будынку, дзе больш як 200 гадоў таму

пражываў сам Мітрафан Кураедаў, пакуль не ўцёк у Масковію. Дачка Сняжана заказвала ў мясцовага дызайнера сукенку.

Але Клопава зусім не разгубілася. Пасудзіна з вадкасцю, якую наліў ёй раней вядзьмак Язэп, стаяла напагатове. Іскрына Клопава даліла туды яшчэ з памыйнага вядра і скіравала да дзвярэй.

Асцярожна яна наблізілася ўсутыч, рыўком адчыніла дзверы, убачыла перад сабой два незадаволеныя твары і выпляснула ў іх з пасудзіны.

Зняважаныя наведвальнікі – а гэта былі армяне, якія прыехалі да Клопава спаганяць грошы, – усчалі дзікі крык і гвалт, але знаходлівая гаспадыня паспела зачыніцца.

– Дэньгі давай! Давай дэньгі! – крычалі раз’юшаныя армяне. – Тысячу долараў!

Яны паімкнуліся былі пералезці на падворак, але плот быў высокі, а гаспадыня ўжыла яшчэ і швабру, моцна торкнуўшы ёй па ўчэпістых пальцах.

Праз нейкі час армяне сцішыліся і з’ехалі.

***

Паэт Хвалееў, на мянушку Гліст, што не прапускаў ніводнага мерапрыемства, на якім заўсёды, завываючы пад Еўтушэнку, чытаў свой верш, як толькі дазнаўся пра шэсце сяброў ЛГБТ, то адразу вырашыў выступіць і перад прадстаўнікамі сексуальных меншасцей. Зранку ён старанна пагаліўся; нягледзячы на спёку, апрануў касцюм і пайшоў да месца збору на плошчу, побач быў і будынак РАУС, пешшу праз пешаходны мост, бо спадзяваўся па дарозе запісаць у блакнот некалькі рыфмаў.

Перадусім, увечары, Хвалееў глядзеў па тэлебачанні амерыканскі мастацкі фільм, у якім расказвалася пра гея, захварэўшага праз палавую сувязь на СНІД і якога з гэтай нагоды незаконна звальняюць з працы дрэнныя белыя дзядзькі – уладальнікі кампаніі. Але за гея заступіліся добрыя адвакаты, змусілі не толькі аднавіць таго на ранейшую пасаду, але і выплаціць 3 мільёны кампенсацыі за маральную шкоду. У фінале гей паміраў, ачолены сябрамі і калегамі, усе плакалі, асабліва ягоны бой-фрэнд.

Хвалееў, які некалькі тыдняў таму ўладкаваў дачку ў Амерыку, вельмі расчуліўся і вырашыў схадзіць назаўтра на шэсце

ЛГБТ, дзе прачытаць верш у падтрымку сексменшасцей.

Але на мосце, прама пасярэдзіне, яго пераняли двое мужчын і дзве жанчыны гадоў 30–40 і з прабачэннямі спыталі, куды далёка ён ідзе і ці ведае ён пра Бога і слова боскае? “Ведаю, – адказаў Хвалееў. – Але цяпер я спяшаюся, бо іду на шэсце сексуальных меншасцей”.

Пачуўшы такі адказ, яго адразу схапілі за рукі, моцна сціснулі з усіх бакоў і спыталі, як даўно ён заграз у брыдкім граху і ці не жадае ён пакаяцца і ачысціца ад мярзоцця прама зараз?

Паэт Хвалееў засмуціўся. Ён раптам здагадаўся, што пераняли яго сябры рэлігійнай суполкі “Сведкі Іеговы” і што абмінуць іх будзе вельмі цяжка. Цалкам магчыма, што яго затрымаюць надоўга, – і тады дзень і выступ з вершам увогуле прападуць дарэмна.

– Мы пачытаем вам з Бібліі, – між тым, лагодна сказаў адзін з іегавістаў, – слухайце ўважліва.

Ён апантанна ўзняў вочы ў неба і кіўнуў жанчыне. Тая імгненна разгарнула святую кнігу, якую дагэтуль трымала напагатоў і пачала чытаць пра Садом і Гамору.

Паэт Хвалееў тужліва слухаў. Спрачацца і вырывацца з цупкіх рук не мела сэнсу, як раптам убачыў некалькіх коратка стрыжаных, сур’ёзных з выгляду хлопцаў, што ішлі праз мост у адну з ім дарогу.

Як яны наблізіліся, Хвалееў ірвануўся з трымаўшых яго рук і гучна звярнуўся да маладзёнаў:

– Дапамажыце! – папрасіў ён. – Я ішоў на шэсце, а мяне гвалтам затрымалі і не пускаюць

– На якое шэсце? – спыніліся і пацікавіліся хлопцы.

Тут іегавісты патлумачылі ім, што грамадзянін – вялікі грэшнік, бо ідзе на парад ЛГБТ, і з ім варта правесці ачышчальную гутарку.

Маладзёны красамоўна перакінуліся позіркамі.

– Дык ты сабраўся на шэсце сексменшасцей? – спыталі яны ў Хвалеева.

– Так, – шчыра адказаў той.

– А Жужу ты бачыў? Дзе ён зараз?

– У мяне была Жужу – смаленская балонка, гэта парода такая. Сабачка, на жаль, памёр.

– Ты што нам гоніш, педык? – нядобра паглядзеў у вочы

Хвалееву адзін з маладзёнаў, – плячысты, з квадратным тварам і вельмі падобны на чэмпіёна па баях без правіл Дацыка.

– А плаваць умееш? – спытаў другі маладзён.

– Не, – зманіў паэт.

– Дык навучышся!

Тут сур'ёзныя хлопцы схапілі паэта Хвалеева за рукі і ногі, раскачалі ў паветры і з гіканнем перакінулі праз парэнчы ў каламутную плынь.

***

І вось урэшце надышоў той час ікс, якога так не жадаў падпалкоўнік Праўдун. Перадусім ён амаль не спаў усю ноч, а раніцай адразу загадаў жонцы:

– Нясі мне спадніцу і парык.

– Гэта яшчэ навошта? – не зразумела тая.

– Буду апранаць, – цвёрда сказаў начальнік РАУС.

Жонка анямела.

– Дрэнна чуеш? – спытаў Праўдун. – Дык хутчэй, бо мне на працу.

– Яўменушка! – ласкава назвала мужа па імені жонка, – ты і так шмат працаваў, я зараз участковага тэрапеўта на дом выклікаю, ён цябе агледзіць…

– Маўчы, дурніца! – незалюбіў той. – Спадніцу мне і парык! У мяне аператыўнае мерапрыемства.

– Мо, я да псіхатэрапеўта тады датэлефануюся, – рахмана прапанавала жонка.

– Выконваць загад! – раўнуў Праўдун. – Не абмяркоўваць!

Але апрануцца, як раней меркаваў Праўдун, было не так проста. Ён неяк накінуў на галаву жончын парык, але ж да яго зусім не пасавалі вусы, спадніца таксама не ўяўляла аніякай гармоніі з валасатымі нагамі і службовымі чаравікамі. Начальнік РАУС плюнуў і вырашыў, што пойдзе так, а жаночую вопратку возьме з сабой на ўсялякі выпадак.

Перадусім ён загадаў асабоваму складу прымаць удзел у шэсці кожнаму, але той, хто прывядзе замест сябе сапраўднага сябра ЛГБТ ці якога прытворшчыка, то, вядома, можа быць вольным ад аперацыі "Гей" і мусіць займацца непасрэднымі службовымі справамі.

На плошчы побач з РАУС ужо тоўпіліся легкадумна апранутыя маладыя і сталага веку мужчыны і жанчыны, якіх міліцыянты прывялі замест сябе для ўдзелу ў аперацыі. Большасць з

іх, меркаваў начальнік, былі інфарматары і агенты.

Праўдун са здзіўленнем убачыў сярод стракатага натоўпу настаўніка Клопава і начальніка райаддзела адукацыі Свіньіну.

Усё ішло нібыта ў належным накірунку: лунаў ужо вясёлкавы сцяг, абдымаліся з хіхіканнем нейкая парачка маладзёнаў і кабет, збоку здымаў іх на відэакамеру штатны аператар.

“Мала людзей”, – падумаў начальнік РАУС і ўбачыў, як да яго скіроўваюць абодва Клопавы і Свіньіна. “Можа, і яны?” – мільганула ў галаве ў Праўдуна, але яго падазрэнні зніклі, бо Епіфаній Клопаў адразу пачаў прамаўляць сваю скаргу на ашуканцаў-армян і прасіць адабраць у іх свае дакументы і распіску на тысячу долараў.

Іскрына Клопава імпэтна паімкнулася падтрымаць мужа, раскрыла рот, але вымавіла толькі зусім незразумелае:

– Защищающаясящася…

Пасля чаго заціснула рот рукой і адбегла ўбок.

Начальнік РАУС не зразумеў, але нецярпліва параіў ім напісаць заяву і перадаць дзяжурнаму. Падбегла і загадчыца “райана” Акцябрына Свіньіна, пачала была нешта тлумачыць. Праўдун пачуў толькі адно слова:

– Ощущающаясящася…

Начальнік РАУС адмахнуўся ад жанчын, нібы ад надакучлівых восеньскіх мух. “Потым, потым разбярэмся”, – паабяцаў ён, але раптам яму прыйшла нечаканая думка, і ён затрымаў Клопава.

– Зойдзем ў аддзел, у кабінет, – прапанаваў ён.

У кабінеце начальнік РАУС спытаў у Клопава, ці добра той ведае гісторыю. Пачуўшы ў адказ, што добра, ён папстрыкаў пальцамі па стале і раптам спытаў:

– А ці праўда, быццам першым дэкрэтам савецкай улады быў дэкрэт аб легалізацыі гомасексуальных адносін?

Епіфаній Клопаў спалохаўся.

– Такога не магло быць, – урэшце сказаў ён. – Гэта бэнэфаўскі паклёп.

– Але ж у газеце напісалі, значыць магло. Ды няхай. Я ведаю, што вы супрацоўнічаеце з цэнтральнай бібліятэкай і што ў ёй вось-вось будзе арганізаваны святочны касцюміраваны баль у гонар дзеяча культуры Кураедава, і што з гэтай нагоды ў атэлье пашылі шмат касцюмаў таго часу, у прыватнасці жаночых сукенак і спадніц. Так ці не?

– Так.

– Вось. У нас тут неўзабаве адбудзецца аператыўнае мерапрыемства і нам патрэбная жаночая вопратка, дык ці не пазычаць нам яе супрацоўнікі бібліятэкі? Бо ў нас такой вопраткі не хапае. Вы пасадзейнічалі б, а мы вашу справу хутчэй разгледзім.

– Згода, – адразу паабяцаў Клопаў.

Праз хвіліну міліцэйская машына ўжо везла яго ў “кураедаўку”.

***

З кіламетр за пешаходным мостам двое вудароў сталага веку моўчкі адсочвалі ў рэчцы свае вуды, зрэдку закідваючыся ўгору з бутэлькай самаробнай, нібы астраномы.

Адчувальна прыпарвала. Тлустыя мухі раз-пораз атакоўвалі некалькі верхаводак, што ляжалі ў траве – увесь іх рыбацкі набытак з раніцы.

– Зірні, нешта плыве, – раптам заўважыў адзін з іх.

– Нехта, бачыш, варушыцца.

– Бабёр, можа? Развялося, падлаў. Усю рыбу паелі.

– Бабры бярвенні ядуць, а не рыбу.

– Дык, можа, бервяно плыве?

– Хутчэй, сом.

– Самы – тоўстыя, а гэты – як чарвяк, дык глядзі – чалавек жа, толькі ў касцюме. Дзіўна.

Тут вудары замахалі рукамі, закрычалі, каб плыў далей, бо распужае рыбу, але чалавек – а гэта быў паэт Хвалееў – ужо руліў да берага.

У яго нават шпульнулі пустой бутэлькай ад самаробнай, але Хвалееў упарта дасягнуў водмелі і вылез з вады.

– Што ты, як кловун, у касцюме плаваеш? – незадаволена спытаў у Хвалеева адзін з вудароў.

– Я ніякі не кловун, а паэт Вальдэмар Хвалееў – намінант на Нобелеўскую прэмію па літаратуры, між іншым. – Тут Хвалееў пачаў выціскаць з сябе ваду, але чаравікі і касцюма не здымаў.

Вудары адразу запыталі, калі паэт атрымае прэмію і ці не дапамагчы яму ў гэтым нейкім чынам прама зараз.

На гэта паэт патлумачыў, што на прэмію яго пакуль што толькі вылучылі: калектыў бібліятэкі імя Мітрафана Кураедава і сталічны Пэн-цэнтр. А паўгадзіны таму яго скінулі з моста ў ра-

ку злыя і зайдрослівыя, бандыцкага выгляду маладзёны ўльтраправых поглядаў.

Тут Хвалееў выцягнуў з кішэні мабільнік і пачаў тэлефанаваць у міліцыю, адразу начальніку, якога ведаў асабіста, але мабільнік неяк ціха віскнуў і змоўк, бо, вядома, прамок.

Вудары, якія ўжо страцілі да яго цікавасць, мабільнікаў не мелі і параілі паэту звярнуцца да маладой парачкі, якая адпачывала непадалёк, як яны заўважылі, за кустамі вербалозу.

Сапраўды, на траўцы за кустамі ляжалі, абняўшыся, мажны хлопец у баксёрскіх майтках і дзяўчына без станіка, але ў стрынгах.

– Те чё трэба, абсос? – няветліва спытаў паэта маладзён.

– Мне бы мабільніка, у міліцыю тэлефанаваць, – лісліва папрасіў Хвалееў. – І я ніякі не абсос, а паэт. Мяне скінулі з моста.

– А ...льніка не хочаш? – зароў мажны маладзён і пачаў узнімацца з травы.

Дзяўчына захіхікала.

Тут паэт Вальдэмар Хвалееў абачліва адскочыў падалей і пабег па зарослых каляінах да шашы, бо маладзён меў яўны намер яго дагнаць. У чаравіках хлюпала вада, нагавіцы ліплі да сцёгнаў, але Хвалееў бег даволі шпарка.

Неўзабаве няветлівы маладзён спыніўся і скіраваў назад, да сяброўкі.

Хвалееў аддыхаўся.

“У міліцыю”, – цвёрда вырашыў ён.

***

Аперацыя ”Гей” пачалася.

Падрыхтаваліся да шэсця і бэнээфаўцы, а таксама правыя радыкалы, скінхэды і анархісты. Апошнія набралі на рынку ў гандляроў-армян гнілых памідораў, а ў саўгасным ралеце пратэрмінаваных сырых яек, і ўсё гэта прынеслі на месца збору прадстаўнікоў сексуальных меншасцей. З’явіліся туды ж запрошаныя рэдактарка і аператар з мясцовага тэлебачання “Лабідутэл” і пачалі здымаць удзельнікаў шэсця ды браць інтэрв’ю ў выпадковых мінакоў.

З “кураедаўкі” і гарадскога Палаца культуры ўжо вярнуліся міліцыянты з жаночай вопраткай, пашытай на баль, прычым некалькі чалавек мужчынскага полу, працаўнікоў культуры,

аказаліся апранутымі ў сукенкі і спадніцы. Патлумачылі яны гэта тым, што так будуць выглядаць падчас балю, але самі выглядалі вельмі падазрона. Сярод іх, на здзіўленне Праўдуна, выдзяляўся настаўнік Клопаў, бо на ім цяпер быў мундзір фельдмаршала Кутузава, адно вока закрывала чорная стужка, а на галаве прыляпіўся парык. Клопаў патлумачыў, што ў гэтым мундзіры ён павінен быць на свяце ў гонар Мітрафана Кураедава, дык цяпер хіба што ўваходзіць у ролю, але вельмі засмуціўся, калі нейкі незнаёмы яму маладзён у жаночым строі ласкава паляпаў па спіне і ніжэй і сказаў, што расейскі фельдмаршал быў геем, але пра гэта не гавораць з вядомых прычын.

Між тым, супрацоўнікі “Лабідутэл” бралі інтэрв’ю ў вядомага паэта Хвалеева. Той ужо паспеў напісаць у міліцыю заяву, крыху абсохнуць на скварным сонцы і таму цалкам упэўнена прадэкламаваў у камеру свой верш, які быў ім спецыяльна падрыхтаваны да маючага адбыцца шэсця.

Ён самотны між людзей,
Ды сумленне не муляе,
Бо ён выбраны, ён – гей,
І над ім вясёлка ззяе…

Такімі ўзнёслымі рыфмаванымі словамі, пад даволі вадкія апладысменты, скончыў ён свой выступ, але тут у лоб яму нешта ляснула, ён памацаў рукой і пабачыў, што гэта пратухлае яйка, якое пацякло па твары. Пачуўся рогат.

Хвалееў адразу схаваўся за нейкага амапаўца, бо імгненна сцяміў, што ў таго наўрад ці будуць нешта кідаць, ды той чамусьці адпіхнуў паэта ўбок.

Рогат узмацніўся. У небагатую купку геяў, лесбіянак, бісексуалаў і трансвестытаў, большасць з якіх былі пераапранутыя інфарматары і агенты, паляцела яшчэ і некалькі гнілых памідораў.

***

У гэты час настаўнік Клопаў пачаў шукаць жонку Іскрыну, каб пахваліцца сваім фельдмаршальскім мундзірам, але нідзе ні яе, ні сяброўку жонкі Акцябрыну не пабачыў. Урэшце нехта падказаў яму, што чуў, быццам жанчыны скіравалі ў паліклінніку да лагапеда. Пакутваючы ад сумневу накшталт пачутага пра фельдмаршала Кутузава, Клопаў, хоць асабліва і не надаў гэтаму значэння, але вырашыў зняць з сябе шыкоўны

мундзір і апранууца, як быў. З гэтай мэтай ён пакрочыў у невялічкі скверык побач за плошчай, дзе за дэкаратыўным кустоўем пачаў сцягваць з сябе кіцель з аксельбантамі і парык. Але не здолеў, бо яго абхапілі за плечы, заціснулі рот анучай і пацягнулі да асфальта. Там ўжо чакалі "жыгулі" крэмавага колеру. Нападнікі – трое армян – упіхнулі Клопава ў аўто. Ён адразу пазнаў іх і затрымцеў ад страху.

Аўто кранулася з месца, настаўніку завязалі другое вока, бо на адным яшчэ трымалася чорная "кутузаўская" стужка, і павезлі ў невядомым накірунку.

***

Шэсце працягвалася. Асобнай купкай рухаліся збоку скінхэды і анархісты, свідруючы вачыма дэманстрантаў са сцягам-вясёлкай. Шукалі Жужу, але, здавалася, таго не было. Урэшце кагосьці з іх напаткала думка, што Жужу тут, але зашыфраваўся пад выглядам звычайнага лузера. Падазрэнне адразу выклікаў маладзён у бейсболцы і сонцаахоўных акулярах, які неяк дзіўна крывіў дробны, жанчынападобны тварык, торгаў губамі, быццам прыцмокваў над нечым смачным, і ўвогуле нагадваў хаўтурніка.

Самы малодшы са скінаў наблізіўся да маладзёна, схапіў таго за крысо пінжака, адцягнуў крыху ў бок, да сваіх, і спытаў абы што:

– Закурыць ёсць?

– Я не куру, – скрывіўся той.

– Ты хто такі? – пацікавіліся тады ў яго. – Гей? Трансвестыт? Можа, ты – Жужу? Змяніў пол?

Маладзён зрабіў выгляд, нібы пакрыўдзіўся.

– Я літаратар Мазубкін, прадстаўнік партыі "Чырвоны свет", – прадставіўся той.

– А чаму ў цябе вочы бегаюць, нібы ты курэй краў?

– Я не краў. Адзін раз было, даўно, яшчэ ў дзяцінстве. Я, між іншым, камуніст.

– Ды не, гэта не Жужу, – аўтарытэтна сказаў, наблізіўшыся да іх, скінхэд са старэйшых. – А чаму ты з імі, дарэчы? – ён кіўнуў на шэсце.

– Мяне партыя паслала. Я жыццё вывучаю.

Але Мазубкін крывіў душой. Больш за ўсё яму хацелася, аж свярбела, распранууца зусім, нават майткі скінуць, і так ісці

праз натоўп і каб усе глядзелі на яго.

Стрымліваў гэтае жаданне толькі ўспамін пра крымінальную адказнасць.

– Зараз праверым. Вунь паэт ідзе, нейкі пакамячаны, верш чытаў. Ведаеш яго?

– Чаму ж не? Ведаю выдатна.

І Мазубкін паклікаў таго, замахаў рукамі.

Паэт Хвалееў хацеў было ўжо скіраваць да Мазубкіна, з якім быў знаёмы, але раптам убачыў побач з ім тых самых сур'ёзных хлопцаў, якія скінулі яго з моста, моцна спалохаўся і пабег спачатку на другі бок вуліцы, а потым па нейкіх завуголлях падалей ад шэсця. "Дадому", – трымцела ў галаве.

У гэты момант да шэсця раптоўна далучылася парачка невядомых феміністак, якія скінулі з сябе станікі і затрэслі аголенымі цыцкамі. Маладыя пэтэвушнікі і зухаватыя гопнікі з натоўпу адабральна зараўлі і гучна прапанавалі ім здымаць астатнюю вопратку.

– Другім разам, – гулліва абяцалі ім феміністкі.

– Шэсце рухалася далей. З бакоў яго ахоўвалі некалькі амапаўцаў, бо частцы разявак і проста гледачоў у ім шмат чаго не падабалася: дзіўнага выгляду хлопец з "танэлямі" ў вушах, яго сябрук з бруднымі "дрэдамі" на невялікай галоўцы, яшчэ нейкія дураплясы ў шортах, якія ўвесь час узбрыквалі тонкімі нагамі пад незразумелую музыку са сваіх смартфонаў. Апошнія далучыліся да шэсця літаральна ніадкуль. Наперадзе параненйшаму лунаў вясёлкавы сцяг.

Двое старых – з тых, хто выйшаў паназіраць за тым, што адбываецца, спрачаліся паміж сабой, якой дзяржавы ён, той сцяг, належыць. Сышліся на тым, што М'янме.

Між тым, псеўдагеі, сярод якіх было шмат пераапранутых агентаў і інфарматараў, паступова разбягаліся, давалі нырца ў пад'езды ці хаваліся за дэкаратыўнымі кустамі, бо ў іх ляцелі пратухлыя яйкі і гнілыя памідоры.

Дольш за ўсіх трымаўся ініцыятыўнік Пеця, якога ўпадабалі два натуральныя гомасексуалы і ўшчыкнулі за азадак. Пеця не стрываў і заехаў аднаму з іх поўху. Пачынаўся вэрхал.

Якраз у гэты час начальніку РАУС далажылі, што шэсце заснята на відэакамеры і да таго ж прадубліравана мясцовым тэлебачаннем "Лабідутэл". Усё адзнятае скіравана ў сталіцу, каб прад'явіць дэлегатам з Міжнароднага валютнага фонду.

Праўдун аддаў загад на “адбой”. Амапаўцы адразу з’ехалі назад у райаддзел. Пачалася паніка, бо ганебны сцяг коратка стрыжаныя хлопцы затапталі ў бруд, завішчэлі феміністкі, якіх нахабна пацягнулі ў кусты гопнікі, некалькі натуральных геяў з крыкамі “ратуйце ад нацыкаў!”, “бэнээфаўцы!” кінуліся ўцякаць. Частка з іх схавалася ў “кураедаўцы”, адкуль яны ўжо тэлефанавалі ў Брусэль да Жужу, каб спытаць у таго, што ім рабіць.

Сябра камуністычнай партыі, літаратар Мазубкін, як латэнтны эксгібіцыяніст, скарыстаўся момантам, скінуў нагавіцы і выявіў сябе такім чынам запалоханым феміністкам, за якімі дагэтуль назіраў з-за кустоў. Тыя спалохаліся яшчэ больш, але нехта па мабільніку паведаміў у аддзел – і Мазубкіна схапілі на гарачым.

Крыху пазней прыйшла вестка з Брусэлю ад Жужу і яго аднадумцаў. Яны паведамілі, што Жужу ў знак пратэсту і салідарнасці з геямі на былой радзіме распрануўся дагала, наблізіўся да роднай амбасады і прыбіў іржавым цвіком да драўлянай агароджы свае геніталіі.

***

Як толькі ачуняў, настаўнік Клопаў пабачыў, што сядзіць у глыбокім, спружыністым і брудным крэсле ў даволі вялікім хлеве, большую, загароджаную, частку якога займала шмат свінняў. Адтуль чулася рохканне і наплываў характэрны пах. Клопаў мусіў падхапіцца на ногі, але яны аказаліся прывязанымі ланцугом да крэсла.

Якраз у гэты момант у хлеў увайшоў моцнага целаскладу дзяцюк, з нядобрымі вочкамі, у цяльняшцы і з характэрнымі тату на руках і плячах.

– Ну, што – змей? – спытаў ён Клопава. – Не чакаў кулю? Як настрой?

– Дзе я? Хто вы такі? – залямантаваў настаўнік.

– Ды ты не парся, я цябе не пакрыўджу. Я “іпэшнік”, фермер. Клічуць тут – Барын. Бразготка такая. Купіў цябе за тысячу долараў, якія ты быў вінен добрым, паважаным людзям. Адпрацуеш з год – адпушчу з Богам. Будзеш пакуль карміць свінняў раніцай і вечарам. Толькі ўсяго. Уцёкі – нават не плануй, бо ў мяне ўсё схоплена. Ланцуг здыму. Дарэчы, фрэнч твой з аксельбантамі і зоркамі на грудзях я вельмі ўпадабаў і буду

апранаць на святы, калі ты, вядома, не супраць.

Клопаў заплюшчыў вочы. “Я сплю”, – падумаў ён.

***

У гэты час у рэспубліканскай псіханеўралагічнай бальніцы дзяжурны псіхіятр, мажны, з лысай, як більярдны шар, галавой прымаў па чарзе двух жанчын, якіх прывезлі з райцэнтра Лабідудава. Абедзьвух забралі на “хуткай” з кабінета гарадскога лагапеда, куды яны трапілі на прыём і дзе скардзіліся на раптоўныя парушэнні артыкуляцыі.

Першай ён выслухаў начальніка райаддзела аддзела адукацыі Свіньіну, якая некалькі раз імкнулася сказаць яму нешта важнае, але вымаўляла адно і тое ж:

– Ощущающаясящася…

Здагадлівы лекар падсунуў ёй ліст паперы, і тая падрабязна напісала яму на расейскай мове, што пасля таго як, пабываўшы на Месяцы, амерыканскі астранаўт, палкоўнік Джон Сміт, які абяцаў з ёй ажаніцца, праз нігерыйца М’бобо ашукаў яе на 5 тысяч долараў, яна з сяброўкай Іскрынай паехалі за дапамогай да ведзьмака Язэпа, які аказаўся бэнээфаўскім шпіёнам і зламысна загіпнатызываў яе і сяброўку, пасля чаго яны згубілі здольнасць нармальна размаўляць.

Лекар пачытаў і спагадліва сказаў, што ўсё будзе добра і Джон Сміт, можа, на днях прыедзе прама сюды. Толькі варта дарагой Акцябрыне пачакаць у палаце некалькі дзён.

Пасля таго як Свіньіну адвялі ў палату, лекар напісаў дыягназ, у якім узгадаў вострую форму маніякальна-дэпрэсіўнага псіхозу і прызначыў пачатковы курс лекаў.

Адразу за ёй у кабінет з дапамогай санітараў запрасілі Іскрыну Клопаву, настаўніцу рускай мовы і літаратуры.

Лекар амаль не здзівіўся, калі тая бокам, нібы сарока, падскочыла да яго і абвесціла нешта незразумелае:

– Защищающаясящася…

Ён спрытна ўручыў усхваляванай жанчыне асадку, паперу і прапанаваў пісьмова выкласці ўсё, што з ёй здарылася.

Іскрына Клопава адразу прынялася пісаць. Яна шчыра паведаміла, што разам з мужам, Епіфаніем Клопавым, знайшла пад ганкам бандэраўскі падклад, але сурокі, пэўна, ужо дзейнічалі, бо мужа пабілі і абрабавалі на тысячу долараў асобы каўказскай нацыянальнасці, а дачка Сняжана паведаміла ёй,

быццам здолее дыхаць толькі тым паветрам, якім дыхае расейская зорка Сяргей Звераў, і таму збіраецца ў Маскву. Дык яна, Клопава, з сяброўкай Акцябрынай звярнулася па дапамогу да знахара Язэпа, які аказаўся агентам ЦРУ і праз чорную магію і гіпноз пазбавіў яе здольнасці размаўляць аб прыгожасці вялікай і магутнай расейскай мовы.

На ўсё гэта лекар, доўга не раздумваючы, напісаў на картцы хворай аналагічны дыягназ (МДП) і скіраваў жанчыну Клопаву ў палату да іншых пацыентаў.

***

Скварны тыдзень, між тым, падыходзіў да скону.

Да пачатку новага семестра з'явіўся ў горадзе і студэнт М'бобо з далёкай Нігерыі, які адразу ўзяўся за свае любімыя заняткі: танчыць, заляцацца да мясцовых паненак і спяваць рэп.

"Усіх белых чарвякоў я лічу за дуракоў", – імправізуючы, выкрыкваў ён на сваёй мове пад рытмічны грукат барабана. Лабідудаўцы яго слоў хоць і не разумелі, але ўзнагароджвалі кожны раз гучнымі апладысментамі.

***

У далёкай, але братэрскай Маскве дачка настаўніка Клопава Сняжана з дзясяткамі прыхільніц шоўмэна Зверава штодня дзяжурыла каля пад'езда яго дома, каб пабачыць свайго куміра. На тэлебачанне для ўдзелу ў "Іконе рускага стылю" яе чамусьці не пусцілі, сукенка парвалася, бо прыхільніцы калі-нікалі біліся паміж сабой; грошы, якія дома збірала дагэтуль доўгі час, знікалі.

Урэшце нейкі ўвішны малады чалавек падышоў да яе і прапанаваў уладкавацца працаваць у масажны салон непадалёк, запэўніўшы, што яе кумір абажае хадзіць туды на масаж. Сняжана адразу згадзілася, патэлефанавала нават бацькам, каб прабачыцца за самавольны ад'езд, але ёй ніхто не адказваў.

Яна, тым не менш, была цвёрда ўпэўнена, што ўсё, што робіцца апошнім часам навокал, – робіцца да лепшага.

*Красавік, 2018 г.*

**Аляксей БЕЛЫ**

# УСЮДЫ ДОБРА, ДЗЕ ЁСЦЬ БОГ…

*Ігнату Дамейку прысвячаецца*

1

Суніцамі пахнуць паляны,
Буслы ўзлятаюць з падскокам.
Няма тут у нас акіяна,
І Анды далёка-далёка.

Бабры падразаюць асіны,
Не кожны год яблыкі ў садзе…
Але ж то наша краіна,
Айчына! І мы ёй не здрадзім!

Пры хатах і кветкі і градкі,
Пялёсткі рамонкаў, бы вейкі…
…………………………………………….
Такая ты сёння, Мядзвядка,
Радзіма Ігната Дамейкі.

Шапоча на ўзлеску калоссе,
Няма ні сядзібы, ні млына.
А што тут, скажы, засталося?..
Бюст. Памятны знак. Успаміны!

Ўспаміны… Такое багацце!
Нібы зазірнеш у акенца.
Тут недзе ў бабцінай хаце
Жыў певень у клетцы – у сенцах.

Пад столлю, дзе цені і здані,
Нібыта вялікі дарадца,
Будзіў ён усіх на світанні
І клікаў у поле, да працы.

Прастора тут елкам і вербам,
Спявае вясной салавейка.
Тут Дангелем, знакавым гербам,
Пазначаны шляхціч Дамейка.

2

Сапраўдным ён быў Чалавекам,
Таму не прапаў і не згінуў…
Так выйшла, што больш за паўвека
Не бачыў ён роднай краіны.

Было ўсё акрэслена знакам,
Які ўжо ніхто не парушыць:
Марыля ў радні, Верашчака,
Ў суродзічах іх і Касцюшка.

Тут, дома, дзе іншыя зімы,
Яго шмат чаму навучылі,
Але й на шляху да Радзімы
Усклікне пры ўсіх "Viva Chile!"

…Пакуль што яшчэ не спатканне.
Ды, сябрам юнацтва адданы,
Ён на параходзе "Брытанія"
Лісты перачытвае Зана.

3

Застаўся ў сем год тут без бацькі,
Тут маці спачыла ў спакоі…
Прыехаў. Усё добра ў хаце,
Але… Усё даўно ўжо не тое.

Чужыя ўжо лес тут і поле,
Чужыя і гора, і шчасце…
Хацелася вельмі ў касцёлік,
Дзе браў у дзяцінстве прычасце,

Дзе біў у юнацтве паклоны,
Маліўся з раднёю ў храме.
Тут армію Напалеона
Калісьці вітаў ён з сябрамі!

Аб гэтым узгадваў у Чылі.
Ды моцна замкнёныя дзверы…
Яго ў Божы храм не пусцілі:
Сялілі там іншую веру.

Такія вялікія страты
Тут, дзе ён змагаўся за волю:
З былых халуёў памагаты
Ключ храмны ўзяць не дазволіў.

Выходзіла сумным спатканне.
І, стаўшы без слоў на калені,
Зямлю ля касцёльных каменняў
Цалуе вялікі выгнаннік.

4

…Хапала тут птушак і рыбы,
І час быў адчайна-вясёлым!
Адгэтуль, ад роднай сядзібы,
Ён едзе ў піярскую школу.

Яшчэ не падлеткі, а дзеці,
Яшчэ не сярод інсургентаў.
У Вільні ва ўніверсітэце
Ён – між самых юных студэнтаў.

Вучыўся з вялікай ахвотай,
Каб вечнае й добрае сеяць.
У "Саюзе сяброў" ён з Чачотам,
Адам разам з імі, Міцкевіч.

І фізік ён, і матэматык,
Філосафам  – больш чым таварыш.
Ён з імі сярод філаматаў,
Таму й не забавіўся арышт.

З сябрамі пазбаўлены волі
У манастыры базыльянаў.
Прысуд і ўтрыманне ў Заполлі,
Дзе перакладаў Асіяна.

5

… Паўстанне – нібыта рака,
Каня хлопец мае і зброю.
Яго ад'ютантам палка
Прызначылі гэткай парою.

Яшчэ малады, хоць не юны,
Напіша ён, выйшаўшы з пушчы,
Нібы "…варухнуліся ў трунах
Баторый, Ян Трэці, Касцюшка…"

Хацелася лепшае долі,
Хоць стаў небяспечным іх пошук.
І быў для паўстаўшых паролем
Французскіх часоў медны грошык.

Пазней  – і Парыж. І экватар,
А сёння, узняўшы малітву,
Ён разам з Эміліяй Плятар,
З Міцкевічам поруч у бітвах.

Ваяр, афіцэр, чысты крэмень,
(Такія і сёння тут трэба)…
Дзядок цалаваў яго стрэмя,
Ўздымаючы рукі да неба.

Чужыя сцягі – на траву.
І рвалі паўстанцы з пагардай
У царскіх арлоў галаву —
Адну!—з іх імперскіх какардаў!

Стаялі на плошчах шыхтамі,
У храме згіналі калені,
Але… Не ўстаяла паўстанне.
І боль, і адчай, і сумненні.

І, сцяўшы збялелыя вусны,
Хаця і не страціўшы веры,
Яны адступілі у прусы
Пад пільным наглядам ландвераў.

Іх стомленых коней падковы
Тапталі чужую траву,
І мытнік, спытаўшыся ”Хто вы?”,
Прад імі схіляў галаву.

Здаецца, прымалі няблага,
Але вымагаюць іх швабы
Радзіму забыць і прысягу,
І болей не брацца за шаблі.

Забыць, пра што марылі летась,
Аддаць ім і коней, і лейцы,
Інакш – у бліжэйшую крэпасць
Альбо на расправу расейцам.

З усім развітацца, што маюць, –
Ніякіх  паблажак і зніжак…

І разам з Адамам прымаюць
Рашэнне – наўпрост да Парыжу!

Дзянькоў там хапала вясёлых,
Ліцвінаў там шмат і палякаў.
Ды там і горная школа,
Якую ён скончыць з адзнакай!

6

…Не будзе ўжо болей пакутаў.
А будуць і штормы і рыфы,
І ветразі, добра надзьмутыя.
Мадэйра, пасля Тэнерыфе.

Далёка паўстання віхуры,
Страмёны ў мінулым і шпоры…
А ў моры – страшэнныя буры,
Нясе карабель, нібы ў прорву!

Тут вецер нахабны і горкі,
Бушпрыт зарываецца ў пену.
І страшна рыпяць пераборкі,
І смерць можа стацца імгненнай.

Няпростым быў шлях карабля,
Гайдала, нібыта з пахмелля.
І покліч матроса “Зямля!”
Узрадаваў  і падвяселіў.

7

Марскія скарыліся мілі,
І вось цішыня вузкіх вулак…
Сустрэла Рэспубліка Чылі,
І працу дала і прытулак.

Вандроўнік крутога памолу,
Спрыяе ў Какімба ён людзям
І вучыць студэнтаў вясёлых…
(Праз год там прафесарам будзе!)

Усяго трыццаць шэсць яго веку.
Заўсёды з калегамі ў згодзе,
Даследуе і вынаходзіць,
І ладзіць там бібліятэку.

Прытрымліваецца традыцый
Пакуль незнаёмага краю,
І крочыць у экспедыцыі,
І мінералы збірае.

І ўсё, чаму добра вучылі
У Шчучыне, Вільні, Парыжы,
Ён тут пакідае, у Чылі –
На нітку, бы пацеркі, ніжа.

Ён здзейсніць паспеў мноства планаў
І меў пэўны час на малітву.
Пісаў пра жыццё араўканаў,
Штодзённы іх побыт і бітвы.

Чылійскае доўгае лета
У працы праводзіў аддана…
Ён – рэктар універсітэта,
(Чатыры разы быў абраны!)

У краі, што ў сіняй аправе,
Хадзіў ён з нялёгкай паклажай,
Чылійцаў вучыў горнай справе
І метэаслужбу наладжваў.

Геолаг ён і мінеролаг,
Даследаваў горныя нетры,

Там срэбра знайшоў і салетру.
І кніжкі яго ўжо ў школах.

Хоць звык ён у справе старацца,
Не дбаючы моцна аб славе,
Ды ўжо навуковыя працы
І ў Кракаве меў, і ў Варшаве.

У самым куточку найдальнім,
Дзе буры між скалаў спяваюць,
Плануе ён шахты, капальні –
У іх золата й медзь здабываюць.

Дню кожнаму новаму рады,
Не ведаў сумненняў і страху.
І бачыў ён цуд вадаспаду,
Экзотыку Сальта-дэ-ля Ляха!

Там рэкі з падвойнаю назвай,
Жаноцкі характар там палкі…
Да нас, хай сабе не адразу,
Прывезлі адтуль і трускалкі.

Паўдзённага Крыжа там зоры
І столькі загадкавых сноў!
І там Энрыкета падорыць
Яму і дачку, і сыноў!

З краіны ён іншай і эры –
Працяў кіламетры і мілі,
Бо моц вымяраў па намеры,
А не каб намеры – па сіле.

А выбраўшыся ў дарогу,
Каб ісціны вышняй спазнаці,
Нязменна ён моліцца Богу,
Укленчвае перад распяццем.

Ішлі за вярстою вярста,
І ў храме, дзе лікі святыя,
Ён статую ўбачыць Хрыста
“...З цярновай каронай на шыі”.

Жыў гэты народ без спакус,
Тут не замыкаліся дзверы.
Дамы разбурыў землятрус,
А храм Бог аддаў тым, хто верыць...

8

... Хапала ў жыцці ўсяго,
Меў радасць вышэйшае пробы...
А дзень пахавання яго
У Чылі стаў часам жалобы.

Званы цішыню рвалі ўшчэнт,
Вайскоўцы праходзілі строем.
Яго абвясціў прэзідэнт
Там – нацыянальным героем!

Праславіўся ён на ўвесь свет
І шмат дзе ў бронзе адліты.
Імя носіць горны хрыбет,
Завуць мінерал дамейкітам,

І ў кветкавым атласе ёсць
Віёла дамейкіяна...
Яму і тутэйшы, і госць
Пакланяцца шчыра, старанна.

На гэтай прыгожай зямлі,
Што сонцам ласкавым сагрэта.
Імя яго ўжо набылі
Мястэчка, пасёлак, планета.

Там вуліцы праляглі,
Паўсталі ўніверсітэты.

9

Ён вечнае й добрае сеяў,
Калі што рабіў – то з ахвотай.
У “Дзядах” услаўляе Міцкевіч
Яго пад мянушкай “Жэгота”.

Ён край свой у сэрцы збярог,
Дзе блізкія ў родавым склепе,
І скажа на ўзмежку дарог,
Што добра ўсюды, дзе Бог,
Ды *тут* з Ім найлепей…

10

Ён быў дзвюм радзімам адданы,
І бачыў  і хвалі, і вежы,
І срэбраны шчыт з герба Дангель
Пранёс праз жыццё як належыць.

Спазнаў ён і сум, і каханне,
І непадуладны быў року.
І век свой пражыў з адчуваннем,
Што шабля  – пры боку.

Ліпень 2017

**Анатоль БРУСЭВІЧ**

# К Р Ы Л Ы

(паэма)

Думаў, буду як вецер –
Заўсёды юным, вясёлым,
Светлавалосым дэндзі
З вачыма колеру колы.

Думаў, буду як неба –
Заўсёды мудрым і шчырым:
Пясок змыю залевай,
Раллю снягамі накрыю.

Думаў, буду як рэха
Заўсёды ўсім адгукацца:
На смех – гэткім жа смехам,
На трэнас – вусцішным плачам.

Праўда, пакуль я думаў,
Сусвету шалі шалелі –
Людцаў гушкалі тлумы,
Не горш за тыя арэлі.

Гушкалі аж пад зоры
На радасць рэху і ветру,
На страшную злосць хворым
Хваробай зорнай паэтам.

Гушкалі і крычалі:
“Далоў гармоніі путы!

Волю сусветным шалям!
Нябёсы – простаму люду!”

Аб крык гэты шалёны
Ушчэнт разбіліся цені
Тых маўклівых мільёнаў,
Што гушкацца не хацелі.

А ўсё таму, што мільёнам
Глухіх і сляпых паяцаў
Раптам стрэльнула ў голаў
Людзьмі сур’ёзнымі звацца.

Стрэльнула: рыкашэтам
Прабіла ў нябёсах дзірку
На злосць рэху і ветру,
На радасць анёлам дзікім.

Сталі ўцякаць анёлы
З аблокаў праз дзірку тую,
Бо ўсім хочацца волі,
А пер’е не ўсім пасуе.

Кожны з іх быў цікавы
Да тых ці іншых пытанняў:
Што лепш – піва, ці кава?
Што горш – смерць, ці каханне?

Ці ёсць нейкі фарватар
Паміж бяздзействам і чынам?
Бяспечней паслаць матам
Мужчыну, альбо жанчыну?

Так на бакі чатыры
У пошуках праўды-маткі
Збеглі, кінуўшы крылы,
Толькі блішчэлі іх пяткі.

Многія дык адразу
Бягом да тутэйшых німфаў, –
Маўляў, там і адказы
Аднойдзем, і дах над німбам.

Але ж бабы-заразы
Бабах кропку над ётам:
Найперш крочым да ЗАГСу,
А дах і адказы – потым!

Адзін – самы наіўны
У ЗАГС пагадзіўся згойсаць.
Іншыя – ў рукі німбы,
І ў ногі, пакуль не позна.

Зрэшты, была нядоўгай
Радасць уцёкаў: пра гіцляў
Хутка данеслі Богу
Айцы царквы каталіцкай.

Уцекачоў вярнулі,
Нябёсы замуравалі.
А заадно і гулі
Згарнулі здурнелых шаляў.

Зрэшты, адзін застаўся
Анёл на грэшнай зямельцы –
Той, што згойсаў да ЗАГСу
Дзеля спакою на сэрцы.

Мо пра яго забылі,
А можа быў непатрэбны –
Меў кароткія крылы
І голас для спеваў дрэнны.

Так ці інакш, спісалі
На радасць рэху і ветру,

На злосць спыненых шаляў
І зайздрасць стольных паэтаў.

Праўда, часта бывае,
Тое, што небу нягожа,
На грэшнай зямлі буяе,
Цвіце і пахне бязбожна.

Там – нуль, тут значыць талент.
Анёл скарыстаўся гэтым
І стаў загадчыкам шаляў,
Пасля – дырэктарам свету.

Стаў рыхтаваць праекты
Сусветна значных загадаў:
"Аб забароне рэха
Пад час збіральніцтва ягад",

"Аб уплаце падатку
На ўсе паходы да ветру",
"Аб бясплатных асадках
Для беспартыйных паэтаў".

Вынікам тых праектаў
Сусветна значных загадаў
Сталі апладысменты
Паяцаў і шаляў маты.

Маты былы крылаты
Назваў здрадніцкай змовай.
Плясь праект: вінаватых –
У здачу металалому.

Зрэшты, хоцькі-няхоцькі
Ды толькі з кожным праектам
Могуць быць правалочкі
І форсмажорныя беды.

А пакуль лютавалі
Розныя там форсмажоры,
Зніклі сусвету шалі
У закардонных афшорах.

Ясна, анёл за тое
Паяцам даў наганяю –
На столь да жырандолі
Падвесіў найменьш лаяльных.

Тых, што віну прызналі,
Паслаў разводзіць балясы,
Самых хітрых пасламі
Адправіў да папуасаў.

Іншыя ўсе паяцы,
Што з боку былі прыпёку,
Вельмі ж сталі баяцца
Прышэльца з цёмных аблокаў.

Бо цяжка было ўцяміць,
Што выкіне зноў прышэлец:
Скажаш лухту – пахваліць,
За нешта слушнае – шэльміць.

Страшна было, ды неяк
Махнулі рукой штосілы
На страх. Бачаць – о, неба! –
Не рукі цяпер, а крылы!

“Зараз мы тут анёлы!” –
Крычаць былыя паяцы –
“Той, хто зямлю ачоліў,
Не можа анёлам звацца!”

“Прэч, пісака праектаў!”
“Зыходзь, загадчык загадаў!”

“Вярні шалі сусвету!”
“Далоў бяскрылых мутантаў!”

Гэтак яны крычалі,
Кружляючы па-над пляцам –
Там, дзе стаялі шалі,
Пакуль не сталі ламацца.

Крык быў, канешне, смелы,
Вынік, праўда, банальны:
Крылы хутка здранцвелі,
І ўсіх як курэй злапалі.

А можа не ўсіх. Нехта
З былых так званых паяцаў
На злосць рэху і ветру
Не стаў кружляць па-над пляцам,

Як толькі здабыў пер’е,
Адразу сцяміў: не варта
Пускаць сілы на вецер,
Калі ты і так крылаты.

І знік. Дзе – невядома,
У нейкіх далёкіх далях.
Можа быць, за кардонам,
Там, дзе сусветныя шалі.

Можа быць, на нябёсы
Яго забралі анёлы
У хор свой шматгалосны,
Бо меў ён голас не кволы.

А можа было нават
І болей тых неафітаў,
Якім енк не цікавы
Над пляцам з бетонных плітаў.

Я, калі захацеў бы,
Таксама знік за пагоркам –
Тыя, што адляцелі,
Мне скінулі ўсе па пёрку.

Сабе майстраваць крылы
Я думаў, ды перадумаў –
Хацелася быць сціплым,
Не ўзносіцца па-над тлумам.

Хацелася быць ветрам,
Што дзьме не ў плечы, а ў вочы.
Хацелася быць небам,
Спавітым ззяннем паўночным.

Хацелася быць рэхам
Тугі пералётных птушак…
Хацелася спаць. З пер’я
Зрабіў не крылы – падушку.

Зрабіў і заснуў, быццам
Прадаў вагоны пшаніцы.
Мне толькі спакой сніцца,
І вы мяне не будзіце…



У 2018 годзе спаўняецца

**60 гадоў Міраславе Лукшы –**
паэтэсе, празаіку, перакладчыцы,
журналістцы

**70 гадоў Віктару Стахвюку –**
празаіку, паэту



Сардэчна віншуем
нашых калегаў! Зычым
творчых поспехаў!!!

*Управа БЛА "Белавежа"*

## Ян ЧЫКВІН

### СОН

Па горадзе навобмацкі іду –
Якое даўкае ўтрапенне!
Здаецца, ў прыгаршчах нясу ваду
Напаіць пасохлае каменне.

А навокал людзі спяць,
Ці ляжаць забітымі –
Мне не ведаць і не знаць,
І шапчу малітву я...

Не каменне бачу пад нагамі, а пясок,
Не ваду нясу, а попел.
Сам сябе не пазнаю –
Хто ён і адкуль той хлопец?

Бачу – людзі ўсе ўстаюць,
Жыць спяшаюцца нанова
І паціху зноў пяюць
Матчынае слова.

### ПЛАЧ

Крываногая дарога
Ад зямлі да высяў
Перапоўнена трывогай.

І ўзбочная драбіна,
Па якой ўздымаўся Якаў,

То з’яўляецца, то гіне...

Так Эдэм прысніўся,
У якім Бог плакаў.

***

У Беластоку колькі доўгіх дзён не быў,
А прыехаў – як бы увайшоў на чужы падворак:
Замест аблокаў горка-млосны дым
Ідэй атрутных і з’едлівых гаворак.

Сябры даўно раз’ехаліся хто куды –
Адны памерлі, іншыя ужо ў краіне неграў,
А мне, каб жыць, гавораць, набяры у рот вады,
Таму што гаварыць табе, кажуць, нельга...

Не святкуйце перамогу нада мною, персы:
Не ўсе загінулі бо абаронцы Тэрмапілаў!
Не Герастраты прысуды  апошнія вершаць!
Хоць вы ім служыце, дугой сагнуўшы спіны.

## МАЯ РАДЗІМА

Іду пад сінім небам
Па зялёным лузе дня
У прасторы залатога лета
Без пачатку і без дна.

Хараство само сабой апета
Да сваіх глыбіняў –
І вадой, і песняй,
Спевам срэбным ручая,
Што бяжыць далінай
Між вандроўнага трысця.

Свеціцца і гасне
Радасцю чаканне,
Голас той, што мяне заве.

Мілатой, як праслам,
Мы з табой павязаны,
Як краса з тугою у траве.

***

А недзе далёка за лесам,
дзе спіць неасвоены Камень,
у шчасным сабе Дараганаве
трава дзе ні глянь заблакітнела
і людзі ніяк не адрозняць
аблогаў нябёсных ад зямелькі.

Ў штодзённай сваёй вандроўцы
па спаконвечных дарогах-сцежках
заходзяць яны за аблокі
і там шукаюць ўсё тое адзінае,
чаго не мелі, чаго не згубілі.

Ды ўсё ідучы па сініх высях,
няўпэўнены, дзе ж іхняе поле,
дзе іхня радзіма, дзе вольнасць,
сыходзяць неспадзеўна дадому
з другога боку ўваходу
ў сваю адвечную долю.

**Алесь КАСКО (1951–2017)**

*Я. Чыквіну, "Тэрмапілы".*
*Ян, Галіна! Яшчэ раз дзякуй, што "здарылася быць" сустрэча. У працяг яе – новыя вершы, якія, мусіць, і надалей заставаліся б у нерухомасці, каб не твой, Яне, штуршок...*
*Дабросцяў усялякіх вам. А. Каско.*
З пісьма ад 14. 06. 2016 г.

# "ЖЫЦЦЁ ІМГНЕННАЕ?"

## У ЛІВЕНЬ

Збіраўся доўга дождж,
затое абярнуўся ліўнем
і вуліцу зрабіў уміг ракою;
бурліць вада і цягне за сабою,
пакуль прыліў не скончыўся адлівам.
І разам, басанож,
з кавярняў і кінатэатраў,
з тралейбуса запозненага – сходу
ступаюць маладыя ў прахалоду,
і пальцы ледзь кранаюцца асфальту.

З-пад мокрых ліхтароў
злятае град пратуберанцаў
на ўзмахі рук, на скокі ног цыбатых,
і ў грацыях высокіх і крылатых
ёсць падабенства жураўліных танцаў.
Ты малады тут зноў!

Цябе выштурхвае альтанка
апаласкацца шумнаю вадою:
а ці не сам ты вунь, ці не з табою
крыло ў крыло гарэзуе жураўка?..

Ах, пачакай: ужо ж
сцякла ў калодзежы рака да кроплі,
зноў толькі вуліца пад ліхтарамі
і ты на ёй – над змытымі слядамі
агучваеш амаль нямыя крокі.
А ў сэрцы плешча дождж:
прыліў крыві там лёгкі, нежурлівы
ўсё падмывае на падскок узлётны…
Ды дзе ж ты бачыў, каб стары, самотны
хоць раз хто справіў танец жураўліны?

## НАЧНЫ ЧАЛАВЕК

Ты ўвесь безнадзейна хворы,
ты ноч марнаваць не звык.
Ты – ценем па калідоры.
Прыкусіць вахцёр язык.

Ты заўтра яму дагодзіш –
дасць крошку і кроплю дзень.
Ты ў крайнім акне выходзіш
у неба, што ўніз вядзе.

Ты воблакі лісця любіш,
дзе захад адпалымнеў;
пад імі былыя людзі
стаяць двайнікамі дрэў.

Ты чуешся з імі вольна:
з далёкіх і блізкіх сноў

так шмат іх таму, што вобмаль
жывых  у цябе сяброў.

Ты росы ўсю ноч з гасцямі
ліеш без слязы ў крышталь
і толькі на золку сцяміш:
асадкам на дне – шпіталь.

Ты ўспомніш, які ты хворы,
праз што пралягае шлях.
Зваротна – па калідоры
ў палату, дзе едкі пах.

Ты свежую памяць сцелеш,
ды збава ў цябе адна:
ва ўласным знікаеш целе
на ложку каля акна.

***

Безуважны зыход; ён абраных не мае,
аднаісны яму змрок апошняга дня,
ці з маўклівай цярплівасцю зубр памірае,
ці з пранізлівым енкам жалкуе свіння.

Роўніць так і людзей, што пад воляй Гасподняй;
дык таго, хто трываў, і хто крычма крычаў,
пачакайце падводзіць пад сорам ці годнасць,
і накладваць таўро, і сячы з-за пляча.

Страх няўхільнасці болю важней нам адужаць,
чым сам боль ад інсульту або ад свінца;
у змаганні з пагрозаю славіцца мужнасць,
і не судзіцца слабасць за міг да канца.

## БЯРОЗАВЫ ЛІСТАПАД

Аж пакуль на куп’і рассцелецца
і пачне патухаць, як жар,
залатая звініць мяцеліца
там, дзе восеньскі лопнуў шар.

Не ўтрымаўся пад пругкім ветрам ён,
той бярозавы дзьмухавец,
ад ягонай былой сіметрыі –
толькі бляскат і крутаверць.

Б’ецца полымя ў хвалях сонечных,
што змяшалі святло і цень,
крышталюе, як дар мне, сённяшні
паслясмуткавы ясны дзень.

Ва ўсе поры і клеткі ўселіцца,
каб і памяць маю ўзрушаць
дзіўны момант: гарыць мяцеліца,
і мяцеліцца ў ёй душа.

Як зляціць рэшта лісця звеена,
прыпаду да яго грудзьмі:
vita brevis – жыццё імгненнае?
Хай, калі яно гэткі міг!



**Анатоль ДЭБІШ**

# БЕЛЫ АРКУШ СЛЯЗА НЕ ЗАПЛЯМІЦЬ

(трагедыя ў шасці дзеях)

Дзейныя асобы:
*Кейстут – малодшы Альгердавы брат*
*Ягайла – старэйшы з сыноў Альгерда, ад другой жонкі Ульяны Цьверскай*
*Вітаўт – сын Кейстута*
*Скіргайла – родны брат Ягайлы*
*Бірута – княгіня, жонка Кейстута*
*Ганна – княгіня, жонка Вітаўта.*
*Ядвіга – каралева Польшчы*
*Андрэй – епіскап Гнезненскі*
*Паслы, стражнікі, воі*

(Гл.: Пачатак: "Тэрмапілы" № 21)

### Дзея чацвёртая

Кракаў. Каралеўскі палац. Толькі што князь Літоўскі Ягайла пабраўся шлюбам з каралевай Польшчы Ядвігай і быў каранаваны на каралеўства.

Ягайла:
Збылося!
Я займеў ключы ад трона!
Жыве – кароль!
Няхай кароль жыве!
Як поўня ў небе, польская карона,
І на маёй зіхціцца галаве.

На небе зорка і мая заззяла,
Якую гэтак доўга выглядаў.
Быў толькі ўчора князем я Ягайлам,
А сёння – я кароль Уладзіслаў!
Няхай пазбыўся нашых продкаў веры,
І веру каталіцкую прыняў,
Ды ўсё-такі ўсцешаны без меры,
Бо значна менш я страціў, чым прыдбаў.
Прыдбаў я сілу – унутры і звонку:
Літва і Польшча – назаўжды мая.
Яшчэ ў дадатак прыгажуню жонку
Ядвігу…
Ці прыдбаў?
Мо страціў я?
(Ягайла ў роздуме. У палац уваходзіць Ядвіга)
Ядвіга:
Вітаю, муж мой, Богам нарачоны!
Ягайла:
Вітаю, мая радасць і краса!
Ядвіга:
Ці чуеш, як гудуць навокал звоны
У гонар твой.
Пан Езус быццам сам
З’явіўся,
Каб прысутнасцю сваёю
Табе засведчыць на пасаг правы,
І ўладарыць Польшчай і Літвою.
І мной…
Ягайла:
Табой – ніколі!
Я, пакуль жывы,
Табе,
Бы ў небе зорцы зіхатлівай,
Маліцца хіба смею скрозь міры,
Бо для мяне ты – незямное дзіва…
Ядвіга:
Як ты ўмееш хлусіць, ліс стары!
А прыйдзе час самоты і адчаю –

Аб дол ты тую зорку разаб’еш,
Якой мяне ты зараз называеш.
І вытраш ногі аб яе…
Але,
Не для таго ў пакой твой завітала.
Каб слухаць  песняпевы салаў’я.
І шлюбам лёс з табою свой звязала
Не для начных забаў і ўцехаў я.
Хоць вернасці сваёй і не парушу,
З табой дзяліць мне радасць і бяду,
Ды я  сказаць табе, мой любы, мушу.
Хоць можа за ганебнасць і брыду,
Мае ўспрымеш словы…
Ягайла:
Я чакаю!
Дык – гавары!
Ядвіга:
Цябе я не кахаю!
І пакахаць, напэўна, не змагу…
Ягайла:
І гэта ўсё?
Ядвіга:
А хіба мала гэта?
Ягайла:
Ах, як жа напалохала мяне ты:
Я думаў – захварэла ты, альбо
Татарын, ці яшчэ якая нечысць
Наш зараз  Кракаў  гвалціць і нявечыць,
Ці топча гонар мой чужацкі бот?
А ты ў трывозе пра сваё каханне?...
Яго  ў сваім я сэрцы зберагу!
І прыйдзе дзень, і гэткі час настане –
Мяне ты пакахаеш!
Ядвіга:
Не змагу!
Ягайла:
Дзён і начэй у нас ці мала, пані!?
Зіма міне!

Не вечным будзе снежань,
І за зімой наступіць зноў вясна!
Ядвіга:
Я не сабе,
А Польшчы я належу –
Маё каханне і вясна яна!
І я каханка лепшага не знаю,
І мужа –
Чым мой дом і родны край!
Ягайла:
Цябе я не няволю!
Пачакаю!
Ядвіга:
Табе я буду верная...
Бывай! (Ядвіга выходзіць. Ягайла застаецца адзін)
Ягайла:
Пайшла!
Хоць жарсць мне сэрца душыць,
І  гэтак прагне цела зліцца з ёй,
Пакорліваю быць яе прымушу,
Служыць застаўлю – воляю сваёй.
Дзе ласкаю вазьму яе, дзе гневам.
Маёю быць,
І толькі,
Каралевай! (Заходзіць епіскап Андрэй)
Епіскап Андрэй:
Будзь Езусам Хрыстом благаславёны!
Вітаю – мой кароль і  браце мой!
Віншую з каралеўскаю каронай
І з прыгажуняй жонкай маладой!
Такой не кожны дзень пабачыш краскі
І ўсё, у адначассе, з Божай ласкі –
І прыгажосць, і срэбра на стале!
Ягайла:
За віншаванне  дзякую!
Але,
Што я прыдбаў, а што згубіў – не знаю;
За спінай крылы,

А ці крыж цяжкі?
Чужы я тут…
Ядвіга не кахае,
Сама ў тым прызналася…
Епіскап Андрэй:
Які
Слабы яшчэ ты целам і душою,
Ты ўсёй Літвы і Польшчы валадар.
Зямлі вялікай, што паслаў нам у дар
Усявышні…
Бог з табою!
Мы з табою!
Ніколі не пакінем у бядзе…
Хаця…
Ты толькі нашай веры не цурайся,
З Ядвігай быць лагодным пастарайся:
Трынаццаць год – яшчэ зусім дзіця!
Ды хутка ў ёй праявіцца жанчына, –
Тады, кароль, трымайся!..
І няма,
Каб смуткаваць, ніводнае прычыны.
Турбуешся за лёс ты свой дарма.
Усё зладзіцца ў жыцці па волі Божай,
Бо нездарма Хрыстос цябе абраў,
Каб ты народ і веру ўратаваў.
І мы табе ў гэтым дапаможам...
Раззанавесце вокны!
Больш святла!
Яснавяльможны, прошу да стала!
Ягайла:
Накрыць нам стол!
Епіскап Андрэй:
Дазволь пабачыць мне
Тваю, кароль, крулеўну на хвіліну…
Заўсёды з мужам жонка быць павінна…
Ягайла:
Паклічце каралеву да мяне! (налівае віна)
За любоў!

Епіскап Андрэй:
За згоду!
Каб дзень да дня
І год ад году.
Мацнеў і пашыраўся твой пасад!
За Польшчу!
Ягайла:
І Літву!
Епіскап Андрэй:
За нас – мой брат! (выпіваюць)
У час суровы, пэўна, ды вялікі
З табою, брат, на свеце мы жывём.
(Заходзіць Ядвіга)
Ядвіга:
Мяне ты клікаў, муж мой?
Епіскап Андрэй:
Клікаў!
Клікаў!
Прысядзьце каралева з каралём!
Ці вы яго баіцеся?
Ядвіга:
Баюся?
Яшчэ я не прывыкла да яго,
Бо ў шлюбе толькі месяц мы…
Епіскап Андрэй:
Дзіўлюся…
Я думаў, што ў шлюбе ці не год!
(Ядвіга сядае побач з Ягайла)
Якая прыгажосць!
Якая пара!
Ну, Божы цуд…
Пан Езус пэўна сам
Стварыў вас на нябёсах, а не тут!
Аб гэткай прыгажосці толькі марыць
І застаецца…
Ядвіга:
Не маніце, ойча!
Не можа быць галубка з каршаком…

<u>Епіскап Андрэй</u>:
Здараецца і гэткае аднойчы
Па волі Божай –
Што здаецца сном,
Становіцца так часта светлай явай.
Усё залежыць… (паказвае угору)
Ад Яго!
І Вас!
<u>Ядвіга:</u>
Ён мне не любы!
<u>Епіскап Андрэй</u>
Будзь крыху ласкавей,
І стане любым ён – надыдзе час!
Мацуюць Дух і плоць – любоў і згода.
Ты не ўратуеш іх у барацьбе.
Ці можа, хочаш польскаму народу
Крыві і слёз, як і самой сабе?
<u>Ядвіга:</u>
Не, ойча, слёз нікому не жадаю.
Люблю я Польшчу!
<u>Епіскап Андрэй</u>
Гонар свой зміры.
Кахае ён цябе!
<u>Ядвіга:</u> (разгублена)
І я…
Кахаю!
<u>Епіскап Андрэй</u>
Другая справа!
Мужу падары
Пяшчоту,
Навучыся быць слухмянай –
І будзеш ты багатай і каханай!
<u>Ядвіга:</u>
Я паспрабую, ойча! (звяртаецца да дваіх)
З вашай згоды
Пайду я,
Нездаровіцца штосьць мне (выходзіць).

Епіскап Андрэй
У Хрыстовай веры трэба жыць заўсёды,
Інакш  бяда –  загібель не міне!
Як бачыш, трэба нам не вельмі многа
Для радасці –  любоў і крыж святы.
Усё  даецца нашым панам Богам,
Калі  ягоны верны служка ты (выпіваюць).
З табою, брат, сягоння  шчырым буду,
Хоць шчырасць будзе жорсткаю мая:
Цябе хачу шчаслівым бачыць я,
А не ў палоне сквапнасці і бруду!
Ягайла:
У палоне?
Ойча, я не разумею
Хто пагражае мне і што – скажы?
Епіскап Андрэй
Маніць і прытварацца не ўмею –
Воўк-адзіночка ты…
Не ўмееш жыць
Па волі Божай, божаму закону!
Ягайла:
Не так жыву?
Ці мо не так я жыў?
Епіскап Андрэй
Ці жыў, скажы?
Быў белаю варонай.
Сябе маной і здрадай акружыў
Хаўруснікаў, ды і  бажкоў хлуслівых –
Дажбога, Зніча, Жывы, Пяруна…
Ягайла:
Што дрэнннага, скажы, зрабіла Жыва?
Епіскап Андрэй
А добрага?
Ягайла:
Жыццё дала яна!
Епіскап Андрэй
Жыццё падаравалі бацька з маці,
З  благаслаўлення Божага…

Не ім
Адвёў ты мейсца лепшае ў хаце
І на гары, а стодзівам глухім.
Русалкі, Пяруны, Белбогі, Знічы…
Не дакрычышся ты,
Як ні крычы,
Да іх…
Цябе цяпер жывы Бог кліча
У абдымкі…
Не марудзь!
І… паспяшы!
Ягайла:
Што, ойча, мне рабіць?
Паганскай веры
Я знішчу плоць…
А душу, ці змагу?
Епіскап Андрэй
Для Бога існага нам адчыні ты дзверы…
Ён – дапаможа!
Я – дапамагу…
Дзе словам Божым,
Трэба дзе – прымусам!
Заставім адрачыся мы людзей –
Ад непатрэбных танцаў тых спакусных,
Што труцяць кроў, і ад паганскіх дзей!
Ягайла:
Я ўсё зраблю…
Епіскап Андрэй
Хай вера, а не скруха
Цябе вядзе
Да Бога,
А не – у зман! (жагнае)
У імя Айца, і Сына, і святога Духа, –
Багаслаўляю..
Божы сын…
Аман..
Ягайла:
Усіх хрысціць,

Ліцвіны то, ці русы?
Епіскап Андрэй
Што зразумеў ты, я бязмерна рад… (выходзіць)
Ягайла:
Пайшоў!
Яму няпраўду гаварыць я мусіў –
Не будзе нам пад Польшчаю дабра.
(заходзіць Скіргайла)
Скіргайла:
Балюеш?!..
Мне зусім, гляджу, не рады.
Высока ўзняўся,
Нібы воран у сне.
А ў гэты час рыхтуе Вітаўт здраду!
Ягайла: (Ягайла пасміхаецца)
Што нейкі Вітаўт зараз для мяне!
Ён мне не страшны –
Пілігрым адвечны,
А я – кароль!
І Польшчы,
І Літвы.
Хачу – узвышу!
Захачу – знявечу!
У маіх руках – улада і ўсе вы!
Скіргайла:
Апомніся!
І абудзі, нарэшце, розум ты,
Развей свой ап'янела шчасны сон!
З усіх краёў ліцвінаў і жамойтаў
Збірае пад свае харугвы ён.
Ягайла:
Збірае?
Ці сабраць іх толькі марыць,
Як лоўчы, хворых зайцаў, на градзе?
Скіргайла:
Не бачыў ты, яшчэ якая хмара
Вялізная з Літвы на нас ідзе!
Сярод цішы сядзіш ты і не чуеш,

Як б’е Пярун і бура дрэвы гне.
Ты думаеш, што Вітаўт нам даруе
Смерць Кейстута і маці?
Пэўна – не!
Ягайла:
Маўчы!
Да смерці іх я непрычынны –
Сам ведаеш…
Каб Кейстут быў жывы –
Пацвердзіў бы ён гэта…
Скіргайла:
Кейстут не адзіны.
Яшчэ ёсць Вітаўт –
У Жмудзі і Літвы.
Ягайла:
У Літвы ёсць я!
Ён цень мой, і не болей,
І што яшчэ на свеце ён жыве –
Твая віна!
Віна твая!
З няволі
Ты выпусціў.
Дык – думай.
Галаве
Ёсць мейсца на плячах –
Затым, каб думаць.
Табе я даў уладу і правы,
Каб вырашаў праблемы ўсе без тлуму (злосна).
Застацца хочаш мо без галавы?
Скіргайла:
Паслухай, брат…
Ягайла: (перабівае)
Маўчы!
Скіргайла:
Дай, брат, мне слова!
Ягайла:
Ну, гавары!
Што здарылася зноў?

Скіргайла:
Паход рыхтуе Вітаўт тайна новы
На Вільню, з дапамогай крыжакоў.
Ягайла: (смяецца)
Паход?
І ты спалохаўся, напэўна?
Ці першы раз ён пагражае нам?
Лепш вып'ем, брат! (налівае)
За нас!
За каралеўну!
Скіргайла:
Але абет даў Вітаўт крыжакам
Ягайла: (перабівае)
Ну, хопіць!
Ці мяне не паважаеш?
Ёсць справы больш паважныя ў нас
(падае келіх з віном)
Цябе Літвой я правіць прызначаю,
Хоць ты мяне падводзіў. І не раз.
Як бачыш, а табе я давяраю,
У гэты час самотны і цяжкі,
Калі навісла непагадзь над краем.
На часткі рвуць – свае і крыжакі.
А ўсё таму – няма між намі згоды.
Калісь мы разам, як сцяна, былі –
Не праламаць!
З'ядналіся народы
І разам мы Арду перамаглі.
Цяпер ізноў з'яднацца мы павінны.
Бо меч крыжацкі сее смерць і золь.
Багоў мы дзелім, веру…
Бог адзіны
Павінен быць,
Як і адзін кароль!
Скіргайла:
Цябе не разумею!
Ягайла: (паўтарае)
Шмат без меры

Багоў наўкол – разлад паўсюль, таму
Адною людзі жыць павінны верай
І пакланяцца Богу аднаму.
Багоў паганскіх вынішчыць дазвання!
Скіргайла:
Як знішчыць?
Ягайла:
Стоды, коплішчы – спаліць!
Скіргайла:
Як з Ладай быць, багіняю кахання?
Ягайла:
І Ладу!
Усіх!
А хто супроць – забіць!
Скіргайла:
Агонь свяшчэнны запалілі продкі,
Нібы дыханне сэрца бераглі,
Як лепшую з надзей, як сон салодкі…
Ягайла:
І попел іх развеяць па зямлі!
Скіргайла:
Язычнікі ўзбунтуюцца…
Ягайла:
Божым словам.
Спатрэбіцца калі, і бізуном
Прымусіць усіх пайсці да веры новай.
Абвешчанай нам Езусам Хрыстом!
Скіргайла:
Не зразумее нас народ, баюся…
Ягайла:
Мо хопіць слоў нікчэмных і пустых…
Скіргайла:
Я ад паганскай веры адракуся!
Ці здрадзіць нашым продкам зможаш ты?
Ягайла:
Змагу!
Мы зможам многае з табою.
І вернем лад, якога не стае.

Бо самае на свеце дарагое –
Айчына!
Не пражыць нам без яе! (абнімае)
Цяпер – ідзі! (Скіргайла пакідае замак)
Ягайла: (наўздагон)
Да пабачэння, брат! (сам да сябе)
Усё займеў – і ўладу і каханне.
А мала,
Хоць, здавалася, зашмат!
І што са мною будзе?
Заўтра – стане?
(Ягайла выпівае віно. Засынае. Трызніць)
Ягайла:
Як цёмна і маркотна, бы ў магіле…
Я не адзін…
Хтось да мяне прыйшоў…
Ты – Вітаўт?
Варта як цябе пусціла?
Ці, нібы прывід, праз сцяну прайшоў?
Здань Вітаўта:
Ты думаў, што цябе ўратуюць сцены
І абароніць варта пры дзвярах.
О не! Заўжды мой Дух нятленны
Табе прыносіць будзе боль і страх!
Ягайла:
Забіць прыйшоў?
Здань Вітаўта:
О не!
Ягайла:
Чаго ты хочаш?
Здань Вітаўта:
Забіць цябе ўжо даўно я мог.
Хачу табе я зазірнуць у вочы.
І разгадаць, які жыве там Бог!
Ягайла:
Тады – зірні!
(Здань Вітаўта пільна ўзіраецца ў вочы Ягайлы)
Што бачыш?

Здань Вітаўта:
Прывід твой!
Ды не адзін ён там жыве –
Іх многа…
Пакутуюць між пекла і цішы.
Ягайла:
Ці бачыш Бога там?
Здань Вітаўта:
Няма там Бога.
Ні Бога там няма
І ні душы!
Нікога там няма –
Зусім нікога.
Ягайла:
Ты хлусіш!
Як нікога?
А народ?
Здань Вітаўта:
Ужо даўно цябе народ пакінуў,
Хоць лічыш ты сябе валадаром,
Ды ён – не твой!
Ён для цябе – загінуў.
У той час, як ты пакінуў родны дом.
Ягайла:
Ты маніш мне!
Забіць мяне жадаеш,
Займець вялікакняжацкі пасад?
Здань Вітаўта:
Я на яго правы такія ж маю –
Як ты, як твой старэйшы брат
Андрэй, якога ты трымаеш
У склепе вязнем, як трымаў мяне…
А колькі ты забіў і  забіваеш?
Ягайла:
А ты святы?
Не  забіваеш – не?!
Здань Вітаўта:
Так – забіваю!

Забіваць я мушу –
Каб выратаваць вотчыну сваю.
А ці не першы клятву ты парушыў –
Мяне зняволіў і маю сям'ю,
І Кейстута жыцця пазбыў, і маці.
Ягайла:
У смерці іх не вінаваты я –
Я не даваў загад на гэта, браце!
Здань Вітаўта:
А хто даваў?
Даўно душа твая
Ад зайздрасці і злосці пачарнела,
Крывавай жоўцю пырскае, як змей.
На бацькаўшчыны аркуш – аркуш белы!
Ягайла:
У гэтым вінаваціць ты не смей!
Не я, а вінаватыя вы самі,
Што  край наш стогне  ў брудзе і ілжы.
І ці не ты ў саюзе з крыжакамі
Яго таптаў і топчаш, адкажы?
Мяне абвінавачваеш у здрадзе.
І гвалце…
Найпершы здраднік – ты!
Мяне вініш – сам марыш аб пасадзе!
Хуліш мяне – а сам ты мо святы?
Здань Вітаўта:
Я не святы!
І ім не быў ніколі!
І хай загіну я, калі зманю:
Як курчыцца ад войнаў і агню,
Наш родны край, так  курчыцца ад болю
Душа мая.
Даўно ўжо не пяе,
Пазбыўся песняў продкаў край мой любы!
Каторы год няўсцешна слёзы лье.
Ягайла:
Літве і Польшчы не жадаю згубы.
Ніколі!

Кажаш, ты не за вайну
І ты сваёй не здраджваеш Радзіме?
Чаму ж тады ты збег на чужыну
да крыжакоў –
Каб зноў вярнуцца з імі?
<u>Здань Вітаўта:</u>
Я паступіць па-іншаму не мог.
<u>Ягайла:</u>
Спалохаўся?
<u>Здань Вітаўта:</u>
Я смерці не баюся!
За край баюся свой я – бачыць Бог,
Дзень сённяшні і заўтра – Белай Русі.
<u>Ягайла:</u>
Ізноўку хлусіш, як і кожны з вас!
Баяцца смерці ўсе – і ты таксама…
А ўрэшце рэшт усіх нас рассудзіць час,
Хто праў, хто вінаваты.
<u>Здань Вітаўта:</u>
Чэсны самы!
З сябе, прашу, святошы не рабі!
Забіць мяне ты прагнеш?
Дык – забі!
Вось я!
Перад табою я стаю
Адзін, і навакол няма нікога.
<u>Ягайла:</u>
Ты хочаш смерці? (вымае з похваў меч)
Ды, заб'ю…
(б'е у здань Вітаўта, але патрапляе ў сябе, падае, крычыць)
Ратуйце!
Варта! Варта!
Дзе падмога?
(здань Вітаўта знікае. На крыкі Ягайлы прыбягае варта, каралева Ядвіга, епіскап Андрэй)
<u>Ядвіга:</u> (падбягае да Ягайлы, нахіляецца над ім)
Мой любы муж,
Мой мілы,

Што з табою?
<u>Епіскап Андрэй:</u>
Што здарылася?
<u>Ягайла:</u> (шэпча)
Вітаўт…
Вітаўт дзе?
<u>Ядвіга:</u>
Яго няма!
<u>Епіскап Андрэй:</u>
Усё гэта толькі мроі.
<u>Ягайла:</u>
Ён – тут!
Ён – побач!
Праз мяне ідзе!
<u>Ядвіга:</u>
Усё гэта – мроі…
Толькі – падалося…
<u>Епіскап Андрэй:</u>
Ён – трызніць,
Выпіў мо зашмат віна?
<u>Ягайла:</u>
Ён – тут…
Яго я бачу…
Вось ён…
Тут – насупроць!
<u>Епіскап Андрэй:</u>
Нікога тут – сцяна! (звяртаецца да Ядвігі)
І ён, бач, не пазбегнуў кары Божай,
Хоць шчыра любіць Бог сваіх дзяцей.
Усё – за грахі свае…
<u>Ядвіга</u>: (звяртаецца да варты)
Нясіце ў ложак
І лекара паклічце!
І хутчэй! (Ягайлу выносяць)
<u>Епіскап Андрэй:</u>
Усё па волі Божай!
<u>Ядвіга:</u>
Што рабіць мне, ойча?

Як ратаваць?
Усё-ткі муж ён мой!
Епіскап Андрэй:
Сам уратуе ён сябе аднойчы,
Калі Хрыста ўспрыме ўсёй душой!
За лёс яго хвалюешся дарэмна:
На сонцы адагрэецца, бы вуж…
Ядвіга:
Вуж, можа ён камусьці і патрэбны?
А ці патрэбны жонцы п’яны муж?
Епіскап Андрэй:
Патрэбны ён, як вашай ягамосці,
Так люду паспалітаму твайму.
Па Божай волі і яго мілосці
Карона Польшчы ўручана яму.
Цярпі, дзіця маё, і не пакіне
Цябе адну пан Езус на зямлі.
Падумаць, можа, час табе аб сыне,
Аб нашай Польшчы новым каралі.
Наследніку – і веры, і двара?..
Ужо за поўнач – спаць вернікам пара!
(каралева Ядвіга і епіскап Андрэй выходзяць).

**Дзея пятая**

(Кракаў. Каралеўскі палац. У пакоі Ягайла і Ядвіга)
Ядвіга:
Сябе як адчуваеш, мой каханы?
Спалося як?
Душа ці не баліць?
Ягайла:
А ці да сну, калі на сэрцы рана,
Якую аніяк не загаіць?
Ядвіга:
Паранены ты ў сэрца.
Рана гэта
Халодная, нібы ў палонцы лёд.
Схуднеў і ўвесь збялеў ты…

Ягайла:      (Ягайла перабівае Ядвігу)
Па сакрэце
Скажу табе адной:
Нямала год:
Нашу я ў сваім сэрцы тую рану,
Што ўся наскрозь з халоднай пустаты.
Ядвіга:
А хто ж табе нанёс яе, каханы?
Твой вораг патаемны?
Сябра?
Ягайла:
Ты!
Ядвіга:
О, Матка Боска!
Я не веру
Сваім вушам –
Забойцай стала я.
Як здарылася так?
Ягайла:
У час вячэры…
Ядвіга:
У час вячэры?
Ягайла:
Так, краса мая!
У той самы час,
Калі цябе пабачыў,
Як да цябе прымчаў упершыню –
Прасіць тваёй рукі.
Ядвіга:
І не іначай?
Ягайла:
Клянуся Маткай Боскай – не маню!
Апроч цябе – нікога мне не трэба.
Ядвіга:
Мо іншая спаць не дае прычына?
Ягайла:
Гатоў табе аддаць зямлю і неба…
Ядвіга:      (перабівае)

Ці не замнога – за адну жанчыну?
Ягайла:
Так мала…
О, каб змог я…
Быў я дужым.
Я для цябе – усё, усё на свеце
Зрабіў бы!
Ядвіга:
Лепей будзь харошым мужам
І бацькам – калі Бог пашле нам дзеці!
Ягайла: (у радасці абнімае Ядвігу, цалуе)
Каханая!
Я так чакаў і верыў,
Што ты мяне аднойчы пакахаеш
І ў сэрца для мяне адчыніш дзверы!
Ядвіга:
Кахаю я цябе, ці не – не знаю!
Жанчына – ёсць загадка,
Як прырода,
Мяняе з часам выгляд свой і нораў:
То спапяляе, ліўні шле і зводу,
То квецень і сады з пладамі дорыць!
Ягайла:
Зіма хай намятае курганы –
Мароз міне!
Дачакаюся я вясны!
Ядвіга:
Чакай!
Дасць Бог, цябе я пакахаю!
Ды, ці не грэх нам думаць пра вясну,
У той час, калі навіс над родным краем
Крыжацкі меч…
Па сэрцы паласнуў!
Калі, ў лютай немачы і злосці,
Брат брату роднаму ламае косці.
І для майго, і для твайго народа
Патрэбныя сягоння – мір і згода!
Іначай нам не абмінуць бяды

І гібелі…
Ягайла:
Так, любая!
Ядвіга: (смяецца)
Тады,
Вам з Вітаўтам зноў памірыцца трэба.
Каб ворагаў сваіх перамагчы.
Пра гэта просіць Польшча, я і неба…
Ягайла: (перабівае)
Як памірыцца ?
Паламаць мячы?
Стаць роўнымі?
Пра гэта толькі марыць мой вораг…
Не пазбыцца мне бяды.
Ці ты забойца, а ці ты
ахвяра –
Было так, ёсць,
і будзе так
заўжды!
Ядвіга:
У вас, мужчын, зусім не тыя мары –
Ніколі зло дабра не нараджае.
А мне шкада забойцы і ахвяры,
І жабрака, і хто ўладу мае.
Хто чуе нас, і хто – зусім не чуе,
Бо ўсё жывое – птушка і вада.
І нават камень…
Ягайла:
І мяне шкадуеш?
Ядвіга:
Хоць трэба ненавідзець – а шкада!
Ягайла:
Мяне ты церпіш дзеля шкадавання,
А не кахаеш?
Не жадаеш зла?
Ядвіга:
З яго і нараджаецца каханне,
Як жытні колас – з поту і святла.

Ягайла:
А без яго – каханне знікне, згіне?
Ядвіга:
Не згіне…
Як любошчы, як віно
Калісь заззяе фарбамі яно
І зазвініць…
Павер мне, любы,
Гліна
Перш, чым гаршком ці іншай формай стаць –
У агні павінна доўга гартавацца.
Так проста ў міг адзіны закахацца,
Але не проста – верыць і кахаць.
Ягайла:
Ты дакараеш, любая, мяне
За пыл кахання?
Ядвіга:
Не, не дакараю!
Але ці зможаш ты на чужыне
Любоў да роднае зямлі і краю
І да мяне – пароўну раздзяліць.
Яшчэ пакінуць ворагу і брату?
Ягайла:
А ворага за што, скажы, любіць?
За смерць?
Няхай загіне ён – пракляты!
Ядвіга:
Вучыся у Хрыста – за ўвесь сусвет
На крыж пайшоў ён, на такія мукі…
Ягайла: (перабівае)
Я думаў – ты жанчына!
Ты – паэт!
І словы – спевы птушкі,
Крылы – рукі…
Ядвіга:
Жанчына я – і толькі ўсяго,
Як іншыя – з зямной крыві і плоці,
Ад радасці, што плача

і нягод,
І як усе – дзяцей пад
сэрцам насіць,
Каб даць жыццё ім,
і ў пэўны міг,
Як і цябе твая насіла маці,
У свет адправіць сцюжаў і адліг.
І іх чакаць вяртання
Роднай хаце (плача).
<u>Ягайла:</u>
Каханая!
Прашу цябе,
Не плач!
Табе яшчэ пра гэта думаць рана.
<u>Ядвіга:</u>
І ты пакінеш?
<u>Ягайла:</u>
Любая – прабач!
Заўсёды будзеш – любай і жаданай!
Цябе, цябе адну кахаю я… (заходзіць вартаўнік)
<u>Вартаўнік:</u>
Скіргайла, брат прыйшоў ваш!
<u>Ягайла:</u>
Хай заходзіць!
(Ядвіга збіраецца пакінуць пакой мужа. Выходзіць)
<u>Ягайла:</u>
Яшчэ пабудзь са мной, краса мая.
Цурацца нам адзін аднога годзе!
(заходзіць Скіргайла)
<u>Скіргайла:</u>
Вітаю вас – кароль і каралева!
<u>Ягайла:</u>
Якую нам прывёз ты навіну?
<u>Скіргайла:</u>
Пра гэта не магу сказаць без гневу –
Прынёс нам Вітаўт на Літву вайну!
Яму і сам я ледзьве па дарозе
У рукі не патрапіў, толькі Бог

Ад смерці ўратавацца дапамог…
Літву руйнуе!
Вільня ў аблозе!
І не адзін ён – разам з крыжакамі.
Яго напор зламаць мы не змаглі.
У агні ўвесь край!
Яму Вілейцы самі
Вароты адчыніць дапамаглі.
Язычнікі бунтуюць і баяры,
І нашай веры рушыцца сцяна:
Крычаць яны – што гэта помсты хмара –
І ўсіх паб'юць нас стрэлы Пяруна,
Што бацька Род усіх да помсты кліча,
І што багоў нас кара не міне,
Запаліцца агонь свяшчэнны Зніча,
І ў тым агні ўсіх нас паглыне!
<u>Ягайла:</u>
Ці пакараў язычнікаў ты строга?
<u>Скіргайла:</u>
Дзе падарункам, дзе і бізуном –
Як загадаў ты…
Ды без дапамогі
Тваёй, мой брат, агульны рухне дом.
І ўпадзе да ног тваіх карона
Растоптаная,
У брудзе і крыві.
Мячоў крыжацкіх чуюцца ўжо звоны,
Дрыжыць зямля!
Знаць польскую заві!
<u>Ягайла:</u>
Ты прапануеш з крыжакамі біцца.
Ці здужаем?
Ці можа лепш для нас
Забыць усе крыўды хоць на міг, на час
І з Вітаўтам сустрэцца…
Памірыцца!
<u>Скіргайла:</u>
Мірыцца? (смяецца)

Я гляджу, ты верыш у цуды.
Ніколі ён не згодзіцца з табой.
Мірыся, брат!
Мірыцца я не буду!
Ці – ён, ці – я!
Ён  вораг – мой і твой!
Ці – ён, ці – я!
Ці – ён, ці – я!  (крычыць)
Ты чуеш!?
Я іншага рашэння не прыму!
Пакаяцца, мой брат, мне прапануеш
Перад паганскім быдлам, і яму
У ногі пакланіцца?
Я не стану!
Ягайла:
Нат дзеля ратавання родных хат?
Скіргайла:
Нат дзеля іх!
Ягайла:
Позна, а ці рана
А памірыцца прыдзецца, мой брат!
Пакуль мы не сцяклі крывёй гарачай,
А паміраць дарэмна сэнс які?
Мірыцца трэба...
Трэба!
А іначай –
Растопчуць нас і знішчаць крыжакі!
(убягае ў пакой Ягайлы ўсхваляваная Ядвіга)
Ядвіга:
Даруйце, што спыніла вам бяседу
І ў справы, можа, лезу не свае –
Калі не вы, дык я тады паеду
Да Вітаўта.
Ягайла:
Дык ён цябе заб’е!
Ядвіга:
Заб’е ці не – усё па волі Божай.
Каб смерць і зло не рушылі наш дом,

Калі  Радзіме гэта дапаможа,
Гатова я ахвяраваць жыццём
Сваім…
Ягайла:
Таго я не дазволю.
Пакуль жывы, пакуль яшчэ кароль,
Мяне якая б ні спасцігла доля,
Паеду я…  (звяртаецца да Ядвігі)
Табе служыць, дазволь!
Ядвіга:
З табою я!
Напапалам раздзелім
І радасць, і самоту, і бяду.
Скіргайла:
Вы тут усе, напэўна, звар'яцелі?
Што хочаце рабіце!
Я пайду!  (выходзіць)
Ягайла:    (звяртаецца да Ядвігі)
Разбіта сэрца  і душа – бядою!
Што мне рабіць?
Як быць, анёлак мой!?
Ядвіга:
Узняцца, нібы птушка, над сабою,
Над гонарам і веліччу сваёй,
(заходзіць епіскап Андрэй)
Епіскап Андрэй:
Паклон вам нізкі – вам і вашай хаце! (кланяецца)
Хай Бог дарue ласку і цяпло,
Ахоўвае пан Езус з Божай маці,
Пад Божым і пад Польшчаю крылом.
Ягайла:
У змяі заўжды змяінае аблічча –
Ідзе вайною Вітаўт на мяне,
Агонь свяшчэнны пагасілі Зніча,
Ды разгарэўся ён яшчэ мацней.
Дамову заключыў ён з крыжакамі
І  джаліць нас…
Такое як сцярпець?

Сваімі б задушыў яго рукамі,
Ды без яго… тэўтон не адалець.
Епіскап Андрэй: (задуменна)
Не адалець! ( далей злосна)
Распуснікі!
Сабакі!
У катле гарачым,
У пекле ім гарэць…
З усіх куткоў паўзуць, нібы вужакі.
Адным нам крыжакоў – не адалець!
Ягайла:
Мо хопіць езуіцкіх песнапеваў?
Епіскап Андрэй
На жарты ўсё.
Люблю я гумар твой (звяртаецца да Ядвігі)
Цяжарная вы, можа, каралева?
Ядвіга:
Не ведаю.
Ягайла:
Цяжарная – табой!
Цяпер не двое будзе нас – а трое.
І ты цяпер наследнік будзеш наш.
Епіскап Андрэй : (сумеўшыся)
Мо я не у час?
Кароль наш не ў настроі.
Ягайла:
Мо, ойча, і табе наліць віна
У гонар твой і за зачацце сына?
Епіскап Андрэй
Не! Не!
Мяне чакаюць.
Я пайду! (выбягае)
Ядвіга:
Навошта ты пакрыўдзіў без прычыны
Айца святога…
Ягайла:
Мо й святы ён дух?
Ці ты не бачыш,

Сее ён раздор
Паміж Літвой і Польшчай
(Ядвіга спрабуе абараніць епіскапа Андрэя)
Ядвіга:
Памаўчы!
Ён прамаўляе Божым словам
Ягайла:
А ў самога – д'ябал на плячы.
Ядвіга:
Ты – не суддзя!
Бог усё бачыць і ўсё чуе.
І будзе суд – над мною, ім, табой!
Ягайла:
Але не ён цяпер мяне хвалюе –
Лёс бацькаўшчыны любае маёй.
Не час цяпер для спрэчак і для бруду,
І для ўцех і радасцей не час.
Ядвіга:
Дык паязджай!
А я маліцца буду:
За нашыя народы,
І за нас!
(Ягайла цалуе Ядвігу, выходзіць. Ядвіга застаецца адна, стуляе рукі ў малітве, шэпча)
Пан Езус – наш заступнік і збавіцель –
Дай сілы нам ў гэты цяжкі час
Парваць хлусні і тлумных думак ніці,
Ад чорных дзей пазбаў ты, грэшных, нас.
Не дай заблытацца ў мане, адчаі,
І шлях наш светлай зоркай асвяці.
Да ног тваіх я нізка прыпадаю –
Не дай упасці – да канца прайсці.
Дай нам свой шлях, да ісціны дакрочыць.
У шчасці быць і злыбядзе – з табой!
І сэрца мне не дай, Гасподзь, азмрочыць
Ні словам, ані справаю ліхой.
Каб радасцю напоўнены быў дзень.
І міг каб кожны,

Каб асвятляла сонца кожны дом,
І каб змаглі сустрэць свой час апошні
Не ў адзіноце…
А калі памром,
За ўсе ўчынкі нашыя і справы –
Не асудзі!
Прашу, дапамажы
Ты супыніць пажар вайны крывавы,
Здымі з крыжоў – распятых на крыжы!
Даруй нам мір, Гасподзь наш літасцівы,
І за грахі нас строга не карай.
І так зрабі, каб кожны быў шчаслівы,
І каб заўжды квітнеў наш родны край.
Не дай нас паланіць нудзе і скрусе.
Я грэшная – мяне адну карай!
Я на каленях прад Табой, малюся:
Не пакідай мяне!
Не пакідай! (падымаецца з каленяў)
Дзве птушачкі аб шкліну вокнаў б’юцца,
Ці не бяды з сабой прынеслі знак?

(Заходзяць Ягайла і Вітаўт. Ядвіга падбягае да Ягайлы, цалуе)

Ядвіга:
Вярнуліся!
Ягайла:
Як можна не вярнуцца
Да неба месяц, да зямлі – вясна!
Дзень добры, мая любая!
Вітаўт:
Вітаю
Вас, каралева!
Нізкі вам паклон! (кланяецца)
Ядвіга:
А я і дні, і ночы вас чакаю
І прэч ганю жахлівых думак сон.
Ягайла:
Сядай, мой брат!
Стаміліся ў дарозе…

Ядвіга:
Я загадаю, каб накрылі стол.   (выходзіць)
Вітаўт:   (сядае да стала)
А нездарма ў Літве легенды ходзяць,
Што  твая жонка – Лада!
Так, наўкол
Ніхто не параўняецца красою,
Хіба світання сонечны прамень.
(служкі накрываюць стол. Заходзіць Ядвіга.
Ягайла налівае ў келіхі віна)
Ягайла:     (падымае келіх)
За наш саюз між Польшчай і Літвою!
Вітаўт:
За нашых продкаў!
Ягайла:
За новы час і дзень!
Ядвіга:
І за любоў, што ўсё на свеце жывіць,
І  нам  усім зачахнуць не дае.
Бо той, хто любіць – ён заўжды шчаслівы!
(выпіваюць)
Ядвіга:
Вы чуце, як салавей пяе?
Бо вольны ён,
Бо ён вясну вітае!
Вітаўт:
Ён – вольны?!
Паспяваў.
І паляцеў
На захад, на усход – куды жадае.
А нам куды ляцець?
І я хацеў
Знайсці на чужыне душы адхланне,
Як ён, спяваць і радавацца дню.
Я думаў –  час міне і дзень настане,
Забуду я пра здраду і хлусню.
Ягайла:
А не забыў?

Вітаўт:
Ніколі не забуду.
Ягайла:
Падняць гатовы помсты ты мячы?
Вітаўт:
Пакуль жывы – заўжды змагацца  буду!
Ягайла:
Са мной?
Вітаўт:
З табой!
І з іншымі!
Маўчы!
Ягайла:
У голасе тваім я крыўду чую.
Ды, брат, не час сягоння для дзяльбы,
Калі крыжацкі меч  паўсюль лютуе,
І кожны  паасобку з нас – слабы!
Перад крыжацкай чорнаю навалай.
Яднацца трэба і на крыўды ўсе
Забыць часова, ці нам гора мала
Вайна прынесла?
Колькі прынясе
Яшчэ яна.
Дзяліць пасад – даволі!
Вітаўт:
Са мною прымірыцца захацеў!?..
Ядвіга:
Сумі свой боль, ён горшы за няволю –
Ён нараджае не дабро, а гнеў!
Ягайла:
Падумай, брат, што стане заўтра з намі?
Вітаўт:
Змяніўся ты,
Цябе не пазнаю!
Ягайла:
Ці прагнеш ты крыжацкімі мячамі
Маю Радзіму знішчыць…
І сваю?

Вітаўт:
Пагібелі я не хачу Айчыне,
Ды як забойцам верыць, адкажы?
Ягайла:
(бярэ са стала нож, укладвае ў руку Вітаўту)
Вось востры нож.
Бяры!
Я меч адкіну… (адкідвае свой меч да сцяны)
Вітаўт: (задуменна)
Крыжы вакол!
Куды ні глянь – крыжы!
Ядвіга:
Не помсты нож крывы – любоў і згода
І цела ўратуе, і душу….
І ад імя свайго і вашага народа
Малю вас, прымірыцца вас прашу!
Вітаўт: (кладзе нож на стол)
Паверу вам!
Хоць на душы – аблога!
Яднацца – выйсця іншага няма!
Ягайла:
Жыццём клянуся,
І клянуся – Богам!
Быць з вамі разам
На вякі!
Аман! (налівае ў келіхі віна)
Вітаўт:
За мір і згоду паміж намі, брат,
Паміж Літвой і Польшчай
Ядвіга:
І людзьмі
Ягайла:
Табе вялікакняжацкі пасад
Я давяраю – у нялёгкі час – вазьмі!
Ні ў чым табе не стану замінаць.
Ты ж у дапамозе мне не адмаўляй,
Літву і Польшчу ў бітве адстаяць…
(паднімае келіх)

Смерць крыжакам!
За край!
Вітаўт:
За родны край!

**Дзея шостая**

(Вільня. Вялікакняжацкі палац. У пакоі Вітаўт і ягоная жонка княгіня Ганна)

Ганна:
Вось ты і дома. Побач. Як жа мала
Нам прыпадала гэткіх светлых дзён –
Паходы, бітвы, злыбяда, палон,
Паціху забываць твой твар я стала.
І рук агонь, і вуснаў мёд тваіх.
Вітаўт:
Цяпер я твой – і кожны час і міг.
Каханнем зацугляны – беражыся!
(абнімае Ганну)
Нікуды ад сябе не адпушчу,
Усе дні і ночы ў страсці шал змяшчу,
Што не змясціў…
(Пажадліва цалуе. Ганна адштурхоўвае яго)
Кажу табе – скарыся! (Зноўку абнімае, цалуе)
Я – твой!
Я – твой!
Я з буры і агню,
Не супыніць мяне,
Не змыць вадою!
Ганна:
Ты абяцаеш вечнасць быць са мною,
А заўтра волю зноў дасі каню.
Каб між туману ночы растварыцца,
Прапасці, знікнуць на гады і дні.
О, лепей мне, каханы, не мані!
І за цябе зноў буду я маліцца,
Чакаць твайго вяртання з года ў год.

Вітаўт:
Такая, пэўна, у князёўны доля.
Ганна:
Ці не збіраешся і зноўку ў паход?
Вітаўт:
Не па сваёй, павер мне, княжай волі!
Не толькі я табе – Літве належу,
І для таго мне Бог уладу даў,
Каб я спакой яе аберагаў,
У народ яднаў людзей і шырыў межы.
Перад бядой, якая вісне зноў:
Над намі – меч крывавы крыжакоў.
Тэўтонскі ордэн, нібы воўк галодны,
Жыць не дае ні ноччу, ані днём:
Ушчэнт апусташылі ўжо Гародню,
Змяшалі Ліду з пылам і агнём:
За два гады шэсць здзейснілі нападаў.
Жанчын бяруць палонам  і дзяцей.
З нас здзекуюцца –
Топчуць пожні, гады!
Куды ні глянь  – паўсюдна кроў цячэ.
Ганна:
Ці ты адзін?
І  навакол нікога
Няма, хто здольны край абараніць
Ад лютых злыдняў?
Княжычаў так многа…
Вітаўт:
Замнога – іх,
Адзін павінен быць.
Адзін!
І справядлівы,
І магутны,
Што здолее ў кулак усіх сабраць,
Каб пагасіць пажар вайны атрутны!
Ганна:
Ізноў – вайна!
Ізноўку – рацць на рацць!

Так – з дня ў дзень.
Да болю,
Да знямогі?!..
<u>Вітаўт:</u>
Яшчэ з табой спазнаем шчасця дні  (цалуе).
Бывай!
Бывай!
А мне пара ў дарогу!
Пра дрэннае не думай…
Адпачні!   (выходзіць. Ганна застаецца адна)
<u>Ганна:</u>
Мне “адпачні” сказаў на развітанне.
– “Не думай!”
Як не думаць мне, калі
Баліць душа і сэрца рве жаданне
Прыпасці да радзімае зямлі:
Да кожнай кветкі, кожнае травіны,
Да кожнае сцябліны трапяткой,
І прашаптаць – адзіны мой, адзіны –
Я назаўжды твая, саколік мой!
Дай Бог, не разлучыцца нам ніколі,
Хай свеціць сонца, перуны грымяць!
Напэўна,  у жанчын такая доля –
З паходаў дарагіх сваіх чакаць!
Чакаць і светлым днём, і цёмнай ноччу,
Калі халодны дождж па шыбах б’е,
І снег мяце, і бура смерць прарочыць,
І салавей між квецені пяе.
Чакаць і верыць – нездарма чакаю –
Вось прыляціць і ласкай абаў’е…
Шкада, што хутка маладосць мінае
І старасць непрыкметна настае,
Што кожны дзень усё бліжэй да згубы…
Ды хіба смерць нас можа разлучыць,
Забіць любоў?
Хутчэй вяртайся, любы!
І ў полымі агню – каханню жыць!
(заходзіць Вітаўт)

Мяне чакала, любая?
Ганна:
Чакала.
І чакаю з той пары.
Як кветку-папараць мне на Купалу,
Ты мой каханы, помніш, падарыў?
Калі мы ўдвух пад зоркаю начною
Да раніцы купаліся ў расе,
І Ладзе пакланяліся ж абое,
І марылі – удачу прынясе
Багіня нам, запаліць шчасця кветку…
Вітаўт: (смяецца)
Не помню нешта.
Можа, пастарэў?
Ганна:
Таму наш бацька – Род і неба – сведкі.
Ці не забыў ты перуновы гнеў.
Калі, маланкі спуджаны агнямі,
Мы беглі, ад дажджу шукалі схрон,
А на вазніцы мчаў Пярун за намі –
Шпурляў у спіны стрэлы наўздагон.
Забыўся?
Вітаўт:
Не забыўся.
Пастарэлы,
Ды добра помню гэты светлы міг.
Цяпер, як ён, і я шпурляю стрэлы
У здраднікаў і ворагаў сваіх.
Ганна:
Шпурляеш стрэлы, ды зусім не тыя.
Вітаўт:
Пакуль жанок і дзетак плач не сціх,
Вайну рыхтуе Ноўгарад і Кіеў –
Літву ўратуе стрэлаў моц маіх.
Ганна:
А ці табе ўладанняў сваіх мала?
Бог даў жыццё – дык радуйся, жыві!

Вітаўт:
Чакаць, калі крыжацкая навала
У багне ўсіх патопіць і крыві
І зробіць, паслухмяных нас, рабамі,
Як Рым калісь суседзяў, спакваля.
У сваёй краіне – спадары мы самі
І наша гэта, а не іх, зямля.
Не быдла мы нікчэмнае,
Мы – людзі!
Ад веры адрачыся, ад жытла,
Ад мовы…
Не было так!
І не будзе!
Супыніць іх Пярунава страла!
(Заходзіць Ягайла. Служкі накрываюць стол. Ганна
пакідае вялікакняскі пакой)
Вітаўт:
(налівае ў келіхі віно. Адзін келіх падае Ягайлу )
На ловы б з'ездзіць нам,
Ды вораг блізка.
Усё мацней чуцён мячоў іх звон:
Тэўтоны рушаць сцены Ваўкавыска.
Дзяцей і жонак гоняць у палон.
Снапамі жах і смерць навокал сеюць,
Не каласы – жальбу і слёзы жнуць,
Ні ў будні, ані ў Вербную нядзелю,
Спачыну і спакою не даюць,
Насуперак усім зямным законам,
І Божым, па якіх павінны жыць –
Знішчаюць храм, Хрыстом благаславёны,
І веру распінаюць на крыжы!
Расплаты час настаў…
Не можам больш мы
Цярпець іх здзекі!
Хопіць той бяды…
Ягайла:
Павіснуў меч крыжацкі і над Польшчай –
Руйнуюцца бязбожна гарады…

Вітаўт:
Пара ўсіх,
Усіх на бітву клікаць.
І пад харугвы моц сваю збіраць.
На полі ратным роўных і вялікіх –
Пара і нам з табою разам стаць!
Ягайла:
Пара!
Ды як?
Нас мала – іх без ліку.
Як край абараніць наш дарагі:
З усёй, амаль, Еўропы вояў склікаў
Крыжацкі ордэн пад свае сцягі.
Вітаўт:
Няхай яшчэ нас мала –
Іх жа многа,
Ды з намі вера нашая, наш Род.
Мы пераможам!  (уздымае келіх з віном)
Дык – за перамогу!
Ягайла: (таксама ўздымае келіх з віном)
За нашу перамогу!
Вітаўт:
У паход!     (выпіваюць)
Сляпы парою – бачыць, а відушчы
Не бачыць, што сляпы разгледзець змог…
Хай думае магістр, што з імі Бог,
А ў гэты час у Белавежскай пушчы,
Гняздуюцца дзе птушкі і звяры,
Рыхтую для магістра я дары!
Ягайла:
Якія?
Вітаўт:
Ды не мёд з салодкім півам –
Лязо мячоў гартуюць ваяры,
І дзідай помсты коням чэшуць грывы…
Па ўсёй Літве гучаць яднання зыкі,
Сцякаецца ў Пушчу вояў раць:
З Гародні, Ліды…

Ноўгарад Вялікі
Полк воінаў паабяцаў прыслаць.
Становяцца пад нашыя штандары
Рамеснікі, прасталюдзіны, знаць,
Жамойты, беларусы і татары,
Усе яшчэ, хто здольны меч трымаць.
<u>Ягайла:</u>
Ці моц, ці пахвальба ў табе гаворыць,
Не здолею ніяк я разгадаць…
Харугваў колькі маеш?
<u>Вітаўт:</u>
Больш за сорак
А ты?
<u>Ягайла:</u>
І стольки ж я магу сабраць!
<u>Вітаўт:</u>
Ці – смерць,
Ці з перамогаю вярнёмся!
<u>Ягайла:</u>
Нялёгкі на сябе ўзвалілі груз.
<u>Вітаўт:</u>
Дык клятвай нашых продкаў паклянёмся,
Ніколі не парушыць наш саюз!
<u>Ягайла:</u>
Жыццём табе клянёмся, бацька Род,
Усіх родаў пачынальнік чалавечых,
Што ў бядзе не кінем свой народ,
І не дамо: ні знішчыць, ні знявечыць!
<u>Вітаўт:</u>
Клянёмся гэтым небам, гэтым полем,
Дзе спее жыта і растуць стагі –
Не адрачэмся ад цябе ніколі,
Пакуль не трапім у райскія лугі!
<u>Ягайла:</u>
Няхай выпрабаванне нас чакае,
Мы будзем піць настой жывой вады
З тваёй крыніцы, што не замярзае,
Радзіма, і служыць табе заўжды!

Вітаўт:
Калі і ноч спрадвечная надыдзе,
Шлях знойдзем,
Як нам цяжка б ні было,
Мы да крыніц тваіх,
О, Святавідзе,
І з рук тваіх запалім мы святло.
Ягайла:
Ты асвятляеш долы і пагоркі,
Даеш жыццё зярняці і траве.
І на сваіх плячах трымаеш зоркі –
Усё табой гамоніць і жыве.
Вітаўт:
Ты хмарамі кіруеш і вятрамі,
І насылаеш засуш і дажджы,
Дык, злітуйся, наш бацька Род, над намі,
Ад смерці і няволі ўберажы!
Ягайла:
Сумі сумненні нашы і трывогі,
Ад зайздрасці пазбаў нас і ад зла!
Вітаўт:
Ад дзей чужых, ад усяго чужога –
І выведзі са змроку да святла.
Іх моцны бог, ды нашага ім бога
Не пакарыць – пакуль яшчэ жыву
Ягайла:
Не пакарыць!
Вітаўт: (налівае ў келіхі віна)
За нашу перамогу!
За вольныя – і Польшчу, і Літву! (выпіваюць)
Ягайла:
Калі паход пачнём мы?
Вітаўт:
Ды ўлетку,
Калі салоўка ўранні запяе.
Крыжацкі ордэн нам рыхтуе клетку,
Ды сам жа ён патрапіць ў яе.

Ягайла:
Дай, Божа…
Не далічымся мы многіх!
Вітаўт:
У сечы біцца – не грыбы збіраць!
Ягайла:
Бывай, мой брат!
Пара і мне ў дарогу –
Склікаць харугвы  і мячы каваць!
(Ягайла выходзіць. Вітаўт застаецца адзін)
Час ісціны настаў!
Хай не астудзіць
Душу мне страх,
Не дасць мне скамянець.
Смерць ці жыццё?
А іншага не будзе!
Свабода і жыццё,
Ці здзек і смерць?  (уваходзіць Ганна)
Ганна:
Дзень на двары,
Глядзі – ужо світае,
А ты не змружыў вочы ні на час,
Свае ўсё думы думаеш, гадаеш.
Вітаўт:
Не спіцца нешта.
Ганна:
Не ў першы раз
Пра гэта ты, каханы мой, гаворыш.
Я ўжо забыла тую ноч, калі
З табою разам мы лічылі зоры,
І з кужалю страсцей вянок плялі.
Вітаўт:
Ці не за лёс мяне ты дакараеш?
Ганна:
Не дакараю,
Удзячная яму
За тое –
Што ты ёсць,

Што я кахаю
Цябе ўсяго – і ўлетку, і ў зіму:
Прастуджанага, хворага, слабога
І моцнага, як тур, які ляціць
Над прорваю…
Кахаю я любога...
І буду я заўжды цябе любіць.
Вітаўт:
І я кахаю!
Скалы з мейсца зрушыць
І рэкі павярнуць наўсцяж з табой
Змагу я.
Маёй веры не парушыць!
О, толькі б непарушным Дух быў твой!
Я за цябе баюся,
Бо нямала
Са мною ты бяды і зла спазнала,
А колькі яшчэ прыйдзецца спазнаць?
Баюся, каб чакаць не перастала.
Не перастала ты мяне кахаць!
Ганна:
Чакала!
І яшчэ я пачакаю –
І ў час вяселля, і ў самоты час
Бо жонка я твая,
Цябе кахаю,
І разлучыць – што сэрца вырваць з нас!
Жабрачкай за табой ісці гатова
І есці не пірог, а хлеб ржаны…
Вітаўт:
Даруй за недасказаныя словы!
Даруй, за недагледжаныя сны!
Што гэтак мала цешыўся табою,
Што быў да слёз тваіх парой глухі,
Што жыў не так, рабіў зусім не тое…
Даруй ты мне за ўсе мае грахі!
Ганна:
І мне даруй!

Вітаўт:
За што?
Ганна:
Сама не знаю…
Што, можа, я з табой не так жыла,
Не так жыву я, і не так кахаю,
Не ўсё ў жыцці зрабіла, што магла!
(Вітаўт прыціскае да сябе Ганну, цалуе)
Вітаўт:
Пакуль ёсць ты – каханне не загіне,
Як самую чароўную красу,
Па ўсіх шляхах яго я панясу.
Табе належу толькі…
І Айчыне!
Ганна:
І я табе…
Збіраешся ў паход?
Вітаўт
Крыжацкі меч навіс над родным краем –
Наўкола сее смерць, нішчыць наш народ.
Ганна:
Дык паспяшай,
Хай Зніч аберагае
Цябе, мой любы!
І ўвесь наш Род.
Вітаўт:
Чакай мяне і ў радасці, і ў скрусе!
І што я не з табой – не дакарай!
Я з перамогай да цябе вярнуся
Ў ноч цёмную ці ў светлы дзень – ты знай!
Бывай!   (Вітаўт утрапёна цалуе Ганну, выходзіць)
Ганна:
Ізноўку я адна…
Так стала пуста,
І амярцвелі – сад і  гэты дом.
"Люблю" – нібы літанне  шэпчуць вусны.
І неба спахмурнела за акном.
У кожным шэпце дрэва, кожным гуку,

Яго мне голас чуецца здаля,
І цягнуцца  да рук ягоных рукі,
Бо ім ўся напоўнена зямля.
Куды б ні йшла – са мной ён побач крочыць.
Калі б змагла – за ім бы рушыла ў паход!
Ды толькі абавязак наш жаночы –
Дачок, сыноў раджаць і доўжыць род,
І ў справах паўсядзённых і ў слове,
На смутак не зважаючы і злосць –
Дух умацоўваць сілаю любові
Усіх, хто побач з намі быў і ёсць.
Я  ўсё змагу!
Я спраўлюся з любой
Бядой!
Я буду жыць табой
Заўжды!
Слабкая я – ды слабасцю сваёю
Я рушу, бы пылінкі, гарады.
І шлях прайду, што кожнаму адмерыў
Бог…
Самотна мне… цяжэй…
Ляці, мой муж,
Бі ворага!
Я веру,
Цябе маё каханне зберажэ!  (прыслухоўваецца)
Здаецца, што гучаць святочна трубы
Ля брамы, каля замкавай сцяны.
Ці гэта не вяртаецца мой любы
У родны дом
Зноў да мяне,
З вайны? (заходзяць Вітаўт і Ягайла)
<u>Вітаўт:</u>
Хай збіліся ў паходзе нашы ногі,
Ды ў сечы не панікла галава…
(Звяртаецца да Ганны)
Цябе вітае край наш з перамогай!
<u>Ягайла:</u>
Цябе вітае Польшча і Літва.

Ганна:
І вас вітаю я – мае героі.
Вітае неба роднае і дол,
Лугі і пожні, сонца залатое…
Для вас ўжо даўно накрыты стол.
Я ложак, любы, для цябе паслала,
І наліла ў келіхі віно,
Якое з пушчы водарам змяшала,
Каб не закісла да пары яно.
Каб вашыя турботы і знямогі
У далягляд чароўных сноў сплылі.
І, стомленыя дальняю дарогай,
Вы ў родным доме адпачыць змаглі.
Вітаўт: (кланяецца Ганне)
Паклон табе за ласку і цярпенне.
І за любоў…
Ягайла:
За твой гасцінны дом.
Вітаўт:
За кожнае дзівоснае імгненне,
Што падарыла мне…
Ягайла:
Жывём!
Вітаўт:
Жывём!
Ганна:
Калі б не вы, – дык што было б са мною?
З ўсімі намі?
З роднай стараной?
Паклон не мне, а вам,
Вам, мужным воям,
Хто стаў на плошчы,
Спіць на полі сечы,
Хто – прыйшоў! (кланяецца, Вітаўт, Ягайла і Ганна сядаюць за стол. Ганна падае келіхі з віном)
За вас, мужчыны, – ваяры і богі!
За мужных абаронцаў!
І сыноў!

Вітаўт:
За перамогу
Ягайла:
Нашу перамогу!
Вітаўт:
За бацькаўшчыну нашу!
Ганна:
За любоў! (выпіваюць)
Паўсюль бязлад…
Вітаўт:
Ды раны час залечыць:
Край расквітнее наш, бы весні сад.
Ягайла:
Была цяжкой,
Была крывавай сеча…
Я нават думаў, мы не зможам, брат,
Перамагчы,
Што ўсіх нас Бог пакінуў,
Калі нас ціснуць сталі крыжакі.
У тую смертаносную хвіліну,
Калі твае харугвы і палкі,
Пад націскам варожае грамады,
Пабеглі…
Вітаўт:
Адступленне пачалі,
Каб строй парушыць іхні і парадак,
Каб у адно з’яднацца не змаглі,
Паверылі, што перамога блізка,
Што мы бяжым у роспачы ад іх,
Што мужнасці зламалася калыска.
Чакалі гэты час і гэты міг,
Калі ад лютай сечы ап’янелы,
Рассыплецца між намі іхні строй,
Мячы ўваб’юцца сквапна ў цела цела –
І стане ўсё супольнасцю адной.
І толькі смерць хаўтуры будзе ладзіць,
І ў гэты час над імі лясне гром:
Харугвамі, схаванымі ў засадзе,

Мы ворага абложым і даб’ём!
І вось хвіліна гэтая настала:
Для помсты нашай – мёртвых і жывых;
Было пабіта варагаў нямала,
І нават сам магістар фон Ульрых
Не ўратаваўся…
Нашчэнт тэўтон  разбіты
На Грунвальдзе,
Больш не паўстаць яму.
Не  ўзыдзе больш крыжацкі меч з нябыту,
Не здушыць шыю вырадкаў хамут.
<u>Ягайла:</u>
Загінула на сечы той  крывавай
Нямала нашых слаўных  ваяроў.
<u>Вітаўт:</u>
Хто  з намі быў
І хто загінуў –
Слава!
Хвала ўсім – за край праліў хто кроў!
Хвала табе Пяруне-громавержцу,
Што ты мацуеш нашай волі ніць,
Жыцця што кола вечнасці і смерці
Ніколі не стамляешся круціць,
Што ў час сяўбы, час скрухі і малітвы,
Твой зрок нядрэмна  сочыць за зямлёй.
Вядзеш  дарогай праўды нас на бітву.
За нашу волю, гонар і спакой.
Што дзеліш з намі радасць і пакуты,
І ў час вяселля і адчаю час,
Па ворагах страляеш нашых лютых,
Адводзіш стрэлы іхнія ад нас!
Хвала табе – за дзень наш кожны новы,
Што нам даеш жыццё і доўжыш род.
І ў войска нас прымаеш Перунова
Тых, хто за родны край кладзе жывот.
Хвала табе!
І слава тым героям,
Не дачакацца болей нам якіх,

Што спяць адвечным сном на полі бою…
Прымі, Пярун, іх у свае палкі!
Няхай ніколі не сустрэцца больш нам,
Жыць у нашых сэрцах будуць з году ў год.
(налівае ў келіхі віна)
За белы край наш!
За Літву!
Ягайла:
За Польшчу!
Вітаўт:
За нашу волю!
Ягайла:
І за наш народ! (выпіваюць)
Ганна:
Не верыцца, што больш вайны не будзе,
І не праткне нянавісці страла
Народы,
Ў страху пачувацца людзям –
Так хочацца кахання і святла.
Вітаўт:
Я шчыра верыў, гэты час настане,
Калі здабудзем разам мы свабоду.
На бітву йшлі наваградцы, смаляне,
А з бітвы мы вярнуліся народам.
Ягайла:
Як жыць далей мы будзем, брат, з табою?
Час міру наступіў – касьбе, жніў'ю?
Вітаўт:
Ты будзеш правіць Польшчай.
Я – Літвою.
Мацуй сваю дзяржаву.
Я – сваю!
Ягайла:
Ды мы з табою разам, мы – адзіны
І ў мірны час, і ў нашай барацьбе!
Вітаўт:
Не стануць пакланяцца больш ліцвіны
Нікому – ані ляхам, ні табе!

Ягайла:
Але Літва – табе і мне належыць;
Яе лугі і гоні, хлеб і соль,
Бяскрайнія яе лясы і межы,
І я – яе заступнік і кароль,
Ды ўладанні Полацка і Воршы,
Як і твая, так не мая зямля?
Вітаўт:
Я не пярэчу.
Ды – кароль ты Польшчы.
Літва не выбірала караля!
Ягайла:
Ці не даваў быць верным Польшчы слова
Мой любы брат,
І вернасць дзе твая?
Аб гэтым сведчаць нашыя дамовы…
Вітаўт:
Падпісваў ты дамовы, а не я!
Ягайла:
Ты абяцаў быць верным мне да скону.
Плячо ў плячо ісці заўжды са мной.
Ці не жадаеш ты маёй кароны?
Вітаўт:
Павер, мой брат, мне хопіць і сваёй,
Таго спаўна мне хопіць, што я маю,
Што не маё – ўсё забірайце вы.
Я толькі міра і дабра жадаю
Для бацькаўшчыны любай – для Літвы!
Каб мір быў, гора край не зведаў болей,
Каб багацеў, квітнеў ён з года ў год.
І не пад рускай, не пад польскай воляй
Жыў, а сваёю воляю, народ!
Ягайла:
У адзіноце – смагі не спатоліць
Калі адзін ты будзеш – прападзеш.
Ды я цябе, павер мне, не няволю…
Вітаўт:
А ці сваёю воляй ты жывеш?

Ягайла: (злосна)
Сваёй ці не!
Каму якая справа!?
І не табе, мой брат, мяне судзіць:
Што мне рабіць,
Як кіраваць дзяржавай,
Як жыў я, як жыву, як буду жыць –
Ці воляю сваёю, ці без волі?
Пакуль не скамянеў, пакуль жывы,
Я Уніі парушыць не дазволю
І нашу еднасць – Польшчы і Літвы!
(Не развітаўшыся, выходзіць. Застаюцца Вітаўт і Ганна)
Ганна:
Ці жорсткай не была твая размова?
Вітаўт:
Не бачу перад ім сваёй віны.
Ганна:
Баюся, каб тваё ліхое слова
Не запаліла зноў агню вайны.
Вітаўт:
Маўчаць я не жадаю і згаджацца
На ўсе яго памкненні і правы.
Даволі нам усіх наўкол баяцца,
Літвою звацца, і не мець – Літвы!
Па правілах чужых жыць і законах,
Чужым багам маліцца ў жальбе…
Пара мне каралеўскую карону
Прымераць, як Ягайла, на сябе.
Ганна:
Яна табе навошта?
Дзеля славы?
Ці княжы замалы табе пасад?
Вітаўт:
Каб з кожнай еўрапейскаю дзяржавай
На роўных быць, у адзіны стаўшы рад.
Каб узвялічыць гэты край чароўны
Да вышыні, якой не знаў народ.
І быць заўсёды роўным сярод роўных,–

Ад гэтых дзён і да сканчэння год.
Ганна:
Ці здолееш такі цяжар ты несці?
Мо гэта толькі мроя?
Нібы дым,
Развееццам яна і знікне дзесьці.
Вітаўт:
Яе прапанаваў свяшчэнны Рым,
Сам Зігізмунт мне даў на гэта згоду,
Мяне каранаваць паабяцаў.
Ён бачыць каралеўствам пажадаў
Народ Літвы, як іншыя народы –
Магутным, незалежным ні ад кога,
З адзінай верай і адзіным богам!
І станеш каралевай хутка ты,
Па волі ўсіх ліцьвінаў, па закону
Надзенеш каралеўскую карону –
Вянец улады грозна-залаты!.
Ты чуеш, як звіняць літаўры звонка?
Яны звіняць паўсюль у гонар твой.
Ганна: (усміхаецца)
Навошта мне карона,
Хопіць жонкаю
Мне быць,
Каханай быць
Тваёй.
Каб быў спакой і мір,
Каб вольна людзі
Жыць, працаваць, дзяцей расціць маглі.
Вітаўт:
Хай будзе так!
Па-іншаму – не будзе,
Бо мы гаспадары сваёй зямлі!
Хай нашы ненавіснікі лютуюць,
Я гонар свой і волю зберагу.
Праз дзень ці два карону залатую
Прымераць на сябе і я змагу!
Літве быць каралеўствам...

Едуць  госьці,
І ўжо накрыты для гасцей сталы!
Ганна:
Дай, Божа!
Ды баліць мне сэрца штосьці...
(заходзіць стражнік)
Стражнік:
Вялікі князь,
Да вас прыйшлі паслы!
Вітаўт:
Дык – запрашай!
Музыкі, грайце ў трубы,
Танцораў заклікайце,
Ладзьце баль!  (заходзяць паслы)
Пасол першы:
Вялікі князь,  не пажадай нам згубы
Пасол другі:
Не з радаснаю весткаю, на жаль,
Прыйшлі мы, самі як таго жадалі...
Пасол трэці:
Даруй нам...
Ды на польскай нас мяжы
З тваёй каронай ляхі затрымалі,
І нас абрабавалі...
Пасол першы:
Як вужы,
Зямныя ўсе парушыўшы законы –
Чынілі здзек,
У твар шыпелі нам.
Пасол другі:
Усё забралі...
І тваю карону
Са здзекамі рассеклі напалам!
(Вітаўт у роспачы прыцiскае руку да сэрца)
Вітаўт:
О, Божа літасцівы!
Ганна:
Не хвалюйся,

І без кароны не памеркне свет!
Вітаўт:
З Літвой што будзе,
З нашай Белай Руссю?
Ганна:
Між пылу часу іх не знікне след!
Пасол трэці:
Табе змайструем новую карону.
Пасол першы:
Больш велічную нават, чым была.
Пасол другі:
І продкаў усіх тваіх на ёй імёны
Напішам...
Ганна:
Ты – кароль!
Табе – хвала!
Паслы:
Хвала!
Хвала!
Хвала!
Вітаўт:
Няхай мы ў бітве загінем –
Ні веры не згубім, ні волі,
Бо той, хто радзіўся ліцвінам –
Палякам не стане ніколі!
(Вітаўт падае. З'яўляюцца ў белым адзенні здані Кейстута, Біруты, вояў)
Здань Кейстута:
Памёр кароль!
Кароль наш – з намі.
Бы ў небе сонца промень трапяткі!
Здань Біруты:
Белы аркуш сляза не запляміць –
Ні праз гады, ні праз вякі!




Уладзімір Хін, З серыі *Пасля жыцця-1*. 2002 г.,

# ПЕРАРВАНЫ ПАЛЁТ ІГАРА ЖУКА

Святлана Мусіенка

Ігар Васільевіч Жук (1957–2017) – доктар філалагічных навук, прафесар, Выдатнік Асветы Рэспублікі Беларусь, аўтар 130 навуковых прац, у тым ліку чатырох манаграфій. Друкаваўся ў навуковых выданнях Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны, Славеніі, Літвы.

* * *

Я трымаю ў руках толькі што прачытаную кнігу Ігара Васільевіча Жука “Прыхінуцца да крыніцы”. Пачынаючы з назвы і да апошняй старонкі пры яе чытанні, я адчувала інтэлектуальную раскошу, сапраўднае захапленне манерай аповеду (навуковага!!!), прыгажосцю мовы, навізной трактовак матэрыялу і … *пачуццё бясконцай горычы*. Яе аўтар сышоў у вечнасць і сам паставіў кропку ў сваёй працы. Цяжэй за ўсё ў дадзеным выпадку напісаць словы “ў апошняй”. Бо кнігу сваю Ігар Васільевіч скончыў да ўласнага юбілею – 60-годдзя. Ды і што такое для навукоўца 60 гадоў? Гэта перыяд навуковай сталасці, дасягнення дыдактычнага майстэрства, усведамлення свайго месца ў жыцці. Прырода шчодра надзяліла прафесара І.В. Жука талентам даследчыка і выкладчыка. Ён умеў і выдатна пісаць, і арыгінальна-лагічна мысліць, і захаплядьна чытаць лекцыі, і весці любога роду заняткі са студэнтамі. І яшчэ ён быў добрым, высакародным і прыстойным. У

дадзеным выпадку цяжэй за ўсё напісаць слова “быў” і назваць другую дату біяграфіі гэтага выдатнага Чалавека, Навукоўца, Настаўніка, Бацькі, Мужа і нават Дзядулі.

Лёс мацнейшы за розум, пачуцці і боль страты. Ён распарадзіўся так, што Ігар Васільевіч *звярнуў з дарогі жыцця ў вечнасць на сярэдзіне шляху*. Колькі ж ён яшчэ змог бы сказаць разумных слоў студэнтам, адкрыць новыя таямніцы літаратуразнаўства, падарыць цеплыню сваёй душы сям’і, сябрам, аднадумцам, падрыхтаваць магістраў, аспірантаў, дактароў навук.

Ігар Васільевіч Жук нарадзіўся і вырас у сям’і беларускіх інтэлігентаў. Дзякуй, што выгадавалі такога сына, якім па праве можа ганарыцца не толькі сям’я, але і краіна, наша Беларусь, у якой ён жыў і якую бязмежна любіў.

Як і многія, ён скончыў школу, універсітэт, аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Сэрцам ён абраў *месцам працы* горад Гродна. Бясспрэчна, Ігар Васільевіч быў таленавітым вучнем, студэнтам, аспірантам, але па-сапраўднаму талент яго раскрыўся ў Гарадзенскім дзяржаўным уверсітэце імя Янкі Купалы. Гэта было адзінае *месца яго працы*, якая доўжылася з 1982 па 2017 год. 35 гадоў жыцця, дзейнасці, навуковых пошукаў, прадстаўленых у сціплым паслужным спісе аддзела кадраў Гарадзенскага ўніверсітэта. Гэта шлях ад асістэнта да прафесара. І на гэтым шляху хачу звярнуць увагу на тры падзеі: 1986 год – І.В. Жук абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму: “Грамадзянскасць маладой беларускай прозы (70-е гады)”; 1991–1995 гады – перыяд яго адміністрацыйнай дзейнасці: І.В. Жук выконваў абавязкі дэкана, а з 1992 па 1995 гг. быў дэканам факультэта беларускай філалогіі і культуры (1991–1994) і дэканам факультэта беларускай філалогіі (1994–1995); 2004 год – ён абараніў дысертацыю на суісканне навуковай ступені доктара філалагічных навук на тэму: “Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання (на матэрыялах беларускай літаратуры)”.

Кожная з трох названых падзей была па-свойму важнай і ў жыцці Ігара Васільевіча, і ў жыцці ўніверсітэта, і ў жыцці краіны. Варта звярнуць увагу на назву першага дысертацыйнага даследавання, у якім вырашалася найважнейшая праблема не толькі літаратуры, але жыцця грамадства – праблема *грамадзянскасці*. Гэта быў перыяд перабудовы, які прывядзе да дзвюх найсур’ёзнейшых падзей: распаду краін сацыялістычнага лагера, а затым і Савецкага Саюза, але ўсё разам дапамагае вызначэнню дзяржаўнага сацыяльнага статусу нашай краіны: Беларусь стане незалежнай, прычым, *да вялікага шчасця для народа, без крыві і*

*рэвалюцыі. Невыпадкова і ў Гарадзенскім універсітэце выяўляліся* тэндэнцыі стваральнасці: паўставалі новыя кафедры і новая кірункі ў навуцы, якія прыводзілі да адкрыцця новых спецыяльнасцяў і спецыялізацый, у тым ліку і першых у гісторыі беларускай Асветы і Адукацыі (польская філалогія: кафедра і спецыяльнасць – 1989 год). У той перыяд узрасла значнасць беларускага фактару як асноватворнага не толькі ў жыцці краіны, дзяржаўнай палітыцы, але і ў сістэме асветы і адукацыі, у тым ліку і ў нашым універсітэце. Гэтаму спрыяў і рэктар ГрДУ, прафесар Аляксандр Васільевіч Бадакоў.

На жаль, маштаб гэтай асобы і значнасць яго адміністрацыйнай дзеннасці мы зразумелі пазней… Як часта і на рознага ўзроўню пасяджэннях, і ў асабістых гутарках ён казаў: "Памятайце, што ў чалавека адно жыццё і адно сэрца". Можна толькі дзівіцца таму, наколькі блізкі ён быў да людзей, як добра ведаў і разумеў універсітэцкія праблемы. Да яго на прыём аднолькава лёгка без чаканняў маглі патрапіць і прарэктар, і прафесар, і асістэнт, і нават студэнт. Ён шанаваў творчых супрацоўнікаў і ўсяляк ім дапамагаў. Натуральна, што ў арбіце яго ўвагі апынуўся малады таленавіты літаратуразнавец Ігар Васільевіч Жук. Менавіта яму была даручана самая важная ў той перыяд справа: адкрыццё *першага* ў гісторыі беларускай адукацыі *факультэта беларускай філалогіі і культуры*. У 1991 годзе загадам рэктара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы прафесара А.В. Бадакова выконваючым абавязкі дэкана быў прызначаны малады кандыдат філалагічных навук Ігар Васільевіч Жук, у якім умудроны вопытам адміністрацыйнай працы рэктар А.В. Бадакоў здолеў разглядзець і сур'ёзнага навукоўца, і выдатнага выкладчыка, і цудоўнага арганізатара не толькі навучальнага працэсу, але і ўсяго складанага комплексу дзейнасці на новым факультэце. На гэтай пасадзе Ігар Васільевіч прапрацаваў да 1995 года. Гэты перыяд можна з поўным правам назваць *залатым векам філалогіі* і ў галіне навукі, і ў галіне дыдактыкі, і ў галіне міжнароднага супрацоўніцтва. Як кіраўніку міжнароднага супрацоўніцтва мне прыемна згадаць нашыя выезды ў Польшчу, абмен выкладчыкамі для вядзення курсаў лекцый і практычных заняткаў, сумесныя навуковыя форумы, студэнцкія практыкі і г. д. Нашы студэнты слухалі лекцыі сусветна вядомых навукоўцаў з Расіі, Польшчы, Францыі, а студэнты польскіх універсітэтаў слухалі лекцыі і спецкурсы прафесараў і выкладчыкаў Гродзенскага ўніверсітэта. Сярод нямногіх быў і Ігар Васільевіч Жук. Запамінальнымі і арыгінальнымі былі яго заняткі ў Беластоцкім універсітэце і лекцыя-агляд сучаснай беларускай літа-

ратуры ў Седльцах – тады ў Вышэйшай аграрна-педагагічнай школе. Ігар Васільевіч заўсёды здзіўляў слухачоў не толькі глыбінёй і шырынёй ведаў, але і вытанчанасцю іх выкладу, арыгінальнасцю і навізной меркаванняў.

З імем і дзейнасцю І.В. Жука звязана арганізацыя Купалаўскіх навуковых чытанняў, што сталі ў нашым універсітэце важнай традыцыяй, якая не страціла актуальнасці і сёння. Менавіта І.В. Жук быў нязменным арганізатарам навуковых форумаў, выдаўцом калектыўных прац, аўтарам прадмоў і самых цікавых даследаванняў пра творчасць Янкі Купалы. Імя выдатнага дзеяча нацыянальнай культуры штогод аб'ядноўвала навукоўцаў і Беларусі, і іншых краін у Гродзенскім універсітэце, які носіць яго імя.

На жаль, перыяд стваральнасці быў вельмі кароткім. У 1994 годзе беларускія культуралагічныя курсы перанеслі на гістарычны факультэт і па распараджэнні новага рэктара Л.М. Ківача, які прыйшоў на месца А.В. Бадакова, быў у два разы скарочаны набор на спецыяльнасць "Польская і беларуская філалогія". Штучна арганізаваная "ўсечанасць" беларускай філалогіі стала нагодай для аб'яднання ўсіх філалагічных спецыяльнасцяў у межах аднаго факультэта. Намаганні дэкана і яго аднадумцаў перашкодзіць знішчэнню ўнікальнага факультэта не завяршыліся поспехам. Гэтую падзею ён успрыняў як асабістую трагедыю. І ў знак пратэсту І.В. Жук адмовіўся ад пасады дэкана. Полем яго актыўнай дзейнасці заставаліся дыдактыка і навука: распрацоўваліся новыя гісторыкалітаратурныя і тэарэтычныя курсы на базе беларускай і сусветнай літаратуры. У дакладах і навуковых даследаваннях Ігара Васільевіча вызначыўся новы аспект: распазнанне аўтарства *празаічных* тэкстаў і вызначэнне рытмічных асноў беларускай прозы. Варта падкрэсліць, што да працы над гэтымі праблемамі І.В. Жук прыцягваў студэнтаў. І хоць у 1999–2001 гг. ён перайшоў на пасаду вядучага навуковага супрацоўніка і мог бы займацца толькі сваімі праблемамі, рыхтаваць да абароны ўласную доктарскую дысертацыю, але не. Па-ранейшаму вакол яго былі студэнты, па-ранейшаму ён удзельнічаў у навуковых канферэнцыях і праводзіў Купалаўскія чытанні, што набылі міжнародную значнасць. У працах І.В. Жука пачынаў усё часцей сустракацца новы ў літаратуразнаўстве тэрмін *"колан"*, так, яго вялікасць *"колан"* – сэнсавая адзінка для вызначэння рытму ў прозе (!). Такім чынам, Ігар Васільевіч Жук апынуўся на парозе новага адкрыцця – вызначэння аўтарства ў празаічным тэксце. Значнасць і навізну гэтага адкрыцця пацвярджае бліскучая абарона І.В. Жуком доктарскай дысертацыі *Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існа-*

*вання (на матэрыялах беларускай літаратуры)*, якая адбылася 17 сакавіка 2004 года ў вучоным савеце Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Гэта была падвойная перамога, бо перад абаронай дысертацыі Ігар Васільевіч перанёс складаную аперацыю на сэрцы. Мужнасць гэтага чалавека была бязмежнай. Прадпісаных лекарамі перасцярог ён, натуральна, не выконваў. Шмат працаваў, пісаў, чытаў лекцыі.

Пачатак XXI стагоддзя не быў лёгкім: вырасла навучальная нагрузка, з'явіліся новыя абавязкі: распрацоўка і выкладанне аўтарскіх курсаў і спецкурсаў, навуковых семінараў і г. д., падрыхтоўка навуковых кадраў – магістраў і аспірантаў, кіраванне навуковымі тэмамі. Была і матэрыяльная праблема: выплочваць пазыку ўніверсітэту ў даляравым выражэнні, узятую для аплаты аперацыі і лячэння. Акрамя навуковай і дыдактычнай дзейнасці, шмат сіл забіралі і іншыя віды працы, асабліва тыя, якія патрабавалі рэгулярных выездаў. Прафесар І.В. Жук чытаў лекцыі ў Беластоцкім універсітэце, быў членам Саюза беларускіх пісьменнікаў, членам экспертнага савета Вышэйшай Атэстацыйнай Камісіі (ВАК) і інш.

Звярну спецыяльную ўвагу на працу ў савеце. З ёю было звязана не толькі вызначэнне якасці доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, але ж за імі стаялі людзі і вырашаліся іх лёсы...

Трывожыў прафесара і лёс яго аспіранткі, якую ён пяшчотна называў "дзяўчо", і падтрымліваў яе навуковая ініцыятывы. Яму падабалася яе стаўленне да працы. Калі дысертацыя была ўжо гатовая да абароны, Ігар Васільевіч пагадзіўся на яе перапрацоўку, бо так жадала аўтарка. "Гэта разумнае дзяўчо захацела перапісаць працу, – сказаў ён у адной з прыватных размоў. Абарона дысертацыі аспіранткі Надзеі Чукічовай была бліскучай і аднагалосна зацверджана і экспертным саветам, і Прэзідыумам ВАК. Ігар Васільевіч хацеў перадаць выгадаванаму ім кандыдату філалагічных навук свае лекцыйныя курсы. На жаль, гэтай мары не давялося спаўдзіцца. Больш таго, у 2017 годзе кафедры беларускай літаратуры і беларускай мовы аб'ядналі ў "Кафедру беларускай філалогіі". Усё ж і гэты год прынёс задавальненне. Ігар Васільевіч скончыў яшчэ адну кнігу, якая стала, на вялікі жаль, апошняй, кнігу незвычайную і па сваім змесце, і па эмацыйным стаўленні да беларускай класічнай літаратуры, і па сваёй навізне і арыгінальнасці меркаванняў. Незвычайнасць пачыналася з яе назвы: "Прыхінуцца да крыніцы...". Як у беларускай народнай казцы: выпіць вадзіцы з чыстага ручая, каб жыць, каб кахаць і абараняць родную зямлю, каб яна дарыла свету разумных і высакародных

людзей. Бо для інтэлігентнага чалавека, асабліва носьбіта нацыянальнай беларускай ідэі (а такім, бясспрэчна, быў І.В. Жук ) літаратура – гэта тое ж, што “глыток вады ў пустэльні” (Экзюперы). Менавіта такую ролю ёй адводзіў Ігар Васільевіч. Ён любіў кнігу, любіў беларускую культуру і разумеў яе жыватворную сілу для народа.

Сказаць, што яго кніга новая і цікавая – значыць не сказаць пра яе нічога. Так, новая, але не толькі... У ёй даследуецца творчасць двух асноватворных, вялікіх класікаў беларускай культуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Здавалася б, на фоне сотняў прац беларускіх і замежных аўтараў пра іх і іх творчасць цяжка быць арыгінальным і наватарскім. А вось І.В. Жуку гэта ўдалося і давялося сказаць новае слова ў беларускім і замежным літаратуразнаўстве пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта даследаванне рамантычна ўзнёслае, навукова абгрунтаванае і напісана яно такой вытанчанай літаратурнай беларускай мовай, што ўспрымаецца як казачны аповед. Як справядліва сцвярджае аўтар, Янка Купала вырас з беларускага асяродку, з беларускага фальклору, з векавых пакут беларускага народа. Перад яго героем заўседы выбар – тры дарогі. Таму і Янка Купала не толькі аб’ект увагі, але і герой даследавання. Не выпадкова І.В. Жук называе раздзел пра паэта трыпціхам, у якім вылучае найбольш патаемныя і галоўныя па значнасці праблемы, што становяцца трыма разнавіднасцямі топаса: шлях, герой-вандроўнік і родная мова (“Магутнае слова ты, роднае слова” Янка Купала).

Другая трыяда, ці, паводле аўтара, “трыпціх” – гэта раздзел пра Якуба Коласа, у якім разглядаюцца два галоўныя творчыя шэдэўры паэта: “Новая зямля” і “Сымон-музыка”. Раздзел пра Коласа можна назваць навуковай паэмай Ігара Жука, у якой арганічна зліліся вытанчанасць мовы, эмацыянальнасць і навуковая навізна. І зноў магічны фальклорна-хрысціянскі лік тры: родная зямля (Беларусь-радзіма), дом і “новы” герой у “адвечным” сюжэце. Падкрэслю, што ў літаратурах народаў усходнеславянскага арэала топас дому не склаўся. Растлумачыў гэты чыннік І.В. Жук: на беларускі дом замахваліся заваёўнікі-прышэльцы. Таму ў Якуба Коласа прыём “адкрытага сюжэту” лёгка расшыфроўваецца: беларусы *набываюць* свой дом. І гэты працэс агульнанацыянальнага самаўсведамлення вучоны абгрунтоўвае “зменай літаратурнай парадыгмы”. Вялікія паэты марылі пра гэта і спадзяваліся, што Беларусь стане вольнай. Іх мару так нязвыкла выразіў І.В. Жук у сваёй навуковай працы. Аўтар выявіў сябе як мысліцель і паэт, які раскрыў унутраны сэнс і ўнутраную прыроду рытму і рыфмы ў

прозе і ў паэзіі. Гэта зроблена ўпершыню. Кніга “Прыхінуцца да крыніцы...” – развітанне з намі і творчы запавет выдатнага Навукоўца, Чалавека, Грамадзяніна, Беларуса.

Горка ўсведамляць, што яго жыццё, як палёт птушкі, абарвалася раптоўна. Таму так цяжка пісаць пра вечную памяць. Няхай жа яна, гэтая памяць, будзе сапраўды вечнай, і мы будзем памятаць і любіць гэтага чалавека, што мільгануў, як светлы прамень, пакінуўшы на зямлі каханую сям’ю, сяброў, аднадумцаў і так важныя распачынанні ў навуцы, якія працягнуць не толькі яго вучні, але і іх нашчадкі.

Вечная памяць і нізкі паклон Вам, Ігар Васільевіч! Дзякуй, што жылі, любілі, тварылі!

Святлана Мусіенка,
прафесар, доктар філалагічных навук
Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Янкі Купалы



# РЭФЛЕКСІЯ І МЕДЫТАЦЫЯ: АСПЕКТ ЭМАТЫЎНАСЦІ

Святлана Калядка

Праблема суадносін эмацыянальнага і пачуццёвага ў жыццядзейнасці чалавека мае дыскусійны характар. Да гэтага часу паняцці 'эмоцыя' і 'пачуцце' ў многіх даследаваннях атаясамліваюцца, разглядаюцца як сінанімічныя, узаемазамяняльныя. Эквівалентнасць значэнняў, іх накладанне аднаго на другое ў навуковых тэорыях зводзіць іх да адной псіхічнай з’явы (часцей эмоцыі – у псіхолагаў і пачуцця ў літаратуразнаўцаў). У канцы XX – пач. XXI ст. абазначыўся новы падыход да інтэрпрэтацыі гэтых паняццяў, які можна акрэсліць з дапамогай такой фігуры мовы, як ***гендыяліс*** (адзін праз два) – фігуры тоеснасці, калі называючы паняцце 'эмоцыя', мы прадугледжваем яе сувязь з пачуццёвым выяўленнем, а звяртаючыся да паняцця 'пачуцце', маем на ўвазе і эмацыянальны яго чыннік, і ўсё гэта ў канечным яго варыянце з’яўляецца адлюстраваннем стану аўтара / лірычнага героя. У сваім даследаванні мы пазіцыянуем непадзельнасць, “сopoложенность”, суіснаванне двух працэсаў эмацыянальнага і пачуццёвага ў адным факце псіхікі, прычым кожны з іх знаходзіць свае ўнікальныя формы і зместы выяўлення ў мастацкім творы, і ў першую чаргу ў раскрыцці перажывання праз рэфлексію і медытацыю.

Калі перажыванне ў вершы гэта суб’ектыўны ўсвядомлены працэс творчага пражывання душэўна-духоўных эмацыянальных працэсаў, то рэфлексія / самарэфлексія скіравана на самаўсведамленне, самаідэнтыфікацыю, самапазнанне, самаацэнку ўнутраных псіхічных актаў і станаў праз візуалізацыю названых працэсаў у рэфлексіўным тыпе мастацкага пісьма. У акце рэфлексіравання пачуцці ўзаемазвязаны з эмацыянальным працэсам самааналізу, звернутым да набытага, здзейсненага, атрыманага асобай (рэфлексія – ад познелацінскага reflexio 'абарачэнне назад'). Эмоцыі ў рэфлексіўных творах паэзіі выступаюць “рухамі душы”[1]

[1] Р. Декарт, *Избранные произведения* / Под ред. В. В. Соколова, Москва 1950, с. 609.

(Р. Дэкарт), здольнымі арганізаваць развагі аўтара ў адпаведнасці з пэўнымі рытміка-інтанацыйнымі паслядоўнасцямі, уздзейнічаць на ўзгодненасць думкі і пачуцця. Рэфлексія суадносіцца з жанрам, уздзейнічае на сюжэтную арганізацыю верша, прадвызначае спецыфіку мадэлявання структуры аўтар – лірычны герой / персанаж і г.д. У аснове рэфлексіі – ацэнка / прыход да ацэнкі аўтарам сітуацыі ў сабе, прычын, у адносінах да якіх была выклікана рэфлексія, аднак гэта ацэнка можа выяўляцца як у яўных, так і закадзіраваных у вобразах паэзіі формах. У рэфлексіі можа быць выяўлена самаапраўданне, пакаранне, ухваленне і іншыя эмацыянальныя ацэнкі. Як пэўную загану ў аўтарскім самавыяўленні варта разглядаць прадбачаны вынік паэтычнай рэфлексіі, і гэта ўжо не інтэртэкстуальнасць у лепшых яе класічных варыянтах міжтэкставага ўзаемадзеяння, а апеляванне да агульных месцаў, літаратурных шаблонаў (топасаў), карыстанне ўзорамі без аўтарскіх прапаноў і ініцыятыў.

Рэфлектыўная свядомасць – якасць чалавека думаючага, мыслячага, а ў творчасці яна выяўляецца праз рэфлексіраванне – канкрэтную рэалізацыю рэфлексіі праз мастацкае слова. Рэфлектыўная і рэфлексуючая – паслядоўныя стадыі ў творчай самарэалізацыі аўтара: надзелены рэфлектыўнай свядомасцю аўтар здольны накіраваць яе магчымасці на стварэнне мастацкага твора, і ў гэтым плане мы гаворым пра рэфлексуючую свядомасць аўтара, аднак і ў самім творы можа фігураваць яго лірычнае "я" / лірычны герой з рэфлексуючым тыпам свядомасці. У розных навуковых дыскурсах таксама карыстаюцца паняццем рэфлексіўнага мыслення, у аснове якога "працэс, які ажыццяўляецца на аснове ведаў суб'ектам лагічных законаў сувязі аб'екта з накіраваным на яго дзеяннем і на аснове ўсведамлення неабходнасці такой сувязі. Усведамленне ўяўляе сабой працэс канцэптуалізацыі, г.зн. рэканструкцыі схемы дзеяння і пераўтварэння яе ў паняцце"[2]. Рэфлексіўнасць мыслення як састаўная частка крытычнага мыслення грунтуецца на ўменні асобы працаваць з гатовымі ведамі, апеляваць да тэкстаў культуры, да традыцыі і канона, аднак і атрымліваць рознымі спосабамі веды пра сябе. Думкі (развагі) аўтара пра свет і сябе ўтвараюць адзін з аб'ектаў рэфлексіі. Інакш кажучы, свае думкі аўтар давярае рэфлексіі, якія знаходзяць аб'ектывацыю ў слове, мове твора, і праз слова яны ўздзейнічаюць на свядомасць і эмацыянальнае ўспрыняцце чытача. Варта

[2] Ж. Пиаже, *Избранные психологические труды*: Психология интеллекта. Генезис числа у ребенка. Логика и психология, Москва 1994, с. 435.

ўлічваць, што рэфлексія як тып мыслення, – катэгорыя кагнітыўнай сферы, а як тып свядомасці суадносіцца з псіхалогіяй творчасці.

Гэтыя паняцці мы тлумачым паасобку, не паглыбляючыся ў розныя аспекты іх узаемадзеяння, разгледжаныя ў шматлікіх даследаваннях псіхолагаў, філосафаў, педагогаў і інш., дзеля вызначэння эматыўнай нагрузкі рэфлексіі і медытацыі ў паэтычным творы. Спасылаючыся на размежаванне эмоцый, дадзенае ў дысертацыйным даследаванні Л. В. Ляўшун (вылучаюцца інстынктыўныя эмоцыі, якія спараджаюцца непасрэдным успрыняццем рэчаісных рэалій-феноменаў, якія не кантралююцца розумам, яны яшчэ не кранутыя рэфлексіяй; і экстатыўныя эмоцыі, якія параджаюцца спасціжэннем першапрычыны науменальнага свету, гэта сузіральныя эмоцыі, ужо свабодныя ад рэфлексіі[3]), засяродзімся на выяўленай ёю стадыяльнай сувязі эмоцыі з рэфлексіяй у залежнасці ад прэвалявання таго ці іншага тыпу ці спосабу быцця асобы, спецыфікі ўспрыняцця свету і раскрыцця ў ёй тых ці іншых духоўных якасцей душы. Л. В. Ляўшун вылучае ў асобныя тыпы сенсорыка – чалавека, які жыве пачуццямі, адчуваннямі і праз іх прызму глядзіць на свет, практыка – у якога душэўнасць сацыяльна актыўная, і гностыка – чалавека духоўнага на ўзроўні пазнання свету і сябе ў ім[4]. Яе класіфікацыя будуецца на аперыраванні трыма ступенямі ўспрыняцця і пазнання (ведения) свету – сенсус, праксіс, гносіс. Падобныя размежаванні дапамагаюць, адштурхоўваючыся ад тыпалагізацыі розных спосабаў быцця асобы, успрыняцця рэчаіснасці, яе пазнання, не толькі апісаць розныя тыпы рэальнасці, адлюстраваныя ў творчасці, але і экспліцыраваць праз іх розныя метады творчасці і тыпы мастацкай тыпізацыі вобразаў. Згодна з класіфікацыяй Л. В. Ляўшун, чалавек пачуццёвы, ці сенсорык, у спосабах рэфлексіравання абапіраецца на непасрэдную эмоцыю, аднак калі гэта творца, якога, напрыклад, закранула канкрэтная жыццёвая сітуацыя і выклікала незадавальненне сабой (уздзеянне факта рэчаіснасці на эмоцыі і пачуцці), і аўтар хоча паразважаць аб гэтай праблеме, знайсці прычыны незадавальнення (аддацца рэфлексіраванню), то яго матывацыя выводзіць за межы непасрэднай рэакцыі, да эмацыянальнага водгуку далучаюцца мысліцельныя працэсы, з дапамогай якіх адбываецца пошук сутнасці здарэння / падзеі

[3] Л. В. Левшун, *Категория творческого метода в восточнославянской письменности XI – XVII веков*: дис. ... докт. филолог. наук: 10.01.08, Минск, 2011, с. 90-91.

[4] Тамсама, с. 91.

(узровень асэнсавання, лагічнай аргументацыі). Знешнія фактары толькі эмацыянальныя штуршкі да самапазнання, якія актывізуюць ўнутраную працу эмацыянальна-пачуццёвых працэсаў і мысленне асобы. У аснове рэфлексіі праяўляецца таксама эўрыстычны прынцып: пісьменнік не толькі разважае, напрыклад, чаму ўзнікла падобная сітуацыя і чым гэта абумоўлена, але і гіпатэтычна сам сябе ставіць на месца Іншага, інтраспектыўна (праз саманазіранне свядомасці) пачуццёва пражывае яго перажыванне, на аснове філасофствавання ці праз аналіз учынка / здарэння / падзеі і іншае прыходзіць да атрымання новых ведаў пра свет і пра сябе, да ідэнтыфікацыі свайго новага “я”, набытага праз раскадзіроўку эмацыянальнага напружання паміж ім і Іншым/мі. Рэфлексія актывізуе пазнавальныя функцыі духоўнага жыцця асобы.

На мастацкай рэфлексіі ('развагі, роздумы') грунтуецца вялікая колькасць твораў, у якіх аўтар выступае “рэччу ў сабе”, аб’ектам і суб’ектам для самога сябе. Рэфлексію нельга атаясамліваць з медытацыяй. Рэфлексіўную лірыку не вылучаюць у якасці асобнага віда лірыкі, як гэта адбываецца з медытатыўнай лірыкай як жанрава-тэматычнай разнавіднасцю паэзіі, таму што рэфлексію ў мастацкай творчасці адносяць да метаду самавызначэння аўтара, ці самавызначэння пісьменніка ў акце слова (В. І. Цюпа, Д. П. Бак), да самаідэнтычнасці мастацкай формы, канстытутыўнага фактару формы (А. Міхайлаў), да спосабу перадачы станаўлення думкі (А. А. Жыценеў), да спосабу самаарганізацыі творчых намаганняў, рэгулятыўнай стратэгіі, ці стратэгіі кіравання пазнавальнай дзейнасцю (І. І. Бабенка) і інш. Як трапна заўважыла Л. В. Ляўшун, “розная накіраванасць рэфлексіі стварае розны традыцыяналізм: традыцыяналізм сэнсу або зместу і традыцыяналізм формы або выражэння” [с. 152], што і адлюстравана ў названых ідэнтыфікацыях рэфлексіі. В. І. Цюпа размяжоўвае рацыянальную і эстэтычную рэфлексію, называючы апошнюю эмацыянальнай у адпаведнасці з крытэрыем эстэтычных адносін[5] [с. 25]. Яго тэзіс, што “эмацыянальная рэфлексія з’яўляецца абавязковай умовай стварэння твораў мастацтва”[6] [с. 27], што само мастацтва слова выступае эмацыянальнай рэфлексіяй, адпавядае нашай пазіцыі аб эматыўнасці не толькі структурных кампанентаў паэтычнага твора, але і метадаў пабудовы яго ўнутранай формы.

---

[5] Тюпа, В. И., *Художественный дискурс (Введение в теорию литературы):* Лекции в Твери. Тверь, 2002, 80 с.
[6] Тамсама.

Верлібр – найлепшая рытміка-арганізацыйная прастора для разгортвання рэфлексіі. У паэзіі Максіма Танка зварот да рэфлексіі ў развагах прадвызначае не псіхалагізм, а менавіта рэфлексіўны тып свядомасці патрабуе такой формы выкладання думак. Гэта адлюстравана і ў вершы “Errata”, які быў напісаны ў 1993 годзе, за два гады да смерці паэта.

Гартаючы
Жыцця свайго старонкі,
Шмат бачу
Дат,
    падзей,
        імён
То выкрасленых
Некалі цэнзурай,
То спаленых
Агнём выратавальным…
Таму хацелася б
Да эпілога –
Калі паспею –
Дапісаць эрату
І вены перарваныя
Злучыць.

У адпаведнасці з вызначэннем у фенаменалогіі, “рэфлексія – тэрмін, які абазначае *ўсведамленне* уласных думак і перажыванняў”[7]. У вершы Максіма Танка менавіта ўсведамленне няздзейсненасці, незавершанасці самага важнага праходзіць праз сюжэтную дынаміку рэфлексіі, праз філасофскае асэнсаванне падзей і працэсаў уласнага жыцця. Паэт выступае своеасаблівым наратарам у пераліку “старонак жыцця”, віртуальна перагортваючы даты, падзеі, сустракаючы на гэтых старонках шмат імёнаў. Верш складаецца з двух разгорнутых сказаў, якія ўвасабляюць сабой два важныя выказванні пра сэнсы жыцця ў мінулым і будучым. Асаблівасці рытміка-інтанацыйнай формы верлібра з прамым парадкам слоў у сінтаксічнай канструкцыі, з захаваннем размоўнай інтанацыі, з адсутнасцю паўтораў дазваляюць аўтару сканцэнтравацца на сэнсавым выражэнні кожнага слова, на разгортванні

[7] Е. А. Цурганова, *Рефлексия*, (у:) *Современное зарубежное литературоведение (страны Западной Европы и США): концепции, школы, термины*. Энциклопедический справочник, Москва 1999, с. 257.

перажывання як тэмы яго сацыяльна-псіхічнага жыцця. Самапасціжэнне аўтара (а ў названым вершы не ўзнікае пытання аб супадзенні аўтара і лірычнага героя, таму што ў фактах, прыведзеных у вершы: “то выкрэсленых / Некалі цэнзурай, / То спаленых / Агнём выратавальным…”, відавочная аўтабіяграфія, алюзіі да перадваеннага часу, да перыяду барацьбы за незалежнасць Заходняй Беларусі) адбываецца паралельна з працэсамі абдумвання і асэнсавання. Першая частка і першае выказванне пра сябе адлюстроўвае псіхалагічную з’яву распадзення ўласнага быцця на фрагменты, паміж якімі трэба ўзнавіць “даты, падзеі, імёны” дзеля набыцця цэласнасці, вычарпальнасці. Вылучаючы словы “дат, падзей, імён” у асобныя радкі, Максім Танк нібы ўстанаўлівае храналогію, расстаўляе верставыя слупы з абазначанымі на іх знакавымі крокамі жыцця. У цэлым, сінтаксічная будова верша, і, як адзначаў А. С. Яскевіч, “інтанацыя па прыродзе сваёй з’яўляецца першапачаткова арганізаваным носьбітам сэнсу”[8]. На першы план выходзіць рацыянальная думка, лагічна аформленае выказванне ў форме філасофскай рэфлексіі з пэўна зададзенымі ў ёй арыенцірамі на ўспаміны як фактар канстатацыі дыскрэтнасці існавання. Ствараемы ўсё жыццё Максімам Танкам твор паэзіі згубіў важныя звёны, якія ён імкнецца знайсці, узнавіць і злучыць з дапамогай памяці. Эматыў “агонь выратавальны” (у ім карэлюе канкрэтнае значэнне (падчас вобыскаў Максім Танк паспяваў спальваць свае творы, забароненыя кнігі і брашуры, чым выратоўваў сябе ад астрожнага знявольвання) з метафарычна-вобразнай асацыяцыяй (гэта было выратаваннем і для тых людзей, пра і для якіх ён пісаў, але іх імены ад пранырлівых шпікоў аберагаў агонь), з’яўляецца ў сярэдзіне твора, нібы мяжа паміж рацыянальнасцю першай часткі і эмацыянальнасцю другой, звязанай з перажываннем аўтара – “каб паспець”. Рацыё папярэднічае эмоцыі, а сэнс паэтычнага выказвання мадуліруецца інтэнсіянальнасцю[9].

Другая частка выказвання аб сабе насычана знакамі эматыўнасці: фокусам перажывання паўстае вылучанае з двух бакоў працяжнікамі, інтаніраванае ў якасці галоўнай думкі – “калі паспею”. Слова-вобраз “эпілог” успрымаецца шматасацыятыўным словам з трайным значэннем – эпілог як фінальная частка дадзенага верша; як апошняя частка галоўнага твора паэзіі, які аўтар

---

[8.] А. С. Яскевич, *Ритмическая организация художественного текста*, Минск 1991, с. 113.

[9.] Інтэнсіянальнасць – залежнасць значэння выказвання ад псіхалагічных, прагматычных, мадальных адценняў гэтага выказвання.

піша ўсё жыццё; і як метафара апошніх дзён жыцця. У першай частцы выказванне будуецца ад імя 1-ай асобы (бачу – дзеяслоў стаіць у цяперашнім часе, абвесным ладзе), у другой частцы з'яўляюцца формы безасабовага дзеяслова ва ўмоўным ладзе (хацелася б дапісаць, злучыць), і асабовага дзеяслова ў будучым часе (паспею) з пэўнай умоўнасцю (калі). Перажыванне злучыла ў адно некалькі хранатопаў, у якія аўтар уключаны ў якасці то пасіўнага аб'екта (жыццё ўносіць карэктывы ў падзеі яго існавання), то ў якасці гіпатэтычнага, магчымага суб'екта (які ўнясе карэктывы ў рух свайго існавання сам).

Тлумачэнне слова "errata" звязана з некалькімі дэфініцыямі: 1) адрукоўкі; 2) памылкі ці спіс памылак; 3) у выдавецкай справе: эрата – набор афіцыйных выпраўленняў у змесце кнігі, зробленых пасля яе выдання; першапачаткова эрата выпускалася, каб выправіць памылкі, якія ўзніклі пры наборы ці друку. Пераасэнсоўваючы гэта паняцце ў дачыненні да танкаўскага верша, можна сказаць, што, азіраючыся назад, аўтар выяўляў, знаходзіў памылкі ўласнага жыцця, якіх хацелася б пазбегнуць, а таму дапісванне эраты – гэта складанне спіса выпраўленняў у змесце яго жыцця, якія дапамогуць "вены перарваныя / Злучыць". Як і дапісванне тэксту паэзіі, у якім ёсць свае апіскі, вартыя выдалення дзеля ажывання ў ім аўтара ў новай іпастасі, вызваленай ад друзу адказнасці за мінулыя промахі, адраджэння новага лірычнага "я", ачышчанага ад мінулых перажыванняў. Фінальныя акорды гэтага верша як апафеоз чалавеку і яго чалавечнасці, у эматыўнай метафары "І вены перарваныя / Злучыць" – іншасказальны сімвалічны вобраз вяртання з калісьці згубленага ў магчымы напрыканцы жыцця стан "узноўленага" чалавека з "цэлымі" венамі, са свабодным дыханнем.

Максім Танк уводзіць вобраз-эматыў эраты ў якасці актыўнага аб'екта з пераўтваральнай роляй. Прадмет набывае функцыі эксплікатара сэнсаў быцця (ад назвы да апошніх радкоў верша трымаючы чытача ў адзіным эмацыянальным тонусе, падтрымліваючы першасную эмацыянальную рэакцыю, утвараючы лірычнае абрамленне ў рэфлексіі), з дапамогай яго аўтар перадае непасрэдна-ацэначныя адносіны да жыцця як этычна-эстэтычнага ідэала, у якім усе памылкі павінны быць выпраўлены. Эрата набывае значнасць у якасці пэўнага экзістэнцыяльнага кода. Настрой думак, выкліканы асэнсаваннем пражытага жыцця, спалучаны з рэфлексіяй, якую суправаджае светлая надзея – "паспець". А выяўленне рэфлексіі праз верлібр – гэта ўжо не толькі адзнака аўтарскага стылю, але і культурная традыцыя нашага часу.

***Медытатыўная лірыка,*** як мы ўжо заўважылі раней, выступае самастойным відам паэзіі, але медытацыя часта атаясамліваецца з рэфлексіяй ці выступае адным з азначэнняў у падвойнай назве (медытатыўна-рэфлексіўны). У аснову вызначэння медытатыўнай лірыкі ў многіх сучасных энцыклапедыях і слоўніках кладзецца перажыванне, хаця ў паэтычных слоўніках А. П. Квяткоўскага[10], В. П. Рагойшы[11] медытатыўнасць звязваецца з глыбокім роздумам, а ў вызначэнні У. С. Мураўёва з "непасрэднымі сузіраннямі, індывідуалізаванымі "абстракцыямі" («умозрениями»), накіраванымі на спасціжэнне патаемных заканамернасцяў быцця"[12]. Пагадзімся з вызначэннем У. С. Мураў'ёва ў тым, што ў акцэ медытацыі больш сузіральнасці, адстароненасці, сканцэнтраванасці на адсутнасці ў часе і прасторы, чым роздумаў, характэрных рэфлексіі. Як няма пачуцця без эмацыянальнай рэакцыі, так і няма медытацыі ў традыцыйных ацэнках літаратуразнаўцаў без суадносін яе з элегічнасцю, лірычнасцю настрою. Рэфлексія як від актаў свядомасці не мае такой замацаванасці за пэўнай эмоцыяй. Паняцце медытацыя (адчуць сябе, услухацца ў сябе) у большай ступені мае дачыненне да рэфлексіўнай свядомасці (хоць мы сцвярджалі на пачатку нашай размовы аб наяўнасці сувязі паміж рэфлексіяй і рэфлексіўнай свядомасцю, аднак скіраванасць гэтых розных працэсаў (медытацыі і рэфлексіі) ад аўтара як суб'екта, носьбіта рэфлексіўнай свядомасці, на тэкст дазваляе нам іх канвергіраваць), а вось рэфлексія – у большай ступені да працэсаў мыслення. Рэфлексія і медытацыя могуць паміж сабой карэляваць у адпаведнасці з крытэрыямі *эмацыянальнага напружання*, *інтэнсіўнасці перажывання, скіраванасці да ўнутранага адзінства духоўнага "я"*. У аснове медытацыі як сканцэнтраванасці на душэўных станах – працэсуальнасць паглыблення, а ў аснове рэфлексіі – працэсуальнасць разгортвання. Калі рэфлексію можна разглядаюць у якасці спосабу арганізацыі думкі, то медытацыю – спосабу апісання душэўнага стану. І калі абстрагавацца ад кантрэтыкі паэтычных твораў, то можна вызначыць некалькі тыпаў узаемадзеяння рэфлексіі і медытацыі ў спосабах арганізацыі структуры: медытацыя можа стаць перадфазай рэфлексіі, можа ўваходзіць у

[10] А. П. Квятковский, *Поэтический словарь*, Москва 1966, с. 276.
[11] В. П. Рагойша, *Паэтычны слоўнік*. Выд. 3, Мінск 2004, с. 465.
[12] В. С. Муравьев, *Медитативная лирика* (у:) Литературный энциклопедический словарь / Под ред. В. М. Кожевникова, П. А. Николаева, Москва 1987, с. 214.

рэфлексіўны тэкст у якасці своеасаблівага “лірычнага адступлення”, можа выступаць самастойным творам.

Асаблівасць медытацыі ў ізаляванасці, адасобленасці, суб’ектывацыі, эмацыянальнай індывідуацыі аўтарскага сузірання, гэта позірк у сябе, але пры гэтым яна не пазбаўлена аб’ектывацыі ў скіраванасці да ідэнтычнага досведу самаўсведамлення многіх іншых людзей (з’ява інтэрсуб’ектыўнасці). Медытацыя – асаблівы стан сканцэнтраванасці на “я”-свядомасці, якая “працуе” на вузка акрэсленым полі сэнсаў-станаў унутранага свету асобы, як правіла ў аснове твора адзін рух душы, парыў свядомасці, узлёт пачуцця, эмацыянальны зрух. Сінхранізацыя іх (станаў) адбываецца за кошт эмацыянальных *рэакцый аўтара / лірычнага героя на “болевыя” кропкі душэўнага стану*: адныя могуць узмацняцца / аслабляцца, другія актывізавацца / пераходзіць у інертны стан, трэція завастрацца і г.д., аднак пры гэтым заставацца скіраванымі на гарманізацыю тэксту як акту апісання. Безумоўна, у сучаснай паэзіі складана сустрэць чыстае апісанне перажыванняў аўтара / лірычнага героя без падключэння разваг. Але медытацыя ў чыстым выглядзе не ўтрымлівае ацэнкі, не звязана са стадыяльнасцю кагніцыі. Медытацыя засяроджваецца на *вобразатворчасці*, на прадметна-рэчыўным свеце ў яго асацыяцыях са станам асобы, дэталізацыі апісання ў той меры і ступені, наколькі гэта адпавядае адлюстраванню зместу перажывання, эмацыянальна-пачуццёвай усхваляванасці лірычнага “я”.

У сучаснай паэзіі адбываецца адыход ад жанравых канонаў, ад схематызму ў спосабах рэфлексіравання, медытавання, таму межы гэтых аўтарскіх інтэнцый адкрытыя для пранікнення ў іх чужародных элементаў ці элементаў іншых структур свядомасці. У адпаведнасці з гэтай тэндэнцыяй у сучасных літаратуразнаўчых даследаваннях сустрэнем пры аналізе твораў вызначэнні змрочная, скрушная рэфлексія; светлая, шчырая, сумная медытацыя і інш., у якіх устанаўліваецца паралелізм эмоцыі і думкі, эмоцыі і перажывання.

В. І. Цюпа называў эмацыянальную рэфлексію перажываннем перажывання, выводзячы перажыванне з чыста псіхалагічнай сферы, надаючы яму значэнні культурнага досведу і эстэтычнай з’явы. Можна працягнуць гэты рад азначэнняў: “перажыванне ў/аб перажыванні” – такім чынам мы можам акрэсліць сутнасць медытацыі ў паэтычным творы ў сувязі з элегічнай (мінорнай) зададзенасцю настрою аўтара / лірычнага героя; “думка ў перажыванні” – сутнасць рэфлексіі, у якой першынство належыць свядомасці, значэнням і сэнсам, ёю праду-

цыраваным на мастацкую ідэю, але пры гэтым суб’ектыўна зразуметым і перажываным. Свет чалавечых каштоўнасцей, эмоцый, перажыванняў суадносіцца з сэнсамі рэфлексій у паэтычным творы.

Красамоўна, але вельмі дакладна ў адносінах да спецыфікі раскрыцця пачуцця ў паэтычным творы, выказаўся А. Разанаў:

“Не, паэзія не «унцыя» пачуцця плюс «унцыя» думкі, як неяк тлумачыў адзін літкансультант, а іх краі, іх самапераўзыходжанне, новы стан рэчыва і рэчаіснасці, мовы і невымоўнасці.

У радовішчах чалавечай існасці ёсць пласты, дзе думка і пачуццё сустракаюцца, дзе пачуццё – гэта ўжо і думка, дзе думка – гэта і пачуццё.

Калі карані верша не дасягаюць да тых пластоў, тады ён узор фразеалогіі, якая пра ўсё можа нешта сказаць, але нічога не можа выказаць”[13].

Эмоцыі і пачуцці судакранаюцца на полі перажывання аўтара / лірычнага героя, яны не супрацьстаяць інтэлектуальнаму, рацыянальнаму ў самавыражэнні аўтара, а знаходзяцца з імі ў стане канвергенцыі, пра што сведчыць і спецыфіка іх раскрыцця на полі рэфлексіі і медытацыі. Думка, ідэя і пачуццё, эмоцыя не супернічаюць за першынство – гэта апазіцыя выяўляецца даследчыкамі хутчэй у якасці тэарэтычнага эксперыменту, чым рэальнасці творчага акту, у якім усе разумовыя і псіхічныя працэсы каардынуюць паміж сабой дзеля больш поўнай, дакладнай, празрыстай рэалізацыі творчай задумы.

Святлана Калядка
Мінск

[13] А. Разанаў, *Паляванне ў райскай даліне*: Версэты. Паэмы. Пункціры. Вершаказы. З Вяліміра Хлебнікава. Зномы, Мінск 1995, с. 187.

# МЕЛАНХАЛІЧНАЯ МУЗА ЯНА ЧЫКВІНА

Арнольд Макмілін

Ян Чыквін – старшыня “Белавежы”, вучоны, рэдактар, літаратуразнаўца і, перадусім, інтэлектуальны і лірычны паэт (паэт, варта адзначыць, надзвычай шматгранны). У гэтым артыкуле, аднак, замест дэталёвага агляду ягонае паэзіі, я звярнуся да вершаў пра меланхолію, выключнае расчараванне, самоту і роспач. Аднойчы, пад час працы над дакладам пра творчасць паэта для канферэнцыі, прысвечанай 60-годдзю “Белавежы", я зразумеў, што, так бы мовіць, цягнік ужо зрушыў: у зборніку “Сляза пякучая айчыны”[1] розныя знакамітыя літаратуразнаўцы, а таксама і адзін з выдатнейшых сучасных паэтаў, Алесь Разанаў, пісалі ўжо пра Чыквіна – больш і лепш, чым здолеў бы гэта зрабіць я.

У гумарыстычнай прадмове да сваёй грунтоўнай працы “Анатомія меланхоліі”, створанай напачатку сямнаццатага стагоддзя, ангельскі вучоны Роберт Бертан (1577–1640) зазначыў: “пішу пра меланхолію, каб унікнуць уласнае меланхоліі”[2]. Гэтыя словы ў поўнай меры маглі б датычыцца і паэзіі Чыквіна. Вядома, я не лічу, што меланхалічныя ці сумныя думкі займаюць у ёй цэнтральнае месца, але, разам з тым, мяркую, што было б памылковым не вызначаць іхняе ролі.

Хоць Яна Чыквіна, паэта з дасканалым разуменнем як мінулага, так і сучаснага жыцця свае радзімы, цяжка назваць “паэтам вёскі”, яму ўсё ж уласціва тонкае адчуванне прыроды. Трэба адразу падкрэсліць, што гэта не адзіная муза Чыквіна – у паэта іх больш за адну. Так, напрыклад, у інтэрв’ю з Тэрэзай Занеўскай, ён падсумаваў: “На жаль, немагчыма ўступіць у адну і тую ж раку двойчы” (*Спа*, с. 160). Некалі Леў Талстой сказаў штосьці

[1] Твarановіч, Галіна (рэд.). *Сляза пякучая айчыны*. Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 2000 (далей – Спа).

[2] Democritus Junior aka Robert Burton. *The Anatomy of Melancholy, What it is: With all the Kinds, Causes, Symptomes, Prognostickes and Several Cures of it.* Oxford: Printed for Henry Cripps, 1621.

аналагічнае, калі даводзіў крытыку, што не хоча быць дзятлам, які заўсёды паўтараецца.

Пачатакам элегіі для ангельцаў быў, напэўна, верш Томаса Грэя "Элегія на вясковых могілках" (1751)[3], для расейцаў – іранічны партрэт Ленскага ў рамане Пушкіна "Яўген Анегін": "Он пел поблеклый жизни цвет / Без малого в осьмнадцать лет"[4]. Як вядома, Ян Чыквін пачаў пісаць вершы ў ліцэі, але ягоныя элегічныя творы выйшлі ў друк нашмат пазней. Першая яго кніжка, "Іду" з'явілася ў 1969 годзе, калі паэту ўжо амаль споўнілася 30 гадоў. Хоць большасць вершаў кнігі не задужа аптымістычныя, назваць іх элегічнымі таксама нельга, у "Прадказанні" (1967), аднак, гучаць такія сумныя думкі:

пад старасць.
калі ў жылах
будзе вада –
часу пясок
засыпле ўсё
і нічога ўжо не аддасць[5].

А верш "Вяртанне" (1965) канчаецца страшнымі словамі:

чужы мне чалавек,
стаўшы над магілай[6].

У прадмове да трэцяй кнігі Чыквіна "Неспакой" (1977), Сакрат Яновіч, светлая памяць якому (1936–2013), слушна заўважыў пра высокую культуру паэта, які "перакананы, што ні жыццё, ні творчасць, не з'яўляюцца гарманічнай бязгучнасцю, дасканалай зладжанасцю ўсіх складовых элементаў"[7]. У апошніх радках верша "Меланхолія", багатага на ўласцівыя Чыквіну паўторы, гучаць наступныя словы:

---

[3] Thomas Gray, *Elegy Written in a Country Churchyard*. London: Robert Dodsley, 1751.

[4] Пушкин, А.С., *Евгений Онегин*, глава 2, строфа 10. Гісторыя элегій даўняя. Для навуковага агляду гэтага жанру ў Расеі, гл. Barbara Stawarz, *Wzruszenie poważne. Rosyjska teoria elegii (XVIII-XIX wiek),* "Slavia Orientalis", LX, 4, сс. 443-462.

[5] Чыквін, Ян, *Іду*. Беласток. Выдавецтва ГП БГКТ, 1969, с. 65.

[6] Чыквін, Ян, *Адно жыццё: Выбранае*. Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 2009, с. 32.

чэрап баліць ад стукатні па тратуарах ног
плывуць успаміны на вочы і вусны
ноч аблазіла куткі ўсе і свецяць пусткі
спяшу на вуліцах гарбатых у сваю бярлогу (*Неспакой*, с. 38).

Можна згадаць яшчэ адзін верш, прысвечаны смутку па роднай хаце, “На дзень марозны”, які канчаецца словамі пра “кругагляд пешай фантазіі, / якая не вядзе нікуды” і здаецца сёння прадвяшчэннем трагедыі ў Чарнобылі, што адбылася праз 20 гадоў пасля яго выхаду. Напачатку верша чытаем:

А па-над лесам,
на гарызонце,
здалёк ад цывілізацыі,
бегае шчасце маё.
(Маё шчасце баіцца стронту
і радыяцыі).
А тут –
Толькі холаду (*Неспакой*, с. 36).

Апошнія прыклады з гэтага зборніка – два безназоўныя творы, першы з якіх “У Крышталі мужчыны, з чужымі, з чужымі...” мае адзін асабліва моцны й памятны радок: “Жыццё, як фунт ліха, як дробка махоркі” (*Неспакой*, с. 27), а другі “І чахну, і сохну, і рады няма...”, пабудаваны на асанансе і алітэрацыі, канчаецца наступнымі словамі:

Кругазварот працягваецца:
трэцца і б'ецца
быт аб нябыт (*Неспакой*, с. 40).

Варта адзначыць, што сцісласць уласціва Чыквіну, большасць з ягоных твораў вельмі кароткія. Так, у адной невялічкай паэме “Чорная віла” з кніжкі “Крэйдавае кола” паэт такім чынам апісвае раку:

Замірала ў захапленні,
Ў меланхоліі цячэння[8].

---

[7] Чыквін, Ян. *Неспакой*. Беласток: Выданне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, 1977, с. 3-4.

У зборніку “Кругавая чара” (1992) ёсць не толькі вельмі прыгожыя акварэлі, але й самыя яскравыя прыклады меланхоліі Яна Чыквіна – паэт неверагодна пранізліва піша пра самоту:

Вы харошы. Многа грошы... Але путы... адзіноцтвам вы атруты.
Як парожнія збанкі – без агню і без душы.
Маладое пакаленне не ўмее ні ўміраць, ні жыць[9].

Не менш яскравыя і вядомыя радкі з верша “Сляза арабіны”: “На душу апала / Сляза пякучая айчыны” (*Кругавая чара*, с. 24). Таксама моцныя і музычныя наступныя словы ў творы “За цішынёю самоты”:

Штось навонкі імкнецца тымчасовымі ліпкімі ныямі,
Выплывае пасмамі смутку, плямамі болю, петлямі крыку
З першымі пеўнямі вырывае са сну і душыць за шыю.
(*Кругавая чара,* с. 47)

Гэты ж тон гучыць і ў страшэнных першых словах верша “Тапелец”:

Лета ў самоце. Лета ў жалобнай цішы.
Адзін-аднюткі[10].

Верш “Раздвоеннасць” канчаецца больш філасофскімі радкамі:

А мы ў самотнасці тугу ўсечалавечую галубім...
Ці нас жыццё не любіць? Ці мы жыццё не любім?
(*Крэйдавае кола*, с. 22)

Аблічча нашай эпохі крыху палохае паэта – у апошняй страфе верша “Выгіб полымя” ён піша:

Гарыць мая свяча. Ад скразняку-прайдохі,
Што дзьме і хоча здзьмуць яе жывое цельца,

---

8 Чыквін, Ян, *Крейдавае кола*. Беласток: Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа”, 2002, с. 58..

9 Чыквін, Ян, *Кругавая чара*. Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 1992, с. 38.

10 Чыквін, Ян, *Свет першы і апошні*. Беласток: Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", 1997, с. 29.

Шчэ болей раз'яраецца і выгіб полымя, здаецца,
Адным сваім святлом змагаецца з пачварным воблікам эпохі.
(*Кругавая чара*, с. 9)

Верш "Калапс" пачынаецца яркім апісаннем навальніцы, а ў апошніх радках відавочны адчай:

Але па жылах вуліц пайшла каламута,
Запаўняючы гвалтам падземныя дзоты,
Быццам там згналі плебеяў хворых.
[...]

Як мільённае пажаданне –
Не ведаючае ні сваіх крыніц,
Ні парогаў свайго катастрафічнага расчаравання.
(*Кругавая чара*, с. 12).

Як і іншых паэтаў, Чыквіна, натуральна, турбуе лёс беларусаў. Трэба дадаць, што ў асвятленні гэтае тэмы ён надзвычай нястрыманы. Так, напрыклад, сама назва бліскучага верша "Сядзь. Закуры. Маўчы..." вельмі вымоўная:

Хістаецца ўлада, што той вось гамак.
Усё толькі з'езды, сходкі, размовы,
Фарысейства палітыкаў, грошай дурман
Ды малако ад п'янай каровы.
Бяспраўе. Лухта. Сіла. Падман.
Гульбішча страсцяў. Догма як гнусы...

Як доўга нам суджана, Божа, маўчаць?

Дык можа хоць ныня адпусціш,
Святы Божа, беларусам (*Кругавая чара*, с. 22).

"Беларуская хвароба" канчаецца на ноце ціхай роспачы:

Часу, як кажуць, для нас няма,
І шчасце, як мовяць, даўно раздзялілі.
(*Кругавая чара*, с. 43).

Перад тым як звярнуцца да аналізу тэмы смерці і смяротнасці ў творчасці Чыквіна, я хачу дадаць колькі слоў пра ягонае

разуменне месца паэта ў сучасным свеце. У вершы "Сябры мае з вясковых лет..." ён піша проста: "нікому не патрэбны ў горадзе паэт" (*Неспакой*, с. 5); у вершы "На ўсе лады" – "Ніхто / На свеце ўжо / Не слухае паэтаў" (*Выбранае*). У творы "Паводле Іова", які мне калісьці падаўся эмблематычным[11], сустракаем наступныя словы роспачы:

Я непатрэбны быў, здавалася, нідзе
нікому ў гэтым свеце, першым і апошнім (*Свет*, 27).

Як было ўжо сказана, паводле меркавання Чыквіна, "маладое пакаленне не ўмее ні ўміраць, ні жыць" (*Кругавая чара*, 38), але што значыць жыць поўным жыццём, застаецца таямніцай для ўсіх, нягледзячы на век. У вершы "Свяшчэнны дождж" паэт фармулюе гэтае пытанне ў нязвыкла размоўнай форме:

Хоць ты падай, вясна свяшчэнная, мне сваю далонь
І таямніцу выяві жыцця – каб жыць (*Свет*, с. 5).

Поўны адчай гучыць напрыканцы верша пра позняе каханне "О, як гады празрыстыя ляцяць...":

Але няма спагады у прыродзе.
На свеце радасці няма.
Ёсць толькі полымя адно, гарачае,
Якім гарыць і неба, і зямля (*Свет*, с. 23).

Таксама і апошнія два радкі твора "Свет, як адна міска на стале для наймітаў...", якія на першы погляд можа здацца проста апісальным, прасякнутыя сімвалізмам:

(...) тут, дзе смерць загасцявалася да смерці.

Закрыўленая лінія свету болей не выгінаецца для жывых
(*Крэйдавае кола*, 49).

Памятны вобраз у вершы "Самакрыльна рухаўся ў паветры..." гэтаксама падкрэслівае смяротнасць:

---

[11] Arnold McMillin, *Belarusian Literature of the Diaspora,* Birmingham Slavonic Monographs, 34, 2002, p. 380 / Арнольд Макмілін, *Беларуская літаратура дыяспары*, Мінск, Тэхнапрынт, 2004, с. 347.

Самакрыльна рухаўся ў паветры
Вогненна-празрысты напіс
ХОПІЦЬ СМЕРЦІ УСІМ –
Загадкавы і страшны (*Свет*, с.40).

Аднак яшчэ больш страшны пачатак безназоўнага верша:

Каму за сорак, той назначаны ўжо цёмным ценем смерці.
А ў цені светлай – ўсе й да сарака (*Кругавая чара*, с. 10).

У гэтым артыкуле я ў аніякай меры не імкнуўся да *multum in parvo* – маёй мэтай было праліць святло толькі на адзін з тэматычных блокаў творчасці выдатнага, шматграннага паэта.

Арнольд Макмілін
Лондан



# КАЛІ РАТУЕ РОДНАЕ*

Вольга Шынкарэнка

Нават сярод самых адораных асоб сучаснасці не так ужо і часта сустрэнеш тых, хто б аднолькава таленавіта і арганічна сцвярджаў свой шматгранны творчы патэнцыял у самых розных кірунках. Адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў літаратурнай Беласточчыны, якому паслухмяна адкрылі свае таямніцы Іх Вялікасць паэзія, акадэмічнае літаратуразнаўства, бягучая крытыка, малыя класічныя і наватарскія празаічныя жанры, з'яўляецца Ян Чыквін. Калі перафразіраваць Сакрата Яновіча, гэта творца – лірычна і інтэлектуальна задуменны, непадатліва шурпаты. А яшчэ перад намі глыбока дасведчаны, бясконца ўлюбёны ў родныя словы, што "звязваюць быццё і небыццё" [1, с. 49], прыроду, чалавечую душу, веліч духу, здабыткі айчыннай і сусветнай культуры, тонкі лірык, якога вабіць няўлоўнае, імгненнае, гармонія быцця. У той жа час Ян Чыквін – рацыянальная і схільная да эксперыментатарства асоба, здольная пры гэтым чуйна рэагаваць на шматлікія сацыяльныя праблемы і парадоксы сучаснага свету; філосаф, што ў кожнай з'яве бачыць працяг кругавароту, тое, як "трэцца і б'ецца // быт аб нябыт" [1, с. 87]. Ён не толькі задае вострыя эсхаталагічныя пытанні, але і шчыра разважае над іх драматызмам і неспасцігальнасцю. Невыпадкова Уладзімір Конан, захапляючыся "шырокім дыяпазонам творча-мастацкай палітры" [2, с. 15] сучаснага пісьменніка і навукоўца са старажытнага Бельска, дзе "шляхі крыжуюцца сваім адметным шляхам" [1, с. 5], і адзначаючы яго падабенства з Цыпрыянам Норвідам, Максімам Багдановічам і некаторымі іншымі творцамі (у тым ліку і праз зварот і ўвасабленне шматлікіх варыяцый архетыпа смутку па страчаным раі), адносіць Яна Чыквіна да прадстаўнікоў плыні інтэлектуальнага трагізму.

Усе пералічаныя якасці светаадчування і творчай манеры, аднолькава як і "сялянскі фундаменталізм" (Уладзімір Конан), "глыбінная беларускасць" (Міхась Тычына), збліжаюць ураджэнца Ду-

* Ян Чыквін, *Трохкрылыя птушкі*, Беласток 2018.

біч Царкоўных з найлепшымі прадстаўнікамі літаратуры свайго рэгіёна, а таксама з многімі вядомымі папярэднікамі з беларускага, польскага, рускага ды іншых мастацтваў слова. Акрамя таго, менавіта гэтыя адзнакі дазваляюць заўважыць у напісаным Янам Чыквіным сугучнасць з заўжды самабытнымі і больш блізкімі да яго па часе зямной прысутнасці Міхасём Стральцовым, Міколам Купрэевым, Алесем Пісьмянковым, Васілём Гадулькам і іншымі таленавітымі аўтарамі з уласцівымі ім журботна-самотнай элегічнасцю, пранізлівым лірызмам светаўспрымання, пільнай увагай да самых тонкіх душэўных зрухаў героя, мастацкай выверанасцю тэкстаў.

Адметна, што сам Ян Чыквін найпершым сутнасным крытэрыем ацэнкі створанага пісьменнікам вызнае наступны:

Калі аўтар вам блізкі сваім ладам тварэння,
прозы ягонай лепш не чытайце, толькі вершы,
і нават не вершы, а лірыку. А з яе – найлепшае,
адкуль ідзе прасветлае яўленне! [3, с. 29]

Але як быць і паводзіць сябе ў тым выпадку, калі ў нейкі момант такім блізкім празаікам прадстане перад намі сам аўтарытэтны паэт? Не чытаць яго эпічныя творы? Удавана не заўважаць іх ці свядома ігнараваць? Ды толькі пры ўсім жаданні наўрад ці магчыма абысці ўвагай нядаўніх “Трохкрылых птушак” Яна Чыквіна. Гэтаксама, як і нельга не лічыцца з ужо трывалай прысутнасцю ў літаратурнай прасторы Беласточчыны адметнай і шмат у чым адрознай прозы Янкі Жамойціна, Міколы Гайдука, Сакрата Яновіча, Георгія Валкавыцкага, надзвычай плённых у апошнія дзесяцігоддзі Міры Лукшы, Міхася Андрасюка і некаторых іншых аўтараў.

Трэба меркаваць, што пры выбары інтрыгуючай метафарычнай назвы кнігі пісьменнік у той або іншай ступені адштурхоўваўся ад сімвалічнага ўспрымання птушак, гэтых крылатых божых стварэнняў, як блізкіх да Раю істот, што “здзяйсняюць сувязь *паміж небам і зямлёй*” [4, с. 401] і ўвасабляюць дух і душу, яе актыўнасць [4, с. 404 – 405]. Не менш відавочна ў празаічных тэкстах Яна Чыквіна праступае, угадваецца і нават выразна прачытваецца аўтарская аналогія птушак як недасяжных мар, а таксама думак, заснаваных на ўласных успамінах і ўражаннях ад сваіх і чужых канкрэтных сітуацый, рэальных і выдуманых гісторый, наогул пераасэнсаванні ўсяго перажытага, прачытанага, набытага багатым шматгадовым вопытам. А там, як вядома, не

знікаюць нават загнаныя ў падсвядомасць страхі, трывогі, асцярогі, боль і “няма для нас падзеяў выпадковых…” [3, с. 39]. Думкі гэтыя могуць быць звычайнымі, будзённымі, агульнавядомымі, аднолькава як і неспакойнымі, турботнымі, нечаканымі, парадаксальнымі, дзіўнымі. У тым ліку – сімвалічнымі трохкрылымі.

Нібы ад пачатку імкнучыся адпавядаць абранай назве, кніга Яна Чыквіна, невыпадкова ілюстраваная “партрэтам з птушкамі” вядомага мастака Міколы Бушчыка, утрымлівае ў сваім змесцетрыпціху адпаведную колькасць раздзелаў-крылаў. Першае з іх – “Калі свет быў яшчэ малады” – пераважна склалі творы, у якіх асэнсоўваецца жыццёвы і эмацыянальны вопыт дзяцей і падлеткаў ваеннага і пасляваеннага часу, ажываюць іх мары, гульні, часта небяспечныя, перамогі, захапленні, боль і слёзы параз. І калі мець на ўвазе час нараджэння самога пісьменніка (а гэта 1940 год), то будзе зразумела, што якраз тыя раннія і незабыўныя асабістыя ўражанні, перажытыя здарэнні і леглі ў аснову большасці апавяданняў першага раздзела “Трохкрылых птушак”. Сам аўтар перакананы, што пры ўсім драматызме выпрабаванняў, адведзеных лёсам яго пакаленню, свет дзяцінства ўсё роўна застаецца той нязменна вабнай парой,

Дзе мы былі калісь шчаслівы,
Дзе ўсе былі роўна сваімі…” [5, с. 120].

Да прыкладу, цікаўнага героя апавядання “Кніжка ў зеленаватых вокладках”, які яшчэ і літараў не ведае, а ўжо зачараваны іх дасканалай геаметрыяй, здольнасцю адгукацца і ўтвараць словы і сказы, дзіўным чынам вабяць, прыцягваюць кнігі. Яны яму нават “ноччу часам сніліся” [6, с. 8]. За адну з іх, тоўстую геаграфію з багатай колькасцю цікавых і экзатычных малюнкаў, што належыць хроснаму бацьку і дзеду сябра Ваніка настаўніку Дзямяну, хлапчук са свайго небагатага нажытку, у якім замест адсутных цацак бліскучыя ручкі ад старых дзвярэй, гільзы, кулямётныя патроны, гатовы аддаць цэлы скарб – торбачку карабкоў ад запалак. А ўжо з іх знаходліваму дзіцяці нескладана будзе “і цягнік зрабіць, і мосцік збудаваць, і хатку…” [6, с. 9]. Ды не паспее шчаслівы герой нават ўгледзецца і ўволю налюбавацца на змешчаныя ў падручніку і нябачаныя раней карцінкі, забыўшыся пры гэтым на свае непасрэдныя абавязкі ахоўніка ад птаства проса, высыпанага ў двары на прасушку, як гнаны дзедам Ванік прыбяжыць забіраць кнігу. І толькі назаўтра з раднага дазволу старога хлапчукі ў прыемнай сяброўскай згодзе змогуць здзейсніць нядаўна яшчэ крамольную

задумку.

Шмат алюзій з лепшымі творамі сусветнай літаратуры, што адрасаваны дзецям і падлеткам, выклікае апавяданне Яна Чыквіна “Грышук”. У яго невялікім аб’ёме арганічна сумясціліся адзнакі знешне-падзейнага і псіхалагічнага эцюда, бытавога абразка, прыроднай і анімалістычнай замалёўкі. Твор літаральна прасякнуты рэдкім суладдем суровых ваенных рэалій, мяккіх лірызму і гумару, што на фоне дасканалых карцін зімовага свету выяўляюцца праз пэўныя паводзіны і ўчынкі дзіцяці, дарослых людзей, сабакі Грышука-Ванькі, адшуканага каля вёскі пасля прыфрантавых баёў дзядзькам Іванам. У той самы момант мужчыну “падалося, што да яго вярнуўся жывым духам ягоны найлепшы са школьных гадоў сябрук Грыша Міхалюкоў, якога немцы забілі на самым пачатку вайны нізашто і за якім ён па-хлапечы часта тужыў” [6, с. 16]. Менавіта гэтым фактам тлумачыцца дзіўнае і адначасова невыпадковае спалучэнне чалавечых імён у мянушцы разумнага сабакі, які не толькі ўмее ў школу хадзіць, але і чытаць думкі маленькага гаспадара. У апошнім асабліва пераконвае праведзены Грышуком-Ванькам коштам уласнай рызыкі найважнейшы для далейшага лёсу хлопчыка мудры ўрок павагі і клопату пра ўсё жывое.

У больш разгорнутым па аб’ёме творы пісьменніка “Хлопцы” закранаюцца праблемы ранняга сталення маладых людзей, якія ў вайну і пасля яе недаелі, недагулялі, недавучыліся. Затое яны добра зведалі ўсе складанасці тагачаснага жыцця, напоўніцу адчулі ўсюдыісную прысутнасць смерці, шматлікія страты блізкіх і знаёмых, няўстойлівасць, калі адштурхоўвацца ад вядомай сіпакоўскай метафары, крыла пасляваеннай, яшчэ “свежай”, цішыні, яе частую разарванасць выбухамі і крыкамі. І тым больш дзіўна, чаму гэтых хлопцаў, як і герояў некаторых празаічных тэкстаў Уладзіміра Караткевіча, Івана Пташнікава, раней узгаданых Міколы Купрэева, Міхася Сіпакова і многіх іншых пісьменнікаў, так моцна вабяць-прыцягваюць забароненыя звычкі дарослых, небяспечныя дзіцячыя гульні ў вайну, стрэлы, выбухі, сама зброя, якой шмат засталося “ў разрытай траншэямі ды акопамі зямлі…” [6, с. 20] і якая нават з часам не губляе здольнасці забіваць.

На кантрасце радаснага і трагічнага, суседстве выпадковага і заканамернага ў чалавечых лёсах засноўваецца досыць распаўсюджаны ў народнай творчасці і літаратуры сюжэт чыквінаўскага “Вяселля”. Моцна пакахалі, здаецца, “ані дня не маглі жыць адно без другога” [6, с. 34], а таму і вырашылі адразу пабрацца шлюбам Васіль Янfamчкавы з “басаногай жамчужынкай” [6, с. 33] Маняй, што вельмі нагадвае матулі жаніха сасланую ў Германію на прыму-

совыя работы дачку Надзейку. Сярод запрошаных на вяселле і сусед Мікалай, які адпраўляе сваіх старэйшых сыноў, гадунцоў-падлеткаў Грышу і Ваніка, налавіць рыбы на святочныя сталы. Здаецца, нішто не прадвяшчае бяды: ідылічны пачатак цёплага сонечнага дня, "шапатлівая гладзь і цішыня вады" [6, с. 38], дасканалая прыгажосць злоўленага шчупака … А ўжо праз нейкае імгненне вада ловіць карэннем, навечна забірае Грышку. І цяпер ён, нібы тая ж рыбіна, не дыхае, ляжыць з шырока раскінутымі рукамі "адзін, на ўвесь свет такі адпачыты, бесклапотны" [6, с. 39].

Здаецца, у абедзвюх хатах аднолькава моцна галосяць, шчыра пакутуюць ад болю і гора, ад такога недарэчнага суседства маладых і нябожчыка, вянчання і адпявання, вяселля і хаўтур, як і ад немагчымасці атрымаць адзіна правільны адказ на пытанне: "… хто каму павінен саступіць з дарогі: мёртвы жывому ці жывы тапельцу" [6, с. 41]. Для прадугадвання далейшага драматызму падзей у творы асабліва істотнай падаецца рэмарка-ўдакладненне апавядальніка пра тое, што ні пры вынасе труны, ні пры праходжанні жалобнай працэсіі каля хаты суседзяў ніхто з Яначкавых "не выйшаў правесці Мікалаева гора хоць бы вачыма" [6, с. 43]. Несумненна, што пасля такой свядома падкрэсленай расстаноўкі сэнсава-эмацыянальных акцэнтаў чытач ужо падрыхтаваны да магчымай трагічнай развязкі сюжэтнага канфлікту. У дадзеным выпадку – фінальнай недарэчнай і напаўп'янай смерці ў той жа самай рэчцы, дзе раней утапіўся Мікалаеў Грышка, нядаўняга жаніха, шчаслівага мужа і ў хуткім часе бацькі Яначкавага Васіля. Толькі ні рыбы, ні самога свайго чалавека ўжо ніколі не дачакаецца цяжарная Марыя.

Першапачаткова можа ўзнікнуць ураджанне, што назва твора Яна Чыквіна "Доля і Мара" ўказвае на алегарычны характар яго зместу. Але насамрэч тут размова ідзе не пра абстрактныя паняцці, а пра хатнія варыянты імёнаў народжаных у сям'і дырэктара школы прыгожых і разумных сясцёр Адоліі і Марфы. Пазней іх лёсы пакручаста пераплятуцца з жыццямі настойлівых і неадступных у сваіх заляцаннях братоў Дзёмкі і Паўла Тамашуковых, сыноў Міхала, вядомага ў вёсцы "маёмаснага чалавека, які ўмеў множыць сваё дабро, але не любіў гэтым багаццем з нікім дзяліцца" [6, с. 47]. Адметна, што яшчэ пры першым наведванні дома сваіх школьных сяброў дзяўчат ўразяць павешаныя на сценах дубальтоўка і малюнак Гальбайна з выявай змучанага Спаса "Мёртвы Хрыстос". Бо вядома ж, калі доўга ўзірацца ў смерць, "гэта тое ж, што дазволіць, каб і яна ўзіралася ў цябе… А кажнюткі дзень – ці варта?..." [6, с. 48]. Вучыць Долю і Мару быць абач-

лівымі ў адносінах да продкаў і нашчадкаў Міхала і бабка Хвядора. “Усе яны – драпежнікі, жадзіны. І цягнецца за імі чутка, што і забойцы яны, і на ўсіх іх, на цэлым тым родзе вісіць цяжкі грэх, а калі такі грэх, то і людскі праклён” [6, с. 50].

Слушнасць гэтай перасцярогі, як і небеспадстаўная даўняя ўстрывожанасць сясцёр, неаднаразова пацвярджаецца ўсім далейшым, прама і рэтраспектыўна аформленым на працягу пяці раздзелаў, развіццём дзеяння ў творы. Якраз яго напружаная драматычнасць, крайні трагізм, узнаўленне змрочнай атмасферы праз паказ хцівасці і бяздушнасці некаторых персанажаў, зварот да матываў рэўнасці, гвалту, смерцяў, у тым ліку брата- і сыназабойства, прымушаюць чытача ўзгадаць біблейскую гісторыю пра Каіна і Авеля, некаторыя творы адпаведнай тэматыкі з сусветнай і айчыннай літаратуры. Але і падкрэсліваючы людскую недасканаласць, разважаючы пра зледзянелую “вечнасць”, жудасць, “парванасць” свету, дзе “адусюль патыхала *бяскрылым* самотным жалем” [6, с. 53], сучасны пісьменнік імкнецца перадаць яго шматмернасць і шматгалоссе, крохкасць і кранальную музычнасць праз паэтызмы, наватворы, пранікнёныя лірычныя замалёўкі. Як, да прыкладу, пры апісанні той непаўторна-бесклапотнай для маладых герояў светлай пары, калі „у бяскрайніх, надрэчных паплавах … шчасліва гулявіла калісь іхняе летняе юнацтва” [6, с. 51].

Разгорнутым метафарычным малюнкам (“За вакном варушылася халоднае цела зімы. Мароз нікога не прапускаў дарам…” і г.д. [6, с. 53] адкрываецца і сямейная гісторыя, пададзеная ў кнізе Яна Чыквіна пад назвай “Жыццё пачынаецца занава”. Трэба ўдакладніць, што такіх лірычных апісанняў, якія ажыўляюць турлíканне перапёлак, гуканне драчоў, грацыёзнасць бусла, жаўруковая кантылена, у якой “гучаў сам голас часу” [6, с. 83], карціны скошанага лугу і жніва, навакольная і душэўна-ўнутраная “запаволенасць жыцця” [6, с. 76], нямала ў структурна і падзейна багатым малым эпічным творы. Яго нетаропкая сюжэтна-кампазіцыйная плынь засноўваецца на балючых успамінах старэйшых герояў пра папярэднюю вайну і далёкае бежанства, на ўзнаўленні не менш трагічных нядаўніх ваенных падзей і пасляваеннай рэчаіснасці, на перадачы несупыннай трывогі бацькоў за лёсы прымусова вывезеных на дармавыя работы дзяцей і выношванні помсты Каіну (гл.: с. 85), з-за якога яны трапілі ў кантынгент для адпраўкі ў Германію.

Веру і Аню, дачок Даркі і Сцяпана, вывезлі туды па даносе Савелія – мясцовага солтыса і заадно траюраднага брата іх бацькі. Даўшы слова адпомсціць свайму крыўдзіцелю, Сцяпан выношвае

самыя розныя спосабы расправы з ворагам. Ды толькі кожны раз нехта ці нешта перашкаджае яму здзейсніць задуманае. Відаць, што найперш – нязгода ва ўсім далікатнай жонкі, уласная глыбокая вера, святасць сумлення, народжанае ў пакутлівых роздумах нежаданне перанесці цяжар страшэннага граху на тых жа дзяцей, нашчадкаў роду. Усё гэта дапамагае чытачу шчыра суперажываць вясноваму настрою і стану палёгкі і радасці, адчутымі Сцяпанам пасля вяртання дачок з Германіі і перададзенымі наступнымі радкамі. “ – Душа і рукі мае чыстыя. А праз гэта і ўсе вы чыстыя… – І таму забудзем пра саўкавых. Добра, што зноў мы разам, жывыя і непакалечаныя. Вайна закончылася для нас па праўдзе толькі сёння. І жыццё нашае, яшчэ вельмі маладое ў нас саміх, прадаўжаецца…” [6, с. 89].

Якраз гэтая фінальная думка пра шчаслівы працяг і абнаўленне жыцця, што гучыць напрыканцы апошняга твора першага раздзела кнігі, надзвычай арганічна яднае яго з адметнымі па праблематыцы і жанравых асаблівасцях тэкстамі аднайменнай другой часткі “Трохкрылых птушак”. Пра вынашанасць гэтых рэалістычных і містычных “калейдаскопаў абразкоў” (гл.: с. 128), пададзеных у выглядзе біяграфічных аповедаў, дарожных сустрэч, гарадскіх нататак, эсэістычных уражанняў і назіранняў, сноў, рэакцый на прачытанае, сціслых запісаў, уласных рэфлексій і высноў, дакладных ці больш адвольных выказванняў вядомых папярэднікаў адносна з’яў і твораў сусветнага мастацтва, сведчыць той факт, што са спасылкай на далёкія 1976 – 1977 гады як час напісання яны былі апублікаваны пад псеўданімам *Янка Дубіцкі* ў другім нумары “Тэрмапілаў” за 1999 год. А гэта азначае, што Чыквін-лірык практычна ніколі не цураўся прозы. Ці не таму яна так часта ўражвае паэтычнасцю вобразаў, з’яў, прысутнасцю мелодыі і медытатыўных імпульсаў, народжаных уменнем заўважаць і дзяліцца “ў струменным нашым быцці” “нечым хвілінным, няўлоўным, непаўторным” [6, с. 96], зафіксаваным глыбокай падсвядомасцю дзіцяці ці падлетка або малітоўным захапленнем ужо сталага чалавека “перад вялікасцю духа” “ва ўсёабдымным царкоўным аксамітным меласе” [6, с. 99].

Некаторыя з безназоўных тэкстаў “Трохкрылых птушак”, найперш афарыстычныя выразы, цытаты, у кніжным варыянце засталіся амаль без змен. Іншыя творы ў параўнанні з часопіснай публікацыяй займелі больш акрэсленую кампазіцыю, завершаную канцоўку, істотна дапрацаваны па змесце і стылю. Адзінкавыя героі атрымалі новае імя. У прыватнасці, арыгінальны чалавек Збышак Б., які з усяго рагоча, стане Тэадорам N. І толькі асобныя

запісы (да прыкладу: "…ён жа філолаг – у яго ўсё чорна-белае" [7, с. 79], "Горш – чымсьці біць камень, аб які спатыкнуўся…" [7, с. 80] і іншыя) зусім не ўвайшлі ў кнігу.

З самім выразам "Трохкрылыя птушкі" ў другім раздзеле мы сустракаемся пры апісанні сну героя, заснаванага на ўражаннях ад некалі перажытага ім у дзяцінстве і, здавалася б, даўно забытага непрыемнага эпізода, звязанага з гукамі-пырскамі разбітага шкла і злавесным грукатам кінутага ў акно хаты брата-старшыні, дзе малы тады спаў, каменя. Але час ад часу з дзіцячага "архіва памяці" ўжо дарослага апавядальніка ў адпаведным гукавым суправаджэнні і дэталёвым узнаўленні тагачаснай карціны трывожнай ночы выплывае, ажывае "колішні час" [6, с. 96]. І ён надзвычай прыгнятае героя, выклікае ў яго крайняе нярвовае напружанне, сапраўдны эмацыянальна-псіхалагічны стрэс, прымушае кожны раз прачынацца "са стукатам сэрца да болю. І ў вачах – з трохкрылымі птушкамі" [6, с. 109].

На шчасце, на пэўным этапе жыцця, у нейкі момант мы ўсё ж пачынаем вучыцца мяняць звычкі, спраўляцца з нябачнымі і рэальнымі страхамі, пераадольваць перашкоды, затоены і яўны боль, насуперак самім сабе змагацца з натурай нявольніка, калі "*душа без крылаў* вылазіць на кожным кроку" [6, с. 131]. Увогуле, мы пачынаем успрымаць свет, усё і ўсіх у ім па-іншаму. З гадамі нас ужо не страшыць смерць. Мы не баімся дакрануцца да крыжа. Нас не прыгнятаюць могілкі – гэты, як пазначае Ян Чыквін, "агарод памерлых" [6, с. 116], дзе кожнага чакае сваё месца. Мы пачынаем разумець, што прастора вечнага спачыну продкаў з'яўляецца іх навекі нязменнай радзімай. І яна не менш важная для ўсіх нас, таму што разам з іншымі складнікамі ўтварае "роднае *гняздо* … сям'і, *айчыннае* затонне, *цэнтр* … сусвету" [6, с. 115]. Якраз на асэнсаванні таго, што *за і ў* кожным з нас жыве шмат хвалюючага з лёсаў папярэднікаў, з уласна перажытага, хоць і не заўжды дарэшты ўсвядомленага, адчутага і пачутага, вымаўленага і дамоўленага, але патэнцыяльна магчымага, засноўваецца сюжэтная інтрыга зместава і фармальна арыгінальных тэкстаў з лаканічнымі назвамі з трэцяга раздзела кнігі Яна Чыквіна "Няскончанае маўчанне".

Сюды ўвайшлі фантастычны аповед "Несмяротны" з напамінам пра пагрозу бескантрольнага НТП; сон-фантасмагорыя даўжынёю ў біяграфію чалавека "Гасціная"; створаны праз зварот да вядомага ў сусветнай мастацкай практыцы вобраза-матыву аўтарскі міф "Камень"; напаўмістычная лірычная "Прысутнасць", дзе праз захаваныя дзіцячай памяццю дотыкі, гукі, словы, цацкі, іншыя дэталі і факты тчэцца-ўзнаўляецца незабыўная мацярынская кан-

тылена, якая ўсё жыццё беражліва атуляе кожнага з нас.

Што тычыцца жанравай спецыфікі “Гальштука Шэкспіра”, які адкрывае заключны раздзел “Трохкрылых птушак”, то яе можна вызначыць як тэатральную драматычную містэрыю. Вонкавымі падставамі для такой высновы з’яўляюцца не толькі захапленне сцэнай і адданае служэнне ёй бацькі галоўнага героя, выдатнага артыста, які паступова вар’яцее і гаворыць-крычыць адзіна пра Шэкспіра; не толькі прымусовая, а таму нялюбая, бо “супраць прыроды”, вучоба ў тэатральным вучылішчы  для адораных яго спакутаванага і ўжо невылечна хворага на сухоты сына, але і само надрыўнае гучанне твора, тэатральна ўвасоблены трагічны фінал. У адзін момант Раман канчаткова зразумее, што кроў, што пайшла ў яго горлам, далёка не абумоўленая тэкстам п’есы дзея, што “чырвонае – гэта не белае і зялёныя колеры яму засталося не так доўга бачыць” [6, с. 143]. Прайшоўшы працяглы курс лячэння ў туберкулёзнай клініцы, ратуючыся ад неадступных думак пра самагубства, смяротна хворы Раман нарэшце вяртаецца дамоў, каб пад гукі некалі такой хвалюючай і “жудасна-велічнай” араторыі ў поўнай адпаведнасці з законамі і жарсцямі шэкспіраўскіх трагедый адысці на вечны спачын не без дапамогі бацькі, які “доўгі час трымаў у абдымках мёртвае цела сына” [6, с. 147].

Зусім іншы тып адстароненага героя-інтраверта прадстае ў невялікім творы пісьменніка “Незнаёмец”. Перад намі чалавек, які доўгія гады пакутуе ад недаравальнай і невядомай нікому староннsocial памылкі  юнацтва, а таму прагне пачаць жыццё “нанава або назаўсёды застацца падлеткам” [6, с. 149]. Інтрыга апаведу засноўваецца якраз на нечаканых і абумоўленых вяртаннем у пакутлівую памяць сустрэчах сённяшняга героя з хлапчуком з *задумліва-адсутным тварам*. І гэтыя незапланаваныя маўклівыя спатканні інтуітыўна выклікаюць у душы старога “нейкую балючаневыразную ўнутраную занепакоенасць і шчымлівую ўсхваляванасць” [6, с. 149], а пазней жаданне папярэдзіць ужо пазнанага юнага незнаёмца пра згубнасць  ранейшага ўласнага выбару, хоць зрабіць гэта ўжо ніяк немагчыма.

Невядома, ці давядзецца “Я”-герою яшчэ калі-небудзь сустрэцца з самім сабой. Гэтаксама невядомым застаецца і лёс сшытка з нататкі “Падарожжа” са зробленымі яго ўладальнікам у розныя гады запісамі: “*Маім жыццём ты не памрэш*” [6, с. 151]  і “*Лодка з грузам у вадзе не тоне*” [6, с. 152]. Адметна, што хвалюючыя ўражанні апавядальніка ад паездкі ў Альпы, яго шчырае захапленне велічнымі рэаліямі “непадуладнай чалавеку акамянелай стыхіі” [6, с. 151] ніколькі не парушаюць відавочную сімвалічную напоўне-

насць прыведзеных вышэй крылатых выслоўяў. Кожнаму з дасведчаных у іх гатовы ўбачыцца-адкрыцца свой сэнс. Відаць, ёсць пэўны сэнс і ў знікненні самога нататніка. Аднолькава як і ў выказаным апавядальнікам сумненні: “А ці быў ён увогуле?” [6, с. 152].

На варыяцыі распаўсюджанага ў мастацтве матыву неўвасобленай мары пра стварэнне свайго самага найлепшага, няхай і адзінага, твора, у нашым выпадку – кнігі пра школьных сяброў, што жыве ў памяці “Я”-героя “нібыта светлы, лёгкі, летні сон” [6, с. 173 – 174], з якім ён ніяк не можа расстацца, а таму імкнецца пакінуць “заўсёдна зменлівым, калыхлівым … унутраным творам” [6, с. 168], засноўваецца канва “Ненапісанага” Яна Чыквіна. Відавочна, што пры канчатковай матэрыялізацыі задумы адным з асноўных сюжэтаў у гэтай кнізе (або творы) застанецца кранальная гісторыя пра вернага таварыша Паўліка, якому давялося двойчы паміраць і якому апавядальнік па нейкіх прычынах ці наогул без іх так і не паспеў вярнуць даўнюю пазыку.

Яшчэ адзін напамін пра адхілены пільным цэнзарам Феліксам, ужо адно імя якога ў сувязі з прамоўленым фактам утрымлівае ў сабе празрыстую падказку на сапраўдную сутнасць яго носьбіта, а таму нявыдадзены аўтарскі зборнік ранніх апавяданняў прагучыць у заключным эсэ кнігі Яна Чыквіна “Няскончанае маўчанне”. Але, калі адштурхоўвацца ад асабістага меркавання рэцэнзента, то найбольшую значнасць і мастацкую вартасць гэтага тэксту складае разняволенае лірычнае самавыяўленне апавядальніка-музыкі. Як, да прыкладу, у прыведзеным ніжэй урыўку: “Праз расчыненае вакно з набрынялай цішыні вуха маё ўлаўлівала ледзь чутную гукавую хвалю. Гэта яна, прырода, падавала свой пявучы голас. Я любіў да самазабыцця яе музыку – і лірычную, і драматычную мілагучнасць. І колькі разоў заслухоўваўся ў геніяльныя харавыя кантаты лесу, шчырых палёў, расфарбаваных лугоў ды млеў і нямеў перад гамлетычнымі рэчытатывамі на паўнеба вялікіх летніх навальніц з громам і маланкамі, асабліва велічна прыгожымі ў выкананні, калі дырыжыраваў імі вопытны вецер-вятрыска” [6, с. 178].

Перад намі далёка не адзіны музычна дасканалы і перададзены чароўнай моўнай мелодыяй пасаж у кампазіцыі дадзенага і многіх іншых твораў з кнігі “Трохкрылыя птушкі”. Як вынікае, нягледзячы на ўсе папярэджанні самога аўтара, пры ўвасабленні сваіх задум у малых эпічных формах яму пашчасціла застацца Паэтам, здзейсніць *дзівоснае пабрацімства* [гл.: 6, с. 168] дзвюх літаратурных стыхій. А гэта значыць, што эфект чакання эстэ-

тычнай асалоды ад створанага Янам Чыквіным у прозе цалкам спраўдзіўся, што яго “Трохкрылыя птушкі” заслугоўваюць увагі самай шырокай і падрыхтаванай аўдыторыі.

Спіс выкарыстанай літаратуры:

1 Чыквін, Ян. *На беразе Дубіч Царкоўных*, Беласток: Бібліятэка БЛА “Белавежа”, 2010, 115 с.

2 Конан, Уладзімір. *У зачараваным царстве паэзіі*, “Крыніца” 1997, № 4 (30), с. 3 – 18.

3 Чыквін, Ян. *Жменя пяску,* Беласток: Бібліятэка БЛА “Белавежа”, 2008, 52 с.

4 *Птицы / Энциклопедия. Символы, знаки, эмблемы* / авт.-сост. В. Андреева, В. Куклев, А. Ровнер. Москва, 2008, 556 с. – с. 401 – 407.

5 Чыквін, Ян. *Здарылася быць. Лірыка. Проза*, Беласток: Бібліятэка БЛА “Белавежа”, 2015, 127 с.

6 Чыквін, Ян. *Трохкрылыя птушкі*, Беласток: Бібліятэка БЛА “Белавежа”, 2018, 187 с.

7 Дубіцкі, Янка. *Трохкрылыя птушкі*, “Тэрмапілы”, 1999, № 2. с. 76 – 87.

Вольга Шынкарэнка
Гомель



# “Белавежы” – 60 гадоў!

Галіна Тварановіч

Час ляціць, спяшаецца і нават  важкі юбілей у нейкі момант успрымаецца як раптоўнасць, нечаканасць. Так вось імкліва прамінула і 60 гадоў з таго высокага летняга дня, калі адбылася вехавая падзея ў гісторыі беларускай літаратуры Польшчы. Менавіта 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку па ініцыятыве Георгія Валкавыцкага, аднаго са стваральнікаў Беларускага культурна-грамадскага таварыства, тадышняга заснавальніка і рэдактара штотыднёвіка “Ніва”, сабраліся на арганізацыйны з’езд прадстаўнікі розных пакаленняў, markdown рознага сацыяльнага статусу, шчыра заангажаваныя творчым імпэтам здзяйснення ў родным слове. Сярод іх: Вктар Швед, Дзмітры Шатыловіч, Вінцук Склубоўскі, Яша Бурш, Мацей Канапацкі, Андрэй Беразавец, Янка Беразавец, Міхась Баравік, Андрэй Сошка, Восіп Малеша, Пётр Ластаўка, Сакрат Яновіч, Мікола Буцылін, Ян Чыквін, Уладзімір Гайдук, Мар’ян Пецюкевіч. Уласна ўсіх іх ужо паяднала “Ніва”. Дзякуючы выпускніку Маскоўскага літаратурнага інстытута Георгію Валкавыцкаму, пра якога з поўным правам можна сказаць хроснага бацькі пасляваеннай беларускай літаратуры ў Польшчы, на старонках “Нівы” распачалося збіранне талентаў, іх творчае сумоўе і сталенне. Арганізацыйны з’езд прагаласаваў за ўтварэнне літаратурнага аб’яднання пры рэдакцыі  штотыднёвіка. Яно мусіла працаваць семінарыйным метадам з творчым варштатам – *Літаратурнай старонкай*. Было абрана праўленне і заяўлена: “Мы далёкія ад думкі, каб з нашай літаратурнай арганізацыі рабіць нейкую літаратурную няньку, якая мяняе пялёнкі растучым талентам. Аднак у нас паўстае неабходнасць стварэння такой арганізацыі, якая б выхоўвала літаратурныя таленты”. Праз чатыры гады аб’яднанне, адзіная творчая арганізацыя такога кшталту і ў Польшчы, і ў свеце,  атрымала вельмі адпаведную, трапную назву “Белавежа”, пад якой і ўвайшло ў гісторыю літаратуры.

Зразумела, старшынёй арганізацыі быў абраны Георгій Валкавыцкі. На Другім з’ездзе Літаратурнага аб’яднання ў кастрычніку 1960 года ён саступіў свае паўнамоцтвы Аляксандру Баршчэўскаму

(Алесю Барскаму) – аж да 1974-га, калі на чале аб’яднання на чатыры гады стаў Віктар Швед. На працягу 1978 – 1989 гадоў старшынямі ”Белавежы” абіраліся Ян Чыквін, Георгій Валкавыцкі, Алесь Барскі, Міра Лукша. Урэшце з 1989 года і да цяперашняга часу аб’яднанне ўзначальвае Ян Чыквін.

Гістарычнай падзеяй “агульнанацыянальнай значнасці” назвала Галіна Тычко ў артыкуле “Літаратура Беласточчыны ў агульнанацыянальным беларускім кантэксце” заснаванне Беларускага літаратурнага аб’яднання ў Польшчы, бачачы ў ім “асяродак яднання духоўных і творчых сіл беларусаў на Беласточчыне”.

Сімптаматычна, што першым паэтычным выданнем на пасляваеннай Беласточчыне стаў беларускамоўны альманах “Рунь” (1959), падрыхтаваны да друку Георгіем Валкавыцкім. І пазней, мабыць, невыпадкова менавіта Сакрат Яновіч і Ян Чыквін заснавалі Клуб польскіх пісьменнікаў у Беластоку. За 60 гадоў існавання аб’яднання пабачыла свет звыш 270 разнастайных “белавежскіх” выданняў, сярод якіх кнігі паэзіі і прозы, крытыкі і літаратуразнаўства, альманахі, часопісы... І, відавочна, меў рацыю Сакрат Яновіч, калі напярэдадні святкавання яшчэ 40-годдзя “Белавежы” ў інтэрв’ю з Янам Чыквіным зазначыў, што ёсць падставы “гаварыць пра Польшчу як краіну дзвюх літаратур: польскай, натуральна, і беларускай”. Прынамсі, сапраўды арганічна стасуецца гэта рэфлексія з Беласточчынай. Шасцідзесяцігадовы ж юбілей “Белавежы” схіляе і да таго, каб паўтарыць меркаванне Яна Чыквіна, выказанае ўжо дзесяць гадоў таму ў пасляслоўі да кнігі “Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958 – 2008”, пра тое, што “пісьменнікі “Белавежы” сапраўды шчыльна запоўнілі сваю этнічную прастору культура-эстэтычным зместам”. Ці ж не сімвалічна, што апошні па часе выдання літаратурны альманах “Белавежа” (2011) распачынаецца творамі яго заснавальнікаў (Георгія Валкавыцкага), а заканчваецца вершамі зусім маладых сяброў арганізацыі (Кацярыны Сянкевіч)!

Асэнсаванне шматстайнага творчага плёну сяброў літаратурнага аб’яднання на самых розных узроўнях – ад студэнцкага да акадэмічнага – адбываецца паслядоўна і даўно. Так што цалкам невыпадкова апраўдана тое, што добрай традыцыяй “белавежскай” гісторыі сталася ўганараванне юбілеяў арганізацыі правядзеннем навуковых імпрэз. Вось і на 24–25 мая 2018 года была прызначана Міжнародная навуковая канферэнцыя на тэму “Беларуская літаратура Польшчы – учора і сёння”, прысвечаная 60-годдзю “Белавежы”. Для разгляду прапаноўваліся наступныя праблемы: літаратурна-эстэтычныя пошукі “белавежцаў”; эстэтызацыя малой

айчыны; новая міфапаэтычнасць; нацыянальны вектар творчасці "белавежцаў"; польска-беларускія дачыненні, кантактныя і тыпалагічныя ўзаемасувязі; творчасць "белавежцаў" у кантэксце агульнабеларускага літаратурнага працэсу; беларуская літаратура Польшчы і літаратура беларускай эміграцыі; "Белавежа" як аб'ект крытычна-літаратуразнаўчага даследавання.

Зразумела, даследчая прастора канферэнцыі была адкрытай для ўсіх плённых прапаноў і падыходаў. Канферэнцыя праходзіла на філалагічным факультэце Універсітэта ў Беластоку. Запрашалі на яе Кафедры беларускай філалогіі і даўняй рускай літаратуры, Кафедра філалагічных даследаванняў <Усход – Захад> ды, вядома, само Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", а таксама Навуковая бібліятэка Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Праўда, апрача абазначаных арганізатараў над шчодрым плёнам "белавежскага" свята відавочна шчыравалі яшчэ Роўнаапостальныя браты Кірыл і Мяфодзій – адкрыццё ўрачыстасці і канферэнцыі якраз супала са святкаваннем Дня славянскага пісьменства.

Натуральна, на ўрачыстасці не бракавала добрых слоў і кветак. Найперш са словамі віншавання да "белавежцаў" і прывітаннем да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнуўся прадэкан філалагічнага факультэта Роберт Шымуля. Высока ацанілі дзейнасць "Белавежы" ўпаўнаважаны па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Падляскага ваяводы Войцех Пжыгоньскі, дырэктар Дэпартаменту нацыянальнай культуры і спадчыны маршалкоўскай Управы Падляскага ваяводства Анатоль Вап. Склалі віншаванні юбілярам і перадалі прывітальны ліст ад імя пасла Рэспублікі Беларусь ў Рэспубліцы Польшча Аляксандра Авер'янава саветнік беларускага пасольства Юры Кулабухаў і генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ала Фёдарава. Прывіталі "белавежцаў" старшыня Беларускага культурна-грамадскага таварыства Ян Сычэўскі, дырэктар навуковай бібліятэкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Мікалай Грынько, прафесар, заснавальніца польскай філалогіі ў Гродзенскім універсітэце Святлана Мусіенка. Віншавальны адрас бурмістра Бельска Падляскага Яраслава Бароўскага зачытала Іаанна Васілюк. Разам з Яраславам Падолецам, які агучыў віншаванне ад імя дырэктара Іаанны Каліноўскай, яна прадстаўляла Бельскую пачатковую школу з беларускай мовай навучання. Сардэчны віншавальны адрас даслала шматгадовая даследчыца творчасці "белавежцаў" прафесар Бэата Сівэк з Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Прысутнічалі на ўрачыстасці дырэктар радыё "Рацыя", рэдактар

тыднёвіка “Ніва” Яўген Вапа, дырэктар беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Ігар Лукашук. І, вядома, самі “белавежцы”: удзельнікі першага з’езду: Ян Чыквін, Андрэй Беразавец, а таксама Міра Лукша, Юры Баена, Жэня Мартынюк, Юры Буйнюк, Юстына Піларука.

Заключным жа акордам святочнага віншавальнага фрагменту канферэнцыі стала артыстычна-вакальная частка. Найперш пад музычным кіраўніцтвам Алы Каменскай і настаўніцы Людмілы Сегень выступілі з беларускімі песнямі і вершамі “белавежцаў” вучні непублічнай пачатковай школы імя свсв. Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку, трэба адзначыць, расчуліўшы многіх прысутных. І на завяршэнне заспяваў студэнцкі ансамбль Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі. Пачаўшы ад рускіх песен, дзяўчаты перайшлі да цудоўнага выканання беларускіх. Нездарма ж многія з маладых русістак вучылі ў школе, у ліцэі беларускую мову.

На першым навуковым пасяджэнні канферэнцыі старшынствавалі вядомы англійскі даследчык беларускай літаратуры прафесар Арнольд Макмілін і прафесар Людміла Сінькова з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, можна сказаць, ужо заснавальніца сваёй літаратуразнаўчай школы. Яе дакладам “Пафас творчасці “белавежцаў” у сітуацыі беларуска-польскага памежжа” якраз уласна і распачалася канферэнцыя. “Нацыянальныя мастацкія архетыпы ў паэзіі <белавежцаў>” разгледзела Анжэла Мельнікава з Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, якая пару месяцаў таму абараніла доктарскую дысертацыю. Хочацца прывесці слушныя важкія заключныя словы яе дакладу: “Такім чынам, спецыфіку ідэйнай і мастацка-вобразнай сістэмы твораў пісьменнікаў-“белавежцаў” як цэласнага эстэтычнага фенамена складаюць вобразы “роднага кута”, зямлі, дому, якія гістарычна сфарміраваліся ў кантэксце нацыянальнай культуры. Гэтыя вобразы дазваляюць спасцігнуць заканамернасці мастацкага функцыянавання глыбінных нацыянальна-анталагічных пластоў свядомасці, перадаць нацыянальна-культурную адметнасць, кодэкс нацыянальнай этыкі, абумоўліваюць тып культурнага героя”.

Наступныя дакладчыкі, як на гэтым пасяджэнні, так і на тым, што адбылося пасля абедзеннага перапынку пад старшынствам прафесара Тамары Тарасавай з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка і кандыдата філалагічных навук Аксаны Данільчык, засяродзіліся на аналізе некаторых аспектаў творчасці асобных “белавежцаў”. Так, Арнольд Макмілін выступіў з рэфератам “Меланхалічная муза Яна Чыквіна”. Кандыдат філалагічных навук Ірына Бароўская з Гомельскага дзяр-

жаўнага медыцынскага ўніверсітэта засяродзілася над тэмай “Фальклор і станаўленне творчай індывідуальнасці Алеся Барскага”, кандыдат філалагічных навук Алена Міхалевіч з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка – “Гутарковыя сінтаксічныя канструкцыі ў паэтычнай спадчыне Максіма Танка і творчасці Віктара Шведа”, Аксана Данільчык, якая прадстаўляла Саюз беларускіх пісьменнікаў – “Традыцыі заходнебеларускай паэзіі і творчасць Надзеі Артымовіч”, доктар Катажына Савіцка-Межыньска з Універсітэта ў Беластоку – “Twórczość Miry Łukszy – o poetyckim zamieszkiwaniu miasta”, прафесар Галіна Тычко з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта – “Архетып дому як увасабленне вобразу Айчыны ў творчасці Яна Чыквіна”, кандыдат філалагічных навук Павел Навойчык, таксама з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта – “Вобраз малой радзімы ў прозе Сакрата Яновіча”, кандыдат філалагічных навук Ірына Шматкова з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта – “*Воблака душы з улады тлуму...* – духоўныя пошукі ў паэзіі Ніны Мацяш і Галіны Тварановіч”, доктар Іаанна Дзедзіц з Універсітэта ў Беластоку – *День пережит – и слава Богу!* – reminiscencje tiutczewowskie w poezji Jana Czykwina”. Кандыдат філалагічных навук Ала Петрушкевіч звярнулася ў сваім выступленні да мала даследаванага аспекту творчасці “белавежцаў”, разгледзеўшы “Фларыстычныя матывы ў жаночай паэзіі <Белавежы>”.

Вядома, напрыканцы кожнага пасяджэння адбывалася абмеркаванне праслуханых дакладаў, абмен думкамі, ставіліся пытанні, адказам на шэраг якіх у перспектыве, трэба спадзявацца, стануць новыя даследаванні. Тым болей, што ўдзельнікі канферэнцыі мелі магчымасць узбагаціць свой кніжны збор “белавежскімі” выданнямі, шчодра прадстаўленымі тут жа ў актавай зале на кніжнай выставе. І ўзбагаціць выданнямі не толькі ранейшых гадоў, бо а шаснаццатай гадзіне першага канферэнцыйнага дня адбылася прэзентацыя новых кніг, што пабачылі свет у серыі “Бібліятэка БЛА <Белавежа>”, што выходзіць з 1990 года.

Прыгожы падарунак да юбілею літаратурнага аб’яднання зрабіла Ала Петрушкевіч. Яе кніга крытычна-літаратуразнаўчых артыкулаў “Белавежа: постаці, творы, героі”, што выйшла сто пятай пазіцыяй у “Бібліятэцы ...”, сталася вынікам добразычлівай шматгадовай увагі аўтара да творчага плёну ўсёй арганізацыі, а таксама шэрагу асобных літаратараў. У першым раздзеле даследчыца ўвайшла ў вобразны свет твораў “белавежцаў”. Другі прысвяціла разгляду “жыццёва-творчых старонак Яна Чыквіна”. У прыватнасці, звернута ўвага на тое, як спалучаюцца ў творчасці

паэта штодзённае і вечнае. Зварот жа да кнігі “Literatury Wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań” (2010), прысвечанай юбілею Я. Чыквіна, даў магчымасць бліжэй разгледзець яго неардынарны літаратуразнаўчы наробак. У наступным раздзеле кнігі аналізуюцца матывы і вобразы ў паэзіі Уладзіміра Гайдука, Міры Лукшы, Юрыя Баены, Жэні Мартынюк, Юркі Буйнюка. Заключная ж частка выдання прысвечана разгляду прозы “белавежцаў”. Праўда, у артыкуле “Жанравая разнастайнасць творчасці Алены Анішэўскай”, як сведчыць сама назва, аналізуюцца як празаічныя творы, так і вершы пісьменніцы. Распачынаецца ж гэты чацвёрты раздзел роздумам над аповесцю Сакрата Яновіча “Самасей” Даследчыкамі неаднойчы падкрэсліваўся аўтабіяграфічны характар “белавежскай” прозы і цалкам невыпадковым выглядае зварот аўтара “Белавежа...” да кніг найстарэйшых прадстаўнікоў аб’яднання ў артыкулах “Аўтар і герой у мастацка-дакументальнай кнізе Алеся Барскага <З пабачанага і перажытага>”, “Падарожжа ў мінулае Віктара Шведа”, “Чалавек у кругаверці вайны (аўтабіяграфічная проза Дзмітрыя Шатыловіча)”. Артыкул “Галерэя вобразаў-тыпаў Міры Лукшы” даследчыца заканчвае слушнай, дакладнай высноваю: “У аснове аўтарскага стаўлення любоў да сваіх герояў, гэтых звычайных, нічым асабліва не прыкметных людзей. Любоў, якая не выказваецца непасрэдна, але яскрава праступае праз скупаватыя аўтарскія характарыстыкі, праз характарыстыкі з боку іншых персанажаў, але найперш праз учынкі і паводзіны саміх герояў”.

Пэўна, гуманістычная традыцыя, якая трываліцца найперш любоўю, павагай да чалавека, уласцівая ўвогуле творчасці “белавежцаў”. Аднак менавіта ў гаворцы пра творчасць Міхася Андрасюка не раз звярталася ўвага на тое, што вызначальнай унутранай пазіцыяй пісьменніка якраз з’яўляецца любоў да чалавека. У артыкуле-рэцэнзіі “Дом – вуліца – мястэчка (”Вуліца добрай надзеі” Міхася Андрасюка)” Ала Петрушкевіч аналізуе творы, якія склалі кнігу пісьменніка, што пабачыла свет у Мінску. На жаль, з гэтага выдання не вынікае, што Міхась Андрасюк з’яўляецца аўтарам аповесці “Белы конь”: яе фрагменты набылі неапраўданую самастойнасць у “Вуліцы...”, рассыпаліся па кнізе. Між тым, “Белы конь” выйшаў і ў перакладзе на польскую мову (Беласток, 2011). Такім чынам, застаецца толькі наракаць на дзіўную самаволю выдаўцоў і спадзявацца, што гэта несправядлівасць усё ж некалі ў метраполіі будзе выпраўлена.

Магчыма, дачакаюцца выдання ў Беларусі і аповесці Віктара Стахвюка, аналізу якіх даследчыца прысвяціла два заключныя ар-

тыкулы сваёй кнігі: “Мастацка-дакументальная аповесць Віктара Стахвюка <Мая Камчатка>” і “Адметнасць вобраза аўтара ў падарожнай аповесці Віктара Стахвюка <Корсіка>”. Разгледжаныя творы вызначаюцца “навізной тэматыкі, адметнасцю вобраза героя, які выконвае наратыўную функцыю натуры актыўнай, дзейснай, авантурнай. У лепшым значэнні гэтага слова. Бо апантаны прагай пазнання новага, далёкага”.

Пэўнай нечаканасцю, відаць, для большасці сабраных у зале стала прэзентацыя наступнага “белавежскага” выдання, а менавіта кнігі Яна Чыквіна “Трохкрылыя птушкі”. Усё ж імя аўтара асацыіруецца найперш з паэтычнай творчасцю, а тут – проза. Праўда ў апошнім па часе выдання паэтычным зборніку Яна Чыквіна “Здарылася быць” (2015) было надрукавана некалькі празаічных твораў аўтара, а яшчэ на самым пачатку міленіума ў часопісе “Тэрмапілы” пабачыла свет лірычная проза Яна Чыквіна. Дарэчы будзе таксама ўзгадаць, што ў першыя гады існавання “Белавежы” паралельна з паэтычнай пробай пяра адбывалася сцвярджэнне пачаткоўца-літаратара і ў прозе. Невыпадкова ў анталогіі апавядання беларускіх пісьменнікаў Польшчы другой паловы XX стагоддзя “Панароўе” (2003), складальнікам і рэдактарам якой быў Георгій Валкавыцкі, змешчана і апавяданне Яна Чыквіна. Аднак празаічная творчасць “белавежца” відавочна аказалася ў ценю паэтычнага плёну. Прэзентаваная кніга, думаецца, унясе істотныя карэктывы ва ўспрыняцце творчай індывідуальнасці Яна Чыквіна.

Адбылася прэзентацыя і плёну літаратуразнаўчай працы Кафедры беларускай філалогіі, некаторыя супрацоўнікі якой з’яўляюцца сябрамі “Белавежы”, утвараючы своеасаблівую крытычна-літаратуразнаўчую секцыю аб’яднання. Па-першае, быў прадстаўлены чарговы, дзевяты том часопіса-гадавіка “Białorutenistyka Białostocka” з артыкуламі, між іншым, і некаторых удзельнікаў “белавежскай” канферэнцыі. На старонках гэтага беластоцкага выдання абмяркоўваюцца самыя разнастайныя пытанні, што датычаць беларускай літаратуры, мовы, культуры. І ён па-свойму яднае, як аднойчы заўважыла ў сваім лісце ў рэдакцыю кандыдат філалагічных навук Ганна Гладкова з Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава, беларускі гуманітарны патэнцыял. Па-другое, удзельнікі канферэнцыі мелі магчымасць пазнаёміцца з манаграфіямі кандыдатаў філалагічных навук Іаанны Васілюк “Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя” і “Праблема аўтабіяграфізму ў творчасці Янкі Брыля” Анны Альштынюк, што пабачылі свет у выдавецтве Універсітэта ў Беластоку.

Пазнаёміцца з плёнам навуковай працы выпускніц Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў, а таксама беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку.

І, вядома, як падчас святкавання юбілею творчай арганізацыі абысціся без сустрэчы з самімі "белавежцамі" – "героямі" канферэнцыйных выступленняў! На жаль, найперш па прычыне ўзросту, калі цяжкавата ўзняцца з месца або якраз прызначана сустрэча ў лекара, адсутнічалі найстарэйшыя сябры аб'яднання – Алесь Барскі, Васіль Петручук, Дзмітры Шатыловіч, Віктар Швед. З вялікай зацікаўленасцю, апладысментамі прынялі ўдзельнікі канферэнцыі выступленні Яна Чыквін, Андрэя Беразаўца, Міры Лукшы, Юрыя Баены, Жэні Мартынюк, Юркі Буйнюка.

Надзвычай цікавым у навуковым плане выдаўся і другі дзень канферэнцыі. Пасяджэнні прайшлі пад старшынствам прафесара Сяргея Кавалёва з Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай, кандыдата філалігічных навук Алы Брадзіхінай з Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, Анжэлы Мельнікавай, Галіны Тычко, кандыдата філалагічных навук Сяргея Мінскевіча з Інстытута літаратуразнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесара Жанны Некрашэвіч-Кароткай з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Першае пасяджэнне пачалося з выступлення кандыдата філалагічных навук з Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Алены Белай з рэфератам на тэму "Мастацкая канцэпцыя асобы ў прозе Міры Лукшы". Канкрэтнымі аргументамі глыбокі даследчык беларускай літаратуры 20–30-х гадоў абгрунтавала агульны ідэйна-тэматычны, нават моўны кантэкст творчасці "белавяжанкі" і празаікаў метраполіі. Увогуле ж трэба адзначыць, што на гэтай канферэнцыі асаблівая ўвага была ўдзелена творчасці Міры Лукшы, Яна Чыквіна, Сакрата Яновіча і Галіны Тварановіч. Так, акрамя ўзгаданых ужо тэм выступленняў, кандыдат філалагічных навук з Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны Таццяна Фіцнер рэалізавала тэму "<Бабскія гісторыі> Міры Лукшы: гендэрны аспект", Ала Брадзіхіна – "Асноўныя вектары мастацкага пошуку Яна Чыквіна ў XXI стагоддзі", доктар Анна Саковіч з Універсітэта ў Беластоку – "Беларускае асяроддзе ў мемуарыстыцы Сакрата Яновіча", кандыдат філалагічных навук Марына Лебедзева з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта – "Творчасць <белавежцаў> у сучасным мастацка-дакументальным дыскурсе <па матэрыялах кніг Галіны Тварановіч>".

Аспірантка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Алена Тарасава разгледзела прозу Міры Лукшы ў тыпа-

лагічным плане: “Эстетизация малой родины в произведениях Миры Лукши и Говарда Филлипса Лавкрафта». Даследаванні такога плана сведчаць аб творчай самадастатковасці твораў, іх упісанасці ў літаратурны кантэкст, таму што тыпалагічны аналіз з’яўляецца наступным крокам у асэнсаванні эстэтычна-духоўных асаблівасцей, сутнасных сувязей знутры мастацкай матэрыі. Невыпадкова Сяргей Мінскевіч, які прадставіў даклад “<Крымскія санеты> Адама Міцкевіча і вянок санетаў <Святая студня> Яна Чыквіна: версіфікацыя, інтэртэкстуальнасць”, працуе ў аддзеле ўзаемасувязей літаратур у акадэмічным інстытуце. Тыпалагічны падыход вызначыў і характар выступленняў прафесара Ванды Бароўкі з Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава (“Аповесць <Самасей> Сакрата Яновіча і малая проза Міхася Стральцова: апавядальная стратэгія”), кандыдата філалагічных навук Таццяны Аляшкевіч з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (“Надзея Артымовіч і Алесь Разанаў: вопыт творчага дыялогу”), кандыдата філалагічных навук Ігара Шаладонава з Інстытута літаратуразнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (“Экзістэнцыяльны псіхалагізм аповесцей Сакрата Яновіча “Самасей” і Віктара Казько “Час збіраць косці”), магістра Любові Глазман з Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава (“Асэнсаванне мінулага ў прозе Максіма Гарэцкага і Мікалая Гайдука”), кандыдата філалагічных навук Вольгі Губскай з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (“Вясковая проза Міры Лукшы і Андрэя Федарэнкі як спосаб даследавання рэчаіснасці”).

Тое, што творчасць “белавежцаў” дае падставы для дастаткова спецыфічнага тэарэтычнага даследавання, пацвердзіла сваім выступленнем на тэму “Духоўная сутнасць эмоцыі ў паэтычным творы: “белавежскі” кантэкст” кандыдат філалагічных навук з Інстытута літаратуразнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Святлана Калядка. Па-наватарску зірнуў на творчасць юбіляраў вядомы даследчык творчасці Адама Міцкевіча, кандыдат філалагічных навук з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Анатоль Брусевіч, рэалізаваўшы тэму “Сюррэалістычныя тэндэнцыі ў паэзіі <белавежцаў>”. А вось рэферат маладога кандыдата філалагічных навук з Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Інесы Крыштоп “Тэма лёсу ў зборніку <Букет Белавежжа>”, відаць, асабліва парадаваў бы Георгія Валкавыцкага, бо гэта менавіта ён выбраў творы і адрэдагаваў гэту “анталогію краялюбнай паэзіі <белавежцаў>”. Доктар Анна Альштынюк з Універсітэта ў Беластоку выступіла з дакладам “Аўтабіяграфізм у

творчасці Васіля Петручука". Шэрагам дакладчыкаў былі прааналізаваны і пэўныя аспекты канкрэтных кніг. Прафесар Алесь Макарэвіч з Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова разгледзеў "Асаблівасці мастацкага свету кнігі Сакрата Яновіча <Доўгая смерць Крынак>", малады кандыдат філалагічных навук Ірына Хорсун з Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны – "Спавядальная паэзія Яна Чыквіна па кнізе <Светлы міг>, кандыдат філалагічных навук Аліна Сабуць з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы – "Дыялогавая прырода эсэістычна-дзённікавых замалёвак Галіны Тварановіч <Пайсці, каб вярнуцца>".

Не быў абмінуты ўвагай на канферэнцыі і літаратуразнаўчы наробак сяброў літаратурнага аб'яднання. Так, Сяргей Кавалёў выступіў з дакладам "Галіна Тварановіч як даследчык і папулярызатар беларускай літаратуры ў Польшчы", Тамара Тарасава – "*І вены перарваныя злучыць*: роздум над кнігай Яна Чыквіна <Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа>". Між іншага сапраўдную дыскусію выклікаў тэзіс спадарыні прафесар адносна таго, ці адрозніваюцца паміж сабой "пісьменніцкія" і "непісьменніцкія" крытыка і літаратуразнаўства.

Завочны ж удзел у канферэнцыі прынялі таксама прафесар Юрый Лабынцаў і кандыдат філалагічных навук Ларыса Шчавінская з Расійскай акадэміі навук з дакладамі "Не проходящие споры о Франциске Скорине, включая <беловежские>, и необходимость подготовки новейшей библиографии о нем" і "Мельніцкі ўраджэнец Мікалай Крэйдзіч – беларускі праваслаўны святар і паэт".

Заключным акордам канферэнцыі сталі выступленні навукоўцаў з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта праф. Жанны Некрашэвіч-Кароткай ("Рэнесансная сядзіба муз у Заблудаве: педагагічная і творчая дзейнасць Іагана Мюліуса пад патранатам Грыгорыя Хадкевіча") і кандыдата філалагічных навук Уладзіміра Кароткага ("Унікальны помнік эпісталярнай спадчыны: супрасльскае выданне <Obrony wiary S. Katolickiey Hipacyusz Pociey> 1768 г.)". Гэты зварот у мінуўшчыну хораша нагадаў пра тое, што дрэва "Белавежы", кронаю сваёй належачы сучаснасці, карэніцца ў даўніне, у багатых асветніцка-духоўных традыцыях беластоцкага краю.

У праграме канферэнцыі было заяўлена 33 выступленні. Значная частка з іх будзе надрукавана ў чарговым нумары "Białorutenistyki Białostockiej", прысвечанай "белавежскаму" юбілею. Пра тое ж, што "белавежскі" юбілей быў годна ўганараваны,

засведчылі і водгукі, атрыманыя арганізатарамі. Анжэла Мельнівава: “Нам было вельмі цёпла, утульна і цікава. Вельмі цёплыя і прыемныя ўспаміны ад канферэнцыі”. Арнольд Макмілін : “Вялікі дзякуй за запрашэнне на цікавую і жывую канферэнцыю. Я таксама ацаніў вашу дружалюбнасць і гасціннасць, а таксама сустрэчу старых і новых сяброў з Беларусі”. Ірына Шматкова: “Пішу, каб яшчэ раз перадаць вам шчырыя словы падзякі за цудоўны прыём у Беластоку! Гэтая сустрэча запомніцца надоўга многім – і цудоўнымі гаспадарамі, і вялікай колькасцю цікавых гасцей, і самім духам вясновай Беласточчыны!” Святлана Калядка: “У вас атрымалася цудоўная канферэнцыя – вельмі цёпла, па-дамашняму ўтульна я сябе ў вас адчувала”. Тамара Тарасава: “Дзякуй вялікі за цудоўную канферэнцыю. Сапраўды, было вельмі ўтульна і святочна. Даўно не была на такіх мерапрыемствах. Твае дзяўчатыпамагатыя зрабілі проста цуд. Дай Бог вам здароўя, плёну, натхнення і энергіі”.

Сапраўды, над тым, што канферэнцыя прайшла нібы на адным дыханні, сур’ёзна папрацаваў арганізацыйны камітэт у складзе кандыдатаў філалагічных навук Анны Альштынюк, Іаанны Дзедзіц, Анны Саковіч і аўтара гэтай паслякаферэнцыйнай рэфлексіі.

Канферэнцыя прайшла, юбілейны “белавежскі” год – працягваецца!

Галіна Тварановіч
Беласток



# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok, Plac Uniwersytecki 1

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i
Administracji**

## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.